УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
М25

ISBN 978-985-7144-27-3

© Мароз М., 2016
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2016

# АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ

## РУСАЛКА

1

Цвілі сады.

Крыцкі не бачыў такой квецені, колькі жыве. Млелі ад бела-ружовага кіпеню грушы, слівы, нявесціліся яблыні. Такая была неруш, такая казка, што, здавалася, вясна толькі таму і прыходзіць, каб радаваць нас дзівосамі. Абышлося без замаразкаў. Людзі з трывогай чакалі халадоў на цвет, але прырода, мусіць, злітасцівілася, не кранула марозам такую гожасць.

Ішоў другі год яго работы ў рэдакцыі. Пасля настаўніцтва спачатку ўсё было нязвыклым: цішыня ў кабінеце, надзьмуты, вечна незадаволены рэдактар Вышынскі. Здзівіла, што ў газетчыкаў зашмат нейкай сумятлівасці, а «патрыярх» Хадоркін кожны раз, калі заглядаў Крыцкі да яго ў кабінет, кляваў носам. «Стары, — думаў Крыцкі, — вось і ловіць акунёў…».

Ён ніколі не засне, яму трэба шмат вучыцца. Яму да свербу хацелася пісаць. Праўда, па першым часе пісаў няшмат. Не пісаў — зрашэчваў дробным почыркам так, што калі б узяўся чытаць аркуш дні праз тры, не зразумеў бы, што да чаго. Рэдактар, устурбаваны маўчаннем навічка, помнячы, колькі той пісаў у газету, будучы настаўнікам, адчыняў дзверы і казаў з парога адно:

— Ну як, калега?..

У апошнім слове падвойваў «л», на рускі манер.

Крыцкі ўсхопліваўся з крэсла, нібы перад ім, салдатам, раптам вырастаў сам генерал.

— Пішу!..

Той знікаў гэтак жа нечакана, як і з’яўляўся. Такія рэдактаравы налёты былі разы па тры на дні, пакуль Крыцкі не навучыўся пісаць хутка і бойка, і тады Вышынскі перастаў назаляць візітамі.

Раніцой Антон Крыцкі, або, як звалі яго ў рэдакцыі, Антоша Чэхантэ (такі ж быў прыгожы, статны, з русай шавялюрай, праўда, без бародкі і пенснэ; новае імя надаў яму калега Дзіма Шостак, які апускаў для эканоміі імя — «Антоша» ), любіў прыходзіць першым. І не таму, каб пахваліў рэдактар, паставіў яго ў прыклад. Ён любіў пагаварыць з прыбіральшчыцай бабкай Настуляй. Яна на працу прыходзіла раненька, яшчэ да Антона, і прыносіла з сабой навіны, пераказаныя вечарам у яе хаце, куды збіраліся суседкі такога ж веку. Але пачынала з «выхавання».

— Ты, саколік, яшчэ малады, — гаварыла яна, шлёпаючы па маснічынах у кабінеце анучай з мешкавіны, ускінутай на швабру, — а я пажыла-пабачыла. Добры ён чалавек, Іван Ляксеявіч, дарue ўсё. Такіх, як ты, перакруцілася тут дай божа… Бегае каторы дзень, а пасля спіць п’яны на стале…Дзе ён так бегае, з кім п’е, чаму без меры?..А ты як, п’еш?..

— П’ю, — адказваў Крыцкі, смеючыся. — Малако, квас п’ю…

— А-а-а…І яны так рабілі. А пасля збіраліся ў лібалаторыі, чорную трапку ўціскалі ў дзверы і пілі… А чаму чорную, я і сёння ня ведаю…

— Бо лібалаторыя, — перадражніваў ён бабку. — Здымкі рабілі…

— Вось-вось, бздымкі… А тады як браліся галёкаць, ён іх цёпленькіх і браў…

— Хто?

— Ляксеявіч. Заводзіў да сябе, чула, як крычаў: «Ды я вас у Бога, ці грэх, ці не… З трэскам…» Так казаў...

— Што, выганяў?

— Не, але баяліся лідактара… А вось Кузьма, той нікога не баяўся — ні чорта лысага, ні бабу з качаргой. Ты яго ведаеш, ён заходзіць да Хадоркіна. У Кузьмы ці не дзве жонкі, і абедзве п’юць. І ён з імі. Ай-яй-яй! І Хадоркін там, дык лідактар хацеў яго выгнаць з работы. А Хведаравіч пайшоў у суд, казаў: што, пасля службы ўжо і выпіць няможна? Ой, што тут было!..

Навіны адрапартаваліся, а ліст паперы перад Антонам так і ляжаў чысты. Ён разумеў: пакуль не пераварацца бабуліны ранішнія навіны — усё будзе марным.



Выйшаў на двор. Майская раніца хіліла да роздуму. Ну, што рэдактар Вышынскі — добры чалавек, гэта як паглядзець. Трохі ядавіты ён і ўсё чапляецца, усё яму не так.

— Не па-мойму пішаш, — казаў ён раздражнёна. — Вось калі б на мой розум…

Калі б на яго розум… А чаму не браўся ў разлік розум Чэхантэ мясцовага «разліву», Дзімы Шостака, таго ж Хадоркіна? Дарэчы, пра яго, нашага мэтра. Кажуць, пачынаў ён фотакарэспандэнтам, загадваў, як кажа бабка Настуля, «лібалаторыяй», пасля перавёўся ў аддзел сельскай гаспадаркі, саступіўшы месца Міцьку Баранку, якому прыляпілі мянушку Пляшывы. Ну, што чалавек з плехам — ці мала іх, але ён быў, апрача ўсяго, і з такім капрызам, якога не пераносіў не толькі Антон: ён пад чаркай крычаў, пузырыў пену, нешта ўсё даказваў, таўхаючы ў грудзі субяседніка. З ім ніхто не вадзіўся, стараліся чарку з ім не браць. Але ён паразумеўся з Хадоркіным, і яны ўдвух, выкінуўшы чорную анучу, расціскалі пляшку-другую таннага віна. Зарабляў на гарэлку Пляшывы: у яго заўсёды быў прыварак, той калым, які даваўся яму ад здымкаў на вяселлях, падчас жалобы ці радаснай падзеі. За такія калымы і пілі, а закусвалі «баранінай» — смяяліся з удалай «закускі»: рукавом ці валасатай (курчавай, як у авечкі руно) рукою. Адсюль і бараніна…

А тады, як з’явіўся ў рэдакцыі Крыцкі, на двары стаяў ужо іншы час, прыходзілі прынтары з лічбавымі фотаапаратамі. Цяпер «чорную трапку ўціскаць у дзверы» фоталабараторыі патрэбы не было, хаця нагода сабрацца ў мужчын была нярэдка.

Чэхантэ, зрабіўшы праходку да ўнівермага і назад, вярнуўся, сеў за стол і адчуў: «паперла» так, што не паспявала рука за думкай. Пісалася лёгка, на адным дыханні. Што можа быць больш райскім, чым цішыня кабінета і думкі, якія вырываюцца, нібы рабы, на волю вольную…

Ды раптам, як пярун у цішы, як шкодніцтва — стук у дзверы…

— Хто там такі далікатненькі?

Дзверы адчыніў Дзіма Шостак.

— Чаго так па-зладзейску? Заходзь.

Дзіма прычыніў за сабой дзверы. Ён прыйшоў у рэдакцыю раней за Антона на год і перш, чым зайсці ў кабінет, стукаўся. Гэта не было

адзнакай ягонай далікатнасці ці выхаванасці, такі ён быў нерашучы і нейкі нібыта баязлівы. Нібыта нечага баяўся.

— Ты вось пішаш, а ў мяне душа на пакаянні...

— Перад кім жа каешся, раб божы Дзімітрый? — насупіў прытворна бровы Чэхантэ.

— Не здзекуйся, а парай, што рабіць.

— Ты пра Люсю? Каб жа ты каму калі якое, а то ніколі нікому нічога і ніякага. А яна, пстрычка, бач, што задумала?..

— Зноў ты са здзекам, — прысеў на крэсле ад акна. — Я, мусіць, няўдачнік, га, Антон?

— Не, ты ні млён і не таўкач! Ты не ўмееш з імі…У цябе няма напору. Угадаў?

— Ну, а далей што?

— А ты ўспомні, як у Меладзе: «Чем выше любовь, тем ниже поцелуи». Так што цалуй сваю Люську, і як можна ніжэй.

— Як гэта?

— Ну ты, брацe, здзіўляеш!.. Трэба ж такім радзіцца?..

Дзіма, пасаромлены, выйшаў, так і не зразумеўшы, пра які напор і пра які пацалунак гаварыў сябра…

Стаяў ужо той час, калі адшумела школа. Крыцкаму яшчэ балела ад таго, што пакінуў сваё настаўніцтва, каб пасмакаваць іншага хлеба. Нялёгкага — гэта ён спазнаў адразу ж, і не ва ўсім удзячнага. Там было іншае: вучні, журнал, урокі, адзнакі, ветлівая гаспадыня, дзе здымаў пакойчык. Там ён быў патрэбен кожны дзень, бо даваў веды, бачыў дапытлівыя вочы дзетак і на сэрца клалася ціхая радасць. Тут іншае: ты не бачыш таго, для каго пішаш.

Не зусім удзячны хлеб у газеце. Якая падзяка, калі ідзеш на канфлікт? Калі ты бунтар, калі табе баліць за прыстойнага чалавека. Аднак тут на цябе і выліваюць цэбар мярзоты, пагражаюць судом. Да расправы не даходзіла, але пагрозы гучалі. Па тэлефоне. Такое, вядома, бывае не кожны дзень, тым не менш нервы патрэплюць…

Сум па школе аціх, ачэзнуў. Але ўсё адно ў пару, калі цвілі сады, сум гэты нейкім чынам вяртаўся, хаця і не такі востры, не так вярэдзіў душу, як спачатку...

І назаўтра раніцой у дзверы да Антона Крыцкага зноў пастукаў Шостак.



— Яна і ўчора фліртавала…

— Няўжо? — па вуснах Антона прабегла ўсмешка. — Ты што, бачыў?

З’едлівай усмешкі Дзіма не заўважыў.

— Дзівак ты!.. А калі той бугай згвалціць яе?

— Ну? — акругліў вочы сябра. — «Не дари мне, Лёнчик, газовый баллончик: пусть меня, красивую, мужики насилуют»…

— Табе толькі б пасмяяцца!..

— Ах-ах, якая нявінніца, ну… — ён пакутліва шукаў словы, каб не дабіць сябра нязграбным уколам, — ну, чыста дзева Марыя!..

— Навошта ты так?..

Крыцкі не ведаў — навошта, ён ужо захапіўся гульнёй, не цямячы, што яна тут вельмі не да месца, што гэта не той выпадак, каб пасмяяцца ці пакпіць.

— Ты яе зусім не ведаеш, — прастагнаў Шостак. — Дык нашто ж ты, га?..

— Ну, даруй, — паляпаў Антон па плячы сябра. — Ведаю я гэтую цнотку. Ты ёй не раўня. Ты няўдачнік, ты надта святы для такой каралевы. Яна з табой загульвае. Гульня — ты гэта разумееш?..

— Не з-зусім…

— Ты хочаш быць у яе пад абцасам? Ты гэтага хочаш?..

— А няхай.

— Ну, тады, брат, не ведаю…

— Ты гэта праўду сказаў ці каб зрабіць мне балюча? — пасля доўгай паўзы азваўся Дзіма.

Антон пашкадаваў, што напрамую, па-сяброўску, без вывертаў сказаў яму тое, што думаў, хаця гэтае шкадаванне неўзабаве саступіла месца больш рашучай і непахіснай думцы: чаму ж ён такі сляпы, чаму не бачыць, якая яна, тая Люська? Ён для яе, нібы пятае кола ў фурманцы…

— Ты сказаў, каб насаліць мне? Ну, скажы… — насядаў Шостак, і твар яго стаў не, не разгубленым — нейкім вартым жалю. І Антон узарваўся:

— Не ўніжайся! Мужчына не можа так… Не мае права. Бо ён мужчына… калі неануча! Ты чуеш? Калі ты мужчына, чорт цябе пабяры!..

Дзіма не чуў, ён не хацеў слухаць гэтую лухту, гэтую абразу і выскачыў з кабінета. Хутчэй на вуліцу, хутчэй туды, дзе няма ні Крыцкага, ні тых, хто не разумеў яго, не спагадаў ягоным бедам-напасцям…

Ён даўно ўжо не дзіця, хаця за свае дваццаць сем так і не навучыўся знаёміцца з дзяўчатамі. У яго іх не было і не магло быць у прынцыпе, ён жыў «патрыярхальным»: да вяселля ні з кім з дзяўчат да ложка справу не даводзіць. Многія хлопцы выхваляюцца гэтым ледзь не з восьмага класа, а ён вось такі «дамастроевец». Каханне, ці што там, прыйшло, як толькі пакінуў парог школы і ўліўся ў імпэтную плынь студэнцтва.

Ён адразу яе прыкмеціў, Алесю Крукаву, вылучыў яе з гурта аднагрупніц. Дробнае, смяшлівае дзяўчо, бялявае і крыўдлівае. Бывае, шчокі надзьме, зробіцца, як хамяк, так і сядзіць гадзінамі, быццам за шчокамі па яблыку. Упёртая, словам. І чаму такая вось знайшла дарогу да яго сэрца (не разбіла на друзачкі, але прымусіла яго палонена трымцець), ён цяпер і не скажа. Ён слухаў не лектара, слухаў сваё сэрца, якое прасіла штохвілінна: «Павярні галаву, глянь, якая Алеська каралева…». І ён паварочваў. А яна нібыта не заўважала гэтага гарачлівага Дзімавага памкнення, хаця ён аглядаў яе ледзь не ў адкрытую.

А потым, адышоўшы ад вераб'інай натапыранасці, яна смяялася — галасна і раскаціста. Дзіма млеў, кідаўся, нібы рыба ў сетцы. Яму пачало здавацца, што ён чуе ўжо Алеськін залівісты смех і ў інтэрнаце, дзе жыў, у магазіне «Сам», куды забягаў па пакет малака, у чытальнай зале, дзе хацелася засамоціцца і пачытаць цікавую кнігу…

Ён спыніў яе на калідоры падчас перапынку паміж лекцыямі і запрасіў у кіно. Яна рассмяялася, хіхікнула і пырхнула птушанём за сяброўкамі. Была і другая спроба, а на трэцюю юнаку не хапіла нахрапістасці.

У кінатэатр яны так і не схадзілі. А потым выязджалі ў калгас на бульбу. Сядзелі неяк усёй групай ля вогнішча, грэліся, і ён адчуў, як абмацвае ягоны твар нечы позірк. Павярнуў галаву: на яго глядзела і смяялася і вачыма, і вуснамі — усім тварам, такім дарагім і блізкім, Алеська Крукава. Ён усміхнуўся ёй у адказ, і яна ўспыхнула, як рабіна…



Аднак Алеся праз год выйшла замуж, перавялася на завочнае аддзяленне, і Дзіма забыўся на яе. У памяці засталося адно даўняе вогнішча ўзбоч калгаснага поля, сарамлівы, з капрызінкай, позірк прыгожых дзявочых вачэй.

Горш за ўсё Дзіма пакутаваў той парой, калі адступала зіма, міналі халады і жанчыны выходзілі на вуліцу ў лёгкіх сукенках і кароткіх спаднічках. Белізна адкрытых дзявочых ног, лёгкая сукенка, якой гарэзна гуляе вецер, гнуткі дзявочы стан, залівісты смех, які чуўся ўсюды — на вуліцы, у рэдакцыі, у крамах, — усё гэта абуджала ў ім новы прыліў сіл і яшчэ нечага, мужчынскага, чым жывілася ўсё яго цела, увесь ён, да апошняй кроплі, і якое рвалася да гэтай белізны, да гнуткага дзявочага стану, да маладосці…

## 2

З возера яны вярнуліся ў нядзелю. Бралася на вечар. Антон скінуў з плячэй, цупнуў аб зямлю палатку, узяўся размінаць ацёкшыя рукі, Дзіма ж стаяў усё, наўючаны спальнымі мяшкамі, абапёршыся аб рог дома, пакуль не аддыхаўся. Скінуў, аблягчыў свае плечы, прысеў на нізкую лаўку, укапаную пад вокнамі на падворку, зморана выцягнуў ногі. А тут якраз і гаспадыня, цётка Параска, выйшла, успляснула куртатымі рукамі:

— Авохці, хлопчыкі!.. Ці пашанцавала ж?..

Яна падабалася Антону: гасцінная, усё робіць шчыра, без намеру падацца лепшай. Калі смяецца, то ад душы, калі дзівіцца — таксама, калі плача (хаця ў слязах яе Антон бачыў рэдка), то стоена і ціха, каб не пачуў Дзімка, кватарант. Бывала і бурчэла на Дзімку, але гэта найбольш ад таго, што падбіралася старасць. Сёння, убачыўшы рыбакоў у дзіўным і нязвыклым адзенні, яна не хавала свайго ўзрушанага настрою. Сваіх дзяцей яна не мела, таму, напэўна, шчыра радавалася за чужых.

— Пашанцавала, цётка Параска, — адказаў Антон, любуючыся тым, як цётка карміла курэй: брала жменямі ячмень з рэшата і рассыпала веерам пад лазню, быццам высявала.

— Цып-цып-цыпа!.. — звала яна курэй, і калі невядома адкуль сабралася іх добрыя два дзясяткі, у кампаніі з фарсістым пеўнем, спытала: — А дзе ж яна, ваша рыба?

— На юшку пайшла, — адказаў ужо Дзімка. — Вось Барсіку пакінулі печкуроў...

Яны пайшлі ў хату і прылеглі. Усё-такі здарожыліся: як выправіліся ў вандроўку суботнім ранкам, дык толькі во ў нядзелю пад вечар і аб'явіліся.

— Ведаеш, Антон, — сябар, лежачы на спіне, знайшоў вачыма нейкі сучок у столі, бо позірк яго быў нерухомы, — а я бачыў яе…

— Зноў ты пра сваё, — мякка папракнуў сябра Крыцкі.

— Ты думаеш, яна мне прыснілася? Не, бачыў яе ля вогнішча. Помніш, ты пайшоў па галлё, а яна выйшла. Верыш ці не? І калі з вудай стаяў, прыйшла. Валасы такія… ну, якраз яе валасы — залаты дождж.

Антон маўчаў, думаў пра сваё.

— А чаму яна прыходзіць, калі я адзін? Я губляюся, я не ведаю, аб чым з ёй гаварыць. Скажы, Косцік, няўжо каханню патрэбны сведкі?..

Антон не адказаў, а Дзімка, аддаўшыся марам, не заўважыў, як падкраўся сон.

…Яна ў васільковым халаце з белым гарохам. Спачатку, праўда, дзяўчына паходзіла на Алеську Крукаву, такая ж дробная і белая з твару, а потым змянялася на іншую. Гэта ўся ў целе, можа, і залішне для Люські, аднак твар яе. І дужкі броваў тыя ж, са зломам, і нос востранькі, з раздзьмутымі пялёсткамі ноздраў, калі злуецца, і вусны… Ён ціхенька адчыняе дзверы, крадучыся, ступае па вітальні. Яна заўважае яго, спалохана войкае, захінаючы халатам адкрытыя калені.

«Добры дзень, Люська», — вітаецца ён.

«Праходзь», — запрашае яна і падае яму руку. Ён працягвае сваю, і так яны стаяць у пакоі некалькі хвілін. Затым яна выбягае на кухню, там нешта ўсё сквірчыць, шыпіць, адтуль дражняць казытлівыя пахі. І Люська неўзабаве ўрачыста (госць жа ў хаце, і які!) падае на стол патэльню з яечняй, нясе ў сподку скрылькамі нарэзаныя свежыя агуркі. Зноў завіхаецца, і на стале з'яўляецца бутэлька — імпартная, няйначай, бо нейкая пляскатая, невядома кім ставяцца на стол малюпасенькія келіхі, нешта з напарстак.

Выпілі. Цяпло разлілося па грудзях, пайшло па ўсім целе. Яны доўга смяяліся, а затым ён абхапіў яе за кволыя плечы, прыгарнуў да сябе і пачаў цалаваць — няўмела і нязграбна. Ён выразна бачыў, як матлянуўся, казытнуўшы яму твар, амулецік, што вісеў у яе на шыі, як зняла яна яго і пацалавала, як схавала амулет у кішэню халата. Упарцячыся, адпіхнула Дзіму ад сябе, сказала рашуча: «Не трэба. Ты яшчэ малады. Табе няможна».

«Як?! — ледзь не закрычаў ён. — Ды мне ўжо дваццаць сем. Я — мужчына».

Яна зноў засмяялася.

«Ці бачыў ты калі жанчыну, якая знімае з сябе бялізну? Не? Мужчыны дурнеюць, іх або ліхаманіць, або яны губляюць галаву…».

«Я не згублю», — упэўнена сказаў ён.

«Не верыш?..»

І яна лёгка, з усмешкай расшпіліла ў халаце верхні гузік, і ён убачыў радзімку памерам з медны пятак, крыху вышэй за тое месца, дзе пачынаецца спакуслівы падзел грудзей, адвязала пояс і нейкі час стаяла, абхапіўшы накрыж халат рукамі. Ён бачыў, як дыхалі, як напіналіся яе высокія грудзі, як падступала яна да яго, крок за крокам, збліжалася, як паціху расхінаўся верх халата, як агаляліся раптам тыя грудзі, якія некалі былі сціснуты ліфчыкам. Дзіма нават не паспеў уцяміць, чаму так, хто вызваліў іх з палону — няўжо сама? — ужо выразна бачыў невялікія бурыя пятачкі прыпухлых саскоў, прамежак і самі мячыкі, якія натапырана і страхотліва набліжаліся, насядалі, прыціскалі яго да сцяны…

Ён закрыў рукамі твар, намогся крыкнуць, але голасу не было. А яна ў адказ засмяялася, пераможна, з выклікам, пайшла на яго, на хаду знімаючы халат. Таго, што было ніжэй грудзей у Люські, ён не бачыў — закрычаў. Закрычаў адчайна, як крычыць чалавек, нечакана ахоплены полымем. Закрычаў, выразна чуючы свой немы крык, і ... прачнуўся.

Крыцкі ведаў, дзе кватаруе Людміла Пятроўна Задорная, а для Дзімы проста Люська. Яна выкладала ў школе рускую літаратуру, вучні гарнуліся да яе, ахвотна запісваліся ў драмгурток, які вяла настаўніца.

Яна курыла, і дзеці пра гэта ведалі. Ведалі і пра яшчэ адну яе загану: яна была ахвочая да мужчын. Але пра мужчын — па чутках, ад бацькоў ці такіх, як і самі, цікаўных не ў меру вучняў школы.

Помніцца, калі Крыцкі толькі прыйшоў на работу ў рэдакцыю раённай газеты, яму параілі: «Напішы пра Задорную». Ён двойчы

схадзіў да яе на ўрокі, пабываў на кватэры і зусім выпадкова ўбачыў сціснуты гармонікам недакурак у попельніцы пад лапаць. Яе недакурак, на ім былі яшчэ сляды памады. Гэта дэталь адабрала ўсякае жаданне пісаць пра яе як пра настаўніцу.

Цяпер ён ішоў да яе з іншай нагоды. Таксама па справе, але без усякага запрашэння.

Ён узняўся на трэці паверх (кватаравала яна ў пяціпавярховым гмаху), пазваніў. Дзверы адчыніла яна сама і здзіўлена ўскінула ўгору дужкі броваў.

— Вы... да мяне?

Яна праводзіла яго ў залу, падала альбом. Ён агледзеў маленькі, але надзіва ўтульны пакойчык, прыкмеціў: у яе багата кніг — і ў шафе, і на паліцах. Быў тут год назад, такой недзе парой, тады яна запрасіла яго на кухню, частавала чаем…

Задорная выйшла да яго ў спартыўным касцюме, які падкрэсліваў яе па-дзявочы зграбную паставу, села ў мяккае крэсла і падрыхтавалася слухаць.

— Вы помніце мяне, Людміла Пятроўна?

— Чаму ж? Вы газетчык. І, відаць, неблагі.

— Нават так?

— Ва ўсякім разе, я люблю вас чытаць.

— Дзякуй за камплімент. Мы так рэдка гаворым кампліменты.

Яна засмяялася, але гэтая ўсмешка кранула толькі куточкі яе вуснаў. Яна адвярнулася да акна, і Крыцкі раптам заўважыў бурую радзімку на левай сківіцы, бліжэй да мочкі вуха — нечакана загадкавую, трохі, здаецца, прыпухлую, з кароткімі валосікамі па краях…

— Кампліменты ад жанчыны?..

— А хаця б і так. Эмансіпіраванай жанчыны.

— У вас да мяне справа? — перайшла яна раптам на сур’ёзны тон. — Прабачце, у мяне мала часу...

— Ай-яй-яй?! — Крыцкаму не спадабалася гэтае гаспадынiна «мала часу», і ён сказаў з’едліва: — Такая прыгожая жанчына і такая негасцінная. У вас што, сёння непрыёмны дзень?

Яна бліснула на яго, востры носік у яе яшчэ больш выцягнуўся. Яна ўстала, расцягнула замок на спартыўнай куртцы, агаліўшы прыгожую шыю з амулецікам на кароткім матузку — выявай нейкай загадкавай істоты, і раптам нібыта нечага спалохалася, сцягнула да горла, імкліва і сутаргава, сінюю «маланку».

— Вы прыйшлі сварыцца?

— Што вы? Хіба я магу?..

— Ведаю, вас падаслаў Шостак.

— Навошта так? Ён не ведае пра мой візіт, хаця ў ягоным сэрцы вы займаеце адметны куточак…

— Ведаю, ну і што? А мне аднаго сэрца мала. Я крыважэрная, я жанчына. Мне ўжо трыццаць пяць.

— Кіньце, вы, распусніца! — Антон пайшоў у наступ.— Хіба можа інтэлігентная жанчына...

— Можа, — перабіла яна яго і зноў уваліліся ў крэсла: — І яшчэ як можа…

— Ну, хопіць! — ён надаў голасу адценне медзі. — Вы губіце чалавека.

— А вы спыталі, хто *ён* для мяне?

— Ён трызніць вамі, — не здаваўся Крыцкі. — Хочаце, ён вып’е для рызыкі віна і прыйдзе да вас. Прыйдзе мужчынам…

— Не трэба. Я не практыкантка.

— Вы кахаеце яго.

— Хто вам сказаў?

— Я чытаю па вашых вачах.

— Ну і ну!..

Яна ўстала з крэсла, глянула на сябе ў люстэрка, быццам сапраўды збіралася праверыць, ці праўду ён кажа. У прыўзнятых куточках яе рота яшчэ заставаліся зморшчыны — цені ўсмешкі, што не паспела збегчы з вуснаў. Аднак усмешка тая была ўжо безабаронная, а твар вінавата-сумны.

— Нейкая бязглуздзіца! Вы даруйце мне, але … ці то вы хворы, ці… Нейкая тут фантасмагорыя! Мы ж разумныя людзі!..

— А хіба кахаць — кепска?

— Кепска прыніжацца. Ці, можа, гэта ягоны жыццёвы прынцып?

— Вы і папраўдзе жорсткая. Яму трэба памагчы, яму не хапае смеласці.

Яна так і засталася стаяць перад люстэркам.

— Тады яму да сексапатолага. Я саромеюся вучыць гэтаму няўмелых мужчын. Ці вам невядома, што такое сорам?

— Адкуль у вас гэты сорам?! — Крыцкі не стрымліваў прыступу гневу. — Сорам мяняць мужчын, сорам піць, смачна зацягвацца цыгарэтай?.. Гэта для вас сорам!

Яна моўчкі адышла ад люстра.

— Вы ж нічога не ведаеце!.. А збіраеце бруд… Гэта вам… гэтая лухта, брыдота, гэта шальмоўства!..

Людміла Пятроўна кінулася ніцма на канапу, і яе кволыя плечы ўзяліся дробненька ўздрыгваць…

Крыцкі не стаў яе суцяшаць. Гэта было жорстка і бесчалавечна. Ужо стоячы ў парозе, ён дакараў сябе, кляў рознымі словамі за хлусню, за тое, што ўварваўся ў кватэру і нагаварыў кучу непрыемнасцей, абразіў жанчыну. І тут жа на змену гэтай думцы прыйшла іншая — яшчэ неакрэсленая і, на першы погляд, бязглуздая, але яна прабілася — нечаканая і вострая, як шыла, якое дакранулася сваім вастрыём да сэрца, і яно спынілася на момант, амярцвела…

3

Згарэла лета. Ва ўсім жыло дыханне блізкай восені. І ў прыродзе, і ў самім чалавеку. Крыцкі з Шостакам сумавалі па сонцы, якое павярнула на зіму, наогул па той цеплыні, якая цешыла, радавала, акрыляла маладыя сэрцы. Туга мацнела, калі ў іх пад нагамі шуршэла, блазнуючы, апалае лісце, калі браліся халады, прыходзіла слота. Праўда, непагадзь не раз адступала, нібыта жывіла чалавека надзеяй на тое, што зіма калі і ляжа, то не заўтра.

Аднак прырода не дужа лічылася з думкамі чалавека, з яго надзеямі. Пасля Пакравоў лёг снег, і зіма паказвала ўжо свой выскал, свой нораў: трэснулі нежартоўныя маразы.

Антон з Дзімам прыходзілі, як і раней, у рэдакцыю першымі, як заўсёды, гаварылі глупствы, пераходзілі на жанчын, на палітыку, на халады, якія «прыйшлі рана», на мясціны (яны называлі іх палесцінамі), якія пакінулі і па якіх адольвала журба. А тым часам з'яўляўся Вышынскі, гулка тупаў па калідоры, чмыхаючы і доўга, відаць, шукаючы па кішэнях ключы, бо шчоўкаў замок не адразу, праз сцішаную



паўзу. Дзверы адчыняліся, ляпалі, зноў адчыняліся, і неўзабаве чуўся на калідоры басавіты начальніцкі голас:

— Крыцкі, зайдзі!

Антон, быццам не пачуў гэтага воклічу, выглядваў з кабінета і таксама зычна адзываўся:

— Хто, я?

— А няўжо Маруся з сырзавода? Ты, ты, галубок!..

Антон заходзіў. Рэдактар сядзеў за сталом і правіў нечы матэрыял. Быў не ў гуморы — гэта Крыцкі адчуў, як толькі пераступіў парог. Бровы насуплены, ніжняя губа з'ехала так смешна, што Антон ледзь не пырснуў смехам. «Калі схопіцца за борт пінжака і пачне яго тузаць ды падкідваць, калі выцягне шыю, — не вытрымаю, засмяюся», — падумаў ён. Але Вышынскі так не зрабіў, павярнуў галаву да Антона.

— Ну вось што, саколік, табе архіважнае заданне, — ён умеў надаць даручэнню вагу золата самай высокай пробы. — У вёску Пагост прыехаў чалавек і адразу ўзяўся рубіць сабе хату. Такі вось дзівак, бо адвучылі людзей ад сякеры. Жыве-туліцца ў сястры, у яе самой двое дзяцей у хаце, а тут ён. Разумееш? Словам, сацыяльныя зрухі на сяле. Не перавяліся, брат, рабацягі…

— Ну што, заданне? — сустрэў яго Дзіма на калідоры.

— А ты адкуль ведаеш?

— Архіважнае?

— Ты як у ваду глядзіш.

— І мяне ашчаслівіў. Таксама архі — пра тое, як зліваецца бензін і трапляе да фермера.

— А-а, тут не так проста. Тут трэба з розумам. Кралі і будуць красці. Гэта ўжо ў крыві, бо калгаснае.

— Правядзём следства. А пра фермера ён дарэмна. Хто адкіне дармавое, га?..

Шостак не пераацэньваў сябе, гаварыў без форсу: ён сапраўды быў прыроджаны следчы. Адну даволі няпростую справу раскруціў так, што Вышынскага пасля публікацыі доўга цягалі па райвыканкаме. Ён не здаваўся, пярэчыў, спрачаўся, прыходзіў у рэдакцыю чарней за хмару, але Шостака не тузаў. Уся гэтая задзірлівасць магла рэдактару дорага каштаваць: усё-такі на кантракце, прыйдзе час выравшаць — падпісаць яго яшчэ на два ці тры гады — і там паглядзяць, пакінуць

у «камандзе» ці не. Але Вышынскі, па ўсім відаць, не дужа баяўся гэтых рэпрэсій. Не ў сваёй талерцы па першым часе быў і Дзіма, а калі рэдактар аднойчы выклікаў яго да сябе, і наогул адчуў, што апала сэрца. Адчыняў дзверы яго кабінета бледны і нежывы. Вышынскі не стаў заходзіць здалёку:

— Ну ты, бачу, павесіў нос на квінту! Дзе твой дух байца? А што мне перапала, не бяда: такая доля рэдактара.

Пасля гэтага ён і Чэхантэ па-іншаму сталі глядзець на Вышынскага. Хаця і выкідвалі такія-сякія вольнасці. Па сваёй маладосці, па гарэзлівасці натуры. Яны маглі перадражніць «шэфа», які падкідвае ўверх борт пінжака, маглі спарадыраваць грымасу, з якой правіць ён нечы артыкул, як кідае крыўдліваe: «Вось калі б на мой розум…». Усё гэта было, але за ўсім іранічна-кплівым стаяла ўжо сталае і сур'ёзнае — павага да чалавека, які ўмеў пастаяць за праўду. Не зневажаў, не лаяў малады падлесак рэдакцыі, рабіў газету на свой капыл — зубастай і чытэльнай. І гэта быў не «гонар мундзіра», гэта было, калі хочаце, тое ж бунтарства, што «жыло» і ў іх, маладых журналістах. З рук, праўда, газету не вырывалі, аднак былі званкі, ад якіх цяплела на сэрцы…

Такі ж недзе лёс прадракалі артыкулу Крыцкага «Прышлыя людзі». Лятучка збіралася па панядзелках, і за друкоўку ўзяліся адразу.

— Вясковыя нататкі, — прыцэньваўся намеснік рэдактара Бардзюкоў, — калі шчыра, неблагія. Адно не вазьму да розуму: чаму трэба ахвотней, як ты пішаш, даваць маладым сякеру ў рукі, чым гатовы дом? Мне здаецца, гэта адверне моладзь ад вёскі. І так мы наламалі нямала дроў…

— Хто мы?.. — не ўстрымаўся Крыцкі.

— Улады, — адразу парыраваў Бардзюкоў.

— Дык што, спачатку «кось-кось», а пасля ў аглоблі?

— У якія аглоблі? Пра што ты кажаш, Крыцкі? — не сцярпеў намеснік рэдактара. — А як інакш? Свой дом — гэта ого-го! Ты, Крыцкі, яшчэ не адчуў, як гэта добра, калі ў чалавека свая сям'я, свой дом…

— Паспеем, адчуем...

— Плодзім утрыманцаў і скаржнікаў, — увязаўся ў гаворку Саўкоў з аддзела пісьмаў. — Паглядзіце, як бярэ ўсіх за глотку абывацель?! Пастаў яму паркан, падсып вуліцу, абрэж у ягоным садзе сухое суч-



ча, прывязі задарма пяску, гравію… А трактарыст… ён за тры гады асабняк давядзе да ручкі. Чаму? Адказваю: не сваё! Хата быццам звалілася з неба. А вось калі сваім мазалём ды цагліна да цагліны… Такое і цэніш!..

— Што за манера перапыняць аглядальніка?! — ускіпеў Вышынскі і ўзяўся падкідваць рукой левы борт пінжака. — Усім будзе слова. А так бач, якія пеўнікі?!

Крыцкі сядзеў якраз насупраць рэдактара і адчуваў, як падмывае ўжо засмяяцца, і калі той узяўся выгінаць шыю, як гусак, — пырснуў смехам, хаваючы твар ў далоні. Але рэдактар зразумеў насмешку, ускочыў з крэсла.

— Тут вам, саколікі, не балаган! Вядзіце сябе годна. У журналіста, як і ў разведчыка, павінна быць халодная галава і гарачае сэрца. Без гэтага вось… — Ён узняў уверх руку і ўзяўся круціць ёю, быццам вывінчваў з патрона лямпачку: — Без хіхікання! У цырк трэба некага, на арэну!..

Рэдакцыйны уазік стаяў ужо «пад параю». Курныш, вадзіцель рэдакцыі, бурчэў:

— У Пагост?! Не машына — кляча, а яны ў Пагост. Ніякага сумлення.

— Едзем дом будаваць, — пажартаваў Крыцкі.

— Ого! — рагатнуў з'едліва Курныш. — Ды ты сякеры ў руках яшчэ не трымаў!

— Мы, дарагі ты наш Пятруська, каб дух падняць, — і нечакана прадэкламаваў: — «Ды ў апусцелых і трывожных вёсках яшчэ не згасла верная душа»…Так што курс у нас адзін — на Пагост.

— Рана мне яшчэ туды.

— Я сур'ёзна.

— І я без жартаў. Хто з вас будзе за тэхнічку? Давайце. Прыедзем, дам анучу.

Курныш быў у сваёй ролі.

— Ну і пастарэў жа ты, браце!

— З вамі тут не пастарээш.

І палагаднеў:

— Надоўга?

— Ды не, — засмяяўся Шостак, — сёння вернемся.

Старшыня гаспадаркі Макарэвіч сустрэў газетчыкаў у кабінеце, узняўся з-за стала, пайшоў насустрач, падаючы на хаду аднаму і другому руку.

— О-о, прэса! Рады вітаць вас на вольнай казацкай зямлі!

— Нават так? — усміхнуўся Крыцкі. — Што, вальнадумцы?

— Што вы? — паправіўся старшыня, і твар яго ўраз заліўся густой чырванню. — Няўжо не ведаеце, што ў раёне была некалі свая аўтаномная казацкая рэспубліка?

Журналісты няпэўна паціснулі плячыма.

— Ну вось, — злёгку пасароміў Макарэвіч сваіх візаві. — А яшчэ газетчыкі!.. Ладна, будзе час — раскажу. А пакуль — што прывяло вас, ягамосці, у нашы пенаты?

З Пагоста ў раён прыехалі тым часам, калі на зямлю спускаліся змрокі. Крыцкі перакусіў нечага з вячэры, пахапкам, уваліўся ў мяккае крэсла і закурыў. Наогул курэц з яго быў неважнецкі, ён вечарам дазваляў сабе дзве-тры цыгарэты і ўсё. Быў час, калі пачка не хапала, двойчы пасля кідаў, зноў браўся — яшчэ больш азвярэла. Затым асадзіў сябе: што за апетыты? Вось з таго часу курыў адно што вечарам, пасля работы.

Думкі блыталіся: думаў пра Гайдука, да якога нядаўна з’ездзілі, пра яго «Зоечку-Зульфію», татарачку, пра гумар у іхняй хаце. Пасля думка перабегла да гаспадыні, цёткі Параскі, пра тое, як настойліва сватала яна яму сваю пляменніцу, што жыла ў Мінску. І раптам аднекуль спадыспаду вырвалася і апякла думка пра яе, пра Людмілу Пятроўну. Ён нагаварыў ёй столькі глупства, што ў пару было папрасіць прабачэння. Заўтра ж зойдзе… А чаму заўтра? Заўтра — субота, выхадны. Не, толькі сёння, зараз жа. Час не такі позні. А што Дзіма, чаму ён такі няўклюдны, чаму даводзіцца за яго прасіць, клянчыць? Ды і прычым тут ён, сябар? Ён сам хоча яшчэ раз пабачыць жанчыну, чыркне ёй усяго пару слоў…

У ім яшчэ нешта супраціўлялася, можа, гняло тое, што ўсё ж і Дзіма меў права на яе. Ладна, напіша на лаціне і аднясе запіску разам з букетам вяргінь. Вяргіні ў гаспадыні яшчэ не адцвілі.



## 4

Дзверы кабінета адчыніла русявая дзяўчынка гадоў чатырнаццаці ў цеснаватай куртачцы. Была яна не адна, з ёй, абапіраючыся на кавеньку, зайшоў стары чалавек. На ім неяк нязграбна сядзеў паношаны, хаця досыць дагледжаны шэры плашч, а просценькія чаравікі былі старанна наваксаваны.

Стары дрэнна бачыў, і Крыцкі, як спружынены, ускочыў з крэсла, каб памагчы яму. Але дзяўчынка сама зрабіла гэта спрытна і ўмела, памагла яму прысесці на крэсла ад сцяны, прымасціўшыся побач. «Унучка, пэўна», — падумаў Крыцкі.

— Ліха прывяло да вас, — пачаў стары, і вочы яго глядзелі міма Крыцкага, некуды ў бок рэтра-радыёлы, якая стаяла на стале па левую яго руку.

— Кінуты я, бы тая божая травінка ў полі…

— Як кінуты? А вось унучка з вамі.

— Ды не ўнучка я, — мякка запярэчыла дзяўчынка. — Мы жывём у суседнім доме. Я хаджу да яго, даглядаю. І вось папрасіў мяне дзядуля, каб завяла да вас…

— Усё жыццё для іх стараўся. Цягнуўся на нітку. А цяпер аказалася — нікому не патрэбны. Не піў, не курыў. Усе грошы аддаваў жонцы. Колькі печаў зрабіў, і ўсё грошыкі ёй. А цяпер вось… Памажыце, не дайце здаць у казённы прыстанак. Мне сорамна туды ехаць, пры жывых дзецях. І за сябе сорамна, і за іх, акаянных…

— А жонка ваша памерла?

— Ды жывая, які яе чорт возьме?! Пайшла ад мяне і цяпер жыве з дачкой. Кінулі, як старца, і што ж мне, у чужых век дажываць? Бяруць жа, чаму, у Марыйкіну вось сям’ю, а я не хачу: навошта ім лішні клопат. Стары, самі ведаеце, як малы: і падай, і аднясі. Ды і капрызны я стаў…

Крыцкі гайдануўся ўзад-уперад на крэсле, цікуючы за тым, як стоена слухае старога дзяўчынка.

— Дачцэ сваёй, Святлане, кватэру купіў, пасля папрасіла грошай на кухню, на пральную машыну. Усё аддаў: роднае ж дзіця. А мужык усё адно ад яе пайшоў. Паганая яна, нейкая злая. Помню, колькі стаяў над калыскай, вачэй не зводзіў, глядзеў за ўнукам. Ён малы, што з

яго возьмеш? А яны… Грошай не даў на халадзільнік, дык гатовы былі мяне звесці са свету. А якая тая пенсія? На пахароны збіраю, каб па-людску памянулі… Каб не хадзіць па хатах і не збіраць, як тую міласціну…

Пасядзелі моўчкі хвіліны дзве. Затым стары зноў узмаліўся:

— Не хачу я сляпы туды, у казённы дом, у чужы прыстанак. Як падумаю, што завязуць ад парога за свет, то і жыць няміла.

— Што вы, дзядуня? — мякка папракнула старога Марыйка. — Няможна так гаварыць.

— Можна, Марыйка, можна. Бога на іх няма, нехрысцяў.

— У вас адна дачка?

— І сын ёсцека. Але той даўно звіхнуўся за свет. Мусіць, тры лісты дамоў і даслаў.

— А ці ведае ён пра вашу бяду?

— Клікаў да сябе, на Поўнач. А мне толькі Поўначы і не хапае. Куды я такі, каб абузай быць?..

Марыйка, прыціхлая і дробная, як мышанё, ва ўсе вочы глядзела на Крыцкага (ён тварам, скурай сваёй адчуваў яе ўважлівы, з мальбою позірк), быццам прасіла: ну, памажыце чым-небудзь, газета ўсё-такі, пастрашце, прыгразіце напісаць пра іх, хто кінуў старога, мо і злітуюцца. Так і хацелася адказаць на запытальна-ўмольны твой позірк, Марыйка: ты, напэўна, яшчэ не ведаеш, што значыць прыніжацца, прасіцца да тых, хто табе па сутнасці ўжо не радня — так, дзясятая вада на кісялі. Ці трэба наогул прасіць аб гэтым і жонку яго, і дачку Святлану — яго крывінку, якой аддаў і клопат, і здароўе? Ды і калі б такімі магамі былі газетчыкі, калі б так лёгка пераконвалі дарослых дзядзькоў і цётак, ставілі іх на месца, калі б так было, хіба жылі б мы з такім болем, як у гэтага старога?..

Яны пайшлі, пакінуўшы адрас дачкі, а Крыцкі доўгі час не мог супакоіцца, не мог узяцца за работу. Першай думкай было напісаць гнеўныя разважанні, паставіць на месца нягодных людзей. Не, так нельга: адразу і — на публіку. Трэба схадзіць да жонкі, да дачкі, пагаварыць, пасарамаціць жанчыну, якая пражыла са старым амаль сорак гадоў. Хаця, калі шчыра, ён не верыў, што візіт прынясе палёгку і яму, і старому. Аднак жа дзе гарантыя, што стары ва ўсім мае рацыю, што ён не схлусіў, што не распінае яго сэрца гнеў? Трэба выслухаць



былую жонку і дачку. Так сказаць, прэзумпцыя невінаватасці, інакш пацягнуць у суд. Хто ведае, што за людзі — тая ж Святлана, тая ж былая жонка…

На званок дзверы адчыніла маладая жанчына з лішкам макіяжу на твары, прапусціла яго ў пярэдні пакой. Крыцкаму было добра чуваць: там, у гасцінай, звінелі шклянкі, там сцішана спявалі пад гітару, там смяяліся гучна і разняволена, цешачыся з нагоды нейкага свята.

— Я не ў пару?

— Што ў вас?

— Я з газеты. Да нас у рэдакцыю заходзіў ваш бацька.

— І што ён хацеў? — яна стаяла перад Крыцкім, сашчапіўшы на грудзях рукі, маладая, разамлелая ад гарэлкі, стаяла блізка, так, што ён чуў яе дыханне, настоенае на пахах салёнага агурка і часнаку.

— Скажыце, Святлана, вас жа завуць так?.. Чаму вы адмовіліся ад бацькі?

— Вось як! Мама, га, мам! Хадзі сюды, — паклікала яна, сілячыся перакрычаць песні і шум-гам, які стаяў у гасцінай. — Ці чуеш?

Да іх выйшла развесялелая жанчына з тварам, скрэмзаным скрозь павуцінай маршчын, глянула на госця.

— Ну што ў вас? Хутчэй, госці чакаюць.

— Вось ад бацькі, — сказала Святлана. — Хоча, каб мы ўзялі яго да сябе. На парукі, гы-гы-гы!..

— Ха-ха! — засмяялася і тая, хаця больш наструнена і варожа, чым дачка. — А вы што, з міліцыі? Не? Ну тады не дурыце мне галавы. Ён стаў невыносны, брыдкі стары. Я цярпела яго столькі гадоў! А цяпер я вольная…

— Але ж ён купіў для вас гэтую кватэру… — не здаваўся Крыцкі. — Хіба гэтага мала, каб…

— Мала, — рэзка, з непрыхаваным гневам секанула Святлана.

— Хто там у вас? — затрубіў з залы нечы голас-бас, і неўзабаве да іх выйшаў, засланіўшы сабою, здаецца, паўсвету, бамбіза з гладкім і блішчастым тварам. — Што за Шурык?

— Пачакай, Мішка, — спыніла яго Святлана. — З газеты вось, прыйшоў браць інтэрв'ю.

— Гэта цікава, — рагатнуў Мішка. —Дык праводзьце яго да стала, там і абмазгуем.

Крыцкі адмовіўся.

Назаўтра раніцой была беганіна: здаваў нешта з драбязы, дапісваў, скарачаў тое, што хацелі ўціснуць у рамкі адведзенай мясціны на паласе, злаваў, што даводзіцца выразаць ледзь не самае важнае. А пасля прыйшло зацішша, і ён сеў за артыкул. Пісалася, аднак, з рыпам, і каб не марнаваць час, не вымучваць словы, Антон выйшаў на вуліцу.

Ахінаў няўтульны прыцемак позняй восені. Крыцкі не любіў гэтую пару, восень рабіла яго маўклівым, прыгнятала сваёй шэрасцю і прыкрай самотай. І раптам перад ім нібыта вырасла ***яна***. Без плашча, у пастэльна-бардовым гарнітуры, на шыі вузлікам павязаная ружовая касынка. Задорная перабягала, відаць, з будынка школы ў сталовую.

Выглядала яна прываблівa. Гэта Крыцкі заўважыў, хаця і было яму досыць няўтульна — за сябе, бо быў у джынсах, на ім быў ярка-чырвоны пуловер, які не надта любіў, і шэры пінжак. Рэдактар, дарэчы, не раз скоса пaглядаў на яго апратку: ён не пераносіў джынсаў. Сам ні разу за жыццё іх не надзеў і ў рэдакцыі дапускаў іх з вялікай нацяжкай. Яго намеснік Іван Бардзюкоў, нашто быў заядлы да джынсаў, але і ён на работу прыходзіў толькі пры касцюме і гальштуку. «Начальнік», — з’едліва думалі пра яго, але мала каму прыходзіла ў галаву, што Іван Панкратавіч насіў «уніформу», бо часта даводзілася бегаць па высокіх раённых кабінетах. А Крыцкі быў не такога «рангу», ён усяго загадчык аддзела…

— Вы сёння … каралева Марго.

— Камплімент?

— Ну, ведаеце?.. А я думаў ужо напісаць пра Задорную, але не пераношу жанчын, якія кураць.

— Ды кідаю. Закурыла, калі не паладзіла з мужам.

— Вы былі замужам? — Крыцкі здзівіўся так шчыра, па-дзіцячы, што Задорная гучна засмяялася.

— А вы думалі, што я ў свае трыццаць пяць нявінніца? Прызнайцеся ж, думалі?

Яму зноў стала няўтульна: думаў жа, папраўдзе думаў і ў душы нават шкадаваў, што засталася адна, што не мела сям’і. Цяпер яшчэ больш шкадаваў, што была замужам. Няхай нават і нядоўга, і дзяцей не паспелі нажыць, але ж нехта яе абнімаў, цалаваў, кляўся, напэўна, у вечным каханні. Але хто ён, Антон, для яе, чаму раптам заявіла аб сабе такая думка, чаму крыўдна, што яна спазнала, хоць і няўдалае, але ж такое балючае замужжа? Няўжо ўсё перарастала ў ім у іншае, больш шчымлівае і стоенае?..

— Вы загадкавы, як сфінкс. Атрымала букет з вашай запіскай. Ну і рэбус!.. «Timeo Danaos et dona ferentes». Вы і сёння так думаеце? Вы мяне баіцеся?.. Няўжо я такая каварная, як вашы данайцы? Вы ж мяне зусім не ведаеце… — сыпала яна не змаўкаючы, і твар яе, некалі пакорліва-сумны, зрабіўся рухава-бледным, хаця такім жа безабаронным.

Ён стаяў перад ёй, як вучань. Ён адчуваў, як хлынуў да твару гарачы прыток крыві, ён не ведаў ужо, куды дзяваць свае вочы…

— Даруйце, гэта… Я выхваляка, я захацеў… лацінай і нічога лепшага тады не прыдумаў…

— Эх вы, пісака! — секанула яна, і Антона зноў апёк сорам.

— Прабачце, я не хацеў!..

Але яна ўжо імкліва, насцеж адчыняла дзверы школы, напэўна, і не пачуўшы апошніх ягоных слоў…

## 5

Людміла Пятроўна сядзела на кухні, пісала планы на заўтрашні дзень. Настрой быў кепскі, і яна раз-пораз самотна паглядала ў акно, за якім шумеў халодны асенні дождж. Ён не сунімаўся каторыя суткі запар і наводзіў маркоту.

Нечакана зазвінеў званок. Яна здрыганулася, пайшла адчыняць дзверы. На парозе стаяў Антон Крыцкі — мокры з ног да галавы. Без плашча і парасона. У нагрудным кішэні пінжака мокра пунсавелі тры кветкі вяргіні.

— Можна?

Яна прапусціла яго ў пярэдні пакой.

— Чай паставіць?

— Лепей келіх пярцоўкі, — сказаў ён і галантна, спрабуючы зрабіць рэверанс, падаў ёй галовы вяргінь.

Яна зразумела: Антон п’яны, але выгляду не падала. Ён сам узяўся апраўдвацца:

— Прабачце, сёння нечакана сустрэў Бахуса. Спакусіў, нягоднік. Адкуль ён дазнаўся, шэльма, што ў мяне дзень нараджэння? Павіншаваў, і так цёпленька, што я расшчодрыўся.

— Адзін піў?

— Чаму адзін? Памог Дзмітрый Шастаковіч, — дробна хіхікнуў, відаць, спадабаўся экспромт наконт калегі Шостака. — Вось гадзіннік мне падарыў. А выпіў ён усяго келіх шампанскага. Няма ў яго здароўя… На каго ён паклаў сваё здароўе, не ведаю. Няхай я такі няшчасны…

— Ну, хопіць, скамарох! — абарвала яна Антона: — Бач ты яго, няшча-асны?! А хто ўкраў у цябе гэтае шчасце?

Яна не заўважыла, як перайшла з Крыцкім на «ты», і калі зразумела промах, калі адчула, што не можа інакш да яго звяртацца (яна ўсё-такі старэй за яго гадоў на шэсць) — палягчэла. Не, яна вучыць жыццю яго не будзе, хаця ўсё ж варта было б: бачыце — сустрэў Бахуса, хаця яна ведала, што Крыцкі да гарэлкі быў невялікі ахвотнік.

— Хопіць смяшыць народ!

Яна падышла да кніжнай шафы, што стаяла ў кутку гасцёўні, выняла кнігу ў бардовай вокладцы, працягнула Антону.

— А гэта ад мяне.

Ён падзякаваў, пачытаў — Міхаіл Булгакаў «Майстар і Маргарыта». Такой кніжкі ў яго не было, і ён прытуліў яе да грудзей, радуючыся падарунку. Адгарнуў некалькі старонак, узяўся чытаць. Не адразу ўбачыў, як з кнігі выпала паперка, складзеная ў чатыры столкі. Убачыў, падхапіў яе з паласа, хуценька прабег вачамі першыя радкі ліста і — аслупянеў: пісала рука мужчыны, які добра ведаў Задорную.

«Добры дзень, Людка! Пішу, а на вачах слёзы. Не верыш? Ты ж ведаеш, я рэдка калі плакаў, а тут не магу пісаць ліст. Сумна без цябе, аднаму. Сумна, аднак, не тое слова — горка і беспрытульна без цябе, мая любая. Даруй за ўсё і вярніся. Успомні, якія мы былі маладыя, вясёлыя, мы былі самай шчаслівай парай на свеце. Дык што здарылася?.. Няўжо не будзе больш такой жа шчодрай на ласкі ліпеньскай ночы? Не веру. Чуеш, не хачу верыць. Вярніся! Або не — я сам прыеду і панясу цябе на руках хоць да Мінску, хоць да Мадагаскара… Цалую, твой Віктар». Унізе стаяла дата: ліст прыйшоў тыдзень назад. Што за ён, гэты Віктар? Муж, палюбоўнік, проста добра знаёмы?...



Антон толькі цяпер, калі прачытаў ужо ліст, заўважыў, як тоненька дрыжаць у яго пальцы рук, як яму нядобра тут, у гэтым цёплым і такім утульным пакоі.

Ён адклаў убок кнігу, адхінуў шумную бамбукавую штору: ён рашуча ішоў на кухню, каб зараз жа пакончыць з няпэўнасцю…

— Чыё гэта?..

Антон трос пісьмом перад Задорнай, бледны і ўспацелы ад хвалявання.

— А чаму цябе гэта ўсхвалявала? Бач, уласнік!..

— Чыё?.. — насядаў ён.

— Я ж казала табе, што я была замужам. Тры гады жыла з ім, Віктарам. Ён мой былы муж.

— Дык былы ці які?.. — вёў следства Крыцкі.

— Былы, — глянула на яго з сумнай усмешкай. — Ты раўнуеш?.. Ну, ведаеш!.. Колькі мы знаемся, а ён ужо закаціў сцэну рэўнасці!

— Я думаю, усё-такі лепш без шкадавання расставацца з мінулым.

— Я і рассталася.

— Ты яго яшчэ… — не знаходзіў слова Антон. — Для цябе ён дарагі?

— Ён быў маніякальна хворы. Дайшло да таго, што ў школу хадзіла ў патрапаным паліто, хадзіла, прабач, ледзь не расамахай. Так ён хацеў!…Вось і ты!..

— Ты ракавая жанчына. У цябе ёсць шарм, а такіх боязна страціць…

— І Шостак такі ж. Няўжо ўсе мужыкі такія ж раўніўцы і недабітыя феадалы?..

— А прычым тут Дзіма?

— Ён жа твой сябра, а ты забыўся, не паглядзеў — пераступіў праз яго, грэбліва, як цераз кучу гною.

— Ну, ведаеш!..

## 6

Андрэй Фёдаравіч Хадоркін, карэспандэнт аддзела сельскай гаспадаркі, лічыў сябе белай косцю. Лічыў сур'ёзна, без усякай самаіроніі. Ён наогул не любіў скамарошнічаць, нават да жартаў ставіўся з пэўнай доляй скепсісу, а сам мала калі сыходзіў на жарт.

І калі з Міцькам Баранком (або Пляшывым), чалавекам, хвацкім да падколак і падтэкстаў, яны зачыняліся ў фоталабараторыі (чорную анучу выкідваць не мела сэнсу, нават было небяспечна, бо пазнаюць, што сабраліся расціснуць пляшку чарніла), першым пасля выпітай шклянкі пачынаў Пляшывы.

— Фёдаравіч, скажы, ад каго ў цябе такі дар?..

Той не бачыў падвоху, адказваў сур'ёзна:

— Ад дзеда. Ён жыў некалі на хутары Сікуны. Смешна? І мне. Бацька казаў: прыдумаў нехта знарок, каб падражніць старога Хадоркіна, каб пазлаваў. А ён быў рахманы і нязлосны. Сікуны тыя пабылі гадоў дваццаць, пасля сцягнулі хутар у вёску Паўшляхты…

— Дык што, дзед вершы пісаў, кніжкі выдаваў?

— Кніжак у яго не было, а вершы пісаў. І добрыя вершы. Некалі прынясу, пачытаем…

Налівалася другая шклянка, выпівалася. Пляшывы зноў заводзіў сваю катрынку:

— Даравіты з цябе журналіст. Чаму ж я такі няздатны?

— І да цябе прыйдзе, — узбадзёрваў ён Пляшывага. — Адно паболей чытай, нагульвай слоўны тлушч!

— Ты ўжо нагуляў, — пахваліў яго Пляшывы.

Калі папраўдзе, Хадоркін ніколі не быў хвацкім журналістам. А хвала Пляшывым давалася авансам. Хадоркін — звычайная пасрэднасць, хаця пісаў шмат, без разбору, аднак Вышынскі яго ніколі не хваліў. Казаў неяк: «Сыплеш ты гарохам, саколік, ды ўсё дробным і чарвівым». Ён адкапыльваў губу, бурчэў нешта і ішоў да сябе ў кабінет.

Яму да пенсіі заставалася чатыры гады. Усё жыццё ў газеце, у апошнія гады збіўся на трафарэты, тым і зарабляў ганарары. Ён зразумеў, што Пляшывы кпіць, насміхаецца з яго, а — выгляду не падаваў. Ды і як падасі, калі гарэлка — Пляшывага, пі і слухай. Праўда, неяк выбівалася з кантэксту гаворкі слова «даравіты», быццам ён — глыбіня, мэтр журналістыкі, і слова гэта яго ўкалола:

— Ты гавары, ды меры не губляй. Што ты заладзіў: «даравіты», «нагуляў»? Ты яшчэ смаркач, а ходзіш, як вепр — лычам калупаеш…

— Ты што, Фёдаравіч?.. — усклікваў Пляшывы.

І тут стукалі ў дзверы. Яны заміралі, стук паўтараўся, і голас:



— Адчыніце!

Голас Вышынскага. Гаспадар кабінета Пляшывы гукаў:

— Мы заняты. Вам каго?

— Марусю з сырзавода!..

У іх і ападала сэрца…

На гэты раз для Хадоркіна і Баранка абышлося па-божы: рэдактар, акрамя праборкі, якую ўчыніў паасобку ў сябе ў кабінеце назаўтра ж, зняў у кожнага прэміяльныя за месяц. Праўда, рэпрэсія неўзабаве забылася, праз месяц яны зноў сцішваліся да першага выбуху і крыкаў…

Не сказаць каб дружыў надта Крыцкі з Хадоркіным (так — калегі: аднаму 25, другі — перад пенсіяй), але менавіта ён першым і павіншаваў Антона з яго ўдалым артыкулам «Слепата».

— Ну, малайчына! Выцяў ты іх па самым цемечку!..

— Вы праўда так думаеце? А мо перасаліў?..

Антон да Хадоркіна звяртаўся на «вы», і выкаў нават з Саўковым, хаця той, здавалася б, і не меў такога права па гадах: Крыцкі быў маладзей за яго ці не на тры гады. Тым не менш маленькі, хваравіты, ён чамусьці не даваў зачэпак для «тыкання».

— Самы раз. Праўда, лупцоўка будзе!

Ад Хадоркіна несла перагарам, твар яго згубіў дзелавую засяроджанасць і расплываўся цяпер у нязвыкла-хмельнай усмешцы.

— А вам лупцоўка ўжо і не страшная.

— А каго баяцца? Гэтага, з конскім хамутом? — ён кіўнуў галавой у бок кабінета рэдактара. — Ці, можа, гэтай жрыцы?..

Празрысты намёк на Кацю Касаткіну, адказнага сакратара. Яна ніколі не дакладвала шэфу пра тое, што дзеялася ў рэдакцыі на той час, калі яго не было, але паставіць на месца магла. Кацярыне падбіралася пад «трыццатнік» (словы з лексікону Хадоркіна), але хадзіла яна халасцячкай. Не было, казалі, і кавалера. Маладой разагнала іх сваім: «Фу, недарэка!», пасля і хацела завесці якога хлопца, але гады ўжо былі не тыя: на дыскатэку яна была не ходак, да кампаній — не ахвотнік. Так і заставалася па-хадоркінаму, жрыцай, а ўвогуле — сіняй панчохай. Ніхто Кацю так не абзываў, але яна сама разумела ўжо — панчоха. Праўда, мірыцца з такой доляй не хацела і давала некуды абвесткі пра сябе, але з рэдакцыі амаль не выходзіла, сядзела з апаратарамі па наборы і чакала свайго шчасця.

Яна пачула, як гаварыў пра яе Хадоркін, выскачыла з кабінета:

— Ты, Андрэй Фёдаравіч, усё кукарэкаеш! Напяеш на сваю галаву, памяні маё слова!..

Крыцкаму стала няёмка ад таго, што слухаў Хадоркіна, што не тузануў яго, не спыніў гэтую абразу. І ён, заглушаючы нялоўкасць, зайшоў да Кацярыны і прамямліў нешта ў апраўданне. Яна сядзела бледная тварам, нейкая адлучаная, і Крыцкі выйшаў з яе кабінета ў гнятлівым настроі.

Вечарам да яго заглянуў Шостак.

— Я брыдкі! — сыпануў ён сабе попелу на галаву. — Мне не патрэбна дзева Марыя. Я грэшны… Вось зараз пайду да яе, чуеш, і абніму… Пайду і заначую. Вып’ю і пайду!..

— Ты што??? — спалохаўся Крыцкі. — Ты яшчэ не астыў? Да яе, га?

— А табе што, баліць?..

Уляпіў, як у сук: пачало балець. З нядаўняга часу, мо нават з таго дня, калі зайшоў да Задорнай пасля «сустрэчы з Бахусам». Не, раней. Нехта сказаў: дзіця зачынаецца з першага погляду *яго* і *яе*, а не з першай шлюбнай ночы ці яшчэ калі. Так што ўсё пачалося значна раней. І цяпер, пасля Дзімкавых прызнанняў, ён разгубіўся: ён адбірае жанчыну ў сябра, ён шэльма, чаму не скажа пра гэта шчыра і адкрыта. Скажа, толькі не цяпер. Не сёння ж, калі Дзімка такі ўзбуджаны, каб не мямліць яму нешта пра сваё каханне, пра тое, што няёмка яму, што прыкра ад думкі, што адцёр сябра…

— Ты сам не верыш у тое, пра што гаворыш. Ты не такі, навошта табе гэты гвалт? Ты ж добры.

— А добрых не любяць. Любяць нахабных, любяць тых, хто цалуе да паўсмерці!..

— Бач, які юрлівец! Сэрцаед!.. Пагаворым і пра гэта, а пакуль разбягаемся. Мяне чакае партыя.

Захапленне шахматамі прыйшло да Крыцкага вучнёўскай парой ад старэйшага брата, які дасылаў свае кампазіцыі на розныя конкурсы і ў Львоў, і ў Маскву, і ў Адэсу, можа, нават і на Далёкі Усход. Загарэўся Антон і нечакана астыў, бо прыйшло іншае захапленне, больш палкае — ён закахаўся. Па вушы. Сядзела Валя праз парту, злева ад яго. Ён кожны дзень бачыў яе тугую касу, якая заўсёды ляжала ў яе на



грудзях, перакінутая цераз плячо, і правую палову твару з носікам-курносікам. Тады ён у першы раз узяўся за пяро. Напісаў першыя вершаваныя радкі. Ён прысвячаў іх ёй, да якой усё болей хінулася сэрца. Антон заводзіў сябе рознымі летуценнымі штучкамі: нібыта яны на моры, і ён цалуе яе ў напудраную шчаку, цягнецца да вуснаў, але яна не даецца. Тады ён чытае ёй і свае вершы, і вершы Ясеніна, Пушкіна. Яна зачаравана слухае, растопліваецца яе сэрца…

Вершы свае ён хаваў, а ўсё адно пра яго захапленне ў класе ўведалі, і Лёнька Архіпаў неяк выкраў адзін верш і паклаў яго на Валіну парту. Хлопцы рагаталі, а тая, не зважаючы на рогат, пачытала верш уголас, усміхнулася і беражліва паклала паперку ў дзённік.

Вершы ён пісаць не перастаў, і былі яны такія ж шчырыя, і такія ж недасканалыя, і наіўныя па-хлапечы. Аднак у школу ён вершы не насіў. Сарамяжлівы і ціхі, ён ні разу не запрасіў Валю на танец, ні разу не праводзіў яе дадому, не кажучы пра нейкія прызнанні, хаця той верш, выкрадзены Лёнькам, у яе, напэўна, застаўся.

Першае каханне на тым і абарвалася. І наогул — ці каханне гэта было…

Сёння іншае. Ён не такі сарамлівы, і сітуацыя не тая. Толькі ці па-сяброўску гэта, калі свой замак кахання ўзводзіш на чужым падмурку? Што, адмовіцца ад барацьбы? А што тады жыццё — хіба не барацьба? Часам недарэчная, на мяжы здрады. Не ў тым сэнсе, што здрадзіў нечаму святому, проста забраў сваё шчасце. Яно належыць яму і нікому больш. Дык чаму ён павінен апусціць рукі і глядзець, як забіраюць у яго дарагое сэрцу?

«Ну вось, лірык, — папракнуў нарэшце сябе Антон, — маралiст няшчасны. Наварочаў думак, сам сябе пераканаў, што шчасце ўжо ў руках. А дзе яно? Можа, пасля той запіскі пра данайцаў яна з ім і гаварыць не захоча. Бач, лацінянін! Грамацей. Спярша трэба думаць, а пасля крамзоліць. Пісака!..»

Дзіма Шостак запіў, пад хмяльком пачаў з’яўляцца на работу. Антон яго асадзіў:

— Не смей ганьбіць прафесію!

Той агрызнуўся:

— Не лезь! Невядома, хто яе ганьбіць. Можа, той, хто без маралі!..

Антон зразумеў: каменьчык — у яго агарод.

Што гібее на вачах Шостак, тоне ў бутэльцы, бачыў і рэдактар Вышынскі. Аднаго разу ён выклікаў яго да сябе і ўзяўся за праборку:

— Ты ж таленавіты, тваю матары! — лаяўся ён, седзячы ў мяккім крэсле. — Звязаўся з гарадскімі абноскамі, ганьбіш нашага брата-журналіста. Брыдка! У журналіста, калі ведаеш…

— Ведаю, — абарваў рэдактара Дзіма. — У журналіста… Іван Аляксеевіч, дазвольце тыдзень адпачынку. На свой рахунак. Вярнуся на працу, як агурчык!…

— Не, ты ўспомні Хрыста, — вёў сваё рэдактар. — Успомні і ведай: толькі той будзе сапраўды шчаслівы на зямлі, хто прайшоў праз пакуты і боль. А ты журналіст, ты ў адной асобе і Ісус Хрыстос, і Понцій Пілат. Пішы!.. А пра гэта, — ён пстрыкнуў пальцамі па кадыку, — забудзь!.. Інакш расстанемся…

Расставацца з рэдакцыяй Шостак не хацеў. Вышынскі, шкадуючы маладога журналіста, дазволіў яму тыднёвы адпачынак. Перадаўшы заяву ў бухгалтэрыю, рэдактар сядзеў за сталом і разважаў: безабаронны, як дзіця, гэты Дзмітрый, і бязвольны. За гэта, мусіць, і пагарэў у Мінску, у рэдакцыі цэнтральнай газеты, куды трапіў пасля БДУ. Журфак ён закончыў з чырвоным дыпломам, браў не зубрэннем — талентам. Стыліст, аналітык. А вось чарка псуе, губіць на кораня цікавыя ідэі. Як вось з рубрыкай «Дайце слова!». Можа, на самым цікавым і абарваў. Яму трэба жаніцца, ды так, каб жонка ўзяла ў рукі. Інакш загіне…

Дзіма Шостак спакаваў дарожную сумку і рвануў на радзіму. Родам ён быў з Міншчыны, і ні разу за тыдзень не падаў аб сабе знаку. Ні званком, ні запіскай. А ў панядзелак, праз тыдзень, прыйшоў на працу апошнім. Заляцеў да яго ў кабінет Крыцкі і адразу з парога:

— Ты што, схімнік, зашыўся там? Нават не пазваніў…

— А навошта? Каму званіць? Табе? Ты жывеш, ты трызніш гэтай русалкай-казыткай!..

— Ну вось, начытаўся міфаў.

— А ты іх не чытаў? — у голасе яго было нешта дзёрзкае, раней невядомае Антону. — Ты не верыш, што каханне русалкі і мужчыны — прыгожая легенда? Што русалка, заказытаўшы цябе, мяне, кожнага з нас, зносіць у свае нетры і робіць нас рабамі? І ты будзеш жыць з русалкай, сыты і бязгрэшны, і ўсё, чаго ні захочаш, яна табе дасць. Грошай, цела, усю сябе аддасць. Абы не вярнуўся на зямлю, на волю. Да людзей, да сапраўдных людзей, а не прыматаў…

Дзіма быў бледны, здаецца, яшчэ больш высах тварам, нават нос выцягнуўся, чалавек стаў паходзіць на сугнея. І вочы да болю незнаёмыя — з металічным бляскам, гарачыя, вочы нейкага дэмана. У іх, вачах, на ўсім твары жыло жыццё, але іншае, незямное, аддаленае і чужое для Антона.

— Ты гэта сур'ёзна?..

— Мой дзед расказваў, як перапудзіўся я, калі мне было тры гады. Як шукалі бабку, як выграбала тая з печы вугольчыкі, чаравала над імі, пырскала вадой. А яно мне не памагло… Я і сёння няскладны, нябога, а ты ўдачлівы. Ты глядзіш на мяне, як на блазна, што, няпраўда?..

— Адкуль ты вярнуўся, Дзіма? Ты з перапою, скажы?!

Той адвярнуўся да акна і маўчаў.

Змены ў Шостаку заўважыў не толькі Крыцкі. Хадоркін, нашто чалавек бывалы, а калі аднаго разу ў рэдакцыйнай машыне пашаноўна загаварыў пра жанчын, Дзіма раптам падскочыў на заднім сядзенні:

— Не смейце іх абагаўляць! Русалкі яны, усе яны слізкія і мокрыя!

— Русалкі, кажаш? — не ўсміхнуўся — хіхікнуў Хадоркін у шчопаць сваіх рыжых ад нікаціну вусаў.

— Ага, такія, з хвастамі, — з'едліва падтакнуў яму Дзіма.

— Ах! — смакануў Хадоркін. — За хвост бы каторую…

Хадоркін — стары халасцяк, закаранелы, праўда, не той, хто жыве манахам. Дзіўным чынам доля звязала яго з Кузьмой Шахраем — чалавекам з рэпутацыяй бабніка. Было таму пяцьдзесят, але быў ён такі ласы да жанчын, што многія завочна скідвалі яму дзясятак-другі гадкоў. Праўда, глянуўшы на яго, дзівіліся: малы, укарчанелы, з мянушкай Агрызак, словам, непрыкметны — чым жа ён бярэ ў жаночага племені. А племя тое, дарэчы, было не самае хвацкае і далёка не першага гатунку, лепш сказаць, несартавое. Хаця адна з жанчын, Марыся, разбітная і лёгкая на язык, выбівалася з гэтай бясcорціцы, яна спадабалася Хадоркіну, і той адразу падчас вячэрняй чаркі ў Кузьмы падсеў да яе. Былая медсястра, а цяпер дворнічыха. «Няважна, — разважаў Андрэй Фёдаравіч. — Галоўнае, каб чалавек быў харошы». Ён жыў у інтэрнаце сельгастэхнікі, куды заехаў ледзь не з часоў яго засялення, і пераходзіць да Марысі не хацеў.

Хадоркін не мог уявіць сваю Марысю русалкай. Была яна дзябёлая і рослая, можа, нават такая, што і асадзіць каня на скаку, і ў палаючую хату зойдзе. Ён і раней ладзіў з кабетамі такога калібру, усё гаварыў пад чаркай Пляшываму: «Бярэш яе ў рукі — і сэрца не нарадуецца: няўжо ўсё гэта маё?»

Марыся была трэцяй у ягоным халасцяцкім жыцці. Яна часта бывала ў яго інтэрнацкім пакоі і нават начавала там. Пасля гэтага неяк адразу папаўзлі чуткі, што гэтая Марыся хацела прыпісацца тут, а кватэру сваю прадаць. Нібыта ў канторы сельгастэхнікі пасмяяліся з гэтага і спусцілі гісторыю на жарт.

Аднак «гісторыю» жанчына паўтарыла, лепш сказаць, зрабіла ход канём — запісалася на прыём да старшыні райвыканкама і паклала таму на стол казырную карту: яе муж, што працаваў у сельгастэхніцы, у свой час атрымаў на рабоце калецтва і быў спісаны, як тая ржавая бочка. Праверылі: так і было. Праўда, ён сам звольніўся, ніхто яго не спісваў. Тым не менш старшыня пры ёй жа патэлефанаваў дырэктару сельгастэхнікі. А на той час Марыся перапісала ўжо кватэру на старэйшага сына. Словам, трапіла яна ў інтэрнат дзякуючы свайму мужу, які памёр пяць гадоў назад, і завезла да Хадоркіна свае пажыткі.

Ад яе першай і ўведаў Андрэй Фёдаравіч, што Задорная з'ехала з раёна, куды — ніхто не ведаў. Акрамя хіба пашпартыстаў, але свой новы адрас Задорная папрасіла не выдаваць. І калі раніцой у рэдакцыі Хадоркін захацеў пажартаваць з Крыцкім (з пераездам Марысі да яго «праклюнуўся» талент жартаўніка), маўляў, сплыла іхняя русалка ў Чорнае мора — там больш спакусы, узяўся гэтак насміхацца і заўважыў, як адразу памяняўся з твару малады калега.

— Хто вам расказаў?..

— Звесткі ў мяне, блізкія да афіцыйных.

Антон выскачыў з рэдакцыі. Прыджгаў да гаспадыні, дзе кватаравала Людміла Пятроўна. Дзверы адчыніла маладая жанчына, пацвердзіла: выехала кватарантка...

— А вы ёй хто?..

— І запіскі не пакінула?.. — ён разгублена стаяў на лесвічнай пляцоўцы, глядзеў на жанчыну, якая ўжо збіралася зачыняць дзверы.

— Пачакайце, — схапіўся ён за дзвярную ручку. — Ёй часта слалі лісты?



— А вы хто, следчы?

«Што рабіць? Чаму яна так са мной? — свідравалі ягоны мозг пытанні. — Магла ж чыркануць хоць пару слоў. Магла… Значыць, для яе ён — нішто, тлен, пустое месца. Няўжо? Чым жа не дагадзіў? Ага, раўнівец, Атэла, — нечакана выплылі яе словы: — «Сцэна рэўнасці», «недабітыя феадалы». Што, ён феадал? Ды яна здзекавалася з яго!..»

Увесь дзень Крыцкі хадзіў, як у ваду апушчаны. Пад вечар да яго ў кабінет зайшоў Шостак.

— Што звесіў нос, чаму маркотны? Няма русалкі? А што я табе казаў? Яна знайшла іншага раба кахання. А ты, я бачу, трапіў у яе сілкі…

— Скажы, Дзіма, куды кінуцца?

— У вір галавой, — сказаў здзекліва. Антон разумеў: сябар яшчэ крыўдуе на яго і, магчыма, радуецца, што так вось складваецца ў сябра.

— Гэта здзек!

— Ці ведаў ты, што яна хадзіла ў царкву?

— А што ў гэтым кепскага? Ёй што, у русалак верыць? Я павінен яе знайсці!

Дзіма сумна ўсміхнуўся.

— Ладна, танцуй! Яна перадала табе пісьмо. Яно ў мяне…

— Ну, хто ты пасля гэтага? Садыст, га! А ну давай яго сюды.

— Не, спачатку танец маленькіх лебедзяў, — і ўзяўся пад язык найграваць музыку з «Лебядзінага возера».

Антон імгненна ўскочыў з-за стала, выхапіў з рук сябра пісьмо. Чытаць адразу не ўзяўся, сказаў:

— Твая місія закончана.

«Дарагі Антон! Я пакідаю ваш горад. Мне было прыемна з вамі абодвума — з табой і Дзімкам. Але не хачу вас звязваць путамі рабства. Вы маладыя, у вас наперадзе такое ўсцешанае жыццё. Адрас не пакідаю. Навошта? У мяне ёсць ужо чалавек, да якога еду. Даруй і бывай. Твая сяброўка Люся (здаецца, вы так з Шостакам мяне называлі?)». Унізе стаяла дата.

«У мяне ёсць чалавек…» Адкуль ён зваліўся?..

На раніцу зайшоў да Хадоркіна.

— Ты за парадай? — апярэдзіў Антона Андрэй Фёдаравіч. — Ведаю, ведаю, уся рэдакцыя ўжо ходзіць ходырам.

— Як мне быць, Андрэй Фёдаравіч?
— Суняць сваё сэрца. Я жыву з Марысяй тры гады і нажыўся во як! — ён разануў сябе далонню па шыі.
— Лёгка сказаць…
— Яна вас не любіла. Ні цябе, ні Дзіму. Гуляла з вамі… Колькі ёй? Трыццаць пяць? А вам?..
— А мяне яна спытала?
— А ты ёй хто — муж, брат, сват?..
— Ну, так нельга…
— Яна не дзяўчо. Значыць, былі прычыны. І наогул што ты пра яе ведаеш?
Антон сапраўды мала ведаў пра Людмілу Пятроўну. Нават пра тое, што хадзіла ў царкву… Дзіма ведае, а ён не. А пісьмо — як яно трапіла да яго? Чаму да яго, чаму не перадала праз кагосьці іншага? Не, ён пачынаў зноў раўнаваць яе да Шостака, ён раўнівец, ён неварты таго, каб яго любіла такая жанчына, як ***яна***.

7

Прадказанні Хадоркіна, па ўсім відаць, збываліся. Праз тыдзень пасля выхаду Антонавых нататкаў у газеце яму патэлефанавалі.
— Гэта Нагавіцкі?
— Вы памыліліся нумарам, — адказаў Крыцкі.
— Не памыліўся. Ой, знімем табе порткі, бля, ой, знімем!
— Хто гэта?
— Дзед Піхто, вось хто! — голас быў здзеклівы. — Трапіш ты ў нашы рукі, піс-сака! Саб'ём на бабскі сцуль!.. Будзе табе і слепата, і храмата…
Голас абарваўся. Крыцкі стомлена адваліўся на спінку крэсла, задумаўся. Колькі ён працуе ў рэдакцыі — тры гады ўжо, ніхто не размаўляў з ім такім тонам. «Што рабіць? — спытаўся ён у самога сябе. — Няўжо збаяўся?» Не, страху не было. Калі быў студэнтам, ваявалі з гарадскімі. Яму і плячо рассеклі нажом. Але гэта было тады, з сябрамі, тады не баяўся лезці ў пекла. Цяпер ён іншы — не той зялепуха, які ляцеў на злом галавы.



Кароткія зімовыя дні міналі хутка, і Антон пачынаў забывацца на той пагрозлівы званок. З раніцы як загадчык аддзела (не так даўно павысілі) бег ва ўпраўленне сельскай гаспадаркі, браў зводкі, выязджаў на раён, вечарам па свежых слядах садзіўся пісаць. У пятніцу, дзён праз пяць, надумаў пад'ехаць па скарзе ў далёкую вёску. Курныш стаяў на рамонце, і ён пайшоў на дызель. Вяртаўся позна. Ішоў па сцішаным вячэрнім горадзе, цешыўся колкай ад марозу цішынёй вуліц і не адразу згледзеў, як вынырнулі аднекуль з завулка тры цёмныя постаці і імкліва збліжаліся з ім.
У яго ёкнула сэрца: па яго! Ён рыхтаваўся да бойкі. Але тыя прайшлі міма, толькі адзін з іх, што крочыў наперадзе, азірнуўся, быццам выглядаючы тых, што павінны былі яго нагнаць.
Уздыхнуўшы з палёгкай, Антон прыспешыў хаду, завярнуў у гарадскі парк, прайшоў крокаў дзвесце і зноў убачыў іх. Яны зноў ішлі яму насустрач, ішлі і рагаталі. Сцяжынка была вузкая, і Крыцкі, параўняўшыся з імі, саступіў дарогу і ў гэты ж момант адчуў моцны ўдар у скіўіцу. Ён адляцеў у снег, ускочыў на ногі, прыняўшы баксёрскую позу.
— Ды ён, бля, баксёр! — зарагаталі ўсе трое.
— Так не па-джэнтльменску — утрох на аднаго. Давайце, хто смялейшы, ну, хто першы? У каго зубы ціснуць? Давай. Заадно і рэбры палічым. Га?..
— Ну і Шурык! — прабасіў крайні з іх, высокі мацак у бобрыкавай шапцы. «А, і гэты тут, — успомніў ён раптам «бамбізу», які выходзіў у прыхожую, калі размаўлялі пра пакрыўджанага старога. — Ну што ж, чаму быць — таго не мінаваць…»
Пакуль ён так разважаў, трое сціскалі яго ў кальцо. Куды яму — кінуцца цераз парк у цёмныя завулкі і стаіцца, перачакаць бяду? Не, позна. Ён пашукаў вачыма апору, каб не акружылі, адступаючы, намацаў спінай тоўстае дрэва.
Першым падскочыў той, што стаяў пасярэдзіне, але трапны ўдар у пераноссе зваліў яго з ног. Другі замах зрабіць Антон не паспеў: астатнія двое наваліліся на яго, пакацілі ў снег, пачалі зацята біць нагамі…
Антон ачуняў, калі над ім вісела цёмная паркавая цішыня. Ён адчуў непрыемны холад ад снегу, узняў галаву, цярнуў рукой па губах, па

шчоках, зразумеў, што твар у крыві, і намогся ўстаць. Рэзкі боль працяў грудзі, і ён зноў упаў на спіну. Перасільваючы боль, устаў, апёрся аб тоўстае дрэва, прайшоў тры крокі і адчуў, што сілы пакідаюць. Боль не мінаў, ён жыў ва ўсім яго млявым целе, не слухаліся ногі.

Колькі ішоў, ён не помніў. Мо гадзіну, дзве, а можа і некалькі хвілін. Ён ішоў, не разбіраючы дарогі. Хацелася хутчэй вярнуцца на кватэру, не, туды не трэба — гаспадыня адразу выкліча міліцыю. А ён не хацеў тлумачэнняў, паперак, вочных явак… І калі ўзняўся, цяжка абапіраючыся на лесвічныя поручні, на трэці паверх, калі зразумеў, што прыйшоў да незнаёмай шматпавярхоўкі, — узрадаваўся. Можа, гэта інтэрнат? Ага, тут недзе жыве Хадоркін. Пакой дзясяты, ён гэта добра помніў, хаця ў гасцях у яго ні разу не быў. На цьмяным калідоры трэцяга паверха згледзеў лічбу «10» і націснуў на кнопку званка…

Прачнуўся Крыцкі на канапе. У пакоі нікога не было, за сцяной перашэптваліся. Ён адкінуў коўдру і рэзка ўскочыў з канапы, каб сесці і агледзецца: дзе ён? І застагнаў: балела ўсё цела — грудзіна, ногі, гула галава. Тым часам гаворка за сцяной аціхла і ў пакоі з'явіўся Хадоркін.

— Прачнуўся, ваяка?.. Ну, а цяпер па парадку: адкуль ішоў і за што прымаў такія мукі?

— За праўду, Андрэй Фёдаравіч. За яе, родненькую!..

— Колькі жыву, ніхто не зачапіў мяне і пальцам.

— Мусіць, такая мая планіда.

— Ты рэзка ўзяў у кар'ер. Як журналіст. А ўвогуле малайчына! Я так не ўмею. І мне сёння сумна, што так і не раскрыўся, не склаўся як творца. Гэтая прыкрая пагоня за радком, за ганарарам. А ты малайчына!..

— Ага, малайчына! — падкузьміла яго Марыся, выйшаўшы да іх з другога пакоя. Была яна памятая тварам, у засціраным і бляклым халаце.

— Каб цярпець такое? Ты гэткай долі яму хочаш?

— Ты, Марыся, не шурупіш у нашай кухні. Ідзі, пастаў чаго на стол. І чайку гарачага нам. Сёння субота, можна і разгавецца на трыццаць грамаў. На кожны зубок, хі-хі!.. Збегай па пляшку. А грошы ў шуфлядцы. Сама ведаеш, без гэтага сёння ніяк…



Яна разумела свайго Хадоркіна і неўзабаве, рыпнуўшы маснічынамі ў прыхожай, знікла за дзвярыма.

— Адбіў вось у Агрызка, — сказаў пра сваю гаспадыню Хадоркін. — Не дваранскіх крывей, але жыць можна. Без бабы па жыцці цяжка. А што ў вас з Задорнай?

— Ат! — махнуў рукой Крыцкі.

— М-да, колькі ўжо, як з'ехала? Паўгода? М-да, не жанчына — крэмень! Гэта ж трэба так… — Хадоркін ужо не ведаў, як спагадаць калегу, пра што з ім гаварыць. Ён чакаў ганца, чакаў Марысю з гарэлкай, і чарка павінна была развязаць язык. Падумаў так і пачуў, як затупалі ногі ў парозе.

— А я думаў, ты за смерцю пайшла, — радасна ўсклікнуў ён. — Ну, давай, а то гаворка не вяжацца…

— У цябе адно ў галаве.

— А ты з намі не сядзеш?

— Пасля. А гарэлкі не хачу.

— Што, хворая?.. — хіхікнуў ён.

— Затое ты ласы да гэтага зелля.

Крыцкі не першы раз бачыў Андрэя Фёдаравіча жартаўлівым і такім вось задаволеным жыццём. І не таму, што чакалася чарка на стале — проста ён, напэўна, перарадзіўся з прыходам да яго жанчыны. Яна, вырваная з асяроддзя такіх, як Кузьма Шахрай, стала яму па-сапраўднаму гаспадыняй, жанчынай, якая аблегчыла самотнае мужчынскае жыццё. А вось у яго, Крыцкага, няма такой апоры, няма ратавальніцы, і ад такой думкі забалела сэрца…

Панядзелак наступнага тыдня чакаўся для Крыцкага нялёгкім. Першай, хто заўважыў у ім перамены, была бабка Настуля. Яна зазірнула да яго ў кабінет і войкнула:

— А саколік ты мой, а даражэнькі! Хто ж цябе так?..

Крыцкі прыкмеціў, што бабуля пераймала рэдактара, часта ўжывала ягонае «саколік», хаця па сэнсу слова было розным: у Вышынскага — іранічна-суровае, у бабулі — ласкавае, цёплае.

— З вайны, бабуля! — усміхнуўся Антон, крануўшы пальцамі прыпухлыя ад пабояў губы.

— Антосік ты мой! — усё вохкала старая. — Можа, з-за яе, тэй настаўніцы?

— Не. Якраз яна тут і ні пры чым.
— А ці ведаеш, дзе яна?
— Адкуль?..
— Скажу па сакрэце: недзе пад Мінскам яна. Казалі мне бабы…
— Адкуль вашы бабы ведаюць? Ды і дзе тое — пад Мінскам? Смалявічы, Чэрвень, Жодзіна?.. А мо Барысаў?
— Мусіць, Барысаў. Так, саколік, казалі, нібыта ў Барысаве…
Калі бабуся пайшла па гаспадарскіх клопатах, ён узяўся за тэлефон. Пазваніў калегам з Барысава, і тыя абяцалі знайсці «прапажу». Адна загвоздка: яна магла змяніць прозвішча, бо, відаць, выйшла замуж. Ці паспела яна за тыя паўгода, што мінулі з часу ад’езду, узяць прозвішча таго, як яна пісала, «чалавека», Крыцкі не ведаў, хаця вельмі хацелася, каб фартуна ўсё ж павярнулася да яго, Антона.
А пакуль суд ды справа, Вышынскі ўжо крычаў на калідор, адчыніўшы дзверы свайго кабінета:
— Дзе ты там, забіяка?
— Хто, я?
— Не, Маруся з сырзавода! Ты, ты, саколік!
Крыцкі зайшоў і стаў у парозе, пераступаючы нагамі.
— З фронту? Ну, расказвай!
Ён узяўся блытана расказваць пра тое, што здарылася ў гарадскім парку, не прамінуў сказаць пра таго бамбізу, які крычаў : «Ну і Шурык!»
— Трэба ў міліцыю, — цвёрда сказаў Вышынскі. — Такога яшчэ ў нас не было. Ты першы… Во што значыць газетнае слова, га?
— У міліцыю не трэба, Іван Аляксеевіч.
— Дык што, каб білі нас, як тых нямецкіх біцюгоў?
У міліцыю Вышынскі ўсё ж пазваніў: як так — гэта ж прамое і дзёрзкае ганенне за крытыку. Назаўтра Крыцкага выклікалі ў аддзел, дзе ён даў паказанні, а праз дзень, казалі, злавілі хуліганаў. Чакаўся суд, але не гэтым цяпер жыў Антон Крыцкі, жыў усцешаным, жыў чаканнем званка з Барысава.
Патэлефанавалі праз тыдзень. Антон ужо досыць зняверыўся, а пад вечар у яго кабінеце задзумкаў тэлефон. Аказалася, працуе прапажа ў адным з мястэчкаў раёна, цяпер яна не Задорная, а Гушча, і муж у яе — ляснічы. Паласнула Антона па сэрцы гэтае — ляснічы: знайшла



вось начальніка, за слесара ж не пайшла. Дзе ж скрыжаваліся іхнія сцежкі-дарожкі? І чаму яна сарвалася з наседжанага месца і кінулася туды, на Барысаўшчыну? Што, каханне?..
Вечарам таго ж дня, сцішыўшыся ў сваім пакоі, адведзеным гаспадыняй, цёткай Параскай, ён узяўся пісаць ліст Людміле Пятроўне. Раніцой, перачытаўшы, парваў яго на шматкі, зноў сеў за стол. Зноў пашматаў, паклаў перад сабой чысты аркуш паперы…
Толькі з пятай спробы пісьмо ўхваліў, заканвертаваў і … тры дні насіў у кішэні паліто. На чацвёрты дзень, не распячатваючы, паклаў яго дома на сподзе шуфлядкі, у стале. Праз дзень прыняўся за новае пісьмо, і зноў аднасіў яго ў кішэні, каб пасля адвесці яму такі ж лёс.
Так рос стосік пісьмаў, а разам з тым і расло напружанне ў душы Крыцкага. Здавалася б, разгружаў сэрца, а лягчэй не было. Дзіўным быў і Шостак. Такое ўражанне, што ён пазбягаў Антона, і калі выязджалі на раён, ён спасылаўся на пільныя справы і заставаўся ў рэдакцыі. А затым наогул на два дні прапаў. Крыцкі не адважыўся спытаць у Вышынскага пра сябра, а той неўзабаве сам заглянуў да яго ў кабінет.
— Можаш мяне павіншаваць: я жанюся!
— На русалцы? — з’яхіднічаў Крыцкі.
— Яна не русалка. Яна каралева танца. Працуе ў РДК…
— Ці не Марынка? Ну, ведаю, чаму ж?.. Вось тут ты абавязкова будзеш пад абцасам.
— А няхай. Чым сохнуць па русалцы… Хопіць нам аднаго сугнея.
— Ты пра мяне? Ну, дзякуй!
— Скажы, Чэхантэ, яна табе піша?
— Яна замужам.
— Ну і што?..
Адскуголіла завеямі зіма, адзвінела капяжамі, аднявесцілася вясна, і калі праспеў час водпуску, Антон Крыцкі раптам адчуў неадольнае жаданне пабачыць яе, каму напісаў неадасланым дваццаць адзін ліст. І ён вырашыў зараз жа сесці ў аўтобус і з’ездзіць да яе.
Брала разгон лета, і за тыдзень да водпуску да яго на работу зайшла маладая жанчына. Што тая, якая адчыняла яму дзверы, калі пытаўся ў яе адрас Задорнай, Антон зразумеў пазней, як прысела яна зморана на крэсла, як звяла шнурочкам свае прыгожыя вусны.

На ёй было цёмнае, не па сезоне цёплае плацце, на галаве — чорны каптурок з вэлюмам.

— Вы мяне наўрад ці помніце. У нас на кватэры чатыры гады стаяла Людміла Пятроўна…

— Што з ёй?

— Вы яе помніце?..

— Ну, не таміце!..

— Яе няма… Яе ўчора пахавалі…

— Як?! — Антон адчуў, як не хапае яму паветра, як замёрла сэрца.

— Яна ўтапілася. Купалася ў рэчцы і… вось так. Я была на пахаванні.

— Значыць, вы ведалі яе адрас? Ведалі ж, ну?! — ён ужо крычаў, гнеўна і роспачна, ён ускочыў з крэсла і бегаў па кабінеце. А жанчына сядзела, не зварухнулася, быццам акамянелая.

— Чаму вы не сказалі мне праўду тады? Чаму?..

Ён падскочыў да яе ўсутыч і стаяў перад ёю, бледны і рашучы. Яна таксама ўскочыла.

— Каб жа ведаць, дзе ўпадзеш…

— Калі б не вы, яна, магчыма, і жыла б… Вы не любілі яе, былі загубілі! Вы зайздросцілі ёй!..

— Няпраўда! Гэта вы яе загубілі. Віктар наогул дзікун, з пячорнага веку. І вы… Яна была няшчаснай. Любіла яго, дзікуна… І была хворая. На што, не ведаю, але яна ўсё пакутавала…

Столь быццам абрынулася на яго, быццам пахіснуліся сцены кабінета: ён у зняменні зноў апусціўся ў мяккае крэсла.

— А вы хто?

— Я дачка гаспадыні. Я таксама настаўніца, і мы сакрэтнічалі…

— Дзе вы былі раней? Чаму? Чаму?..

Маладая жанчына моўчкі выйшла з кабінета.

У першы ж адпускны дзень ён сеў у аўтобус, які ішоў на Мінск. Выйшаў у Барысаве, адтуль да вёскі, якую назвалі ў рэдакцыі, дабраўся полуднем. Зайшоў у школу. Яна сустрэла госця нязвыклым маўчаннем, толькі па калідоры спаважна, не спяшаючыся, хадзіла жанчына з вядром ды бегала некалькі дзетак.

Школа была на канікулах. Крыцкі спыніў дзяўчынку, якая бегла да парадных дзвярэй, і спытаў дырэктара. Тая расказала, як знайсці Івана Сяргеевіча, паказала, куды павярнуць і што будзе напісана на дзвярах прыёмнай. Дырэктар, сухенькі, але рухавы мужчына гадоў пад пяцьдзесят, размаўляў з жанчынай бальзакаўскага ўзросту, убачыў незнаёмага чалавека і адразу павярнуў да яго галаву:

— Вы да мяне?

— Калі дырэктар, то да вас.

Крыцкі расказаў, па якой справе, і адразу заўважыў, як спахмурнеў, засяродзіўся да гэтага бадзёры і рухавы твар Івана Сяргеевіча.

— Цікавы яна была чалавек, неардынарны і настаўніца ад Бога. Вы ні разу не былі ў яе на ўроках? Былі? Ну і як?.. Яна захапіла ўсіх нас сваёй харызмай… «І шармам ракавой жанчыны», — хацеў дадаць Крыцкі, але падумаў, а ўголас не сказаў.

— Помню, праходзілі Ясеніна, дык яна не толькі захапіла ім вучняў, а і нас, настаўнікаў. Яна магла чытаць Ясеніна гадзінамі, ведала на памяць ледзь не ўвесь раман «Яўгеній Анегін», любіла Высоцкага. Таленавітая была педагог, і шкада, што сёння даводзіцца гаварыць пра яе ў мінулым часе…

Ён гаварыў, седзячы ў мяккім, на шарнірах і з высокай спінкай, пад жоўтую скуру крэсле, паклаўшы рукі на стол, і Крыцкаму здавалася, што ведаў ён Задорную-Гушчу не адзін навучальны год, а добры дзясятак.

— Цікавы, таленавіты педагог, а жыццё ў яе не склалася…

Крыцкаму чамусьці стала сорамна, быццам і ён вінаваты ў тым, што ў яе «жыццё не склалася», што такім кароткім быў яе жаночы век. Дырэктар нібы здагадаўся пра думкі госця, паправіўся:

— Прабачце, вас я не меў на ўвазе. Я наогул… Што вы, увогуле чужы для яе чалавек...

— Чаму чужы? — пакрыўдзіўся Крыцкі. — Зусім і не чужы… Калі б яна не зляцела ў вашу вёску…

— М-да, калі б не зляцела… Яна хацела быць шчаслівай. І ў свае трыццаць шэсць…

— Хацела… — рэхам азваўся Крыцкі. — Яна была хворая, а ці магло так, што сама яна… пакончыла?.. Яна ж умела добра плаваць.

— Не ведаю. Яна хадзіла ў царкву, яна верыла ў дабро і любіла жыццё. А вы ж, пэўна, зойдзеце да Гушчы?..

— Дзе яе пахавалі?

— Тут, на вясковых могілках, у канцы, у барочку...

Крыцкі развітаўся.

Ён знайшоў яе магілку адразу: выдавалі жаўтлявы, не пачарнелы ад часу крыж і безліч вянкоў і кветак. Падышоў бліжэй, паклаў у галовах букет ружаў, заўважыў на бляшанай шыльдачцы, прымацаванай цвічкамі да крыжа, надпіс: «Раба Божая Людміла Гушча. На вечны спачын». Напісана было ад рукі чырвонай фарбай, ён выразна пачытаў літары, але праз хвіліну нечакана зразумеў, што плача: літары ўжо расплываліся, зліваліся ў адну барвовую, быццам насычаную крывёю, пляму…

Ні лавачак, ні агароджы яшчэ не было, і Антон прысеў на кукішкі, дастаў пачак цыгарэт. Ён успомніў першую з ёй сустрэчу, калі прасіў за Шостака. Тады ўжо ў ёй было шмат трагічнага, можа і фатальнаняўцешнага, а ён, абразіна, нават не суцешыў, не папрасіў прабачэння. Можа, і гэтая спрэчка стала ракавой у яе лёсе, а другая і наступныя сустрэчы ўжо не мелі для яе ніякага значэння. А лісты, якія ён пісаў і не адсылаў? Што гэта, калі не фатальны збег абставін: паслаў бы ёй хоць бы адно пісьмо, суцешлівае, сардэчнае, можа і сёння яна жыла. Можа, каб паслаў ды каб парупіўся і выведаў у кагосьці яе новы мабільны тэлефон (са старым яна рассталася — прадала)…

За думкамі не заўважыў, як падышоў ад вёскі да яго чалавек, стаў побач, ад левага яго пляча, і толькі калі кашлянуў, Крыцкі ўсхапіўся. Чалавек быў у форме ляснічага.

— Вы яе ведалі? — спытаўся ён адразу.

— Яна магла быць маёй жонкай, а стала вашай.

— Прабачце.

— За што?

— Што не ўсцярог…

— Што ўжо сёння?.. Нашто гэтыя словы? Яна сама вас выбрала. Яна мела на гэта права.

— Хвароба яе падкасіла. Ад першага мужа, ад Віктара. Ён біў яе няшчадна і кожны раз пасля пабояў валяўся ў яе нагах. Любіла яна яго, скамароха…

Пастаялі хвіліну моўчкі.

— Той Віктар — чалавек-загадка. Сфінкс. Ён і падарыў ёй абярэг — выяву гэтай міфічнай істоты з тулавам ільва і галавой жанчыны. І з крыламі… Каб пасля яго знішч*а*ла кожнага, хто не разгадае яе, для каго яна застанецца загадкай…Знішч*а*ла не фізічна, вы мяне разумееце.

— Як?.. — ажно захлынуўся Крыцкі. — Я не ведаў нічога… Я не бачыў…

— А вы і не маглі бачыць. Яна хавала амулецік. І ведала, што на шалёную гульню, а любіла Віктара, таму і берагла.

— Ён у вас, гэты амулет?

— Я пахаваў яго разам з Людачкай…

— Навошта? Гэта ж памяць!.. Што вы нарабілі?

— Я не веру ў гэтыя забабоны. Яна забрала ўсё, што ёй належала. Амулет таксама… Якая цяпер розніца?.. Вось калі б я ў яе быў першы, яна жыла б… І з амулетам жыла б!..

Крыцкі зразумеў: на магілцы ён быў лішні…

## 8

Вышынскі з панядзелка збіраўся ў чарговы водпуск — не цалкам браў яго, а на тры тыдні, і напярэдадні, у пятніцу вечарам, ён выклікаў да сябе намесніка Бардзюкова і адказнага сакратара Касаткіну.

— Ну, як калегі? — спытаў ён, смакуючы падвоены гук «л». — Саколікі вы мае! Прыспеў ваш час, не спартачыце?..

Быў ён у гуморы. Так было з ім кожны раз, калі збіраўся на адпачынак. У ранейшыя гады ён аддаваў перавагу Браслаўскім азёрам, сёлета рызыкнуў узяць пуцёўку ў Ялту.

— Што вы, Іван Аляксеевіч?!

— Даю вам карт-бланш, але цур! — нікога не звальняць! Нават апошніх апойцаў.

— Калі мы вас падводзілі?

— А вы, Кацярына Міхайлаўна, не адпускайце лейцы, падганяйце, каб матэрыялы здаваліся ў пару. Цяжка будзе без Крыцкага…

— Не прывыкаць, — сказала Касаткіна.

— Дарэчы, як ён, дзе гэты пакутнік?

— Зашыўся, кажуць, у хаце, як у келлі…

— Каб не крануўся ад гора! Ты вось што, Іван Панкратавіч, заглянi да яго на агеньчык, пагавары. Чаму ён не едзе да бацькі? Адкуль ён, з Магілёўшчыны?..

Бардзюкоў не стаў адкладваць візіт на доўгі час, у панядзелак вечарам Крыцкага і наведаў. Той выйшаў да яго са «святліцы» (так ён сам называў пакой, адведзены яму гаспадыняй) у расхлістанай кашулі, так, што выглядала на свет божы ўся яго валасатая грудзіна. Сустрэў госця абыякавым: «Ну?» і прапусціў да сябе ў пакой.

Пакой быў цеснаваты. Справа за фіранкамі стулілася яго спальня, злева ў кутку, перад самым акном стаяў стол, завалены стосамі кніг, паперамі, спісанымі і раскінутымі ў бязладдзі, тут жа на сцяне вісела кніжная паліца, якая таксама не пуставала.

— Сядзіш манахам, — крыху дакорліва сказаў Бардзюкоў і, падышоўшы да паліцы, выняў кнігу ў бардовай вокладцы.

— Не руш! Гэта ***яе*** падарунак…

— Разумею, — і паставіў кнігу на месца. — А ты калючы!

Словы Крыцкага прагучалі з выклікам: ён не дужа радаваўся візіту намесніка. Гэты выклік у голасе Бардзюкоў улавіў.

— Ты кінь хандрыць!

Крыцкі не адказваў, сядзеў на канапе і дэманстратыўна чытаў кнігу.

— А ты не гасцінны, — зноў прагучала дакорліва. Прысеў побач, спытаўся: — Вершы пішаш?

— Бывае.

— Слухай мяне, бо я старэйшы: тваё ратаванне — у вершах. Такое каханне, як у цябе — гэта рабства. Як наркотык. Яно пройдзе, толькі пішы, аблягчай сэрца… — ён толькі цяпер заўважыў пад сталом цэлую батарэю парожніх бутэлек з-пад гарэлкі: — А вось піць не раю.

— Раю, не раю, — буркнуў Чэхантэ абурана. — Што вы ўсе, як пад наркозам… Як папугаі…

— Да бацькі ездзіў?

— А як жа?!

Бардзюкоў зразумеў, што візіт яму не ўдаўся і паспяшыў развітацца. А Крыцкаму раптам скаблянула па сэрцы згадка пра радзіму, пра бацьку. Ну, да яго ён паехаў адразу, у першы ж дзень водпуску. Яшчэ да таго, як адправіцца ў Барысаў. Бацька сустрэў яго астарэлым, з загадкавым і нейкім трохі дзіўным тварам. Павёў у хату і прызнаўся:

— Ты, сынок, на мяне не сярдуй: у мяне другая жанчына.

— Навошта яна табе? Ты забыўся на маму?

— Мне цяжка аднаму. А яна аблегчыць маю старасць…



Сваю матулю Антон страціў сем гадоў назад. На апошнім курсе ўніверсітэта. Хавалі яе ўсёй вёскай, і тата плакаў і цалаваў зжаўцелыя маміны рукі, а калі апускалі ў зямлю дамавіну, упаў беспрытомна на пясчаны бугор. Тут якраз быў доктар, і тата апрытомнеў. І вось сем гадоў жыў адзін, а тут раптам загарэўся на гаспадыню…

— Чаму ж не напісаў мне пра гэта? Хто яна?..

— Ты яе ведаеш. Ганна з суседняй вёскі, з Загацця. Неблагая!..

— Неблагая! — перадражніў яго сын. — Чаго табе не стае, баця, га?..

У той дзень ён пайшоў начаваць да сябра дзяцінства — да Базылька Макарчыка. Удвух яны назаўтра ж паехалі ў горад, купілі сабе абновы і ў магазіне сустрэлі аднакласніка Лёньку Архіпава. Быў ён не адзін, поруч з ім стаяла… Валька. Так, ягонае першае каханне, ён успомніў тугую касу на яе грудзях і носік-курносік. Цяпер, праз трынаццаць гадоў, яна была іншай — яшчэ больш здрабнелай і без касы.

— Цябе, Валечка, і не пазнаць, — прызнаўся ён шчыра.

— Што, пастарэла? Збрыдчэла тварам?..

— Ды не. Проста стала іншай. Не той, каму я прысвячаў вершы. Тады была ты для мяне Аннай Керн, сёння — Брыджыт Бардо. Дарэчы, ці захавала ты мой верш, той, які перахапіў гэты вось абармот, Лёнька? — ён злёгку штурхнуў таго ў плячо.

— Які верш? — ускінула яна ўверх свае па-ранейшаму прыгожыя бровы.

Лёнька стаяў разгублены, з кіслым тварам.

— А ты хіба не вярнуў верш Валечцы?

— Мы тры гады як муж і жонка. Можаш нас павіншаваць!..

Антону і мову адняло. А Базыль Макарчык, які, аказваецца, гуляў у іх вяселле, ідучы на аўтастанцыю, прызнаўся:

— А я табе і не казаў. Знарок не казаў… А верш той? Ну, ты як дзіця: нашто ён у іхняй шчаслівай сям'і?..

Без Вышынскага неяк ажыў духам Хадоркін. І не адзін ён — і фотакарэспандэнт Баранок, і нават вадзіцель Курныш. Пятрусь мог лішні раз спазніцца, адлучаўся на гадзінку-другую без дазволу Бардзюкова. Іван Панкратавіч аднойчы сабраў усіх у сваім кабінеце і нагадаў: паслабленняў не будзе. За кожны факт парушэння — будзе біць па кішэні, рублём.

Напрыканцы першага тыдня «Афрыкі» (так называлі між сабой працу без шэфа) усё стала на свае месцы. Толькі вось Хадоркін з Міцькам Баранком усё запіраліся ў былой фоталабараторыі. Ведаў Бардзюкоў пра іхнія вольнасці і неяк спытаўся ў Хадоркіна:

— Ты казаў некалі, што белай косці і дзед у цябе вершы пісаў. А ты хто? Апойца?

— А я што? Ды я…У цябе, дарагі Іван Панкратавіч, усё прыдзіркі… да мяне.

— Няпраўда, дарагі Андрэй Фёдаравіч, — у тон яму адказаў намеснік. —У цябе не за гарамі пенсія. Глядзі, браце!...

— Што, адбярэш хлебнае месцейка?..

Бардзюкоў не адказаў, шуснуў у аператарскую, дзе вярстаўся заўтрашні нумар газеты. Была запарка, вярстальшчыца Сініцкая бурчэла:

— Ніводнай паласы ў горадзе. Сорам, ганьба!..

— Ну-ну, — супакойваў яе Бардзюкоў. — Усё будзе ў ажуры. Ці не так, Кацярына Міхайлаўна?

Тая кісла ўсміхалася, стоячы над Сініцкай, паказвала рукой, куды якi матэрыял ставіць. Яна разумела, што ніякага ажуру не было, што намеснік упусціў лейцы: Хадоркін з Баранком п’юць, Крыцкі ў водпуску, быццам падмянілі апошнім часам Дзімку Шостака. Піша як мокрае гарыць. А быў жа бойкім на пяро, пісаў шмат, праўда, не больш за Хадоркіна, які лічыўся самым пладавітым. Цяпер і гэты пладавіты стаміўся, не «нараджаў»…

Нешта ў такі крытычны для рэдакцыі момант грымнуў выбух, які ледзь не паралізаваў яе работу. Дзіма ўсё прападаў у Доме культуры, дзе працавала ягоная «каралева танца», Саўкоў вымучваў радкі, даючы адно вытрымкі з пісьмаў чытачоў, а на адным Хадоркіне далёка не выедзеш. А тут скасіў грып саму Кацярыну, яна плазам ляжала радома. Хадзіў смаркатым, грaзіўся пайсці на бальнічны вадзіцель. Бардзюкоў зразумеў, што, як кажуць шахматысты, рэдакцыя ў цэйтноце, і выклікаў з водпуску Крыцкага.

Той прыйшоў у першы ж дзень з апухлым тварам.

— Кідай свае выбрыкі, — сказаў яму Бардзюкоў. — Чытач зачакаўся…

А тут пазваніў Івану Панкратавічу Крапіўны з райвыканкама, і Антон выйшаў з кабінета намесніка.



— Вітаю цябе, як тваё нічаво?

— А нічаво, — у тон яму адказаў Бардзюкоў.

— Распусціў ты кадры. Усе ў вас геніі, а пісаць няма каму.

— Хто сказаў?

— А няважна. На вашым месцы я гнаў бы такіх, як Хадоркін, як Крыцкі. І старшыня ведае, што ў вас за парадкі…

— А каго на іх месца? Ці мо ты прыйдзеш і будзеш пісаць?

— Трэба будзе — сяду і напішу.

Бардзюкова ажно страсянула: такія крапіўныя — надзіва беззаганныя, што і кляймо няма дзе паставіць — таленавітымі лічылі сябе, іншых не ставілі ні ў грош. «Усе мудрыя, — з сумам падумаў Бардзюкоў. — Іншаму здаецца, што ён узяў Бога за бараду. А ты вазьмі ды напішы артыкул. Не даклад для старшыні, ні даведку. То-та!.. На гэта трэба мець божую іскру. Языком пляскаць умее кожны. Такія крапіўныя хутка робяць сабе кар’еру…».

— Ты данёс?..

— Не я, але ***ён*** ведае. І вось слухай яго заданне: да пасяджэння райвыканкама патрэбна мульцімедыа. За табой Баранок з лейкай і блакнотам, хі-хі!. На ўвесь дзень, мо і заўтра прыхопім…

Тым часам у рэдакцыю паступіла пісьмо, адрасаванае Касаткінай. Як было напісана на канверце «Лично в руки». Круцілі-вярцелі тоўстае пісьмо Хадоркін з Баранком і не ўстрымаліся — ускрылі. Пісаў Кацярыне кавалер з Баранавіч, і такія былі свежыя і па-свойму сакавітыя прызнанні, што яны асобныя нават занатавалі. Пісьмо зноў заканвертавалі: яго трэба было аднесці да Касаткінай на кватэру. Гэта зрабіць выклікаўся Дзіма.

Яна выхапіла з рук пісьмо, засвяцілася тварам, затанцавала вакол здзіўленага пасыльнага. І пасыльны, Шостак, ад чужой радасці сам радаваўся не менш: менавіта ён прынёс Каці такую ўсцешаную навіну…

Яна доўга не хварэла, але толькі паспела пераступіць парог рэдакцыі, як зразумела: пра яе ўжо ва ўсю гаворыць народ. А праз тыдзень з’явіўся і сам віноўнік: высокі, трохі касабокі дзяцюк у васільковай тэнісцы. У руках ён, імпазантны і самазадаволены, трымаў хвацкі скураны дыпламат. Ён паставіў у кабінеце Кацярыны дыпламат, а сам пайшоў аглядаць тутэйшыя славутасці. На гісторыю мястэчка, праўда, не надта багатую (узнікла не больш за трыста пяцьдзесят гадоў

таму), аднак, ідучы з вакзала, госць прыкмеціў некаторыя адметнасці гарадка, а цяпер хацеў палюбавацца ім без спешкі і мітусяніны. Так, прынамсі, ён апраўдаў сваё знікненне.

На калідоры і ў кабінетах стаяла шушуканне. Жанчыны-аператары і з нагоды і без забягаліся да Касаткінай, ускліквалі:

— Ну, ты, Міхайлаўна, усіх зацьміла, кавалерам сваім… Такі сур'ёзны, а дыпламат, глянь, які!.. Ну, ты даеш!.. Няхай жа Бог дае і табе шчасця!..

Касаткіна ўся ажно свяцілася. Сёння яна была не «сіняя панчоха», не педантка, яна цалавала сваіх аператараў, Дзіму, які без лішняй сарамлівасці чмокаў яе ў адну шчаку, у другую, абнімаў, віншаваў і зычыў шчасця. Зайшоў Бардзюкоў, таксама гаварыў прыгожыя словы. Дзверы ў яе кабінет былі адчынены, і ніхто за ажыятажам віншаванняў не ўбачыў, як падышоў да кабінета той самы госць у васільковай тэнісцы.

— Не сурочце, блін!..

Ён стаяў на калідоры і смяяўся, адсвечваючы адным пярэднім зубам з жаўцізною золата, але ўсім стала няёмка ад сваёй залішняй узбуджанасці.

Калі Кацярына з госцем пайшлі да яе на кватэру, Хадоркін гаварыў Антосю:

— Павер старому газетнаму прайдзісвету: будзе асечка! Не возьме яе з сабой гэты франт… Памяні маё слова.

— Чаму? Ну, скажы!.. — пачырванеў чамусьці Крыцкі.

— Злы рок! Вось што будзе. Не наш ён, выглядае, як бандыт…

— Магчыма. Аднак няхай ёй усё ж пашанцуе.

— А хто пярэчыць?..

Назаўтра была пятніца, і Кацярына Касаткіна не выйшла на работу. Ніхто не ведаў прычыны прагулу, нават Бардзюкоў. Ён і адправіў да яе на кватэру Міцьку Баранка. Той вярнуўся бліжэй да полудня — узбуджаны і пад чаркаю, блытана даводзіў намесніку рэдактара:

— Я да іх, а яны за сталом… Ну і мяне туды.

— Хто быў за сталом?

— Прышча таго не было. Ну, Кацярына з цёткай Нінай.

— І што?..

— Яны мяне і за стол.



— А той з залатым зубам што — з'ехаў?

— Не зразумеў, ці плачуць яны, ці смяюцца, — вёў сваё Міцька. — Казалі, пазычыў у іх долары, абяцаў праз дзень вярнуць. Пераслаць. А вясной абяцаў прыехаць на заручыны…А тады пазваніў: не выходзіць яму. І наогул…

Бардзюкоў з прыкрасцю сплюнуў. Яго чамусьці не пакідала трывога: аферыст, прайдоха...

А Баранок з фотаапаратам на плячы зайшоў да Хадоркіна і расказваў ужо займальныя гісторыі.

— Вось кажаш: у яе нерастрачанай ласкі на траіх. У Касаткінай. А я ведаў чалавека, які абліваўся вадой. І летам, і ў лютыя маразы. Яму кажу: «Не дурніся, змерзне ў пахвіне гаспадарка!» А ён смяецца. А ці ведаеш, кажу, як рабілі ў гарэме еўнухаў? Выпускалі мужыку капшук на мароз, яйцы і адмярзалі. Ніхто іх не выразаў скальпелем. А ты, кажу, абліваешся ледзяной вадой. Карбышаў, блін, Іва-а-навец!..

— А што было з муштуком?

— Якім муштуком? — акругляў вочы Баранок.

— Ну, тым, што ў мужыка. Яйцы адмярзалі, а муштук?..

Міцька зразумеў, і яны разам пакаціліся са смеху.

Не выйшла на работу адказны сакратар і ў панядзелак, а на наступны дзень спазнілася і была ўся ў слязах. Яе Бардзюкоў супакойваў, а самому на душы было прыкра. «Як так — даверыцца прахіндзею? — разважаў ён. — Не зялепуха ж, дарослы чалавек. Хацела шчасця, а выйшла — горш не прыдумаеш. Аблапошылі яе. Схадзіла яна ў міліцыю, а там сказалі: ён сватаецца мо да сорак пятай і ўсё па каханні. Напалі на след. Не з Баранавіч ён наогул — недзе з Віцебшчыны. А такі салідны, з фатаўскім дыпламатам…».

Кацярына тыдзень хадзіла ніцай, быццам яе падмянілі. Ніхто яе не чапаў, ніхто не адважваўся на падколкі. А тым часам вярнуўся з Крыму Вышынскі і таксама ўзяўся спагадаць Касаткінай, прасіў «не браць да галавы», маўляў, шчасце не міне і яе…

— Вы помніце, колькі мне ўжо? — спыталася яна.

— Прычым тут гады? Іншы ў дваццаць трухлявы, а другога ў семдзесят не дагнаць.

Змаглося лета, падкраліся барвы першых прыкмет восені, падступіла маркотна-брудная жаўцізна, ад якой адвыклі за лета людзі, — і

ў гарадскім парку, дзе кранула восенню ліпы, дзе дажджамі востра пахнула прэллю і застаялай вадой, і ў лясах, і ў кабінетах рэдакцыі — гэта чыталася па настроі супрацоўнікаў. Адышла тым часам ад стрэсу і Касаткіна і, здавалася, усё пойдзе па ранейшай, наезджанай каляіне. Так яно, магчыма, і было б, але ўмяшалася адна навіна, якая зноў парушыла спакойны рытм рэдакцыі.

У рэдакцыі пачалі заўважаць, што Чэхантэ ўсё часцей заглядае ў кабінет да Кацярыны. Быццам нічога дзіўнага: сакратар — той жа начальнік штаба. То спытацца, на якую старонку скінуць матэрыял, то высветліць, ці стане, а мо давядзецца скарачаць. Але жанчыны з камп'ютарнага аддзела ўжо стоена хіхікалі і рыхтаваліся да больш усцешаных падзей. І сам Антон пачынаў верыць у сваё нечаканае шчасце. Ён заўважаў, што Каця, якая раней да абноў была халодная, раптам прыйшла на работу ў прыгожым пастэльна-бардовым гарнітуры — такім, як некалі ў Задорнай. Ён ажно задыхнуўся. Праўда, Людміла Пятроўна была вышэй ростам, можа, не такой распаўнелай. Няхай, затое такі ж стыль у адзенні: і прыталены пінжачок, і спадніца, якая туга аблягала ўсе акругласці паставы. Нават ружовая касынка… І вузлік ссунуты набок, як у Задорнай. Тады ён спытаўся ў Кацярыны:

— Ты сёння паненка! Дзе купіла?

— Ва ўнівермагу. Табе праўда падабаецца?..

— Угу.

Падзеі, якіх чакалі аператары, грымнулі недзе пад Новы год. Прафсаюзны лідэр, вярстальшчыца Сініцкая, перадаючы падарункі дзеткам работнікаў рэдакцыі, няўзнак сунула адзін у рукі Касаткінай.

— А мне навошта? Каму? — успыхнула яна рабінавай гронкай.

— Каму-каму… Будзе каму! — засмяялася Сініцкая.

— Ты што?!.

— Усё будзе о'кэй! Той, з залатым зубам, не раўня нашаму Чэхантэ…

— Ну, знаеш!.. — Кацярына Міхайлаўна не знаходзіла слоў, збянтэжаная, а тут падбег да яе Міцька Баранок, узяўся ціснуць і трэсці яе руку, Хадоркін выхапіў, як факір, з-за стала бутэльку шампанскага, нехта паставіў на стол пляшку гарэлкі, прынёс, цопнуў на стол сподкі з бутэрбродамі…



— Схавайце! — нахмурыў бровы Вышынскі. — Вы што, на дырэктыву забыліся?..

— Ну, Іван Аляксеевіч! — узмаліўся Хадоркін. — Мы ціхенька!..

— Знаю я ваша ціхенька! Гарэлку схавайце, а вось ад бакала шампанскага адмовіцца грэх.

— Мы яе расціснем і без яго, — шапнуў Хадоркін Шостаку на вуха. Той чамусьці зморшчыўся. Нехта пасля выпітага крыкнуў:

— Горкае! Не шампанскае, а нейкае пойла!.. Горка!..

Народ зашумеў, толькі Антон і Каця стаялі збянтэжаныя.

— Не, ну што вы? — гаварыла Касаткіна. — Як можна?.. Не вяселле ж!

— А вяселле будзе! — смяяўся Бардзюкоў. — Планіда ваша такая. Утапіце ў сэрцах сваіх учарашняе і будзьце шчаслівыя!..

— Ты знайшоў сваю дульцынею!..

Антон замілавана глядзеў на Кацярыну і ласкава туліў яе да сябе…

## 9

Тры месяцы яны хадзілі, як галубкі: усё буркавалі, цалаваліся, не саромячыся нікога — у яе ў кабінеце, на калідоры. Толькі вось на вуліцы, пры чужых людзях, гэтага на рабілі. Усё паказвала на вяселле. Рыхтаваліся справіць яго летам, падалі заяву ў загс. Антон папярэдзіў бацьку, каб не ўздумаў браць да яго за вясельны стол сваю «палавінку».

— Яна мне чужая і брыдкая, — сказаў ён.

Бацьку гэта не спадабалася, ён месяц маўчаў, а напрыканцы мая рашыўся на цяжкую размову. Патэлефанаваў сыну на работу, пачаў здалёк, нарэшце адважыўся на смелае прызнанне:

— Ведаеш, сынок, і ў нас будзе вяселле.

— У каго «ў нас»?

— У нас з Ганначкаю.

— Ты крануўся з розуму, баця!..

— Няхай. Вось думаю: а давай-тка, сынку, згуляем два вяселлі ў адзін дзень!.. Бяры сваю нявесту і прыязджай да нас. На сваю радзіму. Га?..

Антон паклаў тэлефонную трубку. У душы ўсё клекатала ад гневу і абурэння. Ды ён ніколі больш і не паедзе да яго, да бацькі. У імя памяці аб матулі — ласкавай, ціхай, можа нават крыху забітай нягодамі. У іх двое першынцаў, ягоных брацікаў, памерлі малымі. Матуліна гора было няўцешным, не такім, як у бацькі. Той казаў: «Народзім яшчэ дзетак, не бядуй!» А яна бедавала: сэрца было мяккім і спагадлівым. Можа, таму і рана злягла…

Ён, Антон, відаць, па ёй, па матулі: усё прапускае праз сэрца. Усё добрае яму засталося ад яе, а ўсё дрэннае сам нажываў. Не цярпеў ён і неабдуманых учынкаў. Як вось у бацькі. Ну, нашто яму вяселле ў шэсцьдзесят пяць? Каб пасмяшыць народ?..

Да вяселля ў Антона не дайшло. Нешта пасля бацькавага званка яны з Кацярынай пасварыліся. Умяшаўся недарэчны выпадак. Званіў Касаткінай той фат з залатым зубам, а Антон падняў трубку.

— Вас яшчэ не пасадзілі?— пазнаўшы голас, здзівіўся Крыцкі.

— А ты што, бля, пракурор? Пакліч, блін, Кацюшку, не выкабельвайся!..

— Ах, Кацюшку?! — сказаў са здзекам. — А Манюшку не хош?..

На другім канцы провада, загнуўшы мат у тры «паверхі», паклалі трубку. Антон не сказаў Кацярыне пра гэты званок, мяркуючы, што адвяжацца аферыст-прайдоха, не стане ёй назаляць.

А ён аб’явіўся. Не ўласнай персонай — заслаў свайго хаўрусніка. Быў «ад’ютант» невысокі, збіты і шырокі, як шыфаньер. Вочкі, маленькія, з прыпухлымі векамі, бегалі, як на шарнірах. Ён Касаткіну пазнаў адразу (па апісанні дружка), зашчоўкнуў у яе кабінеце дзвярны замок, прашыпеў:

— Што, шука! Доўга будзеш друга жневажаць?.. Ды я цябе жараш шатру ў парашок і выкіну швінням!..

У дзверы пастукалі.

— Цыц! — балюча схапіў «шыфаньер» за плячо Кацю, і яна ціхенька войкнула. Ніхто, відаць, на калідоры крыку не пачуў, бо голас, ці не Антонаў, спытаў:

— А дзе ж Каця?

Хвілін праз пяць на калідоры ўзняўся шум і гам: Касаткіну шукалі ўсур’ёз. Пастукалі яшчэ раз у дзверы, і шапялявы іх адчыніў, шмыгнуў міма здзіўленага Крыцкага і знік за рогам будынка рэдакцыі. Пакуль



здагадаліся, ачуняўшы ад здарэння, пазваніць у міліцыю, пакуль выехала адтуль машына — яго і след прастыў.

Каця тым часам хапілася: няма кашалька з грашыма.

— Колькі было? — спытаў Антон.

— Н-не п-пом-м-мню!— тая не зусім адышла яшчэ ад стрэсу. —З-з-біралася купіць к-куртку…

Бледная, у тым жа пастэльна-бардовым гарнітуры, але цяпер касцюм сядзеў на ёй неяк нязграбна, быў пам'яты і пакамечаны, быццам качалі яе па падлозе. Яна нарэшце ачомалася, кінулася да Крыцкага:

— Дзе ты быў? Чаму нейкі падонак, пачвара, свіння… — яна задыхалася ад гневу: — Чаму поскудзь біла мяне. А ты… дзе ты быў?..

Антону стала брыдка: не ад слоў яе — ад таго, што ўбачыў яе такой вось, саплівай, нават агіднай цяпер і вартай жалю. Ну, пашкадаваць яе можна, а кахаць?.. Пражыць з ёй дваццаць, трыццаць гадоў і слухаць такія вось папрокі, бачыць яе азызлы ад слёз, апухлы твар?..

А тут Крыцкаму якраз прыспеў чарговы водпуск, і ён, атрымаўшы грошы, сеў у аўтобус і махнуў у Барысаў. Яму закарцела раптам наведаць магілку Задорнай, хаця сабе ўвесь час настойліва казаў — да сябра. Да калегі-журналіста, з кім былі на курсах у Мінску і да якога нібыта меўся заехаць…

Цягнула да яе, нежывой, не плоцевай — да яе жывога духу, хацелася, як тады, у першы раз, пасядзець у яе на магілцы, прыгадаць, пагаварыць з ёй. Колькі памантэжыла яго, Антося, колькі патрапала яму нерваў, а пасля наогул з’ехала. Не развітаўшыся. А калі б і развіталася — што, лягчэй было б? Нездарма кажуць: доўгае расстанне — доўгія слёзы. Не, паступіла яна ўсё ж, як неразумнае дзяўчо… Жанчына-загадка. Сфінкс. А можа ўсё-такі русалка?.. Такая ж была зграбная і слізкая?..

Пра такія Антонавы «фокусы» Каця не ведала і адразу ўзняла ў рэдакцыі вэрхал. Да пошукаў падключыўся Вышынскі, знайшоў Крыцкага па мабільным тэлефоне і адразу ўзяўся за праборку:

— Ты што, валацуга? Чаму нявесту не шануеш? Дзе ты?..

— У сябра, а што? Адкуль жа такі перапалох?..

У трубцы рэдактарскага мабільніка затрашчала, нешта абарвалася. Колькі ні набіраў пасля нумар Крыцкага — дарэмна.

Месяц мінуў хутка, праз тры дні Крыцкаму трэба было выходзіць на работу, а да бацькі не з’ездзіў. Ён нават не ведаў, ці згуляў той са сваёй новай жонкай вяселле. Усё гэта мала цікавіла Крыцкага-малодшага, ён не баяўся ні бацькавых папрокаў, ні згрызот сумлення. Праўда, прычым тут згрызоты? Ён заязджаў у сваю вёску, ціха, так сказаць, інкогніта, каб прайсціся па сцежках маленства, спускаўся з пагорка, бег да моста цераз рэчку (дарога вяла ў школу, па ёй ішлі гуртам, хлопцы наперадзе, дзяўчаткі — крыху адстаўшы), так што сумленне ў яго чыстае. А што не зайшоў у хату? Да каго, да гэтага старога павіяна?!

Ён жыў ужо страхам вяртання на рабочае месца, калі давядзецца апраўдвацца перад Касаткінай, ісці да Вышынскага, стаяць перад ім, як хлапчанё, якое нашкодзіла. І ён вечарам, за два дні да «галгофаўскага» панядзелка, заглянуў на агеньчык да Хадоркіна. Каб выведаць, што там у рэдакцыі, так сказаць, хто плача, а хто смяецца…

— А па кім жалоба? — спытаўся Андрэй Фёдаравіч.

— А што пахавалі каханне, вас не турбуе, га?..

— Турбуе. Але ў той ступені, у якой турбуе цябе самога.

— Ну ты, брат, філо-о-осаф!..

Аказалася, пакуль ён калясіў па мінсках-барысавах, звольніўся Дзіма Шостак. Упрасіў рэдактара, і той адпусціў яго з Богам. З’ехала з Дзімам і тая Марынка, каралева танца з РДК.

— Не пара яна Дзімку, — зрабіў вывад Хадоркін. — Яна нейкая незямная. Адно слова — русалка-казытка. Помніш, як ён пра Задорную? А самому трапілася такая вось… Няхай жа Бог дае, але, думаю, разам яны не будуць. Або яна збяжыць, або Дзімка кранецца з розуму… Ад вялікай любві!

Жыццё ў рэдакцыі ішло сваёй чаргой, хаця па першым часе, калі з’явіўся пасля адпачынку Крыцкі, на яго многія касавурыліся. Нібы дакаралі: пацягаўся, памяў дзявочы ложак і — у кусты. Аднак праз тыдзень многае ўляглося, хаця настрачыненасць у адносінах з Кацярынай у Антона была яшчэ доўга.

Падзеяй, нечаканай для калектыву рэдакцыі, было пісьмо ад Шостака, якое даслаў ён на імя Касаткінай. Дзіўная логіка — чаму ж не рэдактару, а ёй?.. Можа, не паразумеўся з Вышынскім, расстаўся з рэдакцыяй не па-чалавечы, разлік атрымаў з боем?.. Ну, ды не гэта важна.

Чытала Кацярына сама. Дзіма ў сябе на радзіме, недзе пад Мядзелем, на Нарачы. З каралевай жывуць пакуль што ў ягоных бацькоў, але хоча ён зняць у горадзе кватэру, бо з месцам яму не праблема. Марына, ягоная каралева танца, з капрызамі, распусніца і гуляка, таму ён збіраецца яе кінуць. «Забірайце яе назад, няхай там круціць сваёй сра… Даруй мне, божа! Я не фаталіст, але здаецца, што я мужчына, які не ўстояў перад русалкай, якую вы ведалі. Я яе русал (няхай і так, я згодны на такую ролю!)…».

Ад пісьма многія ўстрывожыліся: у Дзімы, па ўсім відаць, едзе дах. Колькі ж можна пра Люську, якой два гады няма ў жывых? Во, уелася!..

«Сфінкс яна, а не русалка, — вярнуўся Крыцкі да нядаўніх разважанняў. — Дарма мяне называла сфінксам. Віктар яе навучыў загульваць з мужчынамі, каб яны канала ад кахання да яе… У сілкі трапілі і Дзімка, і той бугай, да каго ён раўнаваў. Казалі, і гаспадар, яшчэ калі не быў у разводзе, ноччу падбіраўся да яе, адкідваў коўдру і, кладучыся побач з соннай, абнімаў і цалаваў яе дзе хацеў. І ён, Антон, трапіў на кручок… Чаму кручок? Ён захапіўся, яна авалодала ім дазвання. Нават не пагледзеў, што сябар, адціснуў Дзімку ад яе. А той жа і па сённяшні дзень ёю трызніць. Згубіў галаву, небарака!..»

На згоне лета вярнулася дамоў Марынка. Адпусціў яе Дзімка на ўсе чатыры бакі. Знайшлося ёй і месца ў РДК, праўда, не такое хлебнае, як раней. Уведаўшы пра гэта, Крыцкі вырашыў з ёй сустрэцца, каб распытаць пра Шостака. Яна, чамусьці памятая тварам (можа, з перапою ці пасля недаспанай ночы), выйшла да яго з раздзявальні, праспешыла:

— Ну, давай хутчэй! Што ты хочаш?

— Як там Дзіма? Даўно яго не бачыў.

— А ты катані да яго!.. Ён усё трызніць сваёй русалкай — Люськай. Разам і патрызніце! З галавой у яго таво!.. — яна пакруціла пальцам ля правай скроні.

Гаворка не клеілася, і Антон развітаўся, узяўшы ў Марынкі нумар Дзімкавага мабільнага тэлефона. Набраў раз, набраў другі — блакіраваны. Ведаючы, што працуе Шостак у рэдакцыі літсупрацоўні-

кам, патэлефанаваў намесніку рэдактара — галоўнаму чамусьці не адважыўся.

— Вой, калега! — шчыра ўзрадаваўся намеснік. — Як там Віцебшчына? У мяне жонка з Глыбокага. Гожы край. Ну ды ладна, што ў вас? Шостак? М-да, з галавой хлапчына, але і дзівак. Такіх на сваім вяку не бачыў. Мастак слова… і са сваімі русалкамі, пачварамі, цмокамі…Адкуль у яго такая ідэя-фікс, пра казытку? Нельга ж быць такім фаталістам! Пасля таго, як вытурыў ён сваю даму сэрца — запіў. Тры дні не было на рабоце. І сёння няма… Знойдзем. А што яму перадаць?..

— Прыеду да яго на днях. Няхай рыхтуецца.

— Перадам. Калі знайду…

Яго не знайшлі. Да бацькоў не званілі: не хацелі ўзнімаць трывогу, непакоіць раней часу, а тут неўзабаве раніцой у рэдакцыю, дзе працаваў Шостак, заскочыў нейкі хлапчына і з парога агарошыў:

— Ваш дзядзька ўтапіўся!..

Яго не зразумелі, схапілі за рукаў курткі, бо той хацеў сігаць за дзверы рэдакцыі.

— Які дзядзька? Хто табе сказаў?..

— Вадалазы. Знайшлі яго, ляжыць вунь ля рэчкі. Ідзіце, трэба апазнаць!..

Пабег намеснік рэдактара. Тапельцам аказаўся Дзімка Шостак. Ён ляжаў на беразе сіні, апухлы, у штанах і тэнісцы. Відаць, пакончыў з сабой… Прынамсі, такі вывад зрабілі ў рэдакцыі, бо чаму ж чалавек палез у ваду апранутым?.. І прычына была: тут і ідэя-фікс, пра якую гаварыў намеснік рэдактара Крыцкаму, і разрыў з каралевай, якая на справе аказалася зусім не каралева…

Заняліся пахаваннем, і патэлефанаваць Крыцкаму з Мядзела забыліся. І толькі калі сам Антон праз тыдзень нагадаў аб сабе, звязаўся зноў з намеснікам рэдактара, той доўга прабачліва апраўдваўся:

— Ну, заматаўся, прабач, дружа! Ён, казалі, і пісьмо вам даслаў. Дзіўнае…Так што… вось такая трагедыя!

— Можа, які амулет быў пры ім?..

— Амулет? Быў! Выява сфінкса. А што, у вас ёсць нейкія падазрэнні?



Крыцкі нічога не адказаў: няхай усе сакрэты і таямніцы вакол гісторыі з амулетамі застануцца паміж ім і Людмілай Пятроўнай. Адно яго ставіла ў тупік: дзе ж браў такі абярэг Дзімка? Адзін амулет падарыў Задорнай, а другі пакінуў сабе?

Ад такіх думак Крыцкаму стала прыкра і балюча, нават падступілі спазмы рэўнасці. «Мяне ж во пакінула! — падумаў з горыччу. — Бо нібыта «пераступіў праз яго, Дзіму, грэблівa, як цераз кучу гною». Здаецца, так гаварыла некалі Задорная? Значыць, Дзіма быў варты яе кахання, а я — не?.. Так, і нічога тут крыўднага няма: Люську і Дзіму яднала нешта большае, чым каханне. Яднала фатальна-прымхлівае, няхай яно, але яно і парадніла іхнія душы… Яна і забрала Дзімку да сябе. Фу ты, нейкая містыка! Што гэта? Не верыў жа ніколі ў такія забабоны, а тут — паверыў. Вось табе і матэрыяліст: гэта ж трэба — верыць у такое!..»

Бацька нагадваў аб сабе часта, быццам прарвала яго пасля вяселля. Усё запрашаў да сябе, маліў прыехаць ды пазнаёміцца з «новай матуляй». Антон даўно і беспаваротна сказаў сабе: «Нізашто!» і не адступаўся. У час апошняга званка Крыцкі-старэйшы напрасіўся на госці. Прыехалі яны з Ганнай, а Антон, уведаўшы аб прыездзе, адпрасіўся на два дні ў Вышынскага і махнуў у Мінск. Няёмка было рэдактару чуць ад Крыцкага-старэйшага цмоканні: «Ну, як ён так мог? Ведаў жа, што прыеду. І вы адпусцілі…»

У Антона было сваё жыццё, і ад таго, што за трыста кіламетраў жыў яго бацька з маладой мачыхай, яму было ні холадна, ні горача. Яму было ***ніяк***, бо думалася пра іншае: ён застаўся зусім адзін! Пры жывым бацьку, пры ўспамінах аб тых, каго любіў і з кім так не пачалавечы расстаўся…

Але ў яго заставалася свабода выбару і свабода думкі, заставалася газетнае слова…

*1993, 2013, 2015*

# НА ЎСЁ СВОЙ ЧАС

## Частка першая

### 1

Яе адзін Максім пацалаваў у вусны, усе астатнія, хто гаварыў слова, — то ў правую, то ў левую шчаку. Але той Максімаў пацалунак яе не ўсхваляваў. Яна нават не помніла яго, застаўся на сэрцы нейкі цьмяны намёк на ўспамін, на тое, што было тады, ды і той намёк знікаў з яе памяці з хуткасцю каметы.

Чаму ж дазволіла яна такі па сутнасці інтымны пацалунак яму, менавіта яму, а, скажам, не дырэктару, свайму начальніку, яна таксама ўжо не помніла. Хутчэй за ўсё, Максім сам так захацеў, адразу пасля віншавальнага слова пацягнуўся сваімі губамі да яе вуснаў, а яна не баранілася.

Наогул яна, Ліяна Нехвядовіч, стараецца не ўспамінаць школьныя пасядзелкі ў той першы дзень красавіка. Дзень гумару. Дваццаць пяты дзень свайго нараджэння. І не таму, што было сумна і нецікава — хутчэй, наадварот, проста адзіны ў тую сябрыну пацалунак у вусны, здавалася б, радавы, будзённы, абудзіў у чалавека, які быў ёй досыць абыякавы, цэлую буру пачуццяў і запозненых адкрыццяў.

Гэтым чалавекам быў Максім Непатрэбны. Так-так, Непатрэбны. Кожны раз, калі чула яна гэтае прозвішча, грэбліва смяялася. Яно смяшыла яе, яна са здзекам пыталася (у каго толькі, невядома): «Ну, каму ён патрэбны, акрамя жонкі?». Ды аднойчы дырэктар школы Мікалай Арцёмавіч Скупы разбурыў масіўную сцяну гэтага здзеку. «А я вучыўся з украінцам Няпейзаразам, — расказаў ён. — Цікавы быў чалавек, жартаўнік… А што ў мяне, хіба я скупы чалавек? А вось жа Скупы», — і залівіста, тоненька, быццам якое дзіця, рассмяяўся. — Непатрэбны з дзіцячага дома. Недалёка было і мне да гэтага…». Але як «недалёка» — не расказаў, не хапіла яму часу — ён заспяшаўся на ўрок.

Мінула з таго першага красавіка два гады. Два гады без гумару, два гады нейкага абрыдлага чакання і стомы, бо Максім заўсёды стараўся быць побач з ёй. Хаця як павярнуць, на ўсё гэта можна было



глядзець з пэўнай доляй гумару. Можа нават з вялікай доляй. І яна трывала. І месяц, і тры, і цэлы навучальны год. А пасля сказала яму, назолу: «Максім Ягоравіч, не трэба так» — «Як?..» — не зразумеў ён. «А вось так, як вы робіце. Я стамілася ад вас…»

Ён адступіў. Аднак не надоўга. Неўзабаве ўжо кляўся ёй у каханні, кляўся і казаў, што будзе помніць яе да самай дамавіннай дошкі. Хоць да другога прышэсця Хрыстова. Але яе не зрушыш. Ну, не любы ён ёй.

Вось яна, сіла чалавечай памяці, сіла мужчынскай фобіі — боязі таго, што адмовяць ва ўзаемнасці, што мужчына так і застанецца нялюбым. Ён, патупіўшы вочы, мямліў, што зараз ён цалкам належыць ёй. Ад пятак да макушкі, кожны нервовы адростак, кожная клетка жыве ёю, і ад таго, што ён ужо сам не свой, што ўвесь растварыўся ў ёй, — ад усяго гэтага можа здарыцца ў яго апаплексічны ўдар.

А навошта ёй ведаць і пра адросткі ягоныя, і пра ўдар? Яна ведае, чаго ён дамагаецца ад яе… Многія дамагаліся. І калі вучылася ў дзясятым, а тыя, хто вучыўся ў адзінаццатым, лазілі да яе ў пакой інтэрната праз акно. Ведалі, што з дзіцём, ведалі, што была німфеткай і ад каго ў яе дзіця. Лапцевая пошта. Ніхто з іх не дамогся таго, чаго хацеў, — не дазволіла, вытурыла і першага, і другога, быў і трэці такі ж лавелас, не паглядзела, што бугай, высокі і плячысты, можа, нават прыгожы. Яна жыла ўжо сваім дзіцём — прыгожым і мілым, як анёлак.

І ў школе, і ў інстытуце былі кавалеры, і быў у яе бурны раман з трэцякурснікам мастацка-графічнага. Барадатым мастаком з шышкаватым носам. Як у Жэрара Дэпардзье. Яе здзівіла, што не толькі ў інтэрнаце, а і на лекцыях у яго за левым вухам заўсёды тырчала, як гармата, глядзела ўгору цыгарэта «Мальбара». Ён мала курыў, але цыгарэту насіў вось так фарсіста. Дзяўчаты хіхікалі, моўчкі зносілі такі форс студэнта кансерватыўныя ўвогуле выкладчыкі. Твар у гэтага студэнта быў, праўда, не такі прыгожы, і вочы калючыя. Той адстаў, як толькі зразумеў, што дзяўчына да яго не горнецца. А Максім два гады не адстае. Усё ходзіць, усё на нешта разлічвае…

Той пацалунак, якому было два гады, яна даўно ўжо не помніла. Мала помніла адтуль і дамашняе свята. Муж, Косця, вярнуўся тады з работы позна. Мурзаты (працаваў трактарыстам), пад хмяльком, прынёс цукеркі, торт, і яны сядзелі і смакавалі марціні. Вядома, Ма-

шка, дочачка, піла сваё, піла кока-колу, а яны, стаіўшыся ў спальні, цалаваліся. Цалаваліся, шалеючы ад слодычы і запаляючы сябе ўсё больш і больш. Так цалуюцца хіба з палюбоўнікамі. Толькі не з Максімам. Яна тады забылася на тое, што хацела да зняменне кветкі, ружы ці гваздзікі, і калі ляглі ў ложак, раптам усплыў гэты дакор, прыйшла вострая крыўда за яго немужчынскі ўчынак, і яна заплакала. Ён суцяшаў яе, ён цалаваў яе гэтак жа прагна і сакавіта, але яна была халодная і непрыступная.

Палюбоўніка ў Ліяны не было. І, напэўна, ніколі не будзе: яна ўсё-такі любіць свайго Косціка. А яшчэ — Канстанціна Мацвеевіча, бацьку яе Машкі. Яна пра яго не забылася. А як забудзеш, калі Машкай яна жыве, калі ад бацькі ў дзяўчынкі і носік, і вушы ягоныя, трохі адтапыраныя, і смяецца яна гэтак жа — залівіста, трохі скрывіўшы левы куточак вуснаў. Многае было ад яго…

А тут Максім кляўся ёй у каханні.

«Ад цябе застаўся пах духоў ля скроні, — прызнаваўся Максім Непатрэбны ў жніўні, калі вярнуўся з працяглага водпуску. — А яшчэ водар, п'янкі пах твайго маладога жаночага цела, якога прагну кожны раз, як толькі бяру цябе за руку, нават калі проста гляджу на цябе і хачу або гавару вачамі, каб ты засталася маёй. Хоць на адну ноч…». Ну вось прыдумаў, нахабнік — на ноч, яна не дазволіць яму фізічнай блізкасці, нават пасля пятага бакала марціні. Не, пасля пятага не ведае, а што цвярозай ён ёй не патрэбны, гэта яна ведала на ўсе сто дваццаць.

«Цябе я не бачыў, здаецца, тысячу гадоў, — казаў ён пазней, у першыя вераснёўскія дні. — А што, калі б наогул страціў? Згубіў бы, як прынц Афелію. Калі тады цалаваў цябе, яшчэ не ведаў, што забярэш мяне ўсяго, да рэшты, што стану тваім рабом… Між тым я ўдзячны лёсу, што сустрэў цябе…».

Апошнія словы яна помніць. Ён якраз зайшоў да яе ў кабінет, і яны засталіся адны. Максім Ягоравіч (ён працаваў настаўнікам, вёў літаратуру) чакаў гэтага ўсё лета. Яна была тады ў празрыстай вішнёвай кофтачцы, ускінутай на плечы неахайна, ад гэтага досыць пажадліва, і ён бачыў яе загарэлыя плечыкі (яна любіла смажыцца на сонцы, каб да шакаладнасці, калі хочаце, да мулатнасці), бачыў



цёмна-ліловы ліфчык з тонкімі матузкамі шлеек, у лёгкай спаднічцы, што адкрывала яе зграбныя ножкі, з напамаджанымі густа вуснамі…

— Ліяначка, ты сёння… ты… ты каралева!..

Максім гаварыў і адчуваў, што заікаецца, блытаецца ў словах, як сарамлівы хлапчук. Такое з ім, калі бачыў яе, было не раз, яму здавалася, што ён не мае права так паступаць, чапаць чужое, што ягоны ўчынак грэшны і асуджаецца людзьмі і законам. Гэтая дзіцячая нерашучасць і рабіла каляным ягоны язык…

— Хочаш пацалаваць? — здагадалася яна.

— Не толькі…

— Груба, Максім Ягоравіч, груба! — лёгка пажурыла яна. — Я думала, славеснікі — народ прыстойны і не такі неачэсаны…Што ж, пацалунак дазваляецца. Астатняе пасля… Як толькі захачу. Так што чакай…

— Колькі? Я ўжо два гады, як цюцька…

— Вось іменна, цюцька!.. — перадражніла яна яго і падставіла яму левую шчаку.

Максім адчуў яе ваяўнічы дзявочы настрой — не дазволіць у вусны, адчуў, што Ліянка халодная, бачыў усё гэта, аднак не паслухаўся голасу розуму ці сэрца, абхапіў сваімі моцнымі далонямі яе хударлявы тварык і намогся прыпасці да яе вуснаў сваімі. Яму гэта не ўдалося: губы яго дацягнуліся ўсяго да краёчка яе вуснаў, бо яна адпіхнула яго ад сябе. Вырвалася, пабегла — толькі мільганула яе галоўка з моднай тады стрыжкай «а-ля Мірэй Мацье».

Так што ў Максіма гэты вераснёўскі пацалунак пачаўся з дотыку, з намёку на сапраўдны пацалунак. Соты, магчыма, у ягоным жыцці, але самы, бадай, жаданы і прагны. Ён прагнуў яго так, як не прагнуў ніколі. Нават тады, калі напрыканцы вяселля ў сябе на радзіме ён прывёў падвыпіўшую дружку маладой на імшарыны, дзе цалаваў прагна, адчайна, безразважна, просячы ад яе большага, плоцевага. Яна ляжала пад ім на сухім куп'і, сярод рэдкага бярэзнічку, а ён плакаў, як дзіця, ад бяссілля: у яго нічога не выходзіла. Такога з ім ніколі не было. А ўсё яна, якая, трымаючы рукой апошні свой дзявочы аплот, які сцягвала Максімава рука, усё прасіла яго ўмольна: «Макс, ты ж добры! Ты ж такі слаўны! Ну, навошта табе гэта? Пазней… Ты прыедзеш да мяне ў Мінск, і мы будзем займацца… чым толькі захочаш…

Толькі не зараз…» Яна гаварыла, не змаўкаючы, гаварыла, як малітву, нібы адганяючы прыкрую дзявочую наканаванасць. І плакала. І ён, плачучы разам з ёй, як пад гіпнозам, раптам зразумеў, што трэба ўставаць. Пасля ён не раз успамінаў яе словы мальбы і не разумеў: няўжо калі хочаш сексу, калі прагнеш жанчыну, абавязкова будзеш благім і брыдкім. А калі не чапаеш, калі беражэш, то… Не, Алеся не хацела з гэтага пачынаць. Яна разлічвала на сур'ёзныя адносіны, можа, і на тое, што займее сабе мужа, а не плоцевага самца.

Усё пачалося ў яго з Ліянай з паўтара пацалунка: з таго, два гады назад, і вераснёўскага. Пачалося ў яго. У яго ўсё кіпела і клекатала, а яна была непрыступная і нават злавала. Яго рука пацягнулася да паперы, каб выплюхнуць на гэтую табула расу сваё вулканічнае клекатанне. І о, дзіва! — яно нарадзіла радкі…

Мне табой, бы ў спёку, так і наталіцца
Хочацца, бо смягнуць губы без цябе.
Цёплая маршчынка, смеху чараўніца
У куточку вуснаў, быццам божы дзень!

А была ж, а жыла ж у куточку яе вуснаў смяшынка-чараўніца! У тым куточку, да якога ён дацягнуўся, да якога дазволіла яна.

Ліяна чытала верш без яго, бо той выскачыў — пачынаўся ўрок, чытала адна, седзячы за рабочым сталом. У яе, сакратаркі ў школе, стол стаяў у куточку кабінета, якраз ад акна. Яна, узлакаціўшыся на падаконнік, чытала і … плакала. Праз нейкі час у кабінецік забеглася біялагічка Ганна Кірылаўна, войкнула:

— Хто пакрыўдзіў нашу прыгожую Афелію?

Тая выцерла насовачкай вочы, дастала з сумачкі люстэрка і, папраўшы кудзеркі, што спадалі на зграбны дзявочы лобік, сумна ўсміхнулася:

— Вось, чытай. — І падала настаўніцы аркуш з вершам.

Тая прачытала, шчыра здзівілася:

— Ну што ты, дурніца?! Ты ж розум трохі май: хто плача, калі яму прысвячаюць вершы? Ад Пушкіна гэта павялося ці раней яшчэ. «Я помню чудное мгновенье!..» Што, хіба непрыгожа? І Ганна Керн была ўдзячна паэту, а ты плачаш. І я Ганна, і каб хто хоць радок напісаў мне, каб прызнаўся, што кахае, я б ад радасці крычала на ўсю школу. Ты — багіня прыгажосці…

Ліяна сядзела задуменная, глядзела ў акно.

— А можа, ты плачаш, бо муж вершамі не засыпа*ў*?..Ну, а ты ў нас панначка. А Максім захапіўся, ён цябе кахае, дык якога табе ражна трэба?..

Ганна Кірылаўна пра панначку сказала без здзеку і іроніі. Ліяна глядзела на манітор камп'ютара і разважала: вядома ж, яна панначка, а Косцю нічым не здзівіла, не ўзрушыла, бо не толькі вершаў — ночы дзівоснай, першай шлюбнай ночы ў іх не было. Праўда, былі ўсцешаныя ночы пасля, але што яны, калі памяць учэпіста трымала першую, шлюбную — няўдалую спробу зліцца ў хмельным суладдзі двух любячых істот. Чаму ж тую, першую? Не ведала яна чаму, а мо і ведала, ды не хацела ў гэтым прызнацца. Усё спадзявалася, што сэрца верне тыя чароўныя вечары, калі ім было добра і ўсцешана…

Максім — інтэлігентны, добры, гаваркі. Нясе ёй кветкі, і з нагоды і без, нясе і моўчкі кладзе іх перад ёй на стале, на паперы. Моўчкі, без слоў, з усмешкай. Добрай усмешкай. Нясе хрызантэмы, а часам пунсовыя гваздзікі. Яе любімыя. Дорыць і смяецца: «Шкада, што няма гваздзікоў блакітных. Я б імі цябе засыпаў з ног да галавы». Праўда, ён — не надта прыгожы. Можа, нехта з дзяўчат і не заўважае, які пакаты і высокі ў яго лоб, які тоўсты, з гарбінай, які глюгасты ў яго нос, а яна бачыла кожны раз, як ён заходзіў да яе ў кабінет. Як толькі смяяўся, нос той прыходзіў у рух, і вушы-аладкі, доўгія, трохі адтапыраныя, таксама рухаліся. Вочы дапытлівыя, добрыя, не злыя, губы шырокія, прыгожыя, на ніжняй губе злева ў куточку чорная плямка, і калі смяецца ці гаворыць, яе бачыш, яна кідаецца ў вочы. Ён, магчыма, ведаў, што не прыгажун, і саромеўся, і блытаўся ў словах, і губляўся, не ведаючы, як перамагчы сваю сарамлівасць.

— Ха-ха, кахае, захапіўся… — адарвалася яна ад камп'ютара. — А ты ведаеш, які раўнівы ў мяне муж? Не, ты не ведаеш, Ганначка. Калі б ведала, такое не казала б.

— А дзе былі твае вочы, як замуж за яго ішла?

— Дзе былі, дзе былі… — паўтарыла, устала з-за стала, пайшла да акна. — Ты ведаеш, які ён прыгожы?!

— Аб чым ты з ім гаворыш, з трактарыстам? У цябе ж за плячамі пед, ты настаўніца. Што, баялася застацца з дзіцём адна?

— Ну, скажаш? Мне тады было дваццаць тры. Ён якраз прыйшоў з арміі, прыгожы, статны. Сэрца маё і растала…

— З ім ты будзеш жыць пад страхам. Ты згодна жыць пад страхам?

— Згодна. Згодна, бо ведаю, што ён мой. Мой, разумееш? Ты яго бачыла? Не, не бачыла. Калі б убачыла, зразумела б, што можна дараваць яму рэўнасць, пераступіць цераз страх…

— Страх — не насмарк. Гэта пакутлівая хвароба. Страх накопліваецца ў табе, як тлушч, як радыяцыя. Гэта я табе кажу, як біёлаг. Разумееш? Ты счэзнеш, ты не дажывеш свайго веку. А стрэльба яго, што?.. Ён жа, ты казала, страшыў ужо, і не раз. На каго ты пакінеш сваю Машку? Ён застрэліць і цябе, і яшчэ некага, хто, напрыклад, адважыцца ўсяго пацалаваць табе ручку. Як паненцы. І ўсё… Ён Атэла, ты разумееш, яловая твая галава?.. Ды і Машка, думаеш, ён будзе шкадаваць яе? Не яго яна, не яго…

— Ну і што? Ён прыняў, удачарыў.

— Ой, Ліяначка, цяжка табе будзе.

— Не цяжэй, чым табе, — і дадала гулліва, па-дзіцячы наіўна: — У мяне зараз свой Косцік, і свой Кастусь Мацвеевіч…Таксама мой…

Між тым з той размовы яна хадзіла як не свая. Нагадала Ганна Кірылаўна яе маладосць, абвастрылася ў яе душы раптам усё, што стаілася на нейкі час…

Ліянка была саплівым дзяўчом, калі памёр тата. Па яго лініі Ліяна Нехвядовіч (а яна засталася на сваім, дзявочым прозвішчы, мужава, Казакова, не захацела) лічыла сябе дваранкай у нейкім там калене. Але пра гэта пазней. Тата памёр неўзабаве пасля пажару, які здарыўся ў іхнім доме, бліз мястэчка. Ён ратаваў дзяцей, сам атрымаў шмат апёкаў. Памёр у бальніцы.

Праз год пасля смерці мужа Кацярына, статная і прыгожая тварам маладая жанчына, выйшла за разваднога. Ён быў дзіваком, усё збіраў і складваў пад паветкай камяні, сабраныя ў полі. Казаў, яны жывыя, яны дадзены чалавеку нейкім Тварцом — кім, ён і казаў, але ніхто ў сям'і не запомніў. Адно ведалі — не хрысціянскім Ісусам. У яго была дачасная пенсія — як у гальванаспецыяліста, і ў сорак пяць ён выглядаў маладым і даволі прыгожым. Маці Ліянкі, Кацярына, не



магла яму пярэчыць — няхай збірае («Чым бы дзіця не цешылася, абы не плакала», — казала яна смеючыся), можа, такое хобі ў чалавека. Яна ўсю дарогу баялася, што ён кіне іх, а вясковыя бабы будуць год тыкаць тады пальцам і прыцмокваць. Жанчына яна была гордая і цярпела. Ну, не біў жа, разважала так, да чужых баб не хадзіў, а гаспадаром быў спраўным. Усё гарэла ў ягоных руках. І калі браў сякеру, і калі нажоўку, і калі лобзік — усё выходзіла ладна, па-майстэрску. Абшаляваў лазню, змайстраваў новыя вароты з брамкай, выштукаваў этажэрку пад кнігі, рамку для фатаграфіі, казачныя ажурныя саначкі з парамі коней. Усё гэта выпілоўваў уручную лобзікам. Гэтыя саначкі стаялі ў яе, Ліянчыным пакоі, як і этажэрка, якая, між іншым, дзіўным чынам перакачавала з жончынага пакоя ў яе, Ліянчын, як і шкатулка для аздобы, як і каралі, якія ён купіў некалі жонцы ў Мінску.

Айчым, Канстанцін Мацвеевіч, рана прывучыў падчарку да біжутэрыі. Ужо ў трэцім класе яна насіла на шыі пляскатыя карычневыя кольцы з чырвонага дрэва, навешаныя на нітку, у пятым — бранзалеты з ясеню, іншых каштоўных парод дрэў, у восьмым на шыі дзяўчыны з'явіліся каралі з аліўкавага дрэва. Аздоба з драўляных атачоных пацерак дапаўняла ўстаўка ў выглядзе кубіка. Кубік, хутчэй за ўсё, быў пазалочаны, і ўвесь гэты кантраст — халодны метал і цёплае дрэва — дзіўным чынам пасаваў да яе смуглявага хударлявага тварыку. Настаўнікі ў школе скоса і трывожна глядзелі на дзявочую аздобу, а Кацярына маўчала.

Словам, Ліянка расла сама па сабе, матуля жыла сама па сабе. Дзяўчына, між тым, бралася ўжо на зграбную дзяўчыну — такую, мусіць, якую прыдумаў Набокаў, — на німфетку. Айчым падоўгу заседжваўся ў яе пакоі…

Гром грымнуў нечакана. Нешта напрадвесні маці заўважыла, што дачка раніцой не бярэцца есці, часта выбягае, бледная тварам, на вуліцу. Устрывожылася і класны кіраўнік. Маці забіла трывогу, але было позна: дзяўчына была на чацвёртым месяцы цяжарнасці.

— Ты што, смаркачка, нарабіла?! — гнеўна крычала Кацярына. — З кім, нягодніца?..

Тая зацята і варожа маўчала. Наогул яна аддалілася ад маці, ад адзінага роднага ёй чалавека, яшчэ, напэўна, у сёмым класе, калі айчым ласкава цалаваў яе. Ці прыемна ёй было, яна не помніла. Відаць,

прыемна, бо з гэтага бязвіннага ўвогуле пацалунка ў іх і пачалося. Пачалося, каб прадоўжыцца, каб неўзабаве ад айчыма зацяжарыць…

А хацела ж некалі быць свабоднай, хацела, каб ніхто з хлопцаў і мужчын ёй не «парыў мазгі», каб не залежыць ад іх, ад іхніх капрызаў і шызафрэнічнага мужчынскага гвалту. Ад усяго. Ад матулі, да якой у яе было ўжо халоднае сэрца, ад сябровак, якіх увогуле ў яе і не было…

— Ад каго, гадаўка?!. Я цябе пытаюся!.. Ад яго, ну, адказвай!..

Ад каго «яго», Ліянка здагадвалася, ведала, на каго намякае маці. Аднак маўчала. Яна была надзіва спакойная і пакорная, нібы косы ніцай вярбы над ціхім стаўком.

Стаяў май, да канца навучальнага года засталіся лічаныя дні, а там — экзамены. Дырэктар школы сказаў, што яна можа здаць экзамены дома. Прыйдуць настаўнікі і прымуць. Толькі каб не хвалявалася, хвалявацца ёй шкодна.

Яна нарадзіла дачку ў сярэдзіне лета. Ціхую, як і сама некалі, калі ляжала ў калысцы, бо ні плакаць, ні хныкаць не мела звычкі. Пасля таго, як выперла Канстанціна Мацвеевіча з дому, прыгразіўшы турмой, калі будзе назаляць сваімі візітамі, Кацярына кінула работу (якраз прыспела пара пенсіі) і ўзялася глядзець за ўнучкай.

А Ліянка пайшла ў дзясяты, закончыла сярэднюю школу і паступіла ў пэдінстытут. Паступіла лёгка, практычна не рыхтавалася. І вучылася старанна, уседліва, атрымлівала павышаную стыпендыю, везла часта пачастункі дачушцы, у якой душы не чула, везла паўзункі, пялёнкі-распашонкі, часам песціла і маці падарункамі. Сціплымі, скажам, газавая хусцінка, якая тады ўваходзіла ў моду, ці яшчэ нечым. Сціпла, але для Кацярыны важней за ўсё была даччына ўвага. Яна нават не абцяжарвала сябе думкамі, адкуль столькі грошай у дачкі на ўсе гэтыя пакупкі. За стыпендыю, нават павышаную, гэтулькі не купіш. І не ведала маці, што Ліянка па вечарах ходзіць да багатых людзей, вучыць грамаце іхняга «сынулю»…

— Ведаеш, Ганначка, а мне не сорамна за той учынак з айчымам, — шчыравала перад біялагічкай Ліяна Нехвядовіч. — Праўда, па размеркаванні напрасілася ў самы аддалены раён, вось сюды, каб не дапаўзло ні да каго пра тое маё, дзявочае. Але дзякуй Канстанціну Мацвеевічу. Ад яго дачушка. Яны і падобныя адзін на аднаго — Косцік і Костусь…



— Чаму ж не патрабавала ад айчыма аліментаў?..

— А навошта? Што ён мог са сваёй пенсіі?

— Дзе ён сёння?

— З’ехаў да сваёй састарэлай маці, у Піцер…

— І грошы не высылае?

— Чаму ж? Употай ад Косціка. Той не ведае.

— Ну ты, сяброўка, з агнём гуляеш. А што калі твой Атэла западозрыць?..

Яна гэтага баялася, можа, больш за ўсё на свеце. Баялася, што той застрэліць яе, не пашкадуе і Машку: ж не ад яго — ад піцерскага…

Максім заходзіў да яе часта. Ці была «фортка», ці быў той час, калі аціхала школа ад дзіцячай бегатні і ўзрушанасці, а ў яе заставалася яшчэ гадзіны дзве працы. Заходзіў нібыта за нейкай даведкай, а сам з’ядаў яе вачыма. Яна адчувала на сабе яго позірк, адварочвалася ці набірала тэкст. Набірала абы-што, усё, што прыходзіла ў галаву, абы не сядзець вось так, быццам пад рэнтгенам. Максім чытаў набранае на маніторы, паблажліва ўсміхаўся і ішоў у настаўніцкую, дзе правяраў сшыткі. На трэцім сшытку раптам разумеў, што думае пра яе, не цяміць таго, што напісана ў сшытку. Адклаў іх тоўсты стос, задумаўся.

— Максім Ягоравіч, як ваш сыночак? Як жонка? Былая…

Ён скалануўся, убачыўшы перад сабой насаценькі тварык Ганны Кірылаўны. Яе месца за сталом было насупраць ягонага, яна павесіла на спінку крэсла дамскую сумачку з пастэльна-ружовага замша і ўзялася чытаць часопіс.

— Дзякуй, усё, як і раней…

— Вершы пішаце?

Яму чамусьці стала сорамна, твар яго апякла па-дзявочы мяккая чырвань.

Праз месяц, у пару глыбокай восені, ён напрасіўся праводзіць Ліяну дадому. Жыла яна не так і далёка ад школы, але трэба было ісці цёмнымі завулкамі, і яна згадзілася.

Аднойчы, праводзячы пасля работы яе дамоў, Максім сказаў:

— Ты Афелія!.. Дваранка, каханка прынца. Яна сарвалася ў бурную раку і загінула…

— І ты туды ж.

— Пра Афелію? А што, ты, па-мойму, на яе вельмі паходзіш.

— Чым жа?..

— Ты няшчасная ў сваім каханні.
— Не смей казаць дрэнна пра майго мужа!.. І потым, ты што, прадракаеш і мне такі ж лёс, як у Афеліі?..
— Што ты?.. — ажно задыхнуўся ён. — Я проста хацеў сказаць, што і ты такая ж прыгожая, што і ты дваранка. Помніш, ты мне неяк расказвала…
Так, яна расказвала. Нехта з далёкіх яе родзічаў знайшоў у мінскіх архівах дакументы, што Нехвядовічы па лініі бацькі — дваране. Што ў яе, Ліянчыных, далёкіх продкаў цякла не пунсовая, цякла блакітная дваранская кроў. Казала, можа, год назад і пачала ўжо забывацца на тое, якіх яна каранёў. І вось Максім нагадаў ёй, прыпомніў тую гісторыю з дваранствам.
— Я хачу быць Афрадытай. Багіняй кахання. Так і ведай!..
— І эрасу?
— І эрасу, — неяк з выклікам згадзілася яна. — Што, хіба я не сексуальная?
Ён не ведаў, што ёй адказаць.
Ён і назаўтра адчуваў перад ёй разгубленым і маўклівым. «Яна што, здзекуецца? — пытаўся ён невядома ў каго. — Навошта з такім выклікам?»
Зімой у Максіма разладзілася ў сям'і. Жонка, якая працавала ў сацыяльнай службе, пачала позна вяртацца дамоў, а нешта пад новы год наогул дома не заначавала. Казала, дапазна сядзела ў пенсіянера, а дамоў ісці баялася, таму зайшла да сяброўкі. Прыйшла яна раніцой нейкая змятая, замучаная, і… Максім пашкадаваў яе, падумаў, што служба сапраўды яе заядае.
А праз тыдзень аб'явіўся той, хто яе «заядаў» — нехта Антон, вадзіцель з аўтабазы. Высокі і худы, з доўгім шылаватым носам, з'едлівымі мышыным вачыма і васпаватым тварам. Прыйшоў да іх на кватэру ў той час, калі Анюты дома не было, заспеў аднаго Максіма і адразу з парога ўзяў быка за рогі:
— Забіраю Анютку да сябе. У мяне кватэра, у мяне машына, у мяне дача. Такая, як Анечка, не павінна жыць у галечы.
Максім выпер гэтага ханорыка, які бесцырымонна лез у іхнюю сям'ю, выпер гэтую рудую мыш. У той вечар з жонкай у яго была першая за пяць гадоў сумеснага жыцця размова на высокіх тонах. Крычала яна, ён сядзеў, апусціўшы галаву, і нос яго неяк пачарнела і бязвольна звісаў ледзь не да верхняй губы. Ён, напэўна, да апошняга верыў, што жонка не кіне яго, што будуць жыць яны, як і раней, ціха і заможна.
А Анютцы хацелася іншай цішыні, іншага шчасця. Таго, якога наплёў ёй гэты ханорык з аўтабазы. Яна з сынам Лёнькам (ад першага мужа, другога, што быў ад Максіма Непатрэбнага, Мішку, пакінула былому) прыехала да маці. Жанчына жыла адна ў двухпакаёвай кватэры старой планіроўкі з цеснай кухняй і прасторнай залай, але дачку прыняла холадна.
— У цябе сям'я, а ты такая валацужніца. На каго хочаш прамяняць?
— Мам, ты яго не ведаеш. Антоша будзе залатым мужам. Не тое, што гэты, з глюгай…
— Адумайся, дачка, якая глюга? На каго ты так кажаш — на бацьку твайго Мішуткі?..
Анюта маўчала.
Маці пусціла дачку-блудніцу, але сказала: «Усяго на тыдзень-другі. На пастой. Так і ведай, Анька! Мішку вазьму, а цябе выпру паганай мятлой...»
Анюта ведала, што маці не адступіцца: прыйдзе час — пагоніць з кватэры. А тут Антон распачаў у сябе грандыёзны рамонт, за два тыдні наўрад ці заедуць. «Няважна, — рашыла яна, — пераеду адна, а сына забяру пазней, як асталюемся…»
Максім тады ўпершыню адчуў, як без жонкі і пуста, і балюча. Ён хадзіў па кватэры, як непрыкаяны, не ведаў, чым заняцца ў выхадныя. На рабоце аддаваўся цалкам дзецям, у яго былі ўрокі, ён пісаў планы, ён вёў гурткі, замяняў настаўнікаў, якія былі на бальнічным ці на курсах павышэння кваліфікацыі, а ў суботу і нядзелю, як збавення, чакаў пачатку новага тыдня. Чакаў, каб з галавой акунуцца ў клопаты, а галоўнае — пабачыць яе, Ліянку…

## 2

Міналі гады. У школе было ўсё, як і раней: урокі, гарэзлівая бегатня дзятвы на перапынках, калі хоць вушы затыкай, цішыня на калідорах пасля двух ці трох гадзін дня, калі заставаліся адны прыбіральшчыцы ды загадчык гаспадаркі. Вядома, і сам дырэктар, Мікалай

Арцёмавіч. Быў ён чалавекам грузным і высокім, і калі крочыў па калідоры, усе думалі, што ступае мядзведзь. Ажно рыпелі маснічыны. Калі чула такі рып Ліянка, яна ўздрыгвала і хвалявалася.

Не, яна не баялася гэтага чалавека-мядзведзя. Добры, разважлівы чалавек. А палохалі яе заўсёды дырэктаравы бровы — густыя, вечна ссунутыя, і колкі позірк ягоных вачэй. Не верылася, што так можа быць у адным чалавеку: суровасць, насупленасць броваў, колкасць вачэй і — душэўная дабрыня.

Мікалай Арцёмавіч рэдка калі заходзіў да сакратаркі — усё рабіў праз сваіх завучаў, а тут раптам зайшоў.

— Ліяна Віктараўна, — сказаў адразу з парога. — Вы што, захапіліся Непатрэбным?..

Дзяўчына праглынула язык, стаяла і мямліла нешта ў адказ.

— Што вы, як сямікласніца: усё яшчэ чырванееце?..

— Хто вам такое нашаптаў?

— Ха-ха, нашаптаў!.. Я сам бачу, якім стаў наш Максім Ягоравіч…

Яна чакала.

— Ён стаў мужчынам, галантным і ўважлівым. Цаню, цаню…

— У м-мяне… муж, Мікалай Арцёмавіч…

— А-а-а, муж — гэта добра.

Сказаў і пайшоў, пакінуўшы загадкавую ўсмешку на сваім твары і недаўменне на твары сакратаркі. «Адкуль што ўзялося? Хто ўклаў у вушы дырэктару пра яе ўзаемаадносіны з Непатрэбным? — разважала яна, спрабуючы разгадаць гэтыя рэбусы. — Не зразумела: ён што — ухваляе гэтую грахоўную захопленасць чужым мужчынам? Значыць, са мной Максім стаў галантным і ўважлівым, а раней якім быў — няўважлівым?..»

З той памятнай гаворкі Ліяна Нехвядовіч стала трохі па-іншаму ставіцца да Максіма Непатрэбнага. Па-іншаму — значыць, стала больш прыглядацца да яго, але па-ранейшаму супраціўлялася, калі той жартам-смехам абдымаў за плечы і гарнуў да сябе, спрабуючы пацалаваць.

Ён не крыўдаваў на яе за такую празмерную дзявочую абачлівасць, помніў, што ніколі яму за трыццаць два, што стукнула, не дазвалялі дзяўчаты адразу цалавацца. Маладыя ален-дэлоны з першай сустрэчы выводзілі любую дзяўчыну з дыскатэкі, купаліся ў ласках і ўцехах, а яму трэба было пахадзіць з паўгода, і тое не кожная згаджалася пайсці, хаця ведала, што настаўнік. Вось як Ліянка: яна не хінулася да яго, да Максіма, і не таму, што разведны і з дзіцём. Проста ён, на яе думку, як той неандэрталец — такі ж далёкі і нялюбы ёй, яна не можа пакахаць чалавека, якіх сотні, тысячы, такіх жа чужых.

Між тым, паціху цяплелі ў яе адносіны да настаўніка. Максім Ягоравіч прыносіў ёй кветкі кожную пятніцу, лічачы пятніцу самым удалым днём для падобных падарункаў. Чаму? Усё вельмі проста: муж яе, Косцік, на выхадныя ехаў да маці ў вёску, выязджаў на машыне ў пятніцу да таго, як вернецца з работы Ліянка. Яна прыходзіла з букетам, ставіла яго ў вазу і цэлыя выхадныя радавалася і ўспамінала Максіма.

Ён гэта ведаў, і пятнічныя падарункі ўвайшлі яму ў звычку. Аднойчы муж Ліяны затрымаўся — калупаўся ў машыне, бо не заводзіўся матор, а тут і жонка з хрызантэмамі.

— Адкуль кветкі?..

Яна разгубілася, бо не чакала яго сустрэць.

— Вось дарылі мужчыны… нам… усім...

— Што за свята?

— Дзень закаханых, — не міргнуўшы, адказала яна і пайшла да ганка. Яна бачыла, як наліваўся крывёй твар Косці, як злосна захадзілі пад скурай жаўлакі, як сціснула, ажно пабялелі касцянкі пальцаў, ягоная рука клему акумулятара.

— Г-ы-ыхх! — выдыхнуў ён, нібы апусціў сякеру на палена, расколваючы яго на палены.

Тыя хрызантэмы вечарам ужо ляжалі ў кантэйнеры для смецця. Ён сам іх вынес…

Гэта было трывожным знакам. Тым больш, што Ліяна ведала (пражылі восем гадоў разам), які ён, калі сярдуе, калі распаляе сябе рэўнасцю.

У суботу прыйшоў паштовы перавод ад Канстанціна Мацвеевіча. Сума яе збянтэжыла — дзве яе сакратарскія зарплаты. Яна ніколі не тэлефанавала яму ў Піцер, а тут раптам не ўстрымалася. Трубку падняла маці Канстанціна Мацвеевіча Сцепаніда Альфонсаўна.

— Гэта ты, Ліяначка? — узрадавалася старая. — Як я рада, як рада!.. Ну, што там у цябе? Як мая Машка, ці хварэе? Ну, малайчы-

на... Калі прыедзеце да нас, у госці? Мы з Косцікам ужо зачакаліся. Хочацца пабачыць і цябе, і Машку, ой, як хочацца! Убачу, і тады ўжо можна паміраць!..

— Ну, што ў вас за настрой? — лёгка, паблажліва папракнула жанчыну Ліяна. Яна любіла гэтую інтэлігентную жанчыну, якую лёс неаднойчы біў прама па цемечку. Спачатку рана памерла ў яе двое дзяцей. Было гэта пасля вайны, калі галадалі, а імунітэт у дзяўчатак, што з'явіліся на свет адна за адной, быў вельмі аслаблены. Перажывалі яны з Мацвейкам, які вярнуўся з вайны пакалечаны, але што зробіш — трэба жыць. А жылі яны тады ў Гатчыне, пад Ленінградам. Праз нейкі час іх парадаваў сынок — жвавенькі такі, не хлопчык — бутуз. Думалі — хворы, ніяк не спадала ў ім гэтая паўната. Ажно пачаў выцягвацца, і ў класе восьмым на яго пачалі ўжо заглядацца дзяўчаты. Прыгожы быў, дужы і хвацкі. Вучыўся, праўда, не вельмі, але ж не ўсім быць акадэмікамі, разважала Сцепаніда Альфонсаўна.

А тут раптам памірае Мацвей. Праўда, зусім не раптам — ад ран, якія не гаіліся. Пахавала, а неўзабаве Косцік надумаў жаніцца. Не паспеў пайсці на завод і — на табе: матуля, ладзь вяселле! Згулялі. Нявестка трапілася шустрая, як электравенік, праз месяц-другі разгарнула ў кватэры такую бурную дзейнасць, што гаспадыні давялося з'язджаць да сястры ў Ленінград, бо не пераносіла тлуму. «Жывіце без мяне», — сказала яна тады маладым са злосцю, не надта верачы, што Косцік без яе, без матулі, абыдзецца.

Так яно і выйшла. Нявестка, мала што трапілася шустрай, дык была і нячыстай на руку. Цягнула з кватэры, перацягвала да сваёй маці, якая жыла таксама ў Гатчыне, і фарфор, і кнігі, і таршэры з магнітафонамі. Косцік позна заўважыў прапажу. Наогул ён нікога не заўважаў, акрамя маладой жонкі, нічым, нікім не жыў, акрамя сваёй Светкі. Аднойчы яна павяла яго ў натарыяльную кантору, каб аформіць на яе сына (у яе было дзіця ад першага і няўдалага шлюбу) кватэру, дзе яны жылі і адкуль з'ехала Сцепаніда Альфонсаўна. Добра, што ў час пазванілі ёй у Ленінград. Яна прыляцела і выперла з кватэры нявестку з яе дзіцём. Яна не была апартуністкай, не стала сарамаціць нягодніцу, а выперла рэзка, па-рэвалюцыйнаму. Хаця была інтэлігентнай і выхаванай па-дваранску. Косцік якраз быў на



рабоце і пра гэтае выгнанне не ведаў. Вярнуўся з работы, як кажуць, халасцяком: Света адразу ж падала заяву на развод.

Усё было б о'кэй, калі б не ўсынавіў у свой час Косцік чужое дзіця. Пачаліся судовыя цяжбы, якія каштавалі Сцепанідзе Альфонсаўне нямала крыві, нервовых клетак і грошай.

Пасля гэтай няўдалай жаніцьбы Канстанцін Мацвеевіч пра сям'ю думаць перастаў. А Сцепаніда Альфонсаўна абмяняла сваю гатчынскую кватэру на ленінградскую: хацелася быць бліжэй да сястры, з якой любая бяда была не за бяду.

Сустрэліся ж Канстанцін Мацвеевіч з Кацярынай, удавой, выпадкова. Ён прыехаў у Беларусь да сябра, зайшлі яны ў магазін, каб прыхапіць чаго да вячэры, сталі ў касу. А Кацярына стаяла ў чарзе перад імі. Пазнаёміліся, і Канстанцін нечакана для сябе напрасіўся да яе ў госці…

— А ў мяне настрой цудоўны! — нібы дзіця, шчабятала ў трубку Сцепаніда Альфонсаўна. — Я рада, што пачула твой голас, Ліяначка!.. Ты рэдка нам звоніш, чаму? Ты крыўдуеш на Косціка? Ён што, не высылае табе ганарары?..

Ганарарамі старая называла аліменты. Нейкі час яна працавала ў рэдакцыі «Гатчынскай праўды», адтуль і пачарпнула нямала лексікі, якую ахвотна выкарыстоўвала ў сваёй мове.

— Што вы, Сцепаніда Альфонсаўна? Наадварот, мяне збянтэжыла сума…

— Гэта Машцы да дня нараджэння. Купіш ёй чаго-небудзь на свой густ. Ну, дык калі вы да нас, га?..

— Хіба летам…

— А ты як са сваім?.. Ладзіш?

Сцепаніда Альфонсаўна зрабіла націск на слове «сваім», і ў яе словах Ліяна знайшла трывожныя ноткі здзеку. Нібыта тая хацела, каб у яе сям'і было няладна, каб з'явілася якое-небудзь прадонне ці якая трэшчына. Хаця, можа, гэта ёй здалося.

— Не крыўдзіць? Не папракае?..

Не крыўдзіць і не папракае. А за што яе папракаць? У яго, калі прасіў руку і сэрца, бачылі вочы, з кім бярэ. Тады Машцы было пяць гадоў, і яна, стоячы побач з маці, ваўкавата глядзела на дзядзькупрыгажуна. Яна тады яго не палюбіла, казала матулі: «У яго вочы

розныя. Адно чорнае, а другое, як у ваўка — шэрае…». Ліянка тады прытуліла яе да сябе, прашаптала па-змоўніцку: «Няпраўда, дачушка, і вочы ў яго аднолькавыя, і сам ён добры і прыгожы».

— За што? За Машку?..

У трубцы, на другім канцы проваду, Ліянка пачула сапенне: старая пакрыўдзілася…

— А хаця б…

— Не трэба, Сцепаніда Альфонсаўна! Бывайце, і прывітанне Канстанціну Мацвеевічу. Я помню яго і ўдзячна яму за ўсё!..

Прагучала трохі ўзнёсла, горача, хаця і шчыра. Словы, хто ведае, можа, і скранулі ў душы старой даўняе жаданне мець Ліянку сабе за нявестку. Хаця згадзіцеся, розніца ў гадах яе сына і Ліянкі проста фантастычная…

Пасля той размовы Ліянкі ў Піцер ні разу не званіла. Званіў ёй сам Канстанцін Мацвеевіч, трапляў у той час, калі ў кабінеце яна была адна. Яна ахвотна з ім размаўляла, дзялілася планамі, расказала, кім хоча бачыць сваю Машку.

— Абавязкова артысткай. І толькі артысткай!..

— А чаму не настаўніцай? Я ганарыўся табой, калі ты вучылася ў пед…

— А яна будзе артысткай! — насядала, злуючы, сама не ведаючы за што, Ліяна.

Канстанцін Мацвеевіч не стаў пярэчыць. Ён разважаў мудра: няхай падрасце Машачка, пасталее і сама рашыць, кім быць. Ну, а калі ўсё ж артысткай, ён касцямі ляжа, а знойдзе рэпетытараў і аплаціць ім сам. Каб не ведала Ліянка з мужам. Асабліва муж — раўнівец, зялёны проці яе — маладзей на тры гады. Падчапіла, ачмурыла, не дала хлопцу пахаласцячыць пасля арміі — адразу ў хамут. А ён і палез, як рахманы конік. Не, ён не рахманы, ён Атэла — такі гарачы, капрызны, як дзіця, і ўласнік. Бачыў аднойчы, як стаяў ён над ёю (а яна, бледная тварам, змарнелая, сядзела на тапчане ля дзвярэй урачэбнага кабінета), закрываў яе, як груган, гатовы кінуцца на любога, хто захацеў бы выхапіць у яго гэтую ахвяру, гэтага беднага зайчыка. І з груганом тады ён параўнаў гэтага Атэлу наўмысна, можа, не зусім і ўдала (прычым тут груган, можа, лепш ахінаў, як тыгр сваю самачку), затое для яго было важна: груган — гэта драпежнік.



Машка падрастала, неўзабаве пайшла ў першы клас. Вадзіў яе на ўрачыстую лінейку Косцік, ён сам захацеў завесці (адпрасіўся з работы). Ліянка і не пярэчыла: няхай падбірае да дзяўчынкі ключык. Яна, сустрэўшы тых, з кім некалі хадзіла ў садзік, міла шчабятала, бегала ад сяброўкі да сяброўкі, расказвала нешта пад «вялікім сакрэтам». А Косця стаяў і любаваўся дзяўчынкай з двума пышнымі блакітнымі бантамі, якія пырхалі па школьным пляцы і дзіўным чынам пасавалі да яе вясёлай, пад блакіт неба, кофтачкі, якую прыслалі з Піцера.

Косця не хацеў разбірацца ў тым, хто даслаў гэтую кофту на «маланках», з мноствам кішэньчыкаў, з якіх спадалі на матузках дзівосныя звяркі. Ён цяпер думаў пра іншае, пра тое, як усё-такі слаўна, калі ты, малады тата, прыводзіш дачку ў школу, каб дзяўчынка адзінаццаць гадоў грызла граніт навукі, каб вырасла добрым і прыстойным чалавекам. Гэтаму ўсяму будуць вучыць настаўнікі, і ён з Ліянкай, вядома ж…

Не заўважыў за думкамі, як настаўніца паклікала дзяцей са школьнага двара ў клас. Косця бачыў, як мільгалі наперадзе Машыны пышныя банты, і пайшоў за гуртам спешным крокам.

Школа для Машы была выбрана не тая, дзе працавала маці, Ліяна Нехвядовіч. Яна зрабіла так, каб дачка хадзіла ў першую школу, каб Косцю было зручна забіраць яе пасля работы. Так прывучала яна мужа да Машкі…

А пасля Косця на лета паехаў на заработкі ў Расію. І Ліяна засумавала. Максіму яна забараніла не толькі званіць, але і прыходзіць да яе ў госці на кватэру. А тут нечакана, як снег на галаву, аб'явіўся Канстанцін Мацвеевіч. Ён прыехаў да цёткі, якая жыла недалёка ад дома, дзе жылі Ліянка з дачкой.

Аднойчы вечарам да яе пазванілі. Яна адчыніла дзверы і знямела: на парозе стаяў Канстанцін Мацвеевіч.

— Не чакала? — ён усміхаўся той усмешкай, якую яна помніла, даверлівай і абаяльнай. У руках ён трымаў шыкоўны букет ружаў.

— У цябе сёння дзень нараджэння, мілая мая Лаліта!..

Лалітай ён называў Ліянку тады, калі яны толькі пазнаёміліся. Мінула дзесяць гадоў. Яна стаяла акамянелая, трымаючы за ручку расчыненыя дзверы.

— Ну, ты мяне ўпусціш?..

Яна прыхінулася да сцяны.

— А маці твая, Кацярына Іванаўна, жыве з табой?

— Яна памерла… Два гады як няма...

Ён падаў ёй ружы. Яна прыняла іх, трымала букет у сагнутай левай руцэ і глядзела на яго моўчкі і неяк атупела. Ён знайшоў рукамі яе правую руку, паднёс да сваіх губ, так і стаяў нахілены, як Пізанская вежа — высокі, трохі прыгорблены, з сівой шавялюрай.

— Прабач за ўсё! І прымі мае сардэчныя спачуванні… Я не ведаў…

Яны прайшлі на кухню. Ліянка пасадзіла госця на табурэт ад акна, сама села насупраць.

— Дзе ж Машка?..

— У свякрові. Заўтра забяру… А я ў водпуску… Праз тыдзень у школу.

— Ты не вучыш дзяцей? Ты не настаўніца?

Яна адвярнулася да сцяны.

— Шкада. А я так хацеў, каб ты была настаўніцай.

Яна, хутаючыся ў дамашні халат, устала, пацягнулася, каб дастаць з верхніх паліц кубкі са сподкамі, і Канстанцін Мацвеевіч убачыў тое, ад чаго самлела сэрца. Яна павярнулася да яго, халат расхінуўся, і ягонаму пагляду адкрылася тая ж радзімая плямка на левай назе, пад самай похвай. Рука сама пацягнулася да плямкі. Яна рэзка адкінула яго руку.

— А я помню… І гэтую плямку, і тую, што ў цябе на ягадзіцы, і тую, што… сама ведаеш, дзе.

Яна павярнулася да яго спінай. Так і стаяла нейкі час, у руцэ тоненька пазвоньваў сподак аб фарфоравую філіжанку.

— Не трэба, Канстанцін…

— Я помню цябе тую… пятнаццацігадовую. Ты была чароўнай, ты была Афрадытай, якая выйшла з пены. Не, ты ў трынаццаць была німфеткай, а ў пятнаццаць Афрадытай… Ты сталела на вачах. Гэта я помню. Але я любіў цябе і такую, і такую…

— А што я зараз — брыдкая?

— Ну, што ты? Хіба можна? Я помню, як ты мяне абнімала, а з-пад пахаў у цябе так прыемна пахла… Я і сёння помню той пах — пах язміну і палыну. Дзіўны такі букет. Той пах я ніколі не забуду. Кажуць, ад такога кахання, як было ў нас, дзеці нараджаюцца прыгожымі і шчаслівымі… Вось і Машка будзе такой… Веру, што будзе!

Яна села на ранейшае месца. Ён устаў, падышоў да яе і пацалаваў у растуленыя вусны. Вусны былі сухія і непрыемныя.

— Не трэба. Я замужам.

— Ну і што? Хіба гэта мае якое-небудзь значэнне? Ты была маёй. Я ў цябе быў першы. А значыць…

— Нічога гэта не значыць.

Яна змоўкла, яна не ведала, куды дзяваць свае рукі, якія не слухаліся, якія нерухома ляжалі на каленях. Халат расхінуўся, а яна не мела сіл паправіць яго, закрыць свае аголеныя калені…

— Прабач, я ў цябе не застануся. Не магу….

— А хіба я цябе пакідаю? — раптам абурылася яна. — Чаю хочаш?

— Не, прабач. Табе сёння дваццаць восем, а мне ўчора было на трыццаць гадоў больш. Вось які я замшэлы?!.

— Не кажы так. Не ў гэтым…

— … што, шчасце?

— І шчасце таксама.

— Ты любіш свайго Косцю? Шчаслівчык, мой цёзка. Толькі ён куды больш шчаслівейшы за мяне, бо ён і сёння з табой. І заўтра будзе…

Пакуль яна хацела нешта яму адказаць, ён падхапіў у пярэднім пакоі свой рукзак (зараз уся моладзь носіць заплечнікі, вось і ён таксама, казаў: «Зручна. Рукі вольныя, ідзеш сабе, як чэх». Так і сказаў — «як чэх». Яна запомніла гэтыя словы) і знік за дзвярыма. І толькі калі пачуліся таропкія і гулкія крокі па лесвіцы, яна ўспомніла, што хацела ў яго спытаць. «Няўжо ты быў нешчаслівы са мной? Няўжо я мала аддала табе? Я аддала табе сваю маладосць. Я не ведала, што такое дзявоцтва, ты адабраў яго ў мяне…».

Яна пра многае хацела ў яго распытаць. І пра камяні, якімі ён захапіўся, і пра дзіўнага Тварца, да якога ён прыйшоў і якому пакланяўся. Хто ён, гэты Бог? Навошта ён яму? Хто ведае, мажліва, і яна прыйдзе да свайго Бога. А пакуль патрэбы ў гэтым яна не адчувала.

## 3

Маці Ліяны, Кацярына Захараўна, якая ўсё жыццё аддала ферме, злягла неяк нечакана. Пасля таго, як ўведала пра даччыну цяжарнасць, пра тое, што бацькам дзіцю быў Канстанцін Мацвеевіч, яе муж, яна знікла, пачала хутка чэзнуць і неўзабаве наогул злягла ў бальніцу. Па першым часе яна не хацела бачыць сваю Ліянку — тую, што спакусіла дарослага мужчыну, і ў думках пракляла яе, узненавідзела. Ужо ў палаце раённай бальніцы зразумела, што па-мацярынску не мае рацыі, што дрэнь яна, калі адмовіцца ад сваёй крывінкі, і ў той жа дзень з дзяжурнага паста пазваніла дачцэ.

Тая не чакала званка, расчулілася:

— Мамка, даруй мне… Я нягодніца, я…

— Не трэба, дачушка!.. Ён, гэта кабель, сапсаваў цябе… Я сёння ж пазваню ў міліцыю.

— Мам, не смей! — горача запярэчыла Ліянка. — Ад яго ў мяне дзіця…

Кацярына Захараўна захныкала, засапла ў трубку.

— А магло быць інакш… Я хацела, каб дзіця было ад яго ў мяне, а не ў цябе. Ты яшчэ смаркатае дзяўчо. Табе рана пра гэта…

— Прабач, мамка!..

Падлячыла Кацярына Захараўна ў бальніцы свае нервы, свае застарэлыя балячкі і вярнулася дамоў як ні ў чым не бывала. Адносіны з дачкой былі тыя ж, хаця і прабівалася іншым разам у яе нервовасць, калі зрывалася на крык і нават аднойчы закаціла істэрыку.

Але прыспеў час дачцэ раджаць, і яна збірала яе ў радзільны дом у Віцебску, наведвала яе, спраўлялася, як яна ды ці хутка ўсё будзе.

Нарадзіла Ліянка дачку ў няпоўныя шаснаццаць. Для школы гэта была трагедыя. Праўда, пажар ніхто раздзьмухваць не стаў. Не знялі дырэктара школы, хаця ён і адцярпеў з-за «блудлівай» вучаніцы. Некалькі гадоў запар яму згадвалі на розных канферэнцыях ды нарадах пра амаральнасць у вучнёўскім асяроддзі, пра нізкую выхаваўчую работу.

Кацярына Захараўна сама паехала ў Віцебск, каб забраць дамоў Ліянку з дзіцём. Узяла таксі і паехала. І даглядала Машку — слаўненькае дзіцятка, якое пабрала ўсе бацькавы крыхі. Даглядала і часта аблівалася слязамі: чаму ж так бязлітасна абышоўся з ёй жаночы лёс?.. Чаму ж не яна нарадзіла? Жылі б во зараз усе ўчацвярых — дружненька і ладком. Дык не…

Яна доўга не магла дараваць Канстанціну Мацвеевічу ягоную здраду. І не столькі здраду ёй, колькі дзікае і нечуванае спакушэнне дачкі-васьмікласніцы. Помніць яна, як ад'язджаў ён у Ленінград, як казаў:

— У цябе няма таго, што ў Ліяначкі. Няма і не будзе. Гэта ў яе ад бацькі, ад дваранскай крыві. Ведаеш, у яе жылах цячэ блакітная кроў. Не пунсовая, як у нас… Яе не кахаць, яе не прагнуць, яе на руках насіць трэба...

Кацярына Захараўна слухала гэтую мужаву споведзь з нямым дакорам у вачах, атупела і зларадна. «Што ў яе такога, каб так шалеў ён, блудлівы дзявочы ўгоднік?» — думала яна, і аднойчы ноччу, прачнуўшыся ад нейкіх кашмараў, падышла да ложка, дзе спала Ліянка, і пачала прыглядацца да яе пад святлом начніка. Пульхлыя дзявочыя губы, маленькія грудзі, якія мірна і натапырана (не расплывіста, як у дарослых жанчын) дыхалі пад негліжэ, якую дачка купіла сабе, перайшоўшы ў дзявяты клас. Адна нага яе вызвалілася з-пад коўдры, і пагляду Кацярыны Захараўны адкрылася зверху, ля самых трусікаў, зманлівая радзімая плямка. Буранькая такая, трохі шурпаценькая. Яна нават дакранулася да гэтай радзімкі, правяла па ёй пальцам. Яна, матуля, ведала, што радзімка была ў яе не адна, была і там, дзе сходзяцца ножкі…» Ён цалаваў гэтую плямку, і тую, што пад трусамі, ён лез сваім брыдкім ротам далей, туды, куды ніколі яна, законная жонка, яго губы не дапускала. У іх было ўсё будзённа, як і належыць. А яму гэтага было мала, ён млеў, мусіць, ад таго, што Ліянка такая свежая і некранутая…».

Не, гэта не нагода для адзюльтэра, не прычына спакушаць, разбэшчваць маладую дзяўчынку...

Выпадак, вядома, стаў набыткам каральных органаў, яму званілі з пракуратуры, ён не раз быў там, у следчага. А тады яна сама, маці, выйшла на каго трэба ў Мінску (былі сваякі, уплывовыя людзі), і справу, як кажуць, замялі. А магла б і не памагчы. Магла б зрабіць так, каб запраторылі гэтага павіяна-донжуана гадоў на восем.

На нейкі час яна змірылася з думкай, што дачка не вінаватая ў тым, што дачасна пачала спаць з дарослым мужчынам. Ва ўсім ён вінаваты, гэты марцаўскі кот! Ён, ён!.. Аднак жа пашкадавала яго, не стала помсціць чалавеку, што нейкі час ёй быў дарагі.

Кацярына Захараўна памерла, калі Машцы ішоў пяты гадок. Ліянка на той час працавала ўжо ў школе, вярнулася вечарам і знайшла маці на ложку. Тая ляжала сцішана, з пакутлівай грымасай на твары. Машкі ў хаце не было. Яна гуляла на вуліцы, убегла ў хату, апярэджваючы маці, і крыкнула з парога:

— Бабуля, давай будзем вячэраць!

Бабуля маўчала. У Ліянкі абарвалася сэрца. Яна схапіла матулю за запясце, звіслае бязважка з ложка, зразумела, што канец, і заплакала — горка і няўцешна…

Максім Ягоравіч бачыў, што Ліянка непрыхільная, аднак кветкі прыносіць не пераставаў. Нёс па пятніцах, і многія настаўнікі, ведаючы ўжо ягоны звычай, якраз гадзіны ў тры дня цішком збіраліся ў майстэрні і, расчыніўшы дзверы, якія выходзілі на школьны калідор, цікавалі. Асабліва дасужай у гэтым плане была прыбіральшчыца цётка Дуня, якая падбівала да акцыі некаторых настаўніц. Былі ў майстэрні і матэматычка з фізкультурніцай, і немка з геаграфічкай. Калі забягаў да Ліянкі ў кабінет Максім Ягоравіч, яны выходзілі са схованкі і цікавалі за амурамі праз неабачліва расчыненыя залётнікам дзверы школьнай сакратаркі.

Максіму Непатрэбнаму любоўная гульня, між тым, прыносіла пэўныя дывідэнды. Аднойчы па восені ён напрасіўся да яе «на каву». Ліянка, помнячы, што Косця з дачкой паехалі ў вёску да сваіх бацькоў, за трыста кіламетраў ад горада і будуць дома не раней, як заўтра раніцой, дазволіла зайсці ў кватэру «на агеньчык» і не баялася, што дазволіць большае — каб застаўся з ёю на ўсю ноч. Такога яна не дазволіць ні пры якіх абставінах, на тое ў яе жалезнае табу!

Максім Ягоравіч, між тым, разважаў па-іншаму. Ён думаў, што Ліянка пад напорам ягоных букетаў растала, як веснавы снег. Перад «кавай», пасля школы, ён адпрасаваў сарочку, якую сам любіў і ў якой выглядаў молада і з густам — сарочку ў блакітныя ніткі-атожылкі ўздоўж на попельным фоне, з каўняром і манжэтамі, абшытымі тканінай у прыемны аквамарынавы колер. Кашулю ён купіў сам, купіў выпадкова ў мясцовым універмагу, і зараз яна павінна была яго выручыць. Ён хацеў зрабіць на Ліянку ўражанне, хацеў ёй спадабацца, каб нарэшце, пасля доўгіх заляцанняў, застацца ў яе кватэры на ноч.

Ён трызніў гэтым, ён прагнуў яе маладое і гарачае цела. Так яму здавалася, што гарачае і хмельнае, так ён сабе налетуценнічаў…

Восеньскі вечар быў сухі, як малюнак пастэллю. Ціхі вечар, хаця хто ведае, які капрыз магло выкінуць надвор’е ноччу, і Непатрэбны абачліва прыхапіў з сабой плашч. Ускінуў яго на плечы і, не зашпільваючы, расхінуўшы крысы, упоцемку падышоў да пад’езда яе дома. Націснуў дзве кнопкі дамафона, набіраючы лічбу 13. «Чортаў тузін», — паспеў яшчэ падумаць прымхліва (не пашанцуе!), а тут расчыніліся дзверы. На парозе стаяла яна — маленькая, хударлявая, на мілым скуластым тварыку вылучаўся трохі прадаўгаваты дзявочы носік, губкі былі падцятыя, быццам гаспадыня за нешта сярдуе.

Непатрэбны падаў ёй букет чайных ружаў, бутэльку шампанскага, убачыў, як зардзеліся ў яе шчокі, як пытальна падскочыла ўверх левая дужка броваў. Маўляў, віно навошта?..

Максім усміхнуўся — так было задумана.

Яна прапусціла яго ў пярэдні пакой. Той зняў плашч, прылізаў перад люстэркам далонню сваю русявую чупрыну і стаяў, чакаючы далейшага запрашэння. Яна выйшла з залы, запрасіла прайсці на кухню і, несучы шампанскае, ішла наперадзе — свежая, лёгкая, у кароценькай спаднічцы і блузцы, праз якую спакусліва прасвечваліся тонкія шлейкі бардовага ліфчыка. Яна перад ім, высокім і плячыстым, выглядала дзяўчом. Выглядала, магчыма, дачкой, а не палюбоўніцай.

Яны прайшлі на кухню. Стол быў засланы белай сурвэткай, на ім стаялі два прыборы, халодныя закускі. Пасярод стала Ліянка паставіла шампанскае.

— Ну што ж, адкаркоўвай, раз прынёс, — сказала яна, адчуваючы, што злосць яшчэ не прайшла.

Ён узяўся абдзіраць фольгу, адвінчваць падатлівы дроцік і чакаў, пакуль Ліянка прынясе і паставіць перад ім бакалы. Яна прынесла, і бутэлька смачна шчоўкнула, выпусціла на волю лёгкі дымок.

— За што п’ём? — спытаўся ён у гаспадыні. — За нас з табою?..

— Навошта за нас? Давай лепш за іх.

— За каго «за іх»?

— За тых, каго няма з намі…
— А давай усё-такі за нас, здаровых і багатых, і за іх, хворых і рагатых!..
Яна з дакорам паглядзела на яго, адставіла бакал.
— Не трэба з такім здзекам! Навошта пра рагатых?!
— Прабач, паехаў дах! — і раптам знайшоўся: — А ты сама вінавата! Ты водзіш мяне за нос.
— Я за нос?!.. Хіба я хаджу за табой, як цюцька?.. Гэта ты!.. Ты не даеш мне праходу. А пасля чаўпеш пра нейкіх рагатых.
Гэта была праўда, і яму стала непамысна, стала сорамна за свой тост. Ён звесіў ніжнюю губу, туды ж пацягнуўся і ягоны глюгаты нос. Ён не ведаў, чым крыць яе карту. Можа, лепш устаць ды пайсці?! Не, рана, падумаў ён і нагбом выпіў сваё віно. Яна ж усяго прыгубіла, але паставіла свой бакал побач з ягоным. «Ага, усё-такі побач! — падахвоціла яго ратавальная думка. — Што ні кажы, а добры знак».
Яна незнарок наступіла яму сваёй пантофляй на левую нагу, ён і зноў падумаў, што гэта на шчасце. Што лічба 13, нумар кватэры, і левая яе нага, якая сустрэлася з ягонай — гэта на ўсцешаны вечар.
Ён расказваў ёй жыццёвыя гісторыі, перайшоў на анекдоты (скромныя, на мяжы прыстойнага і пахабнага ён адклаў на «закуску», калі добра захмялеюць). Яна слухала, смяялася, і тонкія яе губы распаўзаліся, нясмела адкрываючы белізну дробных дзявочых зубоў. Няма ў яе ўсмешкі, што вянчае твар многіх спявачак, якія дораць гледачу дзве вячыстыя падковы белых, як першы снег, і прыгожых, як часнок, цудоўных зубоў, спакуслівых і зманлівых. Ліяна смяялася неяк тлуста, тоўста і не па-дзявочы рамантычна, і да яе рота прыпадаць, калі папраўдзе, мала каму захацелася б. А вось Максім прыпаў бы, цалаваў бы яе доўга, цалаваў бы да самазабыцця. Ён не ведаў, чаму так з ім, адкуль узялася гэтая хваля жарсці, гэтай неадольнай прагі ўстаць з-за стала, падысці да яе і, павярнуўшы да сябе яе твар, абсыпаць яго пацалункамі ўвесь — ад ілба да вушэй, ад шчок з іх агрэставым пушком да вачэй, да веек яе, пухнатых і мяккіх, нарэшце, знайсці вусны яе і адразу, прыпаўшы да іх, абамлець і згубіць рэшткі розуму. На той час яму хапіла б і гэтага. Прынамсі, ён так разважаў, і хто ведае (ён сам тады не быў у сабе ўпэўнены), пасля вяршыні асалоды, якую даваў яму гэты да болю жаданы пацалунак, можа,



ён пайшоў бы далей, не спыніўся б, хмялеючы і адчуваючы прылій крыві, адрэналіну, новы ўдар току, які спачатку паралізуе, а затым адпускае, і ты адчуваеш, што трапіў у рай.
Ён так і зрабіў. Ён рашуча ўстаў з-за стала, падышоў да яе збоку, але не паспеў нахіліцца — яна сама раптам прыўзнялася з крэсла, быццам ведаючы ягоныя намеры, і павярнула свой твар да яго.
— Не трэба, Макс… — проста і рашуча сказала яна. — Ну, навошта табе?..
— Як навошта? Ты што? — ледзь не закрычаў ён. — Ну, што зрабіць, каб табе спадабацца?..
— А нічога. Ты хочаш быць лепшым, ты будзеш прыкідвацца лепшым? Навошта? Для таго, каб авалодаць мной! Не трэба…
Ён застагнаў.
Яна адвярнулася (можа, і пашкадавала тады, што гэтак адказала яму) і пайшла ў спальню.
Ён за ёй не пацягнуўся, ён усё стаяў нерухома і ціха, быццам не чалавек, а знямелая статуя.
Праз тыдзень, якраз на згоне мая, Косцю, які западозрыў няладнае, пад рукі трапіўся ліст ад Калдунова з Піцера, ён прачытаў яго і канчаткова замацаваўся ў рашэнні ўчыніць дома скандал. Другі, па сутнасці, хаця дубальтоўкай не страшыў, як у першы раз…
Ліяна прадчувала навальніцу і падрыхтавалася да адпору. Хаця што яна магла сказаць у апраўданне? Сказаць, што яна не стрывала свайго слова, дадзенага яму перад вяселлем, што парве раз і назаўсёды з былым айчымам. Што не будзе браць у яго ні капейкі, што яны самі паставяць на ногі Машку.
Або пра ліст, які ён прачытаў. Праўда, яна захоча паставіць яго на месца. Гэта дурная і ганебная звычка — чытаць тое, што табе не адрасавана. За гэта яна і ўчэпіцца. Цікава, што ён скажа ў сваё апраўданне?..
Аднак Косця, скінуўшы ў парозе свой рабочы балахон, пайшоў не на кухню, каб памыць рукі і паесці, — падаўся адразу ў залу, дзе яна чытала кнігу.
— Ты мне скажы, колькі можна так мяне… ганьбіць?!. — твар яго збялеў, пад скурай злосна і адчайна запрацавалі, як жорны, жаўлакі. —Ты мяне… Ты ж абяцала!.. Што ж ты робіш са мною, нягодніца?!

Яна, падрыхтаваўшыся да контрудару, раптам знікла, звяла, як былінка на санцапёку. Кніга выпала ў яе з рук і валялася пад нагамі, а яна сядзела нерухома і ціха, як дзіця, якое нашкодзіла.

— Ты, тваю-бога-рога-маць!.. — перайшоў ён на нецэнзурную лексіку. — Я тут гібею на балоце, зарабляю потам, а яна круціць шуры-муры!.. Да яго Машку? Нізашто! Бач ты яго, бацяня! І ты да яго… паедзеш?! Сцерва!...

Ён, раз'юшаны і злосны, падбег да яе і з усяе моцы схапіў за правае вуха. Ды так балюча і моцна, што ў мочку нешта трэснула.

Яна ўскочыла і, не стрымліваючы наплыву слёз, з усяго размаху адвесіла яму страшэннага ляпіса. Ён не чакаў такога павароту, стаяў агаломшаны і разгублены…

— А ты хам і абразіна! Бач, за вуха!.. Я табе пакажу ўзнімаць руку, паскуда!.. Ды я цябе зараз, смаркача гэтага, запратору на пятнаццаць сутак! Падонак!.. Хто табе дазволіў чытаць чужое пісьмо?

— Яно не чужое, яно наша.

— Яно маё! — зрабіла Ліяна націск на «маё». — І я не твая ўласнасць, я не прыгонная, а ты не феадал!..

Пісьмо ён парваў у той жа дзень, як толькі прачытаў. Ноч не спаў, лёгшы асобна, на канапе. І раніцой, разбіты, з мяшкамі пад вачамі, сербануў трохі з кубка чаю і, не прыхапіўшы з сабой полудзень, вылецеў на лесвічную пляцоўку. І вось зараз, вечарам, ашчэрыўся…

Гэта была трэшчына, тое прадонне, тое ўрвішча, да якога яны падышлі. Праўда, устоялі, хапіла ім розуму і разважлівасці не кінуцца старчма ўніз.

Ліяна ў тую ж скандальную ноч не спала. Яна круцілася на ложку і разважала пра жыццё. «Ну, што ў гэтым благога? Ну, папрасіў, каб прывезла дачку ў Піцер на канікулы. Хаця б на тыдзень. «Даўно вас не бачыў з Машуткай, — так пісаў. — А хочацца бачыць, ажно млею…».

З іншага боку, нашто Канстанцін Мацвеевіч напісаў так адкрыта, быццам не ведае, якой натуры Косцік. Быццам не помніць, расказвала ж яму, што схапіўся ўжо аднойчы за стрэльбу. Было гэта па восені, летась. Яна затрымалася на рабоце, і ён вечарам сеў у машыну і прыехаў у школу. Ліяну ён заспеў не адну — з групай настаўнікаў. Быў Каратай з выкладчыкам працы Іванам Філіпавічам, быў фізік Юрый Уладзіміравіч. Якраз на тую хвіліну, калі ён заляцеў да яе ў кабінет, Максім запрашаў яе на танец.

Вырваў ён тады сваю жонку з гэтага «вярцепа», а дома, распаліўся так, што схапіўся за стрэльбу. Крычаў: «Застрэлю, паскуда! Чаму без мяне?!. Што ў вас за гулянка?…».

Ліяна, нямеючы, адкапыліўшы ад страху ніжнюю губу, маўчала.

## 4

Канстанцін Мацвеевіч Калдуноў не быў чалавекам веруючым. У царкву ён не хадзіў, на абразок не хрысціўся, не хрысціў і сваё дзіця ад першай жонкі. Ні зараз, ні тады, калі, будучы камуністам, не мог, не меў права. Рэлігія была опіумам для народа, і ён верыў у гэта. Такая была ідэалогія, так усмакталася яна ў ягоную кроў, што ў іншае і не верылася: вядома ж, опіум.

Пасля былі гады, калі палі догмы. Калі ішла барацьба з алкагалізмам, тады тапталі ў чэргах людзей за пляшку смярдзючага віна, калі выходзілі на плошчы і патрабавалі дастойнага жыцця, калі радаваліся і верылі, што свабода вярнулася, што п'янкі яе дух неўзабаве міне і застанецца цвярозая разважлівасць, застанецца воля. Але паступова волю агароджвалі калючым дротам, сцягвалі яе горла. Людзям давалі на рукі канапляную зарплату і ківалі перад носам пальцам: не смей ісці супраць нас, мы цябе кормім.

Пасля камуністычнай вакханаліі над святымі рэчамі людзі зноў пацягнуліся ў цэрквы. Канстанцін Мацвеевіч не пайшоў. У Мінску, куды ён пераехаў (тады ён ужо развёўся з жонкай і жыў вольным казаком) і дзе працаваў у гарачым цэху (маці засталася ў Гатчыне), і цэрквы былі, і вярталася служба, і сябры цягнулі яго туды ледзь не за руку, а ён стаяў на сваім: не хачу, не веру! Хто адабраў у яго гэту веру (не хрысціянскую — звычайную, свецкую), ён ужо не ведаў. Які ўладар, які зямны Бог — той, што даканаў вялікую дзяржаву, ці той, хто прыйшоў пасля, ад раллі — не ад асфальту. Але адабраў у яго веру ў тое, што ён чалавек. Не раб, не гнус, не быдла на пожні, а — чалавек. Са сваімі слабінкамі і воляй да жыцця, са сваёй адвечнай надзеяй на лепшае жыццё. Ён цябе гіпнатызуе, ты ў ягонай вечнай уладзе. Чаму слепнуць людзі, чаму прыходзіць да іх зацьменне — і

сёння загадка. Відаць, моцнае энергетычнае поле ў гэтага волата, у гэтага пастуха, раз так вядзе гэты статак, куды яму трэба, і амаль няма збродлівых кароў…

На той час Канстанцін Калдуноў меў пад Мінскам дачу. Там і «захварэў» на камяні. Там з'явілася вера. Але ў іншае. Таварыш па цэху казаў: «І ў камянях ёсць душа. Яны жывыя. Не верыш? На вось паглядзі, — і ён працягнуў камень памерам з далонь, — які ён смешны. На ім нечы твар, ну, няўжо не бачыш? Ну, вось злева…». Калдуноў прыгледзеўся, але ніякага твару не бачыў. Схлусіў, не — сказаў няпэўна: «Ну!..», быццам бачыў. А той распаляўся: «Калі даць гэтаму твару, гэтаму каменю імя, асвяціць яго ў царкве — ён ажыве. Не верыш?.. Дарэмна. І твар ажыве. І душа з'явіцца. Толькі не кожны яе ўбачыць, не кожны пачуе, што яна раскажа». «А хіба душа нешта раскажа?» — усумніўся Калдуноў. «Яшчэ як?!» — аж но згараў ад вар'яцкай ідэі Сяргун, так яго звалі ў цэху.

Тады ж Сяргун даў пачытаць Калдунову адну брашурку, і ён захапіўся. Неяк паехалі яны ў глыбінную вёсачку, а на выгане валун — вялікі і прысадзісты, рассеўся, як пан. Стары, ажно пакрыты сівой барадой моху і лішайніку. Падышлі да валуна, і раптам Канстанцін уявіў сабе, як сядзіць наверсе на камяні чалавек у лапцях і сярмяжцы… Не, не ў лапцях, а ў воінскіх даспехах, а ў руцэ меч. Можа, сядзеў на ім і Усяслаў Чарадзей. Ад такой думкі-мроі раптам шалёна закалацілася сэрца. Ён пашлёпаў рукой па яго волатаўскай грыве (уявілася, што гэта ўсё-такі конь), сказаў ціха: «Ну што, брат, замаркоціўся? Стары ты і замшэлы, але таму і дарагі. Чаго маўчыш?..» І раптам чуе Канстанцін нечы голас — глухі і невыразны, быццам засмужаны вякамі. «А хіба я маўчу? Колькі жыву, столькі і гавару з вамі. Колькі вас пайшло на клады, а я ўсё жыву. Жыву-у-у!..»

А можа гэта вецер вывеў: «У-у-у…», а яму падалося, што голас каменя. Ні разу больш, колькі не прыязджаў сюды, не чуў гэтага голасу, але паверыў тады ў тое, што камень жыве. І што ў яго ёсць душа…

Нічога прыкрага ў гэтым Канстанцінавым захапленні не было. Дзівак, што з яго возьмеш? Многія ставіліся да яго з разуменнем: і тыя, хто жыў пад Мінскам побач, па-суседску з ягонай дачай, і Кацярына, да якой ён напрасіўся ў мужы. Праўда, ён дужа не расказваў ёй пра сваю «каменную хваробу», тым больш, што дзесяць камянёў — дарагіх сэрцу і святых — ён пакінуў у маці, якая пераехала ў Піцер. Тут, жывучы з гэтай жанчынай, ён захапіўся іншым — больш усцешаным і для яе і, што вельмі важна, для яе адзінай дачушкі Ліянкі. Ён узяўся за лобзік. Успомніў, як ладна ў яго выходзіла выштукоўваць, калі меў сваю дачу. І маркізы разныя над вокнамі, і ажурныя ліштвы і ламбрэкен, нават прыбіў на франтоне лазні словы, вышэй, каб бачылі і чыталі ўсе: «Заходзь — не бойся, пакідай — не плач». Гэты жарт не кожнаму падабаўся. Жылі недалёка ад яго дачы важныя чыны, яны і касавурыліся, калі праязджалі міма, яны і настоялі, каб зняў гэты варварскі, як яны казалі, надпіс. Ён зняў, а выпілаваныя на дошках з ліпы словы не выкінуў — захапіў з сабой, калі пакідаў дачу, якую прадаў амаль за бясцэнак.

Спатрэбіліся яны, калі Кацярына набыла сабе дачу. Недалёка ад мястэчка, дзе жылі. Летнік быў нішто сабе, здавалася б, сядзі там лета і не рыпайся, але Канстанцін Мацвеевіч не сядзеў склаўшы рукі. Клопатаў у яго было па горла. Дзякуючы яму і лазня набыла выгляд малайцаваты, і на яе франтоне, як і пад Мінскам, ён прыбіў свой славуты надпіс.

Тут надпіс усіх пацяшаў. Асабліва моладзь. Ідзе каторы падлетак паўз дачу, не-не, ды і падбяжыць, пастукае кулаком у вароты. Канстанцін Мацвеевіч не крыўдаваў, не ганяў дурасліўцаў: няхай, сам некалі такі быў.

Пасля, як з'ехаў да маці, а Ліянка нарадзіла ад яго Машку, летнік прадалі, многае зробленае рукамі майстра засталося новаму гаспадару. Які лёс яго вырабаў, Канстанцін Мацвеевіч не ведаў. Падмывала не раз, калі бываў у гэтых мясцінах, заехаць, паглядзець, ды ўсё не ставала часу. У апошні свой прыезд усё ж зазірнуў. І ахнуў: счарнелі ягоныя вырабы, аблушчылася на іх фарба. Словам, гаспадар занядбаў тое, што для яго, майстра, было блізкім і дарагім.

Затое шануе Ліянка розныя шкатулачкі, казачныя вырабы, выпілаваныя лобзікам (тая ж двойка коней, запрэжаная ў царскія санкі). Муж яе бачыў іх, але не западозрыў нічога. Як і па біжутэрыі. Калі б не гэтая аздоба і дзявочая прынада, наўрад ці растапіў бы Ліянкіна сэрца Канстанцін Мацвеевіч. Колькі ён ёй накупляў усякіх кулончыкаў з ланцужкамі, вісюлек, бразготак — аднаму Богу вядома, а аднойчы нават расшчодрыўся на залатыя завушніцы. Хадзіла яна

тады ў сёмы клас, грудзі ўжо напіналі тугую сукеначку, былі з добры кулачок, і ён, не кажучы нічога Кацярыне, паднёс падарунак да дня яе нараджэння. Ліяна не чакала гэтага і, расчуленая і ўсхваляваная, павісла ў яго на шыі. Ён цалаваў яе ў лоб, у мокрыя вусны, хмялеў ад цнатлівага паху дзявочага цела, ад таго, як пахла ў яе пад пахай — аерам упераменшку з палявымі травамі. З таго падарунка, з залатых завушніц для Ліяны, і закралася ў Кацярыны падазрэнне, хаця яшчэ і неўсвядомленае, цьмянае, што ў дачкі з яе новым мужам не ўсё так па-сваяцку ці, лепш сказаць, не так, як у айчыма з падчаркай.

Калі Кацярына, нямеючы і трацячы прытомнасць, вытурыла яго з кватэры, ён нейкі час жыў у сяброў. У тым жа мястэчку, за кіламетр ці паўтара ад яе прыватызаванага жылля, пакінутага ёй і Ліянцы нябожчыкам-мужам.

Канстанцін Мацвеевіч не баяўся, што Кацярына пойдзе ў міліцыю, што ад гневу, ад падмочанай рэпутацыі ашчэрыцца, даруйце, школа. Ён чамусьці верыў у сваю шчаслівую планіду. Меў надзею на тое, што сустрэне яшчэ і Ліянку, і сваю дачушку Машку…

Аднойчы вечарам, калі Калдуноў з Алесем Іванавічам, настаўнікам фізікі, у якога ён спыніўся на нейкі час, клаліся спаць, у дзверы пастукалі. Гаспадар адчыніў дзверы. На парозе стаяла Кацярына, уся сплаканая і мокрая да ніткі.

Алесь Іванавіч запрасіў яе на кухню, памог зняць мокры плашч, запрасіў на чай. Яна не адмовілася. Канстанцін Мацвеевіч, які ўжо ведаў па голасу, што за госць, нейкі час не паказваўся, адседжваўся ў зале, пакуль не здаўся.

Яна, убачыўшы яго, узнялася з-за стала, бледная, з прыпухлымі губамі і чырвонымі ад слёз вачыма.

— Што здарылася? З Ліянкай? Што???

Яна не села, яна так і стаяла, моўчкі гледзячы на яго шырока расплюшчанымі вачыма.

— З Машкай? Ну, не тамі! Ну, Кацюха!..

— А чаму табе баліць за іх, чужых табе людзей? А можа, я сама хворая?..

— Чаму чужых? Якраз і не чужых…

Яны селі, быццам згаварыліся — адначасова. Сядзелі насупраць адзін аднаго, а ў вочы не глядзелі. Калдуноў калупаўся відэльцам у гарніры, яна церабіла, перабірала пальцамі беражок беласнежнага настольніка.

Няёмкую і прыкрую цішыню абарваў Алесь Іванавіч.

— Можа, па келіху віна, га?

— Можна, — згадзіўся Канстанцін Мацвеевіч.

Гаспадар вынес бакалы. Наліў госці, а потым Канстанціну і сабе. Выпілі. Гаворка не клеілася. Гаспадар адчуў сябе лішнім, папрасіў прабачэння і ўстаў з-за стала.

— Кацюха, што ў вас? Ну, не тамі!..

— З'язджай, інакш я цябе… Сам ведаеш, жанчына я гарачая…

— Чаму?

— Ты ў маім горадзе. У маі-і-ім, разумееш?! Я не магу так. Ты нягодна паступіў, ты брудны і ганебны… Я цябе ненавіджу. Адчальвай, каб і паху ад цябе не засталося!..

— А як жа Ліянка з маёй дачушкай?

— Я табе сказала, едзь да сваёй мамкі! Ты нам не патрэбны… Нікому з нас…

Ён устаў, зморана, з хрустам у каленях. Яна не прамінула падкалоць:

— Гэта ж трэба, такі… са сракі пясок сыплецца, а ён дзіця нажыў. І ад каго? Ад горкага дзіця. Ад майго дзіця… Дай ты ёй закончыць школу, няхай паступіць у інстытут. А ты тут, як асот, як дзядоўнік, чапляешся. Адкасніся ад нас!..

Яна, гнеўная тварам, бледная, вылезла з-за стала і моўчкі пайшла ў пярэдні пакой. Канстанцін Мацвеевіч паспрабаваў памагчы адзець ёй паліто, але яна рашуча адкінула яго руку.

Калдуноў з'ехаў…

З'ехаў, а забыць не мог ні Ліянкі, ні дачкі. Пісаў лісты, дасылаў грошы. Нямала дасылаў, дасылаў, не скупячыся: балазе, акрамя пенсіённых грошай, меў нямала ад выпадковых работ. Што ні кажы, а Піцер!.. Ім жа з матуляй на пражытак хапала яе блакаднага «пенсіёну».

Так доўжылася, пакуль не паступіла Ліянка ў інстытут. Вучылася на дзённым аддзяленні, і ён часцяком садзіўся ў цягнік і прыязджаў у горад, дзе яна вучылася. Ішоў у інтэрнат, падоўгу сядзеў ля вахцёркі, пакуль не з'яўлялася яна. У гурце шумных дзяўчат, сама такая ж шумная і вясёлая. Убачыўшы яго, казала сяброўкам: «Пакуль!», рабіла,

павярнуўшыся ўжо да іх спінай, маленькай ручкай нейкія па-дзявочы какетлівыя рухі і падыходзіла да яго.

Ён уставаў з крэсла, вахцёрка без слоў прапускала іх у пакой, але папярэджвала: «Ліянка, толькі не пазніся з кавалерам. У яго калі цягнік?» Ён моўчкі праходзіў міма вахцёркі, прапусціўшы ўперад Ліянку. «А я хачу ў цябе заначаваць», — проста, без хітрыкаў прызнаўся Калдуноў. «Яшчэ што?!» — сказала і азірнулася, апаліўшы яго позіркам сваіх чорных, як смоль, вачэй. Ён не здаваўся: «У нас з табой дзіця. У нас Машка… А ты паводзіш сябе, нібы тое дзіцё». Яна моўчкі ўзнімалася на трэці паверх інтэрната, і як толькі павярнулі яны па калідоры налева, адказала, ужо больш памяркоўна: «А куды мне дзяўчат? Іх трое. Куды іх?..» «Знойдуць сабе прыстанак, Ліяначка, — ён спыніў яе хаду, павярнуў да сябе тварам. — Я кахаю цябе, разумееш? Ты будзеш… Будзь маёй жонкай, Ліянка!»

Яна рассмяялася. Неяк недружалюбна (а можа, так падалося Канстанціну Мацвеевічу), нават з ноткамі варожасці. «Ты што? Ты даўно глядзеў у свой пашпарт? Колькі табе?..»

Яна пытаннямі біла яго па галаве, нібы тымі камянямі, што ў яго ў Піцеры, ён толькі спраўляўся адмахвацца і маўчаў. Яго раптам апаліў сорам. Быццам ён скрадваў нешта недазволенае. Яму было сорамна і за тое, што нядаўна адзначыў свой 50-гадовы юбілей, а яна нават не выбрала часу павіншаваць яго (хаця б дзынкнула ў Піцер, хаця б пачуў ён яе аксамітны галасок, і яму хапіла б), і за тое, што дзіця ад яго, старога ўвогуле чалавека…Словам, увесь час тачыў шашаль, залазячы ў ягоны мозг, у самыя сакральныя ўчасткі гэтага шэрага рэчыва і тармазіў іх, быццам сцвярджаў, што ўсё ён робіць не так, не па-чалавечы, што за такія ўчынкі ў нашым грамадстве трэба садзіць у турму.

Яны зайшлі ў пакой. Яна запаліла святло: восень, змяркаецца рана, акрамя гэтага, і вярнулася з інстытута позна. «Дзе бавілася?» — запытаўся ён, зняўшы плашч і павесіўшы справа за шырмай, у парозе (ведаў, дзе, бо прыязджаў сюды не першы раз). Думаў, што зазлуе, адкажа нешта дзёрзкае, аднак яна была спакойнай. «Секцыя ў мяне, — сказала. — Хаджу на валейбол». «Ты будзеш добрай валейбалісткай, — пахваліў. — Вунь якія ў цябе ножкі! Так і хочацца іх цалаваць…». «Толькі ножкі?..» — спытала і гарэзліва засмяялася, здымаючы з шыі і з запясцяў абедзвюх рук сваю біжутэрыю з аліўкавага дрэва.

Калдуноў усміхнуўся. Падышоў да тумбачкі, дзе ляжала яе аздоба, узяў у руку. «А прыгожая… Калі купляў, не думаў, што такая… ну, табе да твару. Я куплю табе яшчэ больш арыгінальныя, куплю каралі, якіх не насіў ніхто яшчэ. Ні каралева, ні прынцэса…». «Не трэба, Канстанцін, — раптам запярэчыла, можа, і нечакана для самой сябе (яна любіла такую аздобу, марыла пра яе). Пасля спахапілася: «Ты лепш перадай што-небудзь для Машкі». Ён нямоцна, але шчыра шлёпнуў сябе па лбе, маўляў, во шэльма, пра дачку ж забыўся! Зараз жа дастаў з кішэні пяць купюр, ад якіх у Ліянкі адразу засвяціўся твар: такіх грошай яна даўно ў руках не трымала. «Купі дачушцы пухавічок, боцікі, купі і сабе абнову. Словам, гэта ёй і табе, дарагая!..».

Ён прыгарнуў яе да сябе і трымаў так доўга, удыхаючы пах яе валасоў, свежых, пасля душа, з водарам мяты і аеру (пасля валейбола дзяўчаты абавязкова стаяць пад душам), адчуваючы, што губляе кантроль над сабой, разумеючы, што зараз не вытрымае, узніме высока яе на руках і панясе… Далёка-далёка, туды, дзе заблудзілася іхняе шчасце, каб сустрэць там і яе маладую, і сябе маладога, калі адслужыў у арміі і вярнуўся ў родны Ленінград да маці. Праўда, тады адразу ж і ажаніўся. Падвярнулася гэтая Светка, гарадская, шызахвостка, спакусіла, павяла яго, як цялё, у ложак.

Не, ён і папраўдзе цялё. З першай сустрэчнай пераспаў і адразу ў ЗАГС. А навошта было? Ну, ці мала пасля ложка расстаюцца, разыходзяцца, як у моры караблі? Нават раз’язджаюцца па розных гарадах. Гэта ж не раней, калі маглі змусіць. Нават наўмысна падкладвалі жаніха да дзяўчыны, а назаўтра патрабавалі шлюбу. Як вось у «Родных дзецях» Гілевіча. Калі б ён не раставаў адразу, не раскіс, а паехаў да сваякоў у Беларусь і калі б тады сустрэў Ліянку. Усё «калі б» ды «калі б»… Час не прымае ўмоўнага ладу. Ну, ды няхай, чаму ж нельга палетуценнічаць. На той час Ліянцы было б не чатырнаццаць, а ўсяго адзінаццаць год, і на яе ён, напэўна, і не звярнуў бы ўвагі. Зноў калі б сустрэў Кацярыну. Яна на той час была ўжо ўдавой…

Тую ноч яны правялі ў інтэрнацкім пакоі ўдвух. Ноч, якую ён запомніў на ўсё жыццё. Яны не спалі, ён цалаваў яе, усю, дарэшты — ад пятак да кончыкаў пальцаў, ад кален да пахвы, цалаваў бурыя

радзімкі на ягадзіцы і там, дзе сходзяцца ножкі, рухаўся, сутаргава і хапатліва, вышэй, да пупка, у якім нечакана і зманліва бліскала ў паўзмроку інтэрнацкага пакоя сярэбраная завушніца ў форме тамагаўка. Ён перабіраўся да яе грудзей, якія яшчэ не страцілі сваёй дзявочай пругкасці. Там доўга бавіўся, пакуль іх не даследаваў, да самай маленькай плямкі, да самай клетачкі і крывяногa сасудзіка, а затым пераходзіў да твару, дзе яму таксама ставала асалоды і клопатаў.

Пасля такога абследавання ён яе абхопліваў, яны, голыя, спляталіся ў адно, як мышцы жаўлакоў на твары, і ляжалі доўга, чуючы, як збіваюцца ў адно і дыханне іхняе, і іхнія сэрцы…

На досвітку ён прачнуўся першым, узняўся, сеў на край ложка. Ён чуў, што не спіць і Ліяна.

— А ведаеш, што мне ўспомнілася? Быў месяц май, як вось і зараз. Мы пад бэзам. Помніш, бэз на вашым летніку? І салаўі. Помніш, як выкідвалі яны свае «каленцы»? А табе раптам зблажэла. Ад чаго, я і зараз не ведаю. Ты стала белая, як мел.…

— Я табе не казала: тады я зацяжарала ў другі раз. Табе пра гэта не гаварыла. Ды і матулі. Яна мяне забіла б…Ну, і пайшла да доктара…

— Ай-яй-яй, што ты нарабіла! — дакараў ён Ліянку. — Калі б не твой аборт, мы засталіся б з табой напажыццёва.

— Чаму?

— Не ведаю. Хіба я пакінуў бы цябе з двума дзеткамі? Ніколі!

— Матуля не вынесла б гэтага!..

— Вось-вось…Так што помніш той бэз і той аборт. М-да!.. А бэз быў белы-белы, нібы твая фата…

— Якая фата? — не зразумела яна.

— Фата, якая будзе. Усё ў цябе будзе. І шчасце ў нас таксама будзе! Вялікае шчасце, шалёнае…

— Ну, скажаш!

— А што? Вось зараз вазьму і павяду цябе ў загс. Так што рыхтуй пашпарт…

Ліяна ўздыхнула, узялася апранацца: трэба было рыхтаваць снеданне і бегчы на лекцыі..

Яна заканчвала інстытут, і на той час яна ўжо спісвалася са сваім будучым мужам. Што яна магла адказаць Канстанціну Мацвеевічу на просьбу даставаць пашпарт? Каб быў больш настойлівы, то і не пытаўся б, узяў бы за руку і павёў…

Як яны знайшлі адно аднаго, Ліяна і Косця, дзяўчына не помніць, можа, калі матуля пісала ліст і ўпомніла пра салдата, бацькоў якога добра ведала. Словам, спісаліся, і калі той вярнуўся са службы, Ліяна Віктараўна працавала ўжо ў школе. Сустрэліся ў ягоных сяброў на кватэры. Запрасіў Косцік, гэты прыгажун з пухленькімі шчочкамі амура і такімі ж пульхнымі, па-дзявочы зманлівымі губамі. У першы ж вечар ён палез цалавацца, і яна, ахмялелая ад віна, паддалася. Хаця ўсё яе нутро спачатку супраціўлялася, але ён сказаў магічнае: «Ты будзеш маёй. Ты мая! Я жанюся… Заўтра ж… І дзяўчынку ўдачару….», яна і растала…

Перадалі Калдунову, што Ліянка выйшла замуж, і ён, прыгнечаны і абражаны, перастаў дасылаць ёй лісты. Праўда, грошы перасылаў, і немалыя. Употай, каб не ведаў муж: Канстанцін Мацвеевіч кахаў яе так, што не мог, не меў права разбіць на друзачкі гэтае крохкае, як шкло, гэтае іхняе светлае і хмельнае шчасце.

## 5

Машка расла цыбатай, выцягвалася ўверх, рабілася нейкай нясклёпістай, рэзкай у рухах і ўчынках. Яна не слухалася ні матулі, ні «дзядзькі Косткі» — так яна называла айчыма. Аднак у шостым класе ў яе многае памянялася. Яна стала больш задуменнай, пацішэла, ва ўсім слухалася маці, а вось да Косціка па-ранейшаму ставілася неяк грэблíва. Яна не прызнавала яго за бацьку. Чаму, Ліяна Нехвядовіч не ведала.

— Дзе твой Костка? — неяк пыталася яна ў маці.

— Машка, што гэта за фокусы? Ты ж добрая, ты ж ласкавая, навошта так?

— Ён нам, як костка ў горле…

— Не кажы так. Мне ён патрэбны. Ён мой муж, а табе тата.

— Ха-ха, тата! Ды калі хочаш, я магу яго ў цябе адбіць…

Ліяна задыхнулася: якой распустай будзе гэтае цыбатае дзяўчо? Няхай толькі крыху падрасце, з'явяцца тугія мячыкі дзявочых грудзей, акругліцца ззаду тое, што ніжэй спіны, і хлопцы будуць млець.

У яе такое ж німфатычнае прыцяжэнне, як было некалі ў яе самой, у Ліяны. Адно адрознівала іх — рост: Машка высокая, з не па гадах зграбнымі ляжкамі. І яшчэ — у яе была свая «разынка», не радзімыя плямкі, як у маці, а шырокі, на палец, і звілісты, як змейка, шрам на левай ляжцы. Ён застаўся пасля таго, як суседскі хлапчук, падлетак, незнарок паласнуў па назе нажом. Замахнуўся, каб зрэзаць тоўстую галінку, а тут падвярнулася Машка. Шрам быў на пядзю вышэй калена, і вакол гэтага шрама дзівосна раслі валасы. Густа, раслі высокія і нават, здаецца, больш цёмныя, не такія бялёсыя, хаця ўсё адно маладзенькія і мяккія, як і належыць у маладой дзяўчынкі.

Вылучала яе з кагорты іншых дзяўчынак класа і яшчэ адна акалічнасць, якая і дабаўляла ў ёй вобразу набокаўскай німфеткі. Гэта выгін яе спіны. Лёгкі, спакуслівa-жывы, быццам унутры яе, на ўсю спіну сядзеў не стрыжань, быццам там была ўжыўлена рухомая спружына. У яе, Ліянкі, усё па-іншаму, у яе спіна не мае такога выгіну, і наогул ходзіць яна ў свае гады так, быццам у спіне сядзіць крук. Ідзе, сагнуўшыся, чакане крок, нібы вайсковец, або быццам забівае падэшвамі цвік. Не гэтым у свой час яна магла ўзяць Калдунова, яна ўзяла какетлівасцю — той зброяй, якая ніколі практычна не дае збояў. У Машкі калі і была какетлівасць, то на сотую долю ад той, што было ў яе, матулі.

А яшчэ, акрамя выгіну спіны, у Машкі спакуслівa выступаў ужо дзявочы жывоцік, з якога спаўзаў шырокі, ледзь не на далонь, рэмень з жалезнымі клёпкамі. На жывоціку ляжала спражка, ляжала і манілa да сябе, штурхала на самыя рашучыя ўчынкі…

Косцік, між тым, мала звяртаў увагі на гэтыя дзявочыя фокусы і фантазіі. Аднойчы напрадвесні, калі моладзь, якая прыехала з горада, паваліла ў мясцовы РДК, Косцік запрасіў на танцы і Машку. Тая без матулінага дазволу пайшла, і вярнуліся яны ноччу. Ліяна крычала:

— Дзе была?!. Ды я цябе зараз, смаркачка, пастаўлю ў кут!.. Як у дзяцінстве… Ты даскачашся ў мяне!..

За дзвярыма спальні, дзе Ліяна адчытвала дачку, стаяў і слухаў пагрозы Косцік. Не вытрымаў, зайшоў да іх. Ліяна накінулася на яго:

— А ты што?. Гэта так ты выхоўваеш Машу? Сарваў. І дзе вы былі?

Заўважыла, што ў Машкі парваныя на каленях джынсы, яшчэ больш узарвалася:



— Дзе вы… качаліся?..

Ад апошніх слоў Косцю хапіў мандражны смяшок. Ён сціснуў пальцамі рукі яе плячо, сказаў з націскам:

— Гавары, ды не загаворвайся, мілачка!..

Ліяна зразумела: ён — не Канстанцін Мацвеевіч, не зманіць яго гэтае дзяўчо-німфетка…

Неяк вечарам, пасля школы, Машка, корпаючыся ў сямейных альбомах, раптам натрапіла на даўнія — зжаўцелыя ад часу, месцамі парваныя і выцвілыя здымкі. На адным з іх пасярэдзіне сядзеў на крэсле з высокай спінкай забарадзелы чалавек з прыгожым і мужным тварам. Вочы, звужаныя, выразныя, глядзелі неяк насцярожана і трывожна, быццам чалавек нечага баяўся. Побач з ім, злева, стаяла малая дзяўчынка ў доўгім плацці, справа, паклаўшы руку на плячо мужчыны, нахіліла галаву маладзіца з доўгай чорнай касой. Відаць, жонка таго мужчыны, што сядзеў. На ёй была светлая спадніца, зверху — ліловая шнуроўка, відаць, модная ў тыя часы. На зграбных нагах, трохі вышэй за калені, хвацка сядзелі цёмныя гетры. Жанчына была ў белых туфліках.

Машка не ведала, хто на здымку, і падышла да матулі. Тая ўзяла ў рукі здымак, доўга стаяла з ім, рашаючы, расказваць ці змоўчаць пра сваіх далёкіх продкаў. Гісторыя з яе прапрадзедам мела нямала няпэўнага, на мяжы явы і хваравітай фантазіі тых, хто дамагаўся давесці (толькі каму і навошта?), што продкі паходзілі з дваранства або былі панамі, памешчыкамі, фабрыкантамі, кім заўгодна, а толькі не сялянамі ды прыгоннымі. Тым не менш Ліянка ў легенду верыла, ёй чамусьці здавалася, што ў яе жылах цячэ яшчэ, клякоча блакітная дваранская кроў, і вытокі гэтага незвычайнага крывянога току зыходзілі ад прапрабабкі Вольгі — маці дзеда Янука. Усё па бацькавай лініі Ліяны, тады, з таго далёкага пачатку XIX стагоддзя, і адрасталі кволыя карэньчыкі дваранскага роду Нехвядовічаў. Праўда, тая Матрона па лініі маці была кітайкай, а вось бацькам (біялагічным, сапраўдышнім) у яе быў пан Тадэвуш Нехвядовіч.

Жыў памешчык недалёка ад іхняга мястэчка, за борам, дзе разлогам ляжалі ягоныя землі, недзе недалёка, казалі, рос прыгожы і дагледжаны лес. У пана Тадэвуша Нехвядовіча быў свой вятрак, былі дзве карчмы, куды сцякалася нямала чорнага люду — і ў будзённы

час, і ў святы. У корчмах на другім паверсе былі адведзены нумары для начлегу, так што кожнага, хто быў пры кашальку і хто не мог дацягнуць пасля шынка дадому, зацягвалі на другі паверх і адводзілі яму нейкую каморку. Вядома, былі, як зараз кажуць, VIP-нумары, іх было два ці тры на ўвесь паверх, аднак і яны былі запатрабаваны. Дарэчы, і нумары эканом-класа таксама былі запоўнены. Пан дазваляў карчмару ці аканому прымаць на другім паверсе і «напавер», бо спагнаць грошы за паслугі яму было няцяжка. Адраблялі на панскім полі ці плацілі іншым, не абавязкова грашыма.

У панскім маёнтку працавала пакаёўкай маладая і гожая дзяўчына, Вольга. Быў у яе кавалер, стаяла яна з ім да світальнай зоркі, цешылася сваёй маладосцю, сваім шчасцем: усё-такі Мікола не быў зноскам, быў працавіты і майстравы. Але аднойчы дарогу ім перайшоў пан Тадэвуш. Выклікаў неяк ён яе да сябе ў кабінет, доўга мераў яго ўздоўж і ўпоперак сваімі крывенькімі нагамі, а пасля выціснуў праз зубы:

— Ты хочаш у мяне працаваць?

Тая недаўменна пагледзела на яго з-пад бялёсых броваў. Маўчала.

— Ну, чаго маўчыш, каханка?

Твар пана Тадэвуша быў лагодненькі, а вочкі, маленькія, як у ліса, і прыгожыя, пажадліва абмацвалі яе зграбную постаць. Вольга зразумела, з трывогай, трохі асуджана, на што намякае той, і адказала няпэўна:

— Што пан мае на ўвазе, не ведаю. Хіба я дрэнна працую?

— Ты можаш лепш працаваць. Ты будзеш маёй каханкай. Я зайду вечарам па цябе...

І, не чакаючы ад яе адказу, адвярнуўся да кніжных паліц, даючы зразумець, што гаворка закончана.

Тая ноч, якую правяла Вольга з панам Тадэвушам, была першай спробай маладой дзяўчыны ўвайсці ў асаблівы давер да пана Нехвядовіча. І наступны вечар быў іхні, і наступны. І так доўжылася цэлы месяц, пакуль пан Тадэвуш не з'ехаў па сваіх справах у Пецярбург. З'ехаў, каб паказацца тут, у сваім маёнтку, у той час, калі Вольга хадзіла цяжарная. Аканомка, Клаўдзія Пятроўна, сычэла на яе пры кожнай нагодзе: і падлогу мые не так, і нават не там, дзе трэба, і неакуратна запраўляе ложкі, а аднойчы пакаёўка разбіла прывезеную з Польшчы панам дарагую падлогавую вазу.



— Я незнарок, — апраўдвалася яна. — Я не хацела…

— Не хапала яшчэ, каб біла знарок! Ты валацужніца! — прыбівала тая да ганебнага слупа пакаёўку. — Прэч з двара, пакуль не прынесла нам байструка!..

А тут і пан прыехаў, асадзіў Клаўдзію Пятроўну, сказаў, каб панну Вольгу не чапала. А пасля паслаў хлопчыка, які быў тут на пабягушках, каб той знайшоў Міколу, нарачонага Вольгі, і наказаў яму быць у яго неадкладна.

Размова ў мужчын адбылася цяжкая. Пан Тадэвуш не прасіў — патрабаваў ад дзецюка, каб той прызнаў дзіця, якое народзіцца, за сваё. Ён наладзіць і вяселле, і прыме яго на службу.

Мікола меў мужчынскую годнасць і сказаў пану адкрыта і дзёрзка:

— Думаеш, табе ўсё сыдзе з рук? Ты нягоднік. Ты сапсаваў… Я не магу дараваць табе такой ганьбы!

— Мне… дараваць?!. — ажно задыхнуўся той ад злосці. — Ты, пся крэў, ды я цябе ў кайданы… у Сібір… Згнаю, мужычае ты адроддзе!

І згнаіў бы, і дамогся б таго, каб выслалі Міколу туды, куды Макар не ганяе цялят, аднак умяшалася аканомка, папрасіла:

— Ласкавы пан, даруй яму гэтыя конікі! Даруй у імя таго, што я служу вам верай і праўдай вось ужо дзесяць год. Мікола — мой пляменнік. Не губіце яго, адпусціце з Богам!..

Ні вяселля, ні Сібіры не было. Перад тым, як абрадзініцца, Вольга сышла з панскіх пакояў да бацькоў у вёску. Хацелася забыцца на тыя ночы, якія правяла пад прымусам, а тут і Мікола раптам з'ехаў некуды за свет. І бацька папрасіў:

— Не дурніся, дачка, ідзі назад! Свая ж крывінка… А што ад пана? Яно мо і добра: усё-такі панскае дзіця будзе. Можа, што і нам ад пана перападзе.

Уведаў пан пра тое, што збіраецца раджаць яго каханка сярод сялянскіх лахманоў, і накіраваў да Вольгі свайго лекара. Той на брычцы, як паненку, прывёз яе зноў у двор, тут яна і нарадзіла Івана. Пан называў яго Янкам і перадаў свайму нашчадку кавалак зямлі. І калі Янка пасталеў, выцягнуўся, стаў такім жа статным і прыгожым, як і пан Тадэвуш, яго не называлі інакш, як пан Янук. Маці Тадэвуша, Хэлена, не хацела прызнаваць яго за паніча, аднойчы адаслала некуды далёка, нібыта па справе, адкуль той доўга не вяртаўся. А Янук

знайшоў за светам сабе гожую дзяўчыну, згулялі там вяселле, балазе маладыя паспеў закласці свой кавалак зямлі, узяўшы прыстойны крэдыт. Так што грошы ён меў.

Вярнуўся Янук на радзімую зямлю, але да пана на службу не пайшоў, асеў у горадзе. Вось на здымку, гожы ды забарадзелы, і быў гэты дзед Янук са сваёй прыгажуняй з доўгай касой. Побач з імі тулілася да бацькавага пляча дачка Марыся. Марыся была матуляй дзеда Захара, які рана памёр — ад сухотаў. Ад яго была Кацярына — маці Ліянкі, якой таксама ўжо з імі не было…

Вось такая гісторыя іхняга роду па лініі дзеда Захара.

Пасля таго, як расказала Ліяна дачцэ пра свой, уласна кажучы, дваранскі род, тая нечакана звяла, стала нейкай задуменнай. Назаўтра ж папрасіла:

— Мам, а падары мне свой тамагаўк!..

— Што-о-о? — ажно задыхнулася тая. — Ты пра гэта павінна думаць?

Націск зрабіла на слове «гэта», але пасля хвіліннага даччынага канькання ўсё ж здалася. Падумала: і Косцік касавурыцца ўсё на гэтую забаўку, пытаецца не раз, хто падарыў. І кожны раз яна адказвае, што купіла сама, і кожны раз бачыць, адчувае, што той не верыць, як толькі даходзіць яго рука да яе пупка, спыняецца і не лезе далей, ніжэй за жывоцік, адторгвае руку Косцік і падоўгу маўчыць. Мусіць, здагадваецца, чый гэта падарунак. Таму і здалася, каб лішні раз не выпрабоўваць Косцікавы нервы, не псаваць яго гарачую кроў.

— Глядзі, Машка, толькі перад сяброўкамі… Не перад кавалерамі. Хваліся, але будзь сціплай, не вылучайся…

— А ты была такой жа?

Тая не адказала. А што яна магла ўвогуле дачцэ сказаць? Што сама некалі спакусіла айчыма, як казала баба Яніна (па мамінай лініі) і «дагірзалася», нарадзіла ў дзеўках. Праўда, сама не шкадуе, а што кажуць людзі — на гэта начхаць і забыцца. Не быць жа тым чыноўнікам з чэхаўскага апавядання, які памёр, просячы прабачэння…

Бліскучая сякерка адразу ж трапіла на Машчын пупок. Схадзіла яна ў касметычны кабінет, там і зрабілі так, як хацела. Медсястра, якая ўжыўляла тамагаўк, пасмяялася: «Калі захочаш забаўку на палавыя губы, прыходзь». Сказала са здзекам. Так здалося Машцы,



і яна адрэзала ў адказ: «І на губы павешу, і на клітар. Каб ні адна зараза не залезла, куды не просяць». «А калі па ўзаемнай згодзе і калі добра папросяць?» — смяялася медсястра. «Тады тое і будзе», — не збянтэжылася дзяўчына, узняла з крэсла свой выгінасты стан, правяла рукой па жывоціку, які аблягала вузкая спаднічка, паправіла раменьчык, быццам ляжаў ён на жывоціку нязграбна, і, круцячы па-дзявочы недаразвітымі клубамі, выйшла з кабінета.

Гэтая какетлівасць у яе была штучнай, хацелася паказаць сябе дарослай, каб не насміхаліся розныя медычкі, якія робяць усё ёй не дарма, яна ім плаціць за паслугі, і плаціць нямала. «Калі трэба, навесяць там, дзе захачу, і замочак, — падумала Машка. — Мне ўжо чатырнаццаць. Мамка ў такія гады круціла ўжо з дзедам Косцем. Праўда, які ён дзед — яшчэ па-свойму прыгожы і галантны…»

Падумала так і схапіла сябе за руку: не трэба гэтай фрывольнасці, гэтага крыўляння. Прычым тут дзед, якога яна мала ведае, у яе ёсць свой кавалер — таксама Косця (гэта ж трэба — такое супадзенне!), хаця як складзецца з ім у жыцці, яна не ведае. І не хоча пакуль што ведаць: трэба вучыцца і здаваць у гэтым годзе выпускныя экзамены за дзевяць класаў. Яна хоча быць артысткай, як і хацела мама…

Той Косця, яе кавалер з адзінаццатага класа, быў хлопцам рахманым і нясмелым, ні разу яе не пацалаваў, хаця яна хацела гэтага. Калі выбягалі на калідор з класаў на перапынак, яна быццам выпадкова аказвалася там, адкуль ён меўся выйсці — спаважна, не падазраючы пра тое, што сустрэне яе. Яна бачыла яго, але не падыходзіла. «Няхай ён сам, ён жа мужчына», — думала так і цікавала за ім употай. А ён адчуваў яе цікаўны позірк, ведаў, што падабаецца, і аднойчы, калі вясна абудзіла ў ім нечаканы прыліў гармонаў, падышоў да яе і сказаў:

— Ты Машка? А я Косця. Прыходзь вечарам у парк. Пасядзім…

Яна прыйшла, і яны сядзелі дапазна. Гаварылі пра зоркі, пра ўсё, што цешыла іх маладыя сэрцы. На трэцім рандэву ён, бачачы, як яна дрыготка павяла плячамі, спытаў: «Табе золка? Ты ўся дрыжыш!», але адказу не дачакаўся, прыгарнуў яе і пацалаваў у вільготныя вусны. Яна пакорліва чакала, пакуль ён цалаваў, шукаючы сваім языком яе, халодны і непадатліва-шорсткі, і неўзабаве выпусціў яе з абдымкаў. «Табе непрыемна? Што я… цалую?» Яна гарэзліва засмяялася, ускочыла з лаўкі і пабегла. Ён узяўся яе даганяць. Дагнаў, падхапіў на

рукі. «Пусці, шалянец!» — сказала яна ўсё гэтак жа гарэзліва, смеючыся, але ён нёс яе, лёгкую, гнуткую, як вугар, данёс да альтанкі, пасадзіў на стол. І зноў прыпаў да яе вуснаў. «Хопіць, Косцік. Не трэба!» — сказала рашуча і, вырваўшыся з абдымкаў, паправіла распатланыя валасы.

Так у іх усё і пачалося. Пачалося, каб бліжэй да мая спыніцца, нечакана і рашуча. Косцю трэба было рыхтавацца да здачы тэстаў і экзаменаў, і ён адклаў вечаровыя спатканні з Машкай да лепшых часоў.

Час той, хацелася ёй думаць, надышоў у ліпені, але Косця нечакана знік, не развітаўшыся з ёй. Яна замаркоцілася, нават пакрыўдзілася на хлопца і — чакала.

Ён не аб’яўляўся, і тады яна прыйшла да яго на кватэру. Дзверы адчыніла Марыя Паўлаўна, Косцікава матуля, высокая і прыгожая жанчына ў хатнім халаце з глыбокім выразам.

— Вы Маша? — спытала яна, гэтак жа проста і будзённа, як некалі ён сам спытаў яе на школьным калідоры напрадвесні.

— Праходзьце, Машка, пап’ём чайку, пагаворым па-бабску.

Яны пілі чай на кухні, размаўлялі. Аказваецца, яна так мала ведала пра Косцю, пра ягоныя юначыя захапленні і ягоную гнятлівасць. Косця не мог мець дзяцей — пра гэта сказалі яму ўрачы, і каб мець іх, трэба лячыцца ў Крыму. А лепш за мяжой. Нешта не ў парадку ў яго яічнікі…

— Ты даруеш яму гэта, Машка? — спытала гаспадыня. Што магла яна яму дараваць, дзяўчына не зразумела, спытала горача:

— А хіба ў гэтым шчасце?

— А ў чым жа, як не ў тым, каб мець сваіх дзяцей? Ты яшчэ маладая, многага не разумееш. У нас вось Косцік — адзінец, і то нараджала яго праз кесарава. Цяжка было… І ён паступае ў медыцынскі, ён у мяне здольны і мэтанакіраваны. Хоча стаць доктарам, каб вылечыць сябе…

Цяжкая і непрыемная была гаворка. Пасля яе Машка трохі аціхла, аднак адрас Косціка ў Мінску, інтэрнацкі адрас, у Марыі Паўлаўны выпрасіла. І паехала да яго, хаця помніла просьбу Марыі Паўлаўны не перашкаджаць сыну, няхай здасць як след экзамены, а ўжо тады калі ласка.



Косця не чакаў яе, рыхтаваўся да здачы біялогіі, аднак папрасіў яе застацца на ноч. Якраз у пакоі ён быў адзін, і яна засталася. Упершыню яна ляжала так блізка, абняўшыся, з любым чалавекам. Косця, даследуючы яе маладое цела, знайшоў той тамагаўк на яе пупку і, нічога не кажучы і не пытаючы, адкуль забаўка, доўга і аддана цалаваў яе там, спаўзаў губамі, гарачымі і пухлымі, на яе жывоцік. «Скажы, гэта праўда?» — спытала яна без хітрыкаў, калі закончылі плоцевыя ўцехі. «Ты пра што?» — не зразумеў той. Ён, задуменны, ціхі, як завулак у мястэчку, адкуль прыехаў, ляжаў, прыгарнуўшы яе да сябе і ласкава цалаваў губамі яе раскінутыя на падушцы пахучыя валасы. «Мне твая маці сказала пра тваю бяздзетнасць». «Ну, жанчыны! — войкнуў ён. — Як у вас усё складана і балюча. Да адчаю... Гэта сказалі ёй там, а я тут, у Мінску, схаджу і ўпэўнены, што гэта няпраўда».

Памаўчалі.

— Ты магла пераканацца, ці такі ўжо я нягодны. Ну, вось мы з табой зараз… Ды ты разбудзіш любога імпатэнта, Машка…

І ён зноў прыпадаў да яе разбэрсаных на падушцы валасоў і мармытаў нейкую алькоўную лухту. Але ёй было прыемна. І разам з тым трывожна: яна ведала не адну маладую пару, у каго не было дзяцей, і, казалі, па віне мужчыны. Вунь Светка Кесарава з Мішкам, суседзі. Добрыя людзі, галубіліся вечна, яна мяняла ўборы, бо добра сама зарабляла, а калі зразумела, што ад яго не будзе дзяцей, адразу перастала сачыць за сабой, зрабілася брыдкай, распаўнела, раздалася ў клубах. Улягла ў чарку. Нярэдка на працу прыходзіла пад мухай, і начальнік ужо хацеў яе выганяць. Умяшалася пратэкцыя, і яе пакінулі. Але папярэдзілі, каб з гарэлкай была, як сказалі, у разводзе. Ёй дваццаць тры, а ходзіць, як клуша, пастарэла і апусцілася. Напэўна, развядуцца, бо ён не хоча разумець, што бяда ад яго, а не ад яе.

Машка не хоча і сабе такой долі.

## 6

Канстанцін Казакоў, трактарыст мясцовай ПМК меліярацыі, у таварыства паляўнічых і рыбаловаў паступіў у свае васемнаццаць. Яшчэ да арміі. Бацька яго ўцягнуў, заўсёды браў яго з сабой на паляванне. Ну, вядома, калі той крыху пасталеў, класа з восьмага. Тады ж і

давяраў калі-нікалі стрэльнуць. Па пустой бляшанцы з-пад кансерваў ці па старой шапцы, кінутай угору. Ён страляў, і першы раз у плячо так моцна тарганула прыкладам, што ледзь не ўпаў. Бацька вучыў, як трымаць стрэльбу, як цэліцца.

Вярнуўшыся з арміі, ён купіў сабе «гарызанталку», купіў з рук, але ружжо было хвацкім, і ён ужо не мінаў выпадку ў выхадныя пахадзіць з паляўнічымі па лесе. Пасля яго прыахвоцілі да чаркі (многія бралі з сабой у ягдташы бутэлечку «белай» і брусок сала), і аднойчы прыйшоў дамоў позна вечарам і п'яненькі, ледзь вязаў лыка. Ліянка ўзялася яго сарамаціць, але ён, мармычучы нешта няўцямнае, пасунуўся на ложак. Спаў у чым вярнуўся, не распрануўшыся, і тады Ліяна ў першы раз лягла спаць асобна, на канапе.

Раніцой ён стагнаў, хапаўся за галаву, за сэрца, шукаў расолу і ішоў на працу. Добра што ў той дзень ён быў на рамонце, не трэба было садзіцца за руль, а то было б не здабраваць. Усё адно механік яго адчытаў, бо і на рамонце ён работнік быў ніякі. Адправіў раней дамоў, наказаўшы праспацца і такім на работу больш не з'яўляцца.

Ліяна Віктараўна, вярнуўшыся са школы, застала яго на кухні за куфлем з півам. Накінулася:

— Ну, і што гэта значыць?

— Не трэба, мне і без таго моташна…

— Значыць, хворы, — сказала здзекліва, і гэта раптам узарвала Косціка:

— Тут зап'еш… Жонка глядзіць на Піцер, і ў школе ў яе раман… Што, не так?

— Не так! Ты ж ведаеш, што гэта глупства, што гэта… лухта, гэта твой плот з лебяды…Ты — раўнівец, якіх свет не бачыў!..

— Я раўнівец, — згаджаўся той, прыклаўшыся да куфля. Глынуў ладную порцыю піва, крэкнуў:

— А ці ведаеш, чаго я такі? Ты зламала мяне… Ты не шануеш маё каханне… Табе ўсё роўна, з кім — з дзядзем Косцікам, са мной, ці з тым гарбаносым. Ну, няўжо ты можам мяне прамяняць на гэтых?..

— На каго??? — сарвалася на крык Ліяна. — Што за бязглуздзіца?! Давай, куплю сабе пояс вернасці. Не, ты купіш мне… З замочкам. І што ты тады скажаш?



— Які пояс вернасці?.. — акругліў ён вочы. — Хіба такі зараз прадаюць?

— Прадаюць, і яшчэ як. Толькі каб не металічны. Каб лёгкі, ажурны…

— Ну, ты, блін… Ідзі ты, знаеш куды, са сваім поясам?!

Ён зноў прыклаўся да куфля, устаў з-за стала, пайшоў у спальню. Вярнуўся з квітком на перавод, дасланым з Піцера.

— Ну, а гэта для каго?!.

Ён трос перад ёй гэтым квітком, бледны, з гарачым і звярыным бляскам у вачах. Ліяна такім яго бачыла ўпершыню, але не разгубілася, выхапіла з ягоных рук квіток, схавала ў кішэню халата.

— Для каго? Бач, які шчодры, татулечка — мільён адваліў! Для мяне ці для цябе, на твае вісюлькі? На твае бразготкі?.. На калечкі-шмалечкі?!. На пояс вернасці?.. На гэтыя залатыя завушніцы!.. — І, тузануўшы яе за руку, рвануў да сябе. Ды так моцна і нечакана, што яна ўсклікнула ад болю. І калі сарваў з левага мочка ў яе завушніцу, і там нешта рашуча трэснула, Ліяна збялела ад болю і заплакала.

Плакала наўзрыд, кінуўшыся ў спальню і зачыніўшы за сабой дзверы.

Ён не пайшоў да яе, каб папрасіць прабачэння, ён, ашалелы ад злосці і рэўнасных прыпадкаў, ускінуў на плечы паліто і выйшаў на вуліцу, моцна бразнуўшы дзвярыма…

На рабоце яна была рассеяная, бледная, у гнятлівым, можа нават мізантрапічным настроі. А тут зайшоў Мікалай Арцёмавіч, грузна сеў насупраць яе, на крэсле.

— У вас сёння не рабочы настрой. Вы мне сёння не падабаецеся. Што здарылася?

— Нічога страшнага.

— А ўсё-такі, — насядаў ён. — Што-небудзь у сям'і? Або пакрыўдзіў Максім Ягоравіч?..

Яна зацята маўчала. Як партызан на допыце. Чакала. Але ён, тонкі псіхолаг, раптам пераключыўся на іншае:

— Ну ды ладна…А ведаеце, Ліяна Віктараўна, чаму я Скупы? Ну, не так, каб вельмі, але прозвішча… Мы з Максімам Непатрэбным — з аднаго дзіцячага дома. Праўда, ён малады, а мне трапілася быць там на трыццаць гадоў раней. Бацькі пілі, вялі разгульнае жыццё, іх

забрала міліцыя. Не ведаю, за што, можа, што скралі, і пра нас ніхто не падумаў. Нам тады было па два гадзікі. На пяты дзень, нас, сплаканых, мурзатых і галодных, як ваўчанят, забралі незнаёмыя людзі. Усё пыталіся: «Як ваша прозвішча?», а мы не ведалі. Сёння такога ніхто не дапусціў бы: як так — кінуць дзяцей сам-насам, а тады неяк выйшла не па-людску. У дзіцячым доме я быў скупаватым, хаваў пад падушку свае цукеркі, штаны, кашульку, цацкі. Ды якія тады былі цацкі?!. Брат быў не такі, але і яму дасталося такое ж прозвішча. Так мы Скупымі і выйшлі ў людзі…

— А што ж бацькі? Няўжо яны вас не шукалі?

— Не ведаю. Мы спрабавалі знайсці дом, кватэру, дзе жылі, хацелі знайсці былых суседзяў, але ніхто нам гэтага не дазваляў.

— А ўсё ж бацькі? Дзе яны? Ці жывыя?..

Дырэктар моўчкі і грузна, з хрустам устаў, прайшоў да акна.

— Не ведаю. Не варта іх асуджаць. Не трэба. Не хачу. Хаця ў сэрцы і сёння сядзіць боль — ные і пячэ, як той артрызаваны сустаў пляча.

Дырэктар пайшоў, а Ліяна раптам прыгадала ўчарашнюю сварку з мужам, ягоныя дзікія абвінавачанні, ягонае хамства, і адчула сябе самай няшчаснай жанчынай на свеце. «А што калі не складзецца ў нас з Косцікам? — пыталася яна ў сябе. — Можа, і да разводу дойдзе. А тады і я з гора зап'ю. Што будзе з Машкай? Праўда, Скупой ці Непатрэбнай яна не будзе. Яна застанецца Марыяй Нехвядовіч. Дваранкай…Так-так, дваранкай, і яна, Ліяна, не дапусціць, каб дачка была няшчаснай…»

Косця піць перастаў, хаця на паляванне хадзіць не прамінаў. Кожныя выхадныя ён ускідваў на плячо карабін і ішоў да свайго сябра, Аляксея Камлёва. Яны, у сваю чаргу, заходзілі да тых, хто жыў ад лесу, і так яны гуртам, чалавек пяць-шэсць, кіравалі да Дзям'янава Логу. Чаму Дзям'янава, ніхто з іх не ведаў і не хацеў ведаць. Яны не былі ні тапанімістамі, ні краязнаўцамі, яны любілі, без усякіх гістарычных замарочак, пастраляць, а бліжэй да полудня, стомленыя, сесці недзе на паляне і перакусіць, чым Бог паслаў. А Бог пасылаў ім кожны раз спраўную ежу: акрамя бутэлечкі гарэлкі, на пянёк выкладваліся паляндвічка, кураціна, грыбочкі. Косця, помнячы, які ён бывае брыдкі, калі вып'е, ад чаркі адмаўляўся катэгарычна, пакуль



на схіле восені, калі прыйшло паляванне на дзіка, раптам згадзіўся разгавецца. Надакучыла яму быць белай варонай.

Тады ж недзе і здарылася бяда, якая перакуліла яе жыццё. Праўда, не адразу, не адным махам, бо Косця пасля той памятнай сваркі, калі захварэў на падазрэнні і не саромеўся ў выразах, не раз, і нават цвярозым, нагадваў пра пераводы з Піцера, пра таго «гарбаносага»— пра Максіма Непатрэбнага, касавурыўся, калі яна начэплівала сваю біжутэрыю («Ад яго ж, я ведаю, ад гэтага бацяні», — казаў ён ваўкавата і надзьмута), калі перад сном знімала з пальца залаты пярсцёнак (замінаў, быў трохі цесны) або навешвала на шыю кулончык у форме сэрца. Ва ўсім ён бачыў здраду, бачыў тое, што хацелася яму бачыць, нягледзячы на тое, што гэта ўсё было плодам яго хваравітай фантазіі. А можа, уся справа была ў тым, што ён перастаў кахаць яе, Ліянку? Кахаў жа, прызнаваўся не раз, нават кляўся. Як той Максім. Але ў Максіма было неяк больш шчыра, інтэлігентна, калі хочаце. Максім цалаваў яе ў вуха (у вусны не дазваляла), гарнуў да сябе, хаця яна ўпарцілася, і шаптаў: «Не знаю сам, якога зелля ты падліваеш мне ў пітво, — што гэтак моцна, гэтак хмельна тваё чаруе хараство». Яна не ведала, адкуль радкі — ягоныя ці нейкага паэта. Гэта было няважна, галоўнае, што сказаў хараша і прыемна. Не тое, што Косця, які мармытаў нешта, блытаўся ў павуціне слоў, як неразумнае дзіця. Або вось Максім неяк горача прапанаваў: «Хочаш, мы паедзем з табой у Ніццу, дзе пахаваны Герцэн. Або ў Парыж, на магілу ў Сэнт-Жэньеў-дэ-Буа, дзе ляжыць вялікі Бунін. Хочаш?». Як ёй тады падмывала сказаць у адказ: «А што, давай. У Парыж!», каб яго збянтэжыць ці пастаціць на месца: бач, якія замашкі — а дзе ж твае пенёндзы, слаўны пан? Адкуль у пана залатыя запасы? Але ёй было так прыемна тады, так цёпла, яна да таго паверыла ў Максімаву шчырасць, што пытанняў і не задала. А дарэмна: ён і надалей будзе фантазіраваць, будзе цешыць яе марнымі надзеямі…

Кульмінацыя падзей, ракавых і, на першы погляд, малапрадказальных, выпала на люты. Тады Косця нібыта суняўся, аціх са сваёй рэўнасцю. І Ліяна з цеплынёй на сэрцы падумала, што мінуў у мужа крызіс, што зажывуць яны хараша і шчасліва. Як у першыя месяцы шлюбнага года. Перад гэтым ён нават, лежачы побач з ёй, цалаваў бліскучую забаўку на пупку (хаця і не заўважыў, што той тамагаўк

яна падарыла Машцы на дзень яе нараджэння, калі ёй споўнілася пятнаццаць, а гэтую прыслаў па пошце ўсё той жа «бацяня» з Піцера, і бліскаўка была ў форме кінжала) і не папракаў яе, не прасіў, каб зняла. Няўжо не адчуваў чужую энергетыку, чужую руку, якая падарыла ягонай жонцы гэтую бразготку з выразным намёкам на тое, што гаспадар будзе змагацца за яе, Ліянку, да апошняй кроплі крыві. Як дагестанец, як чачэнец, гнаны кроўнай помстай. Словам, Косця Казакоў, адразу забыўшыся на тое, што адмовілася будучая жонка браць ягонае прозвішча, спаслаўшыся на свае дваранскія карані, даравау ёй і ўсё астатняе, што нарадзіла ў іх сумеснае з ёй жыццё пазней. Ён усё верыў, што жанчына, якая помніць сваю віну перад ім, мужам, стане раптам пяшчотнай, як цялячая адбіўная.

Але яна не стала такой. Яна ўжо захапілася, хаця без усякага энтузіязму, Максімам, яна жыла пераводамі і лістамі, якія дасылаў Канстанцін Мацвеевіч на адрас яе сяброўкі, Ганны Кірылаўны, яна жыла праблемамі і радасцямі сваёй Машкі, якую гады рабілі ўсё больш прывабнай і непрадказальнай. Яна хацела жыць з Косцікам, якога ўсё яшчэ, напэўна, кахала. Але ён аддаліўся ад яе пасля той памятнай сваркі. Аддаліўся на мезенец, на валасок, але — аддаліўся. І ад гэтага прыйшла … палёгка. Дык, можа, і адколвае яна ўжо ад граніту свайго кахання драбочкі, адбівае іх спакваля, але ўпарта і не шкадуючы?..

Тая лютаўская раніца выдалася марознай. Была нядзеля, на работу ісці не трэба, і Ліяна захацела трохі папесціцца ў ложку. Яна звечара пасмажыла рыбу, згатавала макароны і, наказаўшы тады мужу, каб падагрэў усё гэта раніцой у мікрахвалёўцы, дасыпала гадзіны, адабраныя ў яе Косцікам ноччу. Ноч была бурнай, ён нібы сарваўся з ланцуга, ён ішоў на свае мужчынскія рэкорды. Яна любіла яго такім, яна хацела, каб ён быў такім пяшчотным, быў суперменам кожную ноч, калі звярэў, падхоплены нейкім сладычным паралічом.

Ён паснедаў, пайшоў да яе ў спальню і на адыходак пацалаваў. Яна, узняўшыся з падушкі, абхапіла яго за шыю, адчула, што ўжо накурыўся, але не папракнула, сказала ўсцешана: «Ты ў мяне самы лепшы».

І ён пайшоў.



Прачнуўшыся гадзін у дзесяць, яна адчула, як трывожна, як гнятліва стала на сэрцы. Інтуіцыя, пятае ці шостае пачуццё яе падказвала: нешта здарылася з мужам. На паляванні. Але што магло здарыцца? Косця — не навічок. Аднак жа чаму так балюча, чаму так прыкра і няўтульна ёй? Яна ўявіла (ён не раз расказваў ёй, дзяліўся ўражаннямі), як разыходзяцца па нумарах мужчыны, як пільна ўглядаюцца туды, адкуль павінен выбегчы лось ці дзік, стаяць, напагатове трымаючы стрэльбу. І вось там недзе, збоку ад Косці, бахнуў стрэл, за ім другі, трэці. Тыя гоняць, па ўсім відаць, звера, Косця напружыўся, ускінуў стрэльбу. Бах!.. Ні лася, ні вепра, адно з лапніка шухнулі на дол камы снегу, і адтуль, з-пад зрынутага снегу, раптам нехта застагнаў…

Што гэта — трызненне ці ява? Можа, яна сапраўды празорца, можа, яна сапраўды бачыла, як нехта з паляўнічых упаў у снег і застагнаў…

Яна не ведала, куды сябе дзець. Машка пайшла да сяброўкі (а можа, да сябра, да свайго Косціка — хто табе праўду скажа?), а яна бегала са спальні на кухню, з кухні ў пярэдні пакой, хапалася за паліто, ужо накідвала яго на плечы, а затым знімала яго. Куды яна хацела пайсці, да каго? Ратавальнай саломінкай стала Ганна Кірылаўна. Яна ўзялася за тэлефон.

— Ты ператамілася, Ліянка, — супакоіла яе сяброўка. — Не думай пра гора, яно прыйдзе, нават калі мы яго не чакаем і не хочам, каб яно прыйшло. Нашто трудзіць сэрца? Яно павінна любіць. Яно павінна рвацца туды, дзе нас чакаюць. А нас чакаюць на Маёрцы, на Канарах, чакаюць у Парыжы. Мар, вельмі хаці гэтага, і яно прыйдзе…

— Мне тое ж казаў Максім… Ягоравіч.

— Ну вось, бачыш. Ты хочаш у Парыж?

— А хто з жанчын туды не хоча?. Мяне ён, казаў, павязе… Праўда, на якія шышы — не сказаў.

— Ёсць у яго шышы, павер мне. Я яго ведаю… У яго нейкі сваяк у Парыжы. Можа, па лініі маці — у яе французскія карані.

«Вось была б пара! — сумна засмяялася сама сабе Ліяна Віктараўна. — У мяне нешта ад польскай, у Максіма — ад французскай. Чаму ж мы так позна сустрэліся?..»

Між тым бліжэй да вечара трывога не спадала, наадварот, разраслася да нейкага маніякальнага стану. Яна ўжо не помніла, што рабіла.

Яна хапалася за кнігу, але чытаць не магла, яна села, каб паглядзець тэлевізар, але нічога не разумела з таго, што там паказвалі. Яна думала пра яго. Ёй было страшна і разам з тым неяк бязважка, быццам была яна ў касмічнай прасторы, а не на грэшнай зямлі.

Калі сцямнела, у дзверы пазванілі. Яна кінулася ў пярэдні пакой, шчоўкнула замком. На парозе стаяў незнаёмы мужчына ў камуфляжным адзенні паляўнічага (прынамсі, так думала Ліяна, бо і ў Косці быў такі ж гарнітур), перапаясанага патранташам, на плячы ў яго вісела зачахлёная стрэльба. Ён быў прыгожы сваёй суровай прыгажосцю — не той, якая змяніла яе ў Косціку, нейкай бездакорна-саладжавай. У гэтага быў абветраны, нават смуглявы, як у цыгана, твар з ледзь прыкметным шрамам на левай шчацэ.

— Ліяна Віктараўна, толькі не хвалюйцеся, — адразу папярэдзіў. — Косця жывы і здаровы… Здарыўся кур'ёзны выпадак… здарэнне. Ну, словам, ён падстрэліў Алеся. Вы ведаеце ягоную жонку… Яна працуе ў банку. Нічога страшнага, рана неглыбокая…

— Вы хто?

— Я Крылоў. Іван Крылоў… Мы разам ходзім на паляванне. Косцеў сябар…

— Дзе муж?..

— Ён там, ля пад'езда. Баіцца заходзіць…

Яна хвіліну ці, можа, больш недаўменна глядзела на госця, які стаяў на дыванчыку і пераміналў з нагі на нагу. Яе раптам прарвала…

— Ну, як дзеці!.. — папракнула, невядома — мужа ці гэтага ягамосця, які блытана расказваў пра здарэнне. — А што, нельга было пазваніць? Мабільнікі ж у кожнага … з вас. Я тут сабе месца не знаходжу, а вы… чэрствыя душонкі!..

Мужчына стаяў, апусціўшы галаву, нібыта сапраўды быў вінаваты і ў здарэнні, і ў тым, што Косця Казакоў не пазваніў сваёй жонцы, каб супакоіць.

— Дык што яму перадаць?

— Перадайце, што ён аўнюк!.. Няхай не баіцца: лупіць з яго шкуру не буду. Ён мне абрыднуў са сваім паляваннем!.. Яго што, пасадзяць? — пераключылася яна на трывожную нотку і збялела.

— Не ведаю, напэўна. Хаця як паглядзець… Каго вінаваціць — Канстанціна ці Алеся. Той выскачыў, як вепр, з-за яліны. Няхай бы крыкнуў…



Рана была, аднак, глыбокай і не такой бяскрыўднай, як падаў Іван Крылоў. Пра гэта яна ўведала ад знаёмай медсястры з хірургічнага аддзялення. Ранены Алесь Іванавіч, той, у якога некалі асеў на той час, калі быў выгнаны з дому, Канстанцін Мацвеевіч Калдуноў, быў у жывот, і ўрачы рэанімацыйнага аддзялення змагаліся за яго жыццё як маглі. Выклікалі для кансультацый свяцілу з вобласці. Той прыляцеў, доўга аглядаў раненага, склікаў кансіліум. Алеся трэба было тэрмінова везці ў Віцебск, і заказалі б верталёт, але нечакана хвораму стала горш. Усе чакалі рэмісіі, калі, нарэшце, адпусціць, палягчэе. Свяціла паехаў у горад, наказаўшы, каб у выпадку, калі з'явяцца праблемы, неадкладна яму пазванілі. Алесь упаў у кому, і гэта акалічнасць вельмі ўстрывожыла Канстанціна Казакова. Смерць сябра па зброі была не толькі яго пагібеллю ў маральным сэнсе, але і разумела пад сабой больш суровыя карныя меры крымінальнага кшталту.

Ліяна была на рэдкасць спакойнай, нават нейкай флегматычнай. Была як заведзены ваўчок. Раніцой хуценька гатавала сняданне, нічога мудронага не рабіла — яечню на алеі або смажыла сала ўперамешку з колцамі нарэзанай цыбулі, супоў не варыла — не мела звычкі, нават тады, калі павінна была паказаць сваё кулінарнае майстэрства, на заранку свайго замужжа. Машка, вярнуўшыся са школы, таксама ўскідвала на патэльню пару яек і была па тым. Муж браў з сабой сухпаёк — сала, агурок, калі быў, курынае мяса, якое варыў сам. У яго была падпіска аб нявыездзе, але не гэта яго турбавала. Ён кожны дзень спраўляўся пра здароўе Алеся, і кожны раз, як чуў, што ў таго без змен, што той не выйшаў з комы, вяртаўся дадому п'яны. Дзе браў грошы, хто яго паіў, Ліяну не цікавіла. Яна абыякава і пакорліва чакала суда…

Алесь Іванавіч памёр, так і не ачуняўшы…

## 7

Косцю далі пяць гадоў турмы. Суд быў закрыты. На судзе Ліяна не плакала, не праклінала сваю жаночую долю, яна адлучана, нібы прыйшла сюды па няволі, сядзела на другім радзе залы і глядзела на мужа. Той быў надзіва бясклапотным, з недаверам і спакойна глядзеў у паўпустую залу.

Нічога звышардынарнага ў справе не было. Выпадковасць, якая каштавала чалавеку жыцця. Маладому мужчыну, які пакінуў на гэтым свеце няўцешную ў горы жонку з малалетняй дачкой, а сам пайшоў на той свет.

Адвакат, невысокі лысенькі дзядзька, не выручыў. Хаця мог пераканаць суд, што забойца быў сябрам Алеся, таму ніякага наўмыснага намеру забіць чалавека ў яго не было. Пракурор жа раскапаў факты, якія сведчылі пра адваротнае, нібыта Алесь з Косцем ніколі не былі сябрамі, хутчэй наадварот, Алесь дамагаўся не раз ягонай жонкі (значыць яе, Ліянкі) у той час, калі Косця ад'язджаў да сваіх родных у вёску на выхадныя.

Ліяна пасля гэтых пракурорскіх «факцікаў» раптам узарвалася і ўскочыла з месца:

— А вы ў мяне спыталі, чаго дамагаўся гэты Апраксін?

Гэта значыць, Алесь Іванавіч, які працаваў настаўнікам у першай школе.

Яе папярэдзілі, каб не перашкаджала, сказалі, што дойдзе чарга і да яе. Чарга дайшла, і яна горача, хаця і блытана расказвала пра гэтага забітага Алеся, пра тое, як двойчы ў іх перасекліся сцежкі-дарожкі. Першы раз — на пікніку, але тады на паляне на ўскраіне лесу быў і Косця, і шмат хто яшчэ. Сапраўды, яна з Алесем пайшлі па дровы, адлучыліся хвілін на дзесяць, не больш. Другі раз ён запрасіў Ліяну да сябе ў госці, і яна, ведаючы ягоную жонку Таццяну, прыйшла. Гаспадыні не было дома, аднак нічога ў іх у той вечар з Алесем не было такога, каб гаварыць пра распусту. Усё гэта брудныя здагадкі, буйная фантазія тых, хто збіраў доказы.

Тым не менш суд яе довады да ўвагі не прыняў. Мямліў нешта пра невінаватасць падсуднага і лысенькі адвакат.

Як бы не было, а далі мужу пяць гадоў. Не дапамагла і апеляцыя: пакінулі ў сіле рашэнне раённага суда.

Пасля суда Ліяна Віктараўна ўзяла водпуск. Якраз Машка заканчвала сярэднюю школу і мелася паступаць у педагагічны. Але не на настаўніцу пачатковых класаў, як яна некалі, а на хіміка-біялагічны. Ліяна Віктараўна наняла рэпетытараў, а сама рванула на адпачынак да мора. Прыхапіла з сабой і дэкаратыўны рэмень-патранташ, які заўсёды начапляла на пляжны касцюм. Выглядала і свежа, прывабліва, і казала за тое, што яна жонка паляўнічага. Праўда, на крымскім пляжы, расстроеная, што зараз без мужа і разважыўшы, што патранташ ёй наогул патрэбны, як зайцу стоп-сігнал, яна пакінула рэмень сексуальнай фіфе, якая ўмольна прасіла прадаць. Яна не прадала — аддала ёй у дар. Як памяць. Кацярына была масквічкай, запрашала Ліяну ў госці.

Вярнуўшыся з Крыма, Ліяна Нехвядовіч адчула сябе такой няшчаснай, адчула сябе такой гаротніцай, што хацелася плакаць і выць па-воўчы. Акурат у гэтыя ліпеньскія дні патэлефанаваў Канстанцін Мацвеевіч. Ён выпадкова даведаўся пра Ліянчына гора і хацеў суцешыць яе, падтрымаць.

Але тэлефоннай размовы ў іх не атрымалася. Яна была нешматслоўнай, разгубленай, яна не хацела зараз нікога ні бачыць, ні чуць. Яна нават, каб не замінаць рыхтавацца дачцэ, з'ехала на рэшту водпуску да сябе на летнік. Прыдбалі яны яго за бясцэнак, хаця большых грошай дамок не каштаваў: быў ён пахілы, са струхлелай падрубай і дзіравым дахам. Але там, за пяць кіламетраў ад мястэчка, было ціха, як у раю.

Тут, на дачы, яе і знайшоў Максім Непатрэбны. На той час з жонкай яны яшчэ не сышліся, былі ў разводзе, а Мішку ішоў ужо дзясяты год.

Ён прыехаў на сваім «Рэно» з сынам. Яна не чакала яго сустрэць, ляжала на старым матрацы і загарала топлес. Згледзеўшы аўто, якое падрулiла да яе брамкі, яна ўскочыла, уздзела ліфчык, але адчыняць гасцям не пайшла.

Максім, з задаволенай і лагоднай усмешкай, трымаючы сына за руку, падышоў сам. Яна ўзнялася з матраца, села, абхапіўшы каленкі рукамі.

— Ліянка, пазнаёмся, мой сын Мішка.

Яна ўстала, ускінула на плечы квяцісты халат, павяла іх у хату.

— Пойдзем, спёка такая, што дыхаць няма чым, — сказала. — Летнік дошлы, але там холадна, як у склепе. У поўдзень іду туды і адпачываю. Як іспанцы ў час фіесты.

— То іспанцы, — зноў усміхнуўся Максім. Наогул ён быў сёння ў гуморы.

Мішка не захацеў ісці ў хату, ён асвойваў арэлі, якія засталіся ад ранейшага гаспадара (на два жалезныя слупы з тоўстай трубы наве-

шана на тонкіх цягах сядзенне ад выкінутых крэслаў з глядзельнай залы, арэлі былі на шарнірах), а Максіма гаспадыня павяла ў хату.

Максім, высокі мужчына, згінаючы абачліва галаву, зайшоў у хату, прызнаўся шчыра (а можа, лісліва?!), што рад за яе, што дача — у ціхім месцы, а побач лес і рэчка, аднак Ліяна яго перабіла:

— Няма тут чаму радавацца, Максім Ягоравіч. Халупа…

— Не халупа, а бунгала. Ты не была на водных бунгала ў Мальдзівах? Дарэмна. Там рай. І тут не горш. Праўда, ніхто з нас гэта не цэніць.

— Да бунгала нам далёка. Дзіравае карыта, а не бунгала.

— Гэта сёння, а восенню яго не пазнаеш. Я табе зраблю з яе лялечку.

Яна сумна ўсміхнулася. Паглядзела на Максіма, які важна ўсеўся ў фацэтнае крэсла і разглядаў фотаальбом. «Не такі ён і брыдкі, — падумала яна і схапіла сябе за руку: — Што, ужо любуешся ім? Наплёў табе пра бунгала, пра Мальдзівы. Дача, як лялечка. Раней казаў пра Парыж. Фантазёр».

— Трызніш ты, дарагі Максімка, то Парыжам, то Мальдзівамі. Ты ж не быў ні там, ні там. Нашто табе гэта? Хочаш мне спадабацца? Дык радуйся: ты мне падабаешся.

— Праўда? — сказаў, адарваўшыся ад фотаальбома, і твар яго засвяціўся шчаслівай усмешкай. Яна не бачыла раней, якія белыя, якія ладныя і прыгожыя ў яго зубы. А губы шырокія, калі смяецца, распаўзаюцца да вушэй… А што губы? І да іх прывыкне. «Не брыдкі ён, ой, не брыдкі. І нос як нос. Лепш ужо такі, чым маленькі, як пупсік! І вочы добрыя, вясёлыя і чыстыя», — падахвоціла сябе і зноў тузанула сябе за руку: ці не рана захапілася? Не паспела адправіць мужа «на Салаўкі» (так казала, хаця Косця сядзеў недалёка, у Оршы), і ўжо не супраць завесці шуры-муры. «Не шуры-муры», — асадзіла яна сябе тую, што прабівалася ў ёй, ранейшую, гарачую і свабодную жанчыну Усходу. Не, гарэмы ніколі яе не вабілі, як і розныя султаны ды падзішахі. Яна хацела б пабыць адаліскай. Дзе-небудзь у Турцыі ці Іране, і каб яна была самай важнай наложніцай. Каб толькі яе адну кахаў і песціў які-небудзь шэйх. Праўда, так не бывае: усе наложніцы на аднолькавых правах. Між тым, ёсць у шэйха і любімыя жонкі. Яна хацела б быць самай любімай. А калі абрыдне там, яна сказала б тройчы : «Талак, талак, талак», што азначае «Развод, развод, развод», і іх развядуць. І адваляць для яе палову багацця шэйха, бо яна была любімай жонкай. А што тут, у далёкім беларускім мястэчку? Ну, развядзецца яна з Косцем, напэўна, падасць на развод (што, пяць гадоў чакаць яго?!), а якія аліменты ёй дастануцца, што пакінуў ён такога, каб можна было жыць бязбедна? У яго засталася вош на аркане. Ну, і стрэльба. Але яе яна прадаваць не хоча. Навошта? Вернецца, няхай забірае…

Пакуль Максім гартаў альбом, моўчкі, звесіўшы сваю глюгу (а ён казаў інакш «свой ловяонаўскі нос»), яна перадумала і пра мужа, і пра Канстанціна Мацвеевіча, і пра Машку — пра ўсё, што раптам нахлынула дзявятым валам на яе збалелае сэрца. «Што рабіць? Як жыць далей? — разважала. — Хіба выжывеш з маёй канаплянай зарплатай?.. А вучыць Машку? Яна ж будзе паступаць, і паступіць. Яна такая ў мяне. Але ж на кватэру ў Мінску, на пражытак, на плаццішмацці хто дасць?..»

Максім тым часам разгледзеў усе здымкі і, перш чым адкласці альбом, глянуў на задуменную Ліяну, спытаў:

— А гэта ты? Не паверу. Колькі табе было?

Яна падышла, схілілася над альбомам, і Максіму раптам заняло дух: прама перад ім вырываліся на волю, адкрываліся яго пагляду два загарэлыя мячыкі яшчэ па-дзявочы крамяных грудзей. Ёй, сунімаючы шалёнае сэрцабіццё, працягнуў, нібы пад гіпнозам, руку і падтрымаў правы мячык, які рыхтаваўся наогул вырвацца з палону.

— Ну-ну, — папярэдзіла яна. — Ты што, ліфцёр?..

— Чаму?

— Гэта той, хто знімае і надзявае ліфчыкі. У жаночай лазні.

Яны абое засмяяліся. Жарт хаця і быў грубаваты, застарэлы, але дзіўным чынам разняволіў Максіма.

— Гэта я адразу пасля родаў.

— Прыгожая, — прызнаўся ён без усякіх авансаў. —Такую не прагнуў хіба самы замшэлы імпатэнт.

Яна адышла ад яго, стала спінай, гледзячы ў акно, як гушкаецца на цесным газоне Мішка.

Ён падышоў да яе, абняў за плечы, павярнуў да сябе тварам. Яна плакала.

— Ты чаго, Ліяначка?! Дарагі мой чалавечак! Ды я за цябе… я табе ўсё аддам. Усяго сябе, усё, што маю… Будзь маёй!

— Што, прама зараз?

— Зараз і назаўсёды! Я прападу, я згіну без цябе. Мы паедзем з табой да маёй цёткі ў Парыж. Хочаш у Парыж?

— Ты ўжо пра гэта пытаўся. У цябе што, склероз?

— Не, у мяне дзіўнае адчуванне, што цябе я меў даўно. У першым сваім жыцці. Нейкае дэжа вю, як кажуць французы.

— І не толькі яны.

Яны селі на канапе, ён прыгарнуў яе да сябе, выціраючы на шчоках, з вачэй цёмныя падцёкі ад тушы, адчуваючы нечаканы прыліў трапяткой радасці. Ён гладзіў яе скуласценькі дробны тварык і млеў, прыпадаў тварам да яе цёплых грудзей, адрываўся ад іх і бачыў, выразна і адчайна, натапыраныя бардова-цёмныя саскі…

— Ты не будзеш мяне раўнаваць? Ну, скажы, не будзеш? Я не хачу жыць з раўніўцам. Досыць, пажыла з адным…

— Ліянка, ты не ўяўляеш, як я шчаслівы! Самы шчаслівы чалавек на свеце!.. Я цябе буду насіць на руках… Буду. Ты мне верыш?..

У той дзень ён з Мішкам дамоў вярталіся позна вечарам.

Праз тыдзень яна падала на развод, чакала адказу ад мужа. Чакала месяц, другі, а пасля напісала яму ліст. Напісала: «Як хочаш разумей, лічы мяне здрадніцай, шлюхай, але я сыходжу ад цябе. Кватэру пакідаю Машцы, няхай прыязджае з Мінска, калі, вядома, паступіць, і жыве. А вернешся з зоны, там паглядзім…»

Ліяна Нехвядовіч перайшла жыць да Непатрэбнага восенню. Яна засталася на сваім дзявочым прозвішчы, і жылі яны на Максімавай кватэры грамадзянскім шлюбам. Мішку ішоў дзясяты год, ён ніяк не мог прыняць новую «цётку Лінку», надзьмута і няветліва адказваў на яе ласкі і пяшчоту. Яна ведала, што шлях да сэрца хлопчыка будзе цяжкім і цярністым, і чакала.

У Максіма была двухпакаёвая кватэра, маладыя спалі на канапе ў зале, у Мішкі быў свой пакой, з якога можна было выходзіць на балкон. Балкон быў абшыты, вокны адчыняліся туга, таму дарослыя не баяліся, што той нейкім чынам выпадзе з трэцяга паверха.

Мішка дрэнна пераносіў пару глыбокай восені, бухаў так, што аднойчы Ліяна, лежачы побач з Максімам, рашуча сказала:



— Летам едзем у Крым. І самі адпачнём, і Мішку падлечым. Не магу глядзець на ягоныя пакуты.

Максім удзячна пацалаваў яе ў шчаку.

Ліянка памяняла свой імідж. Яна купіла сабе лёгкую касынку і завязвала яе на галаве на цыганскі манер, нібы паказваючы, што любіць волю. Не, зараз пра волю яна не думала, яна хацела памяняць свой вобраз, зрабіць так, каб не толькі Максім, а і многія мужчыны заўважалі, якая яна незвычайна прыгожая. Асаблівы шарм надаваў ёй намітка-налобнік — вузкая шаўковая палоска. Сама навучылася вязаць, і звязала неўзабаве сабе шырокую палоску сталёвых колераў з вузельчыкам на левым баку, з якога спакусліва спадалі два бухматыя кутасікі. Гэтая палоска асабліва падабалася Максіму. «З ёй ты — маладая і чароўная. Проста фея!» — прызнаваўся Максім у хвіліны ўзрушаных прызнанняў.

Усё ішло проста выдатна. Калі б не адна акалічнасць. Зімой аб'явілася ў мястэчку былая Максімава жонка, Анюта, з дачкой Люськай. Прывёз іх сюды муж Антон, які па-ранейшаму шафярыў у аўтабазе. Сам паехаў па справах у Віцебск, на зваротнай дарозе, гадзіны праз чатыры, меўся забраць.

У Анюты да свайго былога былі прэтэнзіі, і яна, папярэдне пазваніўшы яму на мабільнік, увалілася з дачкой у кватэру. Максім рана закончыў урокі, і яны ўтрох, седзячы на кухні, пілі чай. Гаворка была напружанай.

— Ты завёў яе ў нашу кватэру?! Гэтую сцерву…

— Не смей так пра Ліянку! Яна мая жонка…

— Ха-ха, жонка! — сказала здзекліва. — Яна прайшла дзясяткі рук. Мужчынскіх… З яе зрабілі анучу!

Максім сцярпеў гэты выпад, скрыгатнуў зубамі.

— Што ты ад мяне хочаш? Мы з табой падзялілі дзяцей. У цябе Люська, у мяне Мішутка. Што яшчэ?

— Ты прадасі кватэру, а палову грошай аддасі мне.

— Я табе аддаў «Хонду», пральную машыну, халадзільнік. Усё аддаў, каб ты ад мяне адчапілася. Мы ж дамовіліся. Каб без суда!..

— Мне мала. У мяне Антон зарабляе драбязу, пасадзілі яго на голы тарыф. А я… сам ведаеш, у бухгалтэрыі якія заробкі.

— Не будзе так, як ты хочаш! — сказаў ён жорстка. — Мне трэба паднімаць сына. Ён часта хварэе, летам вырашылі катануць на Поўдзень. К мору…

— З маладой жонкай?.. — з’едліва сказала яна.

— З маладой жонкай. І з нашым сынам, — не прыняў ён яе здзеклівага тону.

Люська, якая была ў дзіцячым пакоі і гаворку дарослых не чула, раптам выйшла адтуль з лялькай у руцэ.

— Мама, мая лялька. Я забіраю яе з сабой.

— Вядома, забірай, — дазволіў Максім і паспрабаваў яе прыгарнуць да сябе і пацалаваць у лоб. Малая не далася, рашуча ўпёрлася яму ў грудзі сваімі ручкамі, пабегла да матулі, спадылба, надзьмута гледзячы на свайго тату.

Ёй было пяць гадоў.

— Ну, раскажы, малеча, як ты жывеш з новым татам?

Люська не адказала, яшчэ больш прытулілася да маці.

— Ён у ёй душы не чуе, — сказала за дачку Анюта. — Залаты чалавек!

— Ну-ну!..

— Словам, чакаю!

— І дарэмна чакаеш, любая мая!..

Пасля гэтай прэтэнзійнай гаворкі Максім стаў нейкі задуменны, увесь дзень назаўтра быў злосны, на ўроках без прычыны зрываўся на крык. Вечарам, калі вярнулася Ліяна, ён прызнаўся:

— Прыязджала мая былая… з дачкой.

— Што яна хацела?

— Спаганяе грошы за кватэру. Дамовіліся ж з ёй палюбоўна, каб абысціся без падзелу маёмасці. Я ёй аддаў усё, што засталося ад маіх бацькоў.

— Дык чаго ёй не хапае?..

Максім прамаўчаў. Ён ужо не разлічваў, што вернецца гэтая балючая тэма, што давядзецца, можа, і судзіцца. Праўда, якое судзіцца, калі яны з Анютай падпісалі ўсе дакументы ў натарыуса, што яна не мае маёмасных прэтэнзій да яго, Максіма Непатрэбнага. А тут раптам закарцела ёй вырваць яшчэ. «Ну і апетыты?!» — нядобра падумаў Максім і, пераканаўшы сябе ў тым, што за ім праўда і закон, павесялеў.



На наступны дзень ён ужо жартаваў, насіў на руках, цалаваў Ліянку, прызнаваўся, што не можа без яе, што ні чорт, ні Бог не адсудзяць у яго жыллё, якое, дарэчы, дасталося яму ад бацькі. Максім пасля яго смерці, ужо будучы разведзеным, уклаў немалыя грошы ў прыватызацыю, і што зараз — дзяліць двухпакаёўку?..

Ліяна жыла ў кватэры Непатрэбнага як у Бога за пазухай. Машка паступіла вучыцца ў Мінск, і каб кватэра яе не пуставала, здалі ў наём добрым і надзейным людзям. Дамовіліся так: студэнтка будзе прыязджаць у госці да матулі з Максімам Ягоравічам, пераначуе, атрымае грошы і паедзе. Што ёй рабіць адной у пустой кватэры? Не вельмі хінулася яна і да дачы-бунгала. Усе грошы за кватэру будуць для Машкі (а гэта сто долараў, праўда, нягуста, улічваючы, што ў Мінску даводзіцца плаціць за жыллё ўсе чатырыста), а да сумы, якой не хапае, дабавяць. Машка заікнулася, каб прадаць дачу, але Ліяна катэгарычна запярэчыла.

А тут падвярнуліся грошы ад Канстанціна Мацвеевіча — даслаў паўтара мільёна рублёў на дробязныя, як ён казаў, патрэбы. Даслаў пасля некаторых ваганняў і крыўды, якую усё ж займеў, калі ўведаў, што Ліянка перайшла жыць да другога чалавека, да настаўніка. Лісты ён ёй не пісаў, а вось пераводам парадаваў. Трэба сказаць, гэта была апошняя грашовая ахвяра для дачкі-студэнткі. Перад тым, як выслаць перавод, ён патэлефанаваў на Ліянчын рабочы нумар, расказаў, што памерла Сцепаніда Альфонсаўна — блакадніца, якая мела вельмі пристойную пенсію, і пасля яе смерці ён песціць салíднымі пераводамі не можа.

Яна заплакала. Яна разлічвала на грошы Калдунова, на тое, што яны разам выцягнуць Машку з вучобай. Зараз трэба чакаць, што скажа Максім Ягоравіч. А ён, пачуўшы сумную споведзь Ліянкі, раптам засмяяўся:

— А я і не разлічваў на піцерскія грошы. Ты думаеш, мы не выцягнем Машу? Выцягнем. Я вазьму гадзіны ў першай школе, пайду начным вартаўніком. Не бядуй, выкруцімся…

Ліянка ажыла душой.

Былая Максімава жонка Анюта не аб’явілася. Відаць, зразумела, што дармаўшчыны не будзе, і аціхла. Затое ў Ліяны Віктараўны знайшоўся далёкі сваяк, які прывёз аднекуль з-пад Масквы паперы,

якія сведчылі, што ў бацькавым родзе нямала было ўсё ж і прыкрага. Сваяк, сівы дзядок, якому было пад дзевяноста, расказаў Ліяне дурную і непрыемную гісторыю.

Яна да гэтага ўсю дарогу верыла, што яе далёкія продкі — людзі багатыя, канечне, не ракфелеры, аднак прозвішча, якое і яна носіць, — ад самавітага і статнага пана Нехвядовіча. Значыць, і кроў у яе дваранская, не якая там мужыцкая ці дробнагандлярная, нэпаўская. А тут гэты сівы дзядок па мацярынскай лініі раптам такое выклаў Ліянцы, што ёй зрабілася зусім непамысна і страшна. Даслухаўшы расказ, яна не паверыла, яна змусіла сябе пераканаць, што гэта лухта і мана, што гэта паклёп, бо не ладзілі сваякі двух родаў, якія паядналіся — Нехвядовічаў (род па лініі бацькі) і Шпыркіных (па лініі матулі). Не ладзілі, і вось гэты дзед Міканор, які, напэўна, выжыў з розуму, раптам прыгадаў гісторыю, ад якой жахаешся.

Але ж паслухаем, што той дзед Міканор расказаў...

Янук Нехвядовіч сапраўды прывёз з-за свету сабе маладую жонку. І прыехала з імі і жыла ў адной хаце жончына старэйшая сястра. Пекная, як кажуць палякі, жанчына, паглядная ў свае трыццаць пяць. Але паноў яна не любіла. Аднойчы пані Хэлена праз хлопчыка, які быў у яе на пабягушках, наказала, каб тая прыйшла да пана Тадэвуша ў маёнтак. Якраз той прыехаў на сваім фаэтоне з Польшчы. А тая не паслухалася, сказала таму пасыльнаму, што не пойдзе, бо занята. Тады хлопчык прыбег у другі раз — з тым жа наказам, але сказаў, што пані злосная і шэрая тварам. Яна і тады адаслала гэтага ганца ні з чым. Зараз ужо прыляцеў на вазку аканом, сцебануў пугай ля ног Веркі (так звалі сястру жонкі Янука), ды з такім трэскам, што тая ажно прысела. А тут і Янук вярнуўся аднекуль, прагнаў аканома.

Верку прывезлі ў палац пад прымусам панскія гайдукі. У палацы ўжо было іх шмат, баб з дзесяць, і маладыя дзеўкі, і такія, як Верка. І выйшлі да іх паны-госці, якіх сабраў пан Тадэвуш. Сам гаспадар нягледзячы, што прыгоннае права было адменена, трымаў усё ў сваіх руках: як толькі бачыў, што баба прыгожая ды статная, ён і задзіраў ёй падол. Кажуць, дзяцей ад яго бегала палова вёскі. Бабы і дзеўкі баяліся ўжо выходзіць са сваіх хат. Вось, кажуць, гэтая Хэлена і падказала сыну, каб падабраў да «агледзін» і жонку Янука. Але маладая жонка з'ехала на нейкі час да сябе на радзіму, вось да гэтай Веркі і



прычапіліся. Яна ніколі не была замужам, была бабылкай і пазбягала ўжо мужчын, зняверыўшыся ў тым, што некалі займее сям'ю. Ён загадаў сваім прысцябайлам, каб тыя задралі Верчын падол і прывязалі яе да дрэва. Яны так і зрабілі. Паны стаіліся недзе за дрэвам і цікавалі, як хлопцы з вёскі і панскія паслугачы ціхенька падбіраліся да кабеты і ціскалі за зад, цыцкі ёй мялі, валасы ўнізе тузалі, хіхікалі. А найбольш смелыя, то і палец туды, у валассё, сунулі. Хто з хлопцаў падбіраўся пад дзецюка, той і наогул пароў ужо туды не пальцам. Яна ж не бачыла, хто, бо падол задзёрты на галаву. Яна толькі скавытала ці плакала ікаючы, не ведаючы куды сябе дзяваць ад сораму.

Кажуць, яна тады зацяжарала. Ад каго? Ну, вядома ж, не ад саплякоў — ад тых, хто ўстаўляў у Верчыну прамежнасць свой узбухлы член. Кажуць, і нарадзіла сына, але сама памерла ад родаў. А сына таго, хворага і недаразвітага, гадавала бабка-павітуха, і хлопчык той загавеў душой у свае сем гадкоў.

Ліяна Віктараўна не верыла, што так было, яна даводзіла дзядку, што ён расказаў дзіўную легенду з тых далёкіх панскіх часоў. Легенду, а не быль. «Не можа такога быць!» — у каторы раз крычала яна на вуха глухому дзеду, і ў каторы раз ён у адказ усміхаўся ў сівы клінок бародкі і казаў: «Так яно і было, дзетухна, і не сумнявайся! Тады бруду ўсякага было ого-го! Яно і зараз хапае ўсякага, а тады паны ад гультайства не ведалі, чым сябе заняць». «Няпраўда! — зноў крычала яна на вуха дзеду. — Лухта! Гэта твае родзічы навыдумлялі!..»

Дзядок хмурнеў, церабіў кашчавымі артрознымі пальцамі сівы клінок бародкі і моўчкі выходзіў з хаты. Назаўтра зноў прыходзіў вечарам, якраз як вярталася Ліяна са школы, і зноў расказваў пра тое ж. Пра Верку, пра яе ганьбу і абразу.

У трэці вечар Ліяна дзеда не пусціла. Ён начаваў у не менш далёкай сваячкі, якая жыла на ўскраіне мястэчка. Праз тыдзень ён паехаў да сябе на радзіму, дзе, кажуць, неўзабаве і памёр.

## 8

Дзяўчынкай Ліяна марыла паходзіць на Кацярыну Гусеву з серыяла «Брыгада». Фільм яна глядзела неаднойчы, і кожны раз ёй не толькі імпанаваў прыгожы твар гераіні, колькі заварожвала яе

жаноцкасць і абаяльнасць. Яна і апраналася тады, як Каця. Газавая хусцінка на галаве, лёгкая сукенка, якая зграбна і сексуальна аблягала яе дзявочы стан. Уразіў здымак, дзе Гусева ляжыць у джынсах, у блакітнай цяльняшцы, якая адкрывае пагляду прыгожае плячо, а на пятках сагнутых ног галантна ляжыць саламяны капялюшык. Каця пазіравала для нейкага часопіса, і гэтай маладой дзявочай паставе яна па-чорнаму зайздросціла.

Пасля Каця Гусева адышла на другі план, саступіла месца амерыканскай актрысе Джуліі Робертс. Фільм «Прыгажуня», зняты ў Галівудзе, Ліяна праглядвала дзясяткі разоў. Не, яна не хацела стаць прастытуткай (хаця і прамільгнула неяк такая думка), каб зарабляць многа і за раз, у гераіні была чароўная ўсмешка (на ўсе белыя, як першы цнатлівы снег, яе трыццаць два), гнуткая пастава. І раскаванасць, і талент артысткі. Як тады хацелася Ліянцы знайсці такога ж прыгожага і, галоўнае, багатага мужчыну, які зрабіў бы з яе гэткую ж чараўніцу. Каб хлопцы за ёй усё гужам ды гужам, каб ляжалі ля яе ног штабялямі, а яна выбірала, як бананы ў магазіне.

Не было ў Ліянкі ні багатых апартаментаў, кшталту заморскіх віл ды гатэляў, ні багатага кавалера. Не паспела яна палюбавацца сабой, пацешыцца юначай увагай — падвярнуўся Канстанцін Мацвеевіч, якога яна спачатку не ўспрымала як мужчыну, як чалавека, які будзе ёю любавацца і ад якога з'явіцца дзіця. Не прымала ўсур'ёз і яго залётніцкія паводзіны, думала, што ён гуляе з ёй, як мамчын муж. А тады аднойчы ён абняў яе, уткнуўся тварам у валасы, свежыя пасля мыцця шампунем, і шаптаў нешта невыказна прыемнае. Яна ўжо не помніць, што гэта былі за словы, адно засталося ў памяці: ёй было прыемна. І на другі дзень ён гарнуў яе да сябе, і на трэці, а затым пацалаваў. Гэта быў пацалунак не айчыма — мужчыны. Яна гэта зразумела і не ўстрымалася, паддалася. Якраз у тую ноч маці паехала да сваякоў у Мінск, там і заначавала. Вось тады ўсё ў іх і пачалося.

Гэта было даўно. Яшчэ у першым, калі хочаце, яе жыцці, калі ён проста абсыпаў яе падарункамі і біжутэрыяй. Маці было няўцям, што абсыпае ён сваю падчарку зусім не таму, што яна падчарка — па іншай прычыне. І толькі калі цесным стала яе школьнае плацце, усё выяснілася…



Калі зацяжарала, то зразумела, што ні Кацяй Гусевай, ні Джуліяй Робертс ёй ужо не быць. Яна трое начэй запар плакала, праклінаючы і долю сваю, і гэтага сівога самца, хацела ўжо накласці на сябе рукі, а тут падаспеў падарунак, які павярнуў яе думкі калі не на сто восемдзесят градусаў, то блізка да гэтага. Канстанцін Мацвеевіч (а было гэта да выкрывальнай гаворкі з маці) паднёс ёй бальнае плацце і кальe. Вядома, без брыльянтаў, але даволі прыстойнае па цане. Яно пасавала і да яе хударлявага скуластага тварыку, адцяняла чарнату яе вачэй з прожылкамі аквамарыну (раней яны былі, як смоль, мусіць, колер вачэй мяняўся, як скура ў хамелеона), злівалася з завушніцамі, пад бірузу, якія падарыў надоечы. Плацце было цёмна-сіняе, як у Афрадыты, якая выйшла з пенных хваляў мора.

Яна ледзь не самлела ад шчасця. Падбегла і, абхапіўшы яго рукамі за шыю, лёгкая, нягледзячы на дзіця, якое хавала ў чэраве, зграбная, пацалавала яго ў няголеную шчаку. Падарункаў было даволі, каб дараваць яму ўсё.

У сённяшняй Ліяны абаяльнасць засталася, яна адчувала, як з'ядаюць яе па-ранейшаму маладыя мужчыны, як доўга глядзяць ёй услед. Праўда, глядзяць на яе стройныя ножкі, якія выглядаюць з-пад кароценькай спаднічкі, а не на яе самую, не на твар. З твару якраз яна і нічога чароўнага. Звычайны лісіны ці тхарыны тварык. Ды і з паставай не ўсё так, каб сказаць: «Ах, якая ідзе каралеўна!» Ідзе яна, сагнуўшыся ўперад, не плыве павеўнай, як некаторыя прыгажуні. Казалі не раз ёй, падказвалі сяброўкі, маўляў, адкінь трохі тулава назад, адтапыр задок, і адразу ўсе мужыкі твае. А яна смяялася: «А і без гэтага ад іх няма адбою».

Гэта была праўда, але праўда з вышыні яе завышанай ацэнкі, маўляў, я самая-самая. Між тым ад сагнутага тулава сексуальнасць яе не прапала. Нейкая таемная сіла цягнула да яе мужчын…

Максім не заўважаў (лепш сказаць, не хацеў заўважаць) пажадлівых позіркаў мужчын — ні ў школе, ні на вуліцы, калі яны разам вярталіся з работы. Ён заўсёды чакаў яе, хаця ў чацвер ў яго было ўсяго тры гадзіны. Ён правяраў сшыткі, пісаў планы і ўсё адно заставалася рэшта часу, якога не ведаў куды дзець. Тады ён бег у магазін, купляў каўбасы, мяса, каб самому згатаваць вячэру. Не тое што не

даўяраў, ён аберагаў ад кухарскіх спраў. Ён баяўся на яе падзьмуць, не кажучы пра тое, каб сказаць якое ліхое слова.

Першая недамоўка здарылася пасля жаночага свята. Мужчыны ў школе віншавалі дзяўчат, наладзілі нават танцы, і Ліяна запрасіла на белы танец маладога гісторыка. Усё было б няважна, калі б яна не прыціснулася да партнёра так інтымна і непрыстойна, што заўважылі ўсе і пачалі шушукацца. Той гісторык неўзабаве і сам запрасіў яе, захмялелую, на танга, і зноў яна залівіста смяялася, скараючы партнёра сваёй какетлівасцю. Максім пасля танцаў, ідучы ўжо дадому, загаварыў усклапочана:

— Ліянка, не трэба са мною так…

— Як так?

— Ты ж ведаеш, што за цябе я аддам жыццё. Ты для мяне ўсё!..

— Не разумею, пра што ты.

Яна сапраўды не разумела, што за прэтэнзіі, чаму яна не можа паводзіць сябе так, як хочацца. Ну, спадабаўся ёй гэты курносы і смяшлівы малады чалавек, дык што, і станцаваць з ім ужо нельга.

— Мы з табой, як на далоні. Ты гэта разумееш? — даводзіў Максім і адчуваў, што словы да Ліянкі не даходзяць. Яна бесклапотна і пацешліва смяялася.

— Не разумею. Ты ж абяцаў, што не будзеш раўнівіўцам. Абяцаў жа, ну!.. Ну, скажы, чым ты лепшы за Косціка? Чым?..

Ён гарнуў яе да сябе, казаў ёй прымірэнча:

— Даруй, сарваўся! Нервы!..

А між тым сабе даводзіў іншае. Яму раней, да таго, як сышоўся з Ліянай, здавалася, што лепш ужо адмовіцца ад жыцця, чым ад кахання да яе. Яна яго паланіла, яна з ім тады магла зрабіць усё, што захацела. Спаліла б, як ерэтыка, на марудлівым агні, на жоўтых, нязыркіх яго языках, і ён не пікнуў бы, не застагнаў.

У што ж перакавалася гэтае пачуццё зараз? Ён не мог сказаць нічога пэўнага. Ён губляўся, калі бачыў, як Ліянка гуляе ім, загульвае з мужыкамі, і яму здавалася, што робіць яна ўсё гэта наперакор яму, бо ведае, што ён за яе аддасць жыццё. Але ж даводзіцца выбіраць паміж тым, да чаго прывыкнуў, і тым, да чаго цягне. Гэта думка не яго, гэта з Паула Куэльа, з яго «Адзюльтэра», праўда, там гэтак разважала гераіня. Дык вось яна лічыла, што ніхто нікога не можа згубіць, таму што ніхто нікому не належыць. Гэта не аўто і не лецішча. Гэта жывы чалавек. У гэтым і сапраўдная свабода — уладарыць над тым, хто даражэй за ўсё на свеце, але помніць, што ўсё гэта не твая ўласнасць.

Ці лічыў ён Ліяну сваёй уласнасцю? Мусіць. І ў гэтым быў корань зла. Усяго, што магло рухнуць, як трухлявая страха, якая «жыла» яшчэ з панскіх часоў. А яна была свабоднай жанчынай, бо не належала нікому — ні чорту, ні д'яблу, ні паганскаму бажку. Нікому. Яна была той кошкай, якая гуляе сама па сабе. Не-е-, гэта была не кошка, гэта была пантэра, гэта была львіца (толькі не свецкая: не дацягнула сваёй раскруткай і піярствам), якую дамагаліся ўсе і яна выбірала, каму аддацца, а каму паказаць, даруйце за вобраз, кукіш пад нос. Максіму яна аддалася, але не належала яму. Яна магла аддацца і маладому гісторыку, да якога прыціскалася ў танцы, але ў апошні момант нешта тармазнула…

Максім вырашыў вылечыць яе нараджэннем другога дзіцяці. Іхняга дзіцяткі, якое, хутчэй за ўсё, дадало б ёй больш сталасці, у іх адкрылася б, калі хочаце, другое дыханне. І нешта па восені ён пачаў апрацоўку. Пачаў з пахвальбы.

— У цябе другая маладосць, — пахваліў. —Ты ў мяне такая ж, як была ў свае дваццаць…

— Не ў дваццаць, а ў пятнаццаць, любы мой! У пятнаццаць я нарадзіла ад чалавека, якога ты ведаеш і які мне дарагі і сёння.

— Але ж трэба выбіраць…

— Я ўжо выбрала.

Ён пахаладзеў, чакаючы працягу. Яна зразумела, што сказала не тое, прытулілася да яго пляча і глянула на яго гарбаты нос знізу ўверх. Засмяялася:

— Не бядуй, казак, прарвёмся!

Чаму яна так сказала, прычым тут казак, ён перапытваць не стаў. У яго апала ўсякае жаданне працягваць гаворку.

Ад іхняга сумеснага дзіця Ліяна адмовілася. Сказала: «Рана. Давай трохі прыгледзімся адно да аднаго», а ён зразумеў яе словы як пажыццёвую адмову. А тут прыспела здарэнне, якое ўдарыла Максіма па цемечку, як доўбняй. Ён паехаў на курсы ў вобласць. Прыязджаў праз два ці тры дні, як выпадала, і Мішку са школы павінна была забіраць Ліяна. Тая спачатку так і рабіла, а аднойчы заначавала не ў

сваім ложку, а Мішку прывяла дамоў выхавальніца з групы падоўжанага дня. Прывяла і пакінула ў недаўменні аднаго ў кватэры, не ведаючы, дзе шукаць гаспадыню. Пазваніла дырэктару і сацыяльнаму педагогу, расказала пра выпадак. Тыя звязаліся з курсантам, і ён назаўтра раніцой прыляцеў на першым дызелі. Ліяна была дома, клялася і бажылася, што затрымалася ў сяброўкі, даводзіла, што ўсё роўна забрала б Мішку, і няхай гэтыя «агрэсары не капаюць пад яе».

Мішка спуджана глядзеў на жанчыну, якая мелася стаць яму новай матуляй, і маўчаў. У тую ноч, калі застаўся адзін, ён не заснуў, ляжаў ціхенька пад коўдрай, яму было страшна. Ліяна з гулянак вярнулася пад раніцу. Пра гэта ён не сказаў бацьку, ды і той пра гэта не пытаўся. Наўмысна не спытаў у сына, каб не губляць сваёй апошняй надзеі.

Апошнія руіны гэтай надзеі рассыпаліся на друзачкі праз два месяцы, калі Ліяна запіла. Мала таго, што вярталася п'яная, дык і выкачаная, плацце збрудзелае, а твар азызлы ад гарэлкі і бяссоння. З ніжняй губы напамаджанага рота, як у закаранелага курца, звісаў агарак цыгарэты.

— Ты закурыла? Кінь зараз жа! — і выхапіў недакурак з рота. — Дзе была? — ён зрываўся на крык. — Дзе?! Кажы, распусніца!

— Так, я распусніца! Я вядзьмарка!.. А ты дабрадзей, ты… Так, я закурыла, з табой тут не закурыш. Такі ты лагодненькі, усё даруеш мне. Не б'еш, не лаешся, носіш на руках. Ну, вазьмі мяне на рукі, нясі на наша шлюбнае ложа. Ну, чаго ты разгубіўся? Што, такой вось, памятай і патрэпленай¸ я табе не патрэбна? А казаў жа, што ўсякая згадзіцца!..

Ён атарапела маўчаў, глядзеў на злы, перакошаны твар маладой жанчыны, якую кахае, брыдкую зараз і зацяганую мужыкамі.

— Я ненавіджу цябе! — раптам выкрыкнула яна Максіму ў твар. І ён ад нечаканасці ажно прысеў. —Ты ўзяў мяне гвалтам, хацеў зрабіць заложніцай. Я не такая… Не можа салавей спяваць у клетцы.

— Гэта ты салавей?

— Я. А што, хіба не так?..

Ён застагнаў, падхапіў яе на рукі і панёс у ванну. Кінуў ёй ручнік, свой халат, сказаў з болем у сэрцы:

— Памыйся і спаць!



Прыняўшы ванну, яна пацёглася, віхляючы, да яго ў ложак. Чакала, што прагоніць, але ён адкінуў край коўдры, пусціў яе, цёплую і ўсё такую ж зманлівую, да сябе.

Назаўтра, збіраючыся на працу і гледзячы, як, бледная, ледзь жывая, хлябае вялікімі глыткамі гарачы чай ягоная жонка, Максім зразумеў, што дарue ёй усё, хаця сорамна было, гідка і па-мужчынску няўтульна: сляпое каханне штурхала яго на самыя прыкрыя і самыя брыдкія ўчынкі, на якія нармальны чалавек проста не пайшоў бы. Не хапіла б яму фантазіі.

На нейкі час усё ўвайшло ў ранейшае рэчышча. Так здавалася Максіму. Ён вырашыў кожны вечар чакаць яе, каб разам вяртацца з работы (упусціў жа, выбілі з каляіны курсы перападрыхтоўкі). Разам забіралі са школы сына, утрох пераступалі парог кватэры. Яна адразу, зайшоўшы ў спальню, знімала з шыі, з запясцяў усю сваю «вупраж» (так употай, смеючыся, называў яе біжутэрыю Максім), з бразганнем клала яе на тумбачку, прыцiснутую да шырокага сямейнага ложка, а затым знімала блузку, плацце. Максім заходзіў, каб пераапрануцца, але яна не пускала, крычала з-за прыпёртых рукой дзвярэй:

— Пачакай, спачатку я… Мне сорамна перад табой…

Для яго гэта было нечаканасцю: чаму сорамна, калі яна ніколі не чырванела — ні перад ім, ні перад чужым чалавекам. Ён упёрся плячом і адчыніў дзверы. Ліяна не паспела ўскінуць халат, стаяла голая, у адным трусіках, з якіх усміхаўся на левай яе ягадзіцы, там, дзе адкрывалася радзімая плямка, намаляваны кот з вусамі. Але не кот збянтэжыў яго (яна была ахвотніца да такіх штучак), ён ужо блізка аглядаў яе, і ўразілі сінякі, нават пакусы, ад якіх засталіся крывяна-чорныя падцёкі, і на левым, а найбольш — на правым баку яе паранейшаму стаячых, хаця зараз такіх брыдка-пакамечаных грудзей.

— Адкуль у цябе яны?

— Упала, мілы! Паслізнулася…

Канстанцін Мацвеевіч з Піцера тым часам даслаў ліст. Ён не цікавіўся камп'ютарам, не было ў яго адпаведна і электроннага адрасу, і пісаў ён пісьмы ад рукі. Словам, ажыўляў мёртвы для многіх, для яго ж жывы эпісталярны жанр. Як многія лацінскую мову, якая служыць хіба медыкам, філолагам, гісторыкам. Пісьмы не развучыўся пісаць, вядома ж, не адзін Канстанцін Мацвеевіч — людзі яго пакалення

многія так рабілі, і не для форсу, а таму, што так яму было зручней выказваць свае думкі.

Пісала піцерская рука прыгожым каліграфічным почыркам. Спачатку ішлі навіны з яго жыцця халасцяцкага, а ў канцы ён прасіўся, каб трохі ў іх пагасцяваць.

Максім не пярэчыў, ён адразу загаварыў пра тое, як лепш сустрэць госця, але Ліянка яго сурова і груба перапыніла:

— Што ён у нас забыўся? Адламаная скіба!.. Грошы дык Машцы не дае, хрэнаў бацяня! А тут сядзе на нашы харчы.

— Што ты вярзеш? Ты ж казала нядаўна, што ён табе і сёння дарагі. Калі ты кажаш праўду?

— Я ніколі не хлушу! Май на ўвазе. Ну, казала некалі, ён для мяне ўсё больш аддаляецца.

— Не, напішы, што сустрэнем па вышэйшаму разраду. Ты павінна гэта зрабіць у імя вашай дачкі Машы.

Канстанцін Мацвеевіч прыехаў праз месяц, калі ўжо раскашавала вясна. Максім на вакзале сустрэў яго сам. Нёс яго дарожную сумку і расказваў пра Машку, пра Ліяну, пра тое, якая яна непрадказальная, затое як з ёй цікава і кожны дзень па-новаму. Пра яе блуканні ён прамаўчаў.

— А што твой сын? Як у яго з Ліянкай?..

— Не ўсё адразу, дарагі Канстанцін Мацвеевіч.

Той хмыкнуў. Ён быў у модным пінжаку з карычневага замшу, з-пад якога даволі імпазантна выглядала бэжавая кашуля ў тонкую чырвоную нітку. Прыстойна ляжалі на ім штаны недзе пад какававы колер, а гэты мужчынскі «гардэробчык» дапаўнялі лёгкія летнія чаравікі. «Не бацяня, а франт!» — нядобра, з некаторай зайздрасцю падумаў Максім, а затым адагнаў гэтую брыдкую думку і ўсю дарогу пацяшаў госця анекдотамі. Той смяяўся, стрымана, з вышыні сваёй перавагі: усё-такі ён прыехаў да сваёй Ліянкі, абяцала прыехаць суботнім аўтобусам і Машка. Яны ягоныя, з імі ў яго асаблівыя, радзінныя стасункі. А хто ім гэты жартаўнік-зацейнік? Хто?!.

Ліяна сустрэла госця шумна, што стала для Максіма па сутнасці навіной. Казала адно, а зараз першай кінулася да яго цалавацца, вішчэла, як малое дзіця. Яны ўдвух, вось так абняўшыся, і пайшлі на кухню. Нібыта Максіма з імі наогул не было. Ні Максіма, ні Мішкі.



Пакуль сустракаў Максім госця, яна накрыла на стол. Стаялі чатыры чайныя прыборы, пасярод стала красаваўся торт «Начны вояж» з вензелямі на шакаладнай верхняй скарынцы. Максім нарэзаў яго сегментамі, пакінуўшы пра запас тры кавалкі: а можа, Канстанцін Мацвеевіч захоча дабаўкі, ды і Мішка не адкіне, не кажучы пра Ліяну.

Не паспелі выпіць па кубку духмянага чаю, як у кватэру заляцела студэнтка. Такая ж шумная, як і матуля, яна гэтак жа шчыра кінулася ў абдымкі да госця. Той устаў з-за стала, высокі, статны ў свае шэсцьдзесят пяць, і Машка не ўстрымалася:

— Ну ты, блін!.. Піцерскі моднік! Адкуль шмоткі?

— З «Гасцінага Двара», дарагі мой пісклёнак!..

— І я хачу з «Гасцінага». Хачу, хачу!.. Ты мне купіш прыкід, га, тата?

Той міла ўсміхаўся, паказваючы свае ўстаўныя пад золата два пярэднія зубы.

— А ў Парыжы, дзе жыве мая цётка, можна набыць прыкід не менш файны, — сказаў Максім у піку франтаватаму госцю. — Хочаш, я папрашу цётку, і яна купіць табе, што захочаш?

— Хачу, хачу, хачу! — лапатала Машка і танцавала ля госця, які баяўся сесці, бо тады сапсуе ўвесь гэты цікавы спектакль.

У той вечар яны дапазна сядзелі. Максім усё стараўся весяліць піцерскага госця, але ён дзіўным чынам і слухаў, але не чуў яго, ён быў захоплены шчаслівай гаспадыняй. Машка неўзабаве, пацалаваўшы «бацяню» і пажадаўшы яму «Дабранач!», пайшла спаць, захапіўшы з сабой малога, а яны ўтрох сядзелі за непрыбраным сталом на кухні і адводзілі душу ў гаворцы. Праўда, з гэтай абоймы ўсё ж выбіваўся гаспадар кватэры, які пачуваў сябе вельмі няёмка. Ён не раз спрабаваў расказаць нешта пацешнае, згаданае з жыцця класа, у якім ён быў класным кіраўніком, але яго перабівалі — то Калдуноў, то ён разам з Ліянай. Іхні смех, смех шчаслівых людзей, Максім прыняў, як хваробу, спаслаўся на стому і пайшоў у спальню.

Госць і Ліяна ляглі пад раніцу.

— Нагаварыліся ўволю! — казала радасна яна Максіму, выходзячы раніцой на кухню. Калдунову знайшлі месцейка ў зале, і ён, здарожыўшыся, спаў без задніх ног. Прачнуўся пад абед, бадзёры, выспаны і такі ж шчаслівы, як і быў учора вечарам.

Машка доўга ў гасцях не бавілася, схавала ў сумку грошы, якія даў ёй «бацяня», і развіталася.

Мінулі два выхадныя, панядзелак для Максіма быў напружаны: мала таго, што пяць урокаў, дык яшчэ і падрыхтоўка да экзаменаў. Ён не мог, не меў часу забегчыся нават на хвілінку да Ліяны, а калі забегся, яе ўжо не было.

Нешта трывожнае абрынулася на яго, нібы цяжкое свінцовае неба, якое прыціскае да зямлі людзей, цэлыя вёскі, лясы, гарады. На гадзінніку была чацвёртая гадзіна, і ён, прадчуваючы непапраўнае, бегма кінуўся дамоў. Дзверы былі на замку, ён доўга і ліхаманкава шукаў ключы па кішэнях пінжака, штаноў, нарэшце знайшоў і адамкнуў дзверы. У кватэры нікога не было. Ён кінуўся на кухню, а, згледзеўшы на стале ліст са школьнага сшытка, раптам абамлеў, знерухомеў, быццам прырос да падлогі. Трэба было ступіць усяго два крокі, а ён не мог, не меў моцы. Неўзабаве перасіліў сябе, схапіў паперку. «Макс, прабач, вяртаюся да свайго граху! Да нашага з ім граху!. Не шукай мяне — дарэмна! Зараз я ўся ягоная. Мы з ім адно цэлае, адна сям'я…».

Ногі яго не трымалі. Ён сеў, адчуваючы, што стома запаўняе ўсяго яго — ад галавы да самых пятак. Цвяроза разважаць ён не мог, аднак раптам усплылі ў памяці, ранілі словы, якія прачытаў даўно і якія здаліся зараз ратавальнымі: «Лёс да кожнага прыходзіць босы. Як Хрыстос…».

Класік яго выручыў.

## 9

Едучы ў купэйным вагоне цягніка, Ліяна адчувала сябе самым шчаслівым чалавекам на свеце. Яна едзе ў Санкт-Пецярбург! У гэтым горадзе-музеі яна была ўсяго два ці тры разы, і тое даўно, гадоў пятнаццаць назад. Калі жывая яшчэ была Сцепаніда Альфонсаўна. Яна сустракала яе як дачку, як самага роднага чалавека. Яна любіла гэтае няўрымслівае дзяўчо, хаця тады Ліянцы было, напэўна, гадоў дваццаць. Яна была такой жа, як сёння Машка, студэнткай, і на зімовых канікулах Сцепаніда Альфонсаўна абвадзіла яе ўсюды, дзе можна было і дзе ёй было надзвычай цікава. Была і Петрапаўлаўская крэпасць, і Рускі музей, і кунсткамера, з'ездзілі ў Царскае Сяло, на Чорную рэчку. Словам, тады ёй спадабалася. І Сцепаніда Альфонсаўна аказалася цікавай і інтэлігентнай жанчынай.

На жаль, яе ўжо няма ў жывых. Ці будзе ёй у шумным горадзе гэтак жа цікава, як было тады? Яна верыла, што будзе, бо з ёй любімы і такі зараз, здаецца, памаладзелы Канстанцін Мацвеевіч. Ён яе муж. Ён, і толькі ён зможа зрабіць яе шчаслівай!..

Гэты чалавек, яе мужчына, ляжаў на першай паліцы купэ і спаў. Не, ён не спаў, ён ляжаў у паўдрымоце і таксама радаваўся свайму шчасцю. Праўда, неяк не па-людску ўсё выйшла, быццам выкраў яе ў Максіма. Быццам ён той пушкінскі Мазепа, а яна — маладзенькая Марыйка. Быццам ён гвалтам забраў яе. І ад гэтага свайго мазепства яму было прыкра і агідна. Так нельга было, ён абавязкова, як прыедуць, напіша яму прабачальны ліст. Няхай даруе такі бесчалавечны і жорсткі ўчынак. Ён не мог інакш, бо Ліянка настойвала, казала: расставанне — маленькая смерць. Гэта, напэўна, словы з песні, а яна іх сказала, нібы сам прыдумала. Так, расставацца заўсёды балюча, асабліва калі так кахаеш, як Максім.

Як ён глядзеў на яе, як галубіў, як ласкаў яе сваім закаханым позіркам! Таму і балела сэрца ў Канстанціна Мацвеевіча, што гэтак па-варварску выхапіў яе. Нібы з вярцепа, нібы яна была яму даўно за жонку, а Максім ашукаў. Усё якраз наадварот. І ён ляжаў на спіне і разважаў: думкам было цесна, затое не трэба было нікому расказваць пра свой боль, бо і Ліянка здалася, заснула.

Яна ляжала побач, праз купэйны праход: працягні руку і дастанеш яе, такую прыгожую і такую зараз ажаночаную істоту. Ён даўно яе не бачыў, і зараз, лежачы на паліцы і гайдаючыся, пад стукат колаў, адчуваў: яна рабілася яму бязмежна дарагой і любай. Ён нават працягнуў руку, каб злавіць у паўзмроку купэ яе руку ці хаця б дакрануцца да пляча, але не знайшоў ні рукі, ні пляча, і супакоены, стомлены разважаннямі і дарогай, заснуў.

Падхапіў яго зычны голас праваднiцы. Была станцыя Дно. Ліянка спала, адкінуўшы коўдру — яна спаўзла ў яе з плячэй, прыкрытыя былі толькі ногі, і ён устаў і, седзячы на купэйным ложку, працягнуў руку, каб пагладзіць яе разбэрсаныя валасы. Пагладзіў, правёў рукою па яе твары, адчуў, як токам шыбанула яго пад самае сэрца — такая

была ў яе пяшчотная, такая па-дзявочы аксамітная скура. І на падбародку, вузенькім, з лёгкім агрэставым пушком, і на ўпалых, бо скуласты тварык, шчоках, і на тых жа скулах, на лобе, па якім, аднак, прайшлося жыццё сваёй лёгкай сеткай маршчынак і баразёначак — абмацаў увесь гэты тварык, узняўся і, абапёршыся рукой на паліцу, дзе яна ляжала, пацалаваў яе прама ў растуленыя ў сне вусны.

Яна прачнулася. Пацягнулася соладка, выпяціўшы з-пад абляганючай сукенкі два спакуслівыя невялікія бугаркі грудзей, і Канстанціну Мацвеевічу захацелася, проста да знямогі, да балючага сэрцабіцця, памацаць пад сукенкай і грудзі. Не рызыкнуў: на верхняй, якраз пад ім, паліцы паварушыўся мужчына, спусціў зверху калматую галаву, спытаў сонным голасам:

— Што за станцыя?

Калдуноў адказаў. Мужчына пазяхнуў.

— Дык мы ў Дне?..

Словы яго самога развесялілі, ён спусціў з лаўкі ногі, скочыў на падлогу.

Да самага Піцера мужчына, якому было гадоў пяцьдзесят, у джынсах і клятчастай кашулі, з закасанымі рукавамі, расказваў, хто ён, адкуль і чаго едзе ў Піцер. Калдуноў яго слухаў, а Ліяна, адвярнуўшыся да акна, сачыла за краявідамі, якія мільгацелі і цёпла кláліся на яе сэрца.

Вясна і Піцер — што можа быць больш усцешаным, чым гэтае спалучэнне двух для яе вельмі дарагіх слоў?! І няважна, што з'ехала яна нечакана, што сёння ж раніцой спахопіцца дырэктар Скупы (Максім Непатрэбны, хутчэй за ўсё, ужо ведае, куды яна рванула, нават ёсць у яго адрас Калдунова), спахопіцца і будзе дапытвацца ў няшчаснага і збянтэжанага, разгубленага настаўніка пра яе, сваю сакратарку. Ён раскажа, не, яму будзе сорамна расказваць пра тое, што ён кінуты, што яго зганьбілі, прынізілі. Ну, і няхай. Яна не шкадавала гэтага бескарыслівага, гэтага сардэчнага чалавека! Чаму, яна зараз не магла сказаць. А жыла ж з ім амаль два гады, і за гэтыя два гады ён дапамог ёй у вучобе чужой па сутнасці яму Машкі. Дык чаму яна не сказала яму дзякуй хаця б за гэта, за тое, што ішоў на такую ахвяру дзеля свайго маўклівага і такога бурнага і бязгрэшнага кахання?..

У яго яно бязгрэшнае, а якое ў яе?..



Цягнік адмерваў коламі вярсту за вярстой, прыпыняў ход, нарэшце пагляду адкрыліся прыгарадныя, не зусім самавітыя краявіды Санкт-Пецярбурга. Вагон то натужліва рыпеў, то гладка слізгаў па рэйках, але ход яго быў па-ранейшаму ціхі, няспешны.

Яны з Калдуновым вылезлі на перон, выйшлі, каб злавіць таксі. Яна любавалася сваім кавалерам (па сутнасці бацькам), які ўсё рабіў ладна, прыгожа і размерана. Таксі падагнаў ліха, з галантнай усмешкай. «Пецярбуржац!» — усцешана падумала яна і ўжо ў салоне машыны, седзячы з ім на заднім сядзенні, прытулілася да яго пляча і з удзячнасцю паглядзела яму ў вочы. Ён не ўстрымаўся, пацалаваў яе, адчуў, што вусны яе гарачыя і пругкія — салодкі пацалунак маладой і жаданай жанчыны.

Калдуноў жыў у Прыморскім раёне. Недалёка была вядомая па дуэлі Пушкіна Чорная рэчка, тут жа, недалёка, ляжала сярод чарналесся невялікае азярко, дзе Канстанцін Мацвеевіч купаўся ажно да самых суровых халадоў. Загартоўваўся, любіў паплаваць, тут жа ў лясочку збіраў грыбы і ягады. Праўда, на ягады пералескі былі бедныя, а з грыбамі быў ён ледзь не кожны год.

Пра гэта Ліянцы ён пісаў у лістах. Яна ведала таксама, што ён і рыбак, часта заседжваўся, стуліўшыся ў хмызу, з вудачкамі. Удача прыходзіла, хаця нярэдка вяртаўся ў кватэру з пустымі рукамі. Тым не менш ён лічыў рыбалку адным з самых лепшых відаў адпачынку. І яшчэ — камяні. Пра іх ён ніколі не забываўся. Яны ляжалі ў яго ў спальні, пад шырокім двухспальным ложкам, у чамаданчыку. Чаму захоўваў іх пад ложкам, ён і сам не мог сказаць. Той сябар з Мінска, які прыахвоціў да «хваробы», казаў, што камяні дзіўным чынам уплываюць на мужчынскую патэнцыю. Казаў ці то жартам, ці сур'ёзна: «Павер, будзеш проста суперменам! У камянёў ёсць душа, і калі да іх з любоўю, яны аддзячаць».

У Калдунова была трохпакаёвая кватэра, якая дасталася яму ад маці, Сцепаніды Альфонсаўны, блакадніцы, жанчыны ў раёне паважанай. Яна ўсё жыццё аддала рабоце ў аддзеле адукацыі, і калі хавалі, здавалася, на пахаванне прыйшла палова горада.

Уваліўшыся ў кватэру, Ліяна спярша пайшла аглядаць апартаменты. Зазірнула ў залу, абстаўленую пад даўніну, засталася задаволенай,

пырхнула на кухню, у спальню, з размаху, скінуўшы мяккія пантофлі, якія ўссунула ў парозе, паляцела на шырокі двухспальны ложак.

— З кім спаў тут, на гэтым аэрадроме? Ты мяне чуеш, Косця?

Косцем яна называла яго даўно, яшчэ ў тым, дзявочым жыцці. Сёння ён па ідэі быў для яе Канстанцінам Мацвеевічам, але так яна зваць яго не хацела. Баялася, што рухне адразу вобраз шчаслівай сямейнай пары, бо калі завуць па імені і па бацьку, то здаецца, што жывеш ці то з начальнікам, ці вельмі салідным чалавекам. Яна не хацела, каб ён быў такім.

— Спаў адзін і чакаў цябе. Чакаў, калі вернешся да мяне. Вернешся назаўсёды.

— Так не бывае. Дваццаць гадоў адзін? Ты ж стаў імпатэнтам!..

— Не стаў, і ты неўзабаве гэта зразумееш. Ты ж ведаеш, што я ніколі не хлушу.

Зараз ён падумаў пра магічныя камяні.

— Так ужо і ніколі.

— Ты лепш скажы, што хочаш зараз? Адпачыць ці рванём куды?

— Ты ж абяцаў даказаць, што не імпатэнт, — гарэзліва засмяялася яна і падставіла яму для пацалунку губы.

Ім у гэтую першую піцерскую ноч было яшчэ больш усцешана, чым тады, у студэнцкім інтэрнаце. Гэта быў апафеоз асалоды — і для Ліяны, якая даўно марыла пра барскае жыццё, і для Канстанціна Мацвеевіча, які вярнуў, нарэшце, сваё згубленае шчасце. Па сутнасці ў іх пачынаўся сапраўдны мядовы месяц. Пад раніцу яна ўстурыла змучанага за ноч Калдунова, сказала горача яму на вуха:

— А зараз давай на Чорную рэчку!..

Так усё ў іх і вярнулася. Як у сапраўдных маладажонаў.

На Чорную рэчку яны ехалі, трымаючы адно аднаго за руку, як школьнікі, яна цiснулася да яго шырокага пляча, заглядала ў ягоныя вочы з бляскам шчасця. Гэта была, бадай, самая шчаслівая пара на ўвесь Піцер.

Так, прынамсі, думалася ім самім. Такое ўражанне пакідалі яны ў Рускім музеі, стоячы ля карціны В. Сурыкава «Узяцце снежнага гарадка», яна нахілілася да Канстанціна Мацвеевіча і шапнула яму на вуха:

— А той, што ў санях, вунь той, справа, з вусамі, падобны на цябе.



— Але ж у мяне няма вусаў.

— Ну, і што, завядзеш.

— А ты тая, што ў шубе і прыгожай хусцінцы. Такая ж вастраносенькая, такая ж пекная! Як паненка…

— А я і ёсць паненка. Ты што, не ведаў?

— Паненка, паненка, — згадзіўся ён, абняўшы яе за плечы.

Яны ішлі па залах, высокі плячысты мужчына, у якога галава была абсыпана мукой сівізны, у тым жа франтаватым замшавых пінжаку, і невысокая маладая жанчына, дробная тварыкам, у ружовай кофтачцы і кароткай спадніцы колеру, які зліваўся з колерам пінжака партнёра. Кожны, хто звярнуў бы на іх увагу, хутчэй за ўсё сказаў бы: «Бацька з дачкой. Шчаслівыя!»

Ходзячы па залах, Ліяна раптам спынілася, падбегла да Калдунова, пацягнула яго за руку. Падвяла да карціны К. Каровіна, на якім быў паказаны партрэт артысткі Таццяны Любатовіч.

— А вось гэта я, — сказала ўзрушана. — Што, хіба не падобна?

— Не, ты хударлявая, а гэта, бачыш… у яе круглы тварык. Хаця ты такая ж прыгожая. Нават лепш. Я куплю табе сукенку, не такую, не пышную, куплю табе вішнёвую і доўгую да пят, каб аблягала тваю тонкую паставу. Можа, нават ад Версачэ. У ім ты будзеш выглядаць сексуальнай. Я так хачу.

— І я таксама…

Назаўтра ж ён прынёс з Гасцінага Двара сукенку вішнёвага колеру. Ліяна яшчэ адсыпалася, бо любіла зараз папесціцца ў ложку. Казала: «Я тут хоць высплюся». А ён у адказ: «Высыпайся, а затым трэба нам падумаць пра тваю работу». Яна адкапыльвала ніжнюю пульхную губку і пакрыўджана парыравала: «Ну, навошта ты псуеш нашу ідылічную карціну?» «Не псую, а вяртаю яе да рэалій жыцця», — адказваў тады ён.

Дык вось яна другі месяц песцілася раніцой, уставала бліжэй да адзінаццаці, і тут гаспадар ускінуў побач з ёй на ложак гэтую шыкоўную сукенку. Не, яна на выгляд было дзіцячая, кароткаа, але яна расцягвалася так, што аблягала ўсе дзявочыя выгіны. Ліянка не ўбачыла — адчула побач з сабой абнову, ускочыла, голая, у трусіках, з якіх на левай ягадзіцы ўсміхаўся яму кот з вусамі, пабегла да люстра, у пярэдні пакой, на хаду надзяваючы плацце. Адзела, пакруцілася перад

люстрам, выгінаючы свой па-ранейшаму дзявочы стан, а ён цішком, стуліўшыся за дзвярыма, любаваўся гэтым мілым чалавечкам. Ён гатоў быў аддаць ёй усё, толькі б бачыць кожны дзень гэтую чароўную ўсмешку, гэтыя шчаслівыя вочы на цёплым скуласценькім тварыку.

У вішнёвай сукенцы яна ў першы раз выйшла з Калдуновым пагуляць «па Брадвеі». Значыць, па Неўскаму. Стаяла на пагодзе, і яны прыйшлі на Гасціны Двор, дзе Канстанцін Мацвеевіч купіў Ліянцы пад плацце калье. «Такое ж, як некалі», — казала яна, успомніўшы, як песціў яе ён рознымі падарункамі і сувенірамі. «А дзе ж тое?» — пацікавіўся ён. «Падарыла сяброўцы. У інтэрнаце. Ты ж прыязджаў, каб пераначаваць? Ну, чым жа я магла прыманіць яе, каб пакінула нас адных?»

Калдуноў змаўчаў. Ні папракнуў, ні пахваліў. Далей яны прайшлі на набярэжную Мойкі, зазняліся на памяць, стоячы на мосце з ажурнай чыгуннай агароджай. Зазняў іх на яе круты мабільнік мужчына, які ахвотна згадзіўся быць ім за фотамайстра.

— А ці ведаеш ты, даражэнькая, хто жыў на набярэжнай?

— Ну, хто? — з гуллівым выклікам спытала яна.

— Ты ж педагог…

— Ну і што? — сціснула яна свае губкі ў шнурочак — зазлавала. — Калі я тут была?

— Магла б чытаць: Мойка, 12, тут прайшлі апошнія месяцы жыцця Пушкіна. У гэтай кватэры, якую паэт знімаў у Валконскіх, ён заканчваў сваю «Капітанскую дачку», працаваў над гісторыяй Пятра Першага. Менавіта адсюль 27 студзеня 1837 года Пушкін адправіўся на дуэль з Дантэсам. Па гэтай набярэжнай пецярбуржцы часта маглі бачыць мастака Айвазоўскага, пісьменнікаў Тургенева, Ганчарова, Дастаеўскага…

— Ах, які ты ў мяне разумны! — пахваліла яна Канстанціна Мацвеевіча і кінулася па набярэжнай, ды так імкліва, што Калдуноў яе не мог дагнаць.

Пісьмо да Максіма Непатрэбнага ён напісаў праз тры месяцы. Хацеў як мага раней, нават прыехаўшы ў Піцер, а затым заняўся з гэтым цуда-дзіцём і забыўся на сваё абяцанне. Пісьмо было кароткім, выбачальным. Ды і што ён мог напісаць чалавеку, у якога адабраў шчасце, адабраў тое, чым той жыў, чым дыхаў і з кім хацеў, вядома ж, памерці ў адзін дзень. Як ён там. Вядома, рану яны з Ліянкай нанеслі яму пакутную, незагойную, аднак час — добры лекар. Гэта ён ведаў, аб гэтым і напісаў у канцы ліста, просячы ўмольна настаўніка дараваць яму такую абразу…

Праз тыдзень Калдуноў загаварыў з ёй пра работу. Загаварыў больш настойліва, чым тады, калі дарыў вішнёвае плацце. Яна пакрыўджана сказала:

— А я не хачу працаваць. Ты ж абяцаў мяне карміць і апранаць. Як дваранку. А я і ёсць дваранка… Ну, абяцаў жа? А слова — не верабей.

— Можа, і абяцаў, у парыве страсці. Але ж ты сама павінна ведаць, што ўтрыманкай жыць цяжка і несумленна. Ты не можаш так… Ну, Ліяначка?!

Яна адвярнулася пакрыўджана да акна, якое выходзіла на шырокі дворык.

— Магу, магу, магу! — не крычала — шаптала яна, і яе дзіцячы капрыз пачынаў ужо злаваць Канстанціна Мацвеевіча. Ён помніў, як казала горача Машка: «Хачу, хачу, хачу!», калі патрабавала сабе абнову з Парыжа, з Венецыі, яшчэ чорт ведама адкуль. Яны былі падобны, як дзве кроплі вады — маці і дачка, у адным яны былі розныя — у паставе. Сёння Ліяна папаўнела, няма ранейшай асінай таліі, у Машкі гэта ёсць, ёсць свая вужыная гнуткасць і матчына какетлівасць. Не, у Ліяны засталася такая ж аўра жанчыны, на якую не загледзіцца хіба лянівы і самы трухлявы мужчына. Яна ўмее круціць задам. Умее апранацца, хадзіць так, што залюбуешся. Але ж яна хоча быць утрыманкай, убіла сабе ў галаву, што дзеля яе ён ахвяруе ўсім, і дабівала яго як магла.

Ён не здаваўся. Не такую ён хацеў прывезці да сябе ў Піцер жонку.

— Я табе знайшоў работу. У народны музей Астапа Бэндэра. У Сестрарэцку. Гэта побач, за дваццаць кіламетраў. Ты будзеш глядзець там за парадкам. Ты палюбіш...

— Не палюблю! Не палюблю!..— крычала яна, кідаючыся ў істэрыцы на ложак. — Гэта трэба дабірацца на электрычцы?

— Ну, Ліянка, не будзь такой капрызнай! Я цябе кахаю, але калі будзеш выкідваць такія конікі, адпраўлю назад.

— Адправіш?!. Я што, пасылка?.. Што, не мог знайсці побач з домам?

— Пачні там, а пасля знайду і побач.

— Не хачу! Не хачу!..

Яна ўскочыла з ложка, падбегла да шафы, пачала выкідваць на падлогу сваё адзенне. Ён абхапіў яе за плечы, не даючы гэтага рабіць. Яны вырывалася, кусала яго за рукі, але ён трымаў яе моцна і надзейна. Змогшыся, яна абвяла, апусцілася на калені і заплакала.

На работу яна выйшла праз тыдзень. Канстанцін Мацвеевіч не настойваў, не гнаў яе ў шыю, бачыў у ёй пералом і чакаў. Вярнулася яна першы дзень з працы стомленая і ціхая, як паланёнае птушанё, якое спачатку білася аб клетку, а пасля змаглося і стулілася ў куточку.

Сядзела моўчкі ў зале. Тэлік не ўключала, увалілася ў фацэтнае крэсла і стомлена выцягнула ногі. Ён падышоў да яе са спіны, абхапіў за шыю, улез губамі ў стрыжку пад Мірэй Мацье, шапнуў: «Ты сёння ў мяне самая прыгожая, самая лепшая на свеце!» Яна павярнула галаву ў бок шэпту.

— Толькі сёння? Я і была такая. Ты хіба не помніш? Тады, як дамогся мяне ў мае пятнаццаць.

Праз паўгода яна працавала ўжо ў дзіцячым садку, за тры кварталы ад дома. Ліяна была задаволена, ішла на працу і вярталася дамоў стомленая, але са шчаслівым тварам. Казала мужу:

— Знайшла сабе сяброўку. Жыве недалёка. Муж у яе электрамеханік. Слаўная жанчына. Заўтра ў нас святочная сябрына. Ідзём у кафэ.

— Без мужоў?

— У нас дзявочнік. Пасядзім да адзінаццаці, а ты прыйдзеш, каб забраць мяне.

— Што значыць забраць? Ты нап'ешся? Не смей! І курыць кідай, інакш перастану цябе любіць. Мне брыдка цябе цалаваць!..

— Ах, ужо брыдка? Ну што ж, бывай, любімы!

І яна выходзіла на кухню, доўга адтуль не вярталася, выпрабоўвала цярпенне Канстанціна Мацвеевіча. Не ішоў на кухню і ён, і так яны былі «ў контрах» з гадзіну. Першай здалася яна, выйшла да яго.

— Курыць кідаю! Чэснае піянерскае! А бакал віна сёння вып'ю. Ты дазволіш?

— Ну, вядома. Калі толькі бакал.



Калдуноў пакінуў кватэру роўна ў 23.00. Пакуль дайшоў да кафэ, мінула мінут пятнаццаць. Адчыніўшы шкляныя дзверы, ён убачыў за столікам злева купку захмялелых жанчын. Ліянкі сярод іх не было. Яна танцавала з маладым імпазантным мужчынам сваіх недзе гадоў. Ён галантна вёў партнёрку ў танцы, яны перамаўляліся рэплікамі, яна смяялася, ды так залівіста, што многія звярталі на іх увагу.

— Ваша? — кіўнула на танцорку дзябёлая маладзіца ў бэжавым плацці і тоненька хіхікнула.

Ён прысеў за столік, на тое месца, дзе сядзела яна. Танга закончылася. Яна падышла, абвіла сваімі рукамі яго за шыю, сказала стомлена на вуха:

— Я хачу сексу! Вазьмі мяне адсюль, мой ратавальнік! Я хачу ў мяккі ложак, хачу з табой! Ты возьмеш мяне?..

Ён вывеў Ліянку з кафэ.

Назаўтра, у нядзелю, у яе балела галава. Яна прасіла прынесці яму мінералкі, соку, кефіру, прастаквашы — любога д'ябла, каб толькі палягчэла.

Ён прыносіў. Ён любіў яе, і гэта любоў не дазваляла яму зрабіць інакш, ён не мог, не ў сілах быў адмовіць гэтай шалабутнай жанчыне.

## 10

Зімой, пад Новы год, да іх прыехала Машка. Вясёлая, шчаслівая, узрушаная: яна прыехала з кавалерам. З тым Косцікам, да якога прывязалася і які, між тым, аказаўся не такім ужо бяссільным. Ён быў нармальным юнаком з пачуццём гумару.

Два Косцікі адразу паразумеліся, пайшлі ў бар, пасядзелі там, выпілі па куфлі густоўнага піва. Вярнуліся дамоў, заспелі жанчын у добрым гуморы. Яны спявалі «Касіў Ясь канюшыну».

— Ну, сапраўдныя беларусачкі!..

— А ты не беларус, мілы? — спытала Канстанціна Мацвеевіча Ліяна. —Ты ж ладны кавалак жыцця прабыў у Беларусі. Ты абеларусіўся…

— Я ссівеў, чакаючы цябе ў Піцеры. Як доўга я цябе чакаў!..

— І вось я з табою. Мы з табою: Машка і я. Мы любім цябе. Праўда, дачушка?

Тая пырхнула ў спальню, адтуль вынесла здымак, на якім яны былі ўсе трое. На адной фотцы: Калдуноў і Ліяна з Машкай.

— Адкуль ён у цябе? — выхапіў здымак з рук дзяўчыны Калдуноў. — Як ты зрабіла?

— А сёння гэта не праблема. Адстаў ты ад жыцця, дарагі татуля!

Ён прыняў яе папрок, узняў рукі, нібы сказаў: «Усё, досыць. Здаюся!»

Машка паехала ў Мінск вячэрнім, бо яе чакалі экзамены ў зімовую сесію, а назаўтра раніцой, збіраючыся на работу, Ліяна заспела мужа задуменным і заклапочаным.

— Што здарылася, мілы?

Ён паказаў пісьмо. На мелаваным аркушы паперы ад рукі пісала жанчына. «Святлана», — проста сказаў ён, відаць, помнячы, што расказваў Ліяне пра сваю былую. Яна жыла ў Паўлаўску з сынам і дзвюма ўнучкамі. «Да мяне дайшлі чуткі, што ты прывёз у нашу кватэру маладую жанчыну, — пісала жаночая рука. — Вар'ят! Ты здзекуешся з мяне? Ты, хто сорак тры гады назад кляўся мне ў вечным каханні? Хто яна, гэтая нахабніца? Адкуль яна з'явілася? Ці не тая, з кім ты нагуляў дзіця?..»

Ліяна села. Яна не магла стоячы чытаць гэты ліст. Яна зразумела, што яго пісала першая жонка Канстанціна Мацвеевіча. У свой час, маладым яшчэ, ён усынавіў яе дзіця, зараз таму сыну, Аляксею, больш за сорак, у яго двое дзяцей. І яны ўсе, як аказалася, прэтэндуюць на частку ягонай жылплошчы.

На работу Ліяна пайшла ў слязах. Не раз пасля Канстанцін Мацвеевіч праклінаў сябе за тое, што даў прачытаць гэты ліст Ліянцы. Калі б не даў, то ўсё ішло б сваёй чаргою. Няхай бы прыехала, няхай бы пайшлі разборкі. Няхай. Хаця за апошнія трыццаць гадоў ён усяго двойчы бачыў Святлану. Яна не выйшла замуж, яна засталася на ўсё жыццё разводзёнкай, і менавіта гэты ўчынак ён цаніў. Яна па-ранейшаму, напэўна, кахала яго, як тады, у маладосці. Але ж перад тым, як развітацца, як выгнаць яе з кватэры, ён таксама кахаў яе, гэтую жанчыну, як казала маці, гэтага электравеніка. Заграбушчая і зайздросная яна баба, гэта ён зразумеў пазней, калі Святлана ў першыя два гады пасля разводу дакучала яму візітамі, пісала запіскі, выклікала на



прахадную завода, дзе ён працаваў. Яшчэ да выезду ў Мінск. А пасля сама з'ехала з сынам у Паўлаўск, да сваякоў, і надакучваць перастала.

Колькі ж нерваў патрапала яму гэтая жанчына?! І вось аб'явілася зноў, пасягае на яго жыллё.

Нешта па восені Святлана прыехала. Адна, без сына, без унучак. У пярэднім пакоі Ліяна, якая адчыніла дзверы, убачыла расфуфыраную жанчыну ў дарагім паліто з ламавым каўняром, на галаве ў яе ляжала высокай кіпай шапка з такога ж дарагога звярка.

— Вы і ёсць тая кватарантка, якая жыве з маім Косцікам?

Ліяна не дала сябе ў крыўду, адказала з гонарам:

— Тая, ды не зусім. Ён мой муж, ад якога ў нас дзіця. Роднае, заўважце!.. А вы што за асоба?..

— Я? — не знайшлася тая, што адказаць. — Я самая першая яго жонка. Заўважце, першая!..

Пакуль яны так пікіраваліся, выйшаў з кухні Калдуноў.

— У-у, Косцік, — кінулася да яго Святлана. — Добра выглядаеш! Памаладзеў. А я вось стала, як таўкач!.. Колькі ж мы не бачыліся? М-да, забыўся ты на сваю першую..

— Мы з табой і жылі толькі былым, у нас ніколі не было будучага. І ты дарэмна абражаеш Ліянку. Дарэчы, пазнаёмся: Ліяна — мая жонка! Законная жонка, мы з ёй распісаліся.

У Святланы адвіснуў трайны падбародак. «Няхай ведае, — сказаў сам сабе Калдуноў. — Я схлусіў: нідзе мы з Ліянай не распісаліся, але гэта была мана ў імя святога. Каб пакончыць з гэтай зладзейкай, якая нахабным чынам некалі вынесла ўсё з маёй кватэры».

Начаваць у Калдунова яна не папрасілася. Ды і калі б папрасілася, ён выправіў бы яе за парог. І не шкадаваў бы аб гэтым. Тым больш, што ў Святланы недзе на Выбаргскім баку жылі сваякі.

Гэты нечаканы для Калдунова прыезд яго былой жонкі падтачыў іхнія выключна даверлівыя адносіны з Ліянкай. Яна запіла. Праўда, на работу хадзіла. Затое пасля садка абавязкова заходзіла, як пісаў Юрый Палякоў, у «рыгалету». Значыць, у піўны бар, дзе давалі на разліў і гарэлку. Яна рабіла сабе «ёршык» і, акаселая, бледная тварам, вярталася дамоў. Ён яе асаджаў, прасіў не піць, кляўся, што ні разу пасля разводу не парушыў табу, бо ўсё жыццё кахаў і кахае толькі яе, Ліяну. Яна слухала гэтую споведзь моўчкі і гэтак жа моўчкі, не

пажадаўшы яму «Дабранач!», ішла ў спальню. Ноччу ён не мог яе дабудзіцца, каб прылашчыць. Яна ляжала ватная, безуважная да ўсяго.

Калдуноў губляў усякае цярпенне, а тут аднойчы яна ў суботу прывяла ў кватэру высокага мужчыну з бародкай а-ля Калінін, з такім жа худым, як і ў яе, тварам, з засяроджаным і калючым поглядам цёмна-карых вачэй. Нос у яго быў шышкаваты, нос а-ля Дэпардзье. Адрэкамендавала:

— Антось, мой даўні знаёмы. Са студэнцкай пары. Мастак. Працуе ў рэстаўрацыйных майстэрнях. Вось сустрэла нечакана…

Канстанцін Мацвеевіч хацеў пакрыўдзіцца: чаму не папярэдзіла, чаму як снег на галаву, а потым зразумеў, што не можа, не ў сілах так зрабіць.

Яны ўтрох пілі чай на кухні, размаўлялі. Антось Амяльчук быў з Жабінкі, што на Брэстчыне, па размеркаванні трапіў у Мінск, дзе жаніўся. І няўдала, развёўся. Паехаў на радзіму, адтуль завербаваўся ў Піцер, дзе жыў ягоны даўні сябар Аляксандр. Ён таксама быў мастаком, хаця на глебе сваіх мастакоўскіх інтарэсаў і заўзятасці часта не ладзілі. Антось аддаваў перавагу класічнаму ці, лепш сказаць, акадэмічнаму мастацтву, Аляксандр быў постмадэрністам. Аднак гэта не замінала ім жыць пад адным дахам, на кватэры, якую пакінула маці Аляксандра, карэннага пецярбуржца…

Усё гэта Антось Амяльчук расказаў за некалькі хвілін, быццам чакаў зручнага моманту, каб выгаварыцца. Увогуле ж быў ён чалавекам замкнутым, галантным і не вельмі разумеў жартаў, арганічна не пераносіў падколак. Калі Канстанцін Мацвеевіч смехам спытаў: «Вы, мусіць, некалі былі хвацкім кавалерам?», той адказаў дзёрзка: «І вы, напэўна, не былі цялём».

Гэты адказ Калдунову не спадабаўся. Не хацеў ён падколваць мастака, знаёмага Ліянкі, не было ў словах яго ні намёку на з’едлівасць, а той адразу, як кажуць, палез у пухір. Ну ды няхай, надалей ён будзе ведаць, як весці сябе з гэтым ягамосцем.

Ліяна праводзіла знаёмага мастака да пад’езда, вярнулася ўзрушаная.

— Табе ён не спадабаўся? — спытала насцярожана, ледзь не варожа.



— Чаму ж? Галантны малады чалавек, цікавы, відаць, мастак. Ці падарыў ён табе што-небудзь са сваёй калекцыі?

— Падорыць. Абяцаў. А ўвогуле ты не будзеш пярэчыць, калі Антось зойдзе да нас заўтра, будзе ў нас частым госцем...

Калдуноў няпэўна павёў левым плячом.

— Ён мой сябар. Няшмат іх тут, у Піцеры, — выкінула яна свой козыр, і Канстанцін Мацвеевіч пасвятлеў тварам. Яна зразумела, што ён згодны.

Антось прыходзіў да іх часта. Яны з Ліянай сядзелі на кухні і тачылі лясы, гаспадар у зале чытаў кнігу. Яму не цікава было з імі, ён не хацеў ім перашкаджаць, хаця вельмі падмывала пачуць, пра што яны гавораць. Аднойчы ён употай падышоў да дзвярэй, якія выводзілі на прыхожую, і адтуль пачуў, як Антось хваліўся: «Талент — гэта не змылак, які трэба выкідваць. Талент даецца чалавеку на ўсё жыццё. Я адчуваю, што магу варочаць горы, магу напісаць такое палатно, не горшае, чым у Каровіна. Але ў мяне іншае прызванне. Я не партрэтыст, я рэстаўратар. Ты не ўяўляеш, Ліянка, якая гэта асалода вяртаць шэдэўру другое, трэцяе ці нават дзясятае жыццё. Гэта важна для патомкаў, для нашых дзяцей…»

Наступала маўчанне. Нешта ціха гаварыла ў адказ Ліяна, а затым яго басавіты голас: «Шкада, што няма ў мяне сваіх дзяцей. Не нажыў. І чаму ў нас тады нічога не выйшла? Ну, скажы, чаму?..» Яму нешта яна адказвала, што, Канстанцін Мацвеевіч не зразумеў. Можа, апраўдвалася, можа, даводзіла, што не позна яшчэ вярнуць ранейшае пачуццё?

Падумаўшы так, Калдуноў раптам адчуў, як вялымі сталі ногі, як пахаладзела пад сэрцам. І чаго ён увогуле так паступае, падслухоўвае чужыя размовы? Ён ніколі не дазваляў сабе такога, чаму ж сёння не ўстрымаўся, здрадзіў сваім прынцыпам? Можа, таму, што прабілася раптам у яго, праклюнула, як піскляня ў яечку, вырвалася на волю гэтае прыкрае пачуццё рэўнасці?..

Назаўтра ж ён вырашыў кроў з носу ўладкавацца куды-небудзь на работу. Вартаўніком, вахцёрам, ліфцёрам, кім заўгодна, але каб не чуць па вечарах гэтых галубкоў. Ён быў бяссільны што-небудзь паправіць: чаму быць — не мінаваць, вырашыў ён, і пра мастака з

ёй наўмысна гаворкі не заводзіў. Між тым яна сама спрабавала дастукацца да яго сэрца, да яго розуму.

— Ты, Канстанцін Мацвеевіч, стаў нейкім замкнёным, — завяла яна неяк размову за вячэрнім сталом. Мастака ў той вечар з імі не было. —Ты скажы, калі табе не па душы Антось, то я парву з ім.

— Мне не па душы, што ты лёгкая на знаёмствы. Знаёмствы, якія мяне насцярожваюць. Табе няўцям, што я пакутую, бо ты вельмі фрывольна паводзіш сябе са сваімі знаёмымі. У цябе ёсць я, табе, відаць, гэтага мала…

Яна нейкі час сядзела моўчкі.

— Мала, — прызналася дзёрзка. — Зразумей, дарагі мой чалавек, што я ў цябе, як салавей у клетцы. Мне і з табой цікава, і з ім. Ён мастак, я ў свой час няблага малявала. Ён навучыць мяне, ён абяцаў мяне ўзяць да сябе памочнікам. А сёння…

— Што сёння? — насцярожыўся ён.

— А сёння ў Аляксандра, ну, помніш, у Антосевага сябра, вечарына. Збіраюцца мастакі. Я павінна там быць!..

— А я куды? Ты забылася, што мы з табой — адна сям’я. Ці, можа, ты знайшла сабе другую?..

Гэта быў забаронены прыём, як кажуць баксёры, удар ніжэй за пояс. Ён да гэтага ніколі не дазваляў сабе з ёю такіх лабавых пытанняў, а тут раптам узарваўся: здалі нервы!..

— Тады давай разам са мной!

— Што я там буду рабіць? Піць гарэлку, каву? Ды і ты, па-мойму, будзеш выглядаць сярод іх белай варонай.

— Няпраўда. Ты гаворыш так, бо не любіш мяне. Не хочаш, каб я была сярод творчых людзей. Я закісну ў цябе, я згіну тут, як рудая мыш.

— Мыш, мыш… — перадражніў ён яе і адчуў, як заныла сэрца, як падкаціўся да яго нейкі гарачы камяк і так расплавіў яго, што яму стала цяжка, пакутліва цяжка дыхаць. Ліяна спалохалася, кінулася да тэлефона, каб выклікаць хуткую дапамогу. Ён замахаў рукамі — не трэба.

У той вечар да мастакоў яна не пайшла. Дні тры, пакуль яму не стала лягчэй, яна правяла дома. Пасля работы адразу, забегшыся ў гіпермаркет, яна ляцела да яго, сядзела на ложку, на якім ён ляжаў,



бледны, маўклівы і схуднелы. Шчокі ўваліліся, зарос шчаціннем, прапаў бляск у вачах.

— Ты б хоць пагаліўся, — лёгка папракала яна яго і зараз жа казала: —А давай я цябе пагалю! Хочаш, Косцік?

Ён не хацеў, яму сорамна, брыдка было ляжаць хворым у той час, калі яна, маладая і прыгожая, жанчына ў самым саку, была ў яго за пасядзелку. Яна яму жонка, а, здаецца, медсястра, якая прыходзіць, каб зрабіць укол, прынесці вады, лекаў.

Праз тыдзень яму палепшала. Ён ужо выходзіў на вуліцу, браў у рукі вуды і ішоў на азярко. Доўга, аднак, там не бавіўся, неўзабаве вяртаўся і стомлена ўвальваўся ў крэсла перад тэлікам.

Ліяна выклікала на дом урача, хаця ён катэгарычна ёй забараніў. Урач паслухаў хворага, выклікаў медыкаў з ЭКГ-апаратурай, і яму прама ў зале кватэры зрабілі кардыяграму.

— Вам трэба легчы ў лячэбніцу! Неадкладна! У вас стэнакардыя, а гэта можа дрэнна для вас скончыцца.

Ліяна была на рабоце, а калі вярнулася, Калдунова ў кватэры не было. На стале ў зале ляжала запіска. «Ліяна, дарагая мая дзяўчынка! Мы не пара, я не магу, не маю права трымаць цябе ля свайго ложка. Ты не для гэтага створана. Ты любіш камфорт, і маеш на гэта права. Ты ўсё жыццё мела права не дараваць мне, старому павіяну, усяго, што я табе прычыніў. Даруй. Калі не застанешся, мне будзе балюча. Я так да цябе прывязаўся. Сыдзеш, то такая ў мяне доля хворага чалавека. Адна просьба: не кідай кватэру без нагляду. І не збірай, калі ласка, у ёй сваіх сяброў. Вярнуся з бальніцы, пагаворым. Калі, вядома, вярнуся і калі, вядома, заспею цябе ў кватэры. Твой вечна К. М. К.»

Яна злосна кінула запіску на крэсла.

Ліяна кожны дзень прыходзіла да яго ў палату, несла апельсіны, што-небудзь з мяснога, заваліла яго сокамі. Ён спрабаваў спачатку аднеквацца, сарамаціў яе, прасіў, каб нічога не несла, а тады павінаваціўся:

— Запіску парві і забудзь! Я табе нічога не пісаў…

— Прабач мне, Косця! Такая я бяспутная, такая грахоўная! Сцерва я, а не жанчына!..

— Гэта, вядома, сумна, але падумай пра Машку. Пра нашу з табой Машку…

Робячы аднойчы ў кватэры вільготную ўборку, яна напаролася швабрай на чамаданчык. Выцягнула яго, адчыніла. У ім ляжалі камяні — розных па велічыні: ад вялікага, з кулак Валуева, да самага маленькага, з галубіную галоўку. Камяні былі гладкія, нібы адпаліраваныя марской хваляй, пяць камянёў у форме сэрца.

Калі ў чарговы раз зайшла ў палату да Канстанціна Мацвеевіча, спытала пра знаходку.

— Чаму мне пра іх нічога не казаў?

— А табе хіба цікава?

— Яшчэ як! Скажы, навошта яны пад ложкам?

Ён сумеўся, адвярнуў твар да сцяны.

— А куды іх, на балкон? Ты ці ведаеш, якія гэта камяні? Не, ты не ведаеш! У іх наша падтрымка, яны мяне лечаць, даюць мне сілы як мужчыну...

— Ты што, баішся імпатэнцыі? Не хвалюйся, пап’еш віягры, куплю табе на рынку авакада. Ведаеш такі фрукт? Што, не каштаваў? Дарэмна.

Ён кісла, трохі саромячыся, усміхнуўся ўскрайкамі сваіх бледных губ.

— А ты ўжо адкуль ведаеш пра віягру, пра авакада?

— Ведаю. Жыццё навучыла. А ўвогуле я, мусіць, не тое змарозіла. Дурніца, дурная, як сібірскі валёнак!.. Хіба пра такое з мужчынам гавораць?..

Аднойчы вечарам, пасля наведвання бальніцы, яна рашыла наладзіць у сябе невялічкую вечарыну. Прыйшоў Антось Амяльчук, гэты французскі акцёр Дэпардзье (і прычоска ў яго нечым была падобна, толькі не русявыя валасы, а чорныя, як і барада, якой ніколі не насіў акцёр), прыйшлі чацвёра яго калег-мастакоў. Было шумна і весела, сядзелі дапазна. Яна спачатку не брала віна, піла мінералку, і курыць не бралася, а затым Антось уссеў, каб прыгубіла. І яна выпіла залпам цэлы бакал шампанскага. І захмялела, і пайшла на балкон з мужчынамі, трымаючы між пальцаў тонкую, як запалка, цыгарэту.

Антосевы калегі разышліся, а ён заставаўся ў яе начаваць. Яна ўсяляк супраціўлялася гэтаму, казала, каб ішоў з Аляксандрам, нават калі ён пачаў знімаць кашулю і застаўся ў адной майцы — жылісты, з



качаным і прыгожым торсам, яна спрабавала выставіць яго за дзверы, адправіць, пакуль працуе метро. Але ён быў няўмольны.

Тая ноч для яе з Антосем-Дэпардзье была па сутнасці варфаламееўскай. У тым сэнсе, што яна, бязвінная маладая жанчына, гугенотка, была проста знішчана каталікам Антосем, бо ўсю ноч ён не даваў ёй спаць.

Яна адразу падумала пра камяні Калдунова.

Антось-Дэпардзье пакінуў кватэру пад раніцу. Яна пасля яго не заснула, а калі раніцой устала, каб ускінуць халат, адчула, што баліць у нізе жывата, што ёй блажыць. «Гэта не ад шампанскага, — пераконвала яна сабе. — Гэта ад Антосевых экстазаў…». Салодкі боль у нізе жывата не азмрочваў, наадварот, нечакана ўзрадаваў: сёння ноччу яна была самай, бадай, шчаслівай жанчынай Піцера!

Праз тыдзень Канстанціна Мацвеевіча выпісвалі з бальніцы, і яна гублялася, не ведала, што рабіць з ім — кідаць і пераязджаць да мастака ці ўсё-такі спачатку пагаварыць з Калдуновым, пачуць, што скажа ён. А што ён скажа? Вядома, будзе ўпрошваць, каб засталася, бо ў іх адна сям’я, будзе зноў хапацца за сэрца. Стары ён проці яе, многае не разумее. Ні ён, ні Максім, хаця Максім і малады. Ім здаецца, што калі яны згубілі ад кахання розум, калі гатовы насіць яе на руках, то яна ацэніць гэту ахвяру. Не бывае, мусіць, так, каб абое кахалі без памяці. Каб так было, згарэлі б каханыя ў полымі страсцей, не засталося б ад іх і попелу. Ва ўсім павінна быць нейкая мера. Вось яна кахала Косціка, таго Алена Дэлона, але не так, каб бегаць за ім і губляць галаву. І добра, што ведала меру, а то давялося б, можа, чакаць, калі вернецца. Сядзець ля акна і чакаць. Толькі каго — гэтага трактарыста? У яе быў настаўнік, быў (а чаму быў — ёсць) начальнік цэха, лічы, інжынер, з кім пазнаёмілася ў Піцеры, калі той забіраў з садка свайго сына (быў ён у разводзе з жонкай, і ўжо назначыў ёй першае спатканне ля помніка Пушкіну), на кароткай назе яна з мастаком. І вось зараз рашаецца яе лёс. Канчаткова, беспаваротна. Толькі б пазваніў Антось, толькі б не аказаўся ашуканцам: пацешыўся, забраў тое, што хацеў, і ў кусты. Яна не верыла, што ён так паступіць. Хаця чым чорт не жартуе. Было ж, што не склеілася ў іх, калі былі студэнтамі. Яна разлічвала, што пажэняцца — так усё гладка ў іх ішло. А потым пасварыліся, ды так зацята, што тры гады не пісалі

адзін аднаму SMS-ак. А тады аднойчы ён пазваніў, але яна не чула званка, а пераззваньваць не хацелася. Так усё ў іх і завісла. І вось не так даўно, ці не на трэці дзень пасля прыезду ў Піцер яна сутыкнулася (не выпадкова — так распарадзіўся іхні лёс!) з ім на Неўскім. На тую хвіліну Канстанцін Мацвеевіч пайшоў у магазін, а яна чакала на вуліцы. Ён пазнаў яе першым, войкнуў: «Ліянка? Адкуль ты і з кім?» Яна абвіла рукамі яго за шыю і пацалавала. Помніць, было нязвыкла і казытліва — цалаваць чалавека, у якога вусы і барада. Даўно такога з ёй не было. А пасля ён прапаў, не пакінуўшы адрас. Знайшлі яны адзін аднаго выпадкова. Яна ехала з работы (працавала ў Сестрарэцку), ён вяртаўся на электрычцы са сваіх майстэрань. Вось тады завязалася ў іх сур'ёзна…

Антось не пазваніў ні назаўтра, ні праз тыдзень. Ужо прыехаў з бальніцы Калдуноў, а яна не ведала, што і думаць. На тэлефоны ён не адказвае, у яго вечна ці занята, ці недаступны, і горш за ўсё тое, што не ведае яна, дзе тыя майстэрні. Прапаў чалавек, як скрозь зямлю праваліўся…

Ліяна хадзіла сама не свая. Ноччу яна не падпускала да сябе Калдунова, які за месяц хваробы засумаваў па ёй і не ведаў, што і думаць. «А што думаць? — лавіў ён сябе на здагадцы. — Усё вельмі проста: у яе Антось. Малады і гарачы, як стаеннік. А што я, хворы і зняможаны жыццём?..»

Гордзіеў вузел развязаўся нечакана. Аказалася, што Канстанцін Мацвеевіч прыпісаў у сябе на кватэры старэйшага ўнука, Слаўку. Ён вучыўся на першым курсе педагагічнага. Калдуноў доўга вагаўся, пазбягаў сустрэч са сваёй былой жонкай, не адказваў на сынавы званкі. Усё разлічваў, да апошняга пераконваў сябе, што Ліяна адумаецца, перастане весці разгульнае жыццё, і гэтая прыпіска ўсё сапсуе. А пасля яна аб'явілася ў кватэры п'яная, і ён рашыўся.

Аб тым, што прапісаны ў кватэры Слаўка, Ліяна не ведала. Канстанцін Мацвеевіч наўмысна ёй пра гэта не казаў, не ўводзіў у вушы: яму даволі было, што паказаў ёй ліст ад Святланы. Хопіць, колькі можна спакушаць свой лёс?

Антось не аб'яўляўся, і Ліяна сама кінулася на пошукі. Падключыла сяброўак, даведачнае бюро, інтэрнэт, і знайшла. Працаваў ён на



ўскраіне горада, і калі вечарам убачыў знаёмую фігуру ў бардовым паліто, зніякавеў:

— Як ты мяне знайшла? І навошта шукала?..

— Я прападу без цябе! — сказала яна без хітрыкаў. — Мне маркотна, мне цяжка, разумееш?

Якраз рабочы дзень у Антося заканчваўся, ён выцер аб старызну рукі і толькі тады загаварыў:

— Дарэмна ты так!.. Жанчына павінна мець сваю годнасць. Ну, што, мала табе было за тую ноч? Я аддаў табе ўсё, што меў. У мяне ёсць дзяўчына, таксама мастачка. Мы падалі ўжо заяву ў ЗАГС. Прабач, калі што не так!..

— Ты не можаш так са мною! Не можаш!.. Я памру, я павешуся!..

— А вось гэтага не трэба! Навошта мяне палохаеш? Бярэш мяне зморам, пужаеш?..

— Я павешуся і напішу перадсмяротную запіску, што ў смерці вінавачу цябе! Цябе, сукін ты сын!..

— Навошта гэтыя пагрозы? З табой і тады не склалася, і зараз… Ты не мая, не ў маім гусце. Ведаеш, па чым выбіраюць сабе спадарожніцу жыцця? Па паху. Так у звяроў, так і ў людзей. Калі ўбачыў Алёнку, калі ў першы раз яе пацалаваў. Я ледзь не абамлеў, я зразумеў, што яна мая! Мая, і нікому яе не аддам.

— А куды я? З кім?..

— Ты гэта рашыла ў свае пятнаццаць, калі аддалася айчыму. Так здаецца?.. Я не памыліўся?..

## 11

Гэта была катастрофа. Ліяна разлічвала на новы і, хацелася верыць, канчатковы паварот лёсу, але Антось аказаўся шэльмай. Дамогся свайго і — знік з далягляду. Так часта бывае, калі мужчыны, якім лёгка даецца жанчына, кідаюць яе. Бо ім з ёй, напэўна, ужо не цікава. Як выціснуты лімон. А яна і сапраўды паходзіла зараз на гэты лімон. Дакладней, на тое, што ад яго засталося пасля чаю.

Канстанцін Мацвеевіч адчуў перамену ў настроі сваёй маладой спадарожніцы жыцця і стараўся яе суцешыць, узбадзёрыць. Ён яшчэ

не зусім ачуняў ад хваробы, але перад тым, як пайсці спаць, ён абнадзеена сказаў:

— У нас усё будзе о'кэй!

— Які хакей? Пра што ты?!

Яна была сярдзітая і ўзнерваваная.

— А я ўсё пра тое ж, пра нас з табой. Калі не можаш, калі я табе абрыднуў, што ж, зміруся. Такая, мусіць, у мяне планіда!..

— Планіда-карыда! — зноў узарвалася яна. — Ты разумны чалавек, а верыш ва ўсякую чартаўшчыну!

— Гэта не чартаўшчына, Ліяначка, гэта жыццё, якое не пераробіш, не пражывеш яго занава. Ніхто не пражыве — ні цар, ні прэзідэнт, ні Бог. Пойдзем спаць, дарагая!

У настроі Ліяны паступова адчуваліся новыя ноткі. Яна, напэўна, змірылася са сваім лёсам. Так разважаў Канстанцін Мацвеевіч. Яна ж думала па-іншаму. Яна хапалася, калі хочаце, за апошнюю ратавальную саломінку. Думала пра гэта і раней, калі жыла з Максімам, але тады гэтая ідэя-фікс разбівалася аб мол чарнаморскага берага. Таго берага, да якога яны з Максімам і яго сынам так і не з'ездзілі.

Сёння Ліяна разлічвала на піцерскую кватэру, верыла ў тое, што пасля смерці Калдунова (а ён хворы, працягне нядоўга) гэтае багацце застанецца ёй. Жыла некалі ягоная цётка, сястра Сцепаніды Альфонсаўны, таксама блакадніца, але яна памерла гады тры назад. Кватэру адразу акупіравалі дзеці і ўнукі. Так што на жыллё Канстанціна Мацвеевіча ніхто не прэтэндаваў. Каб пераканацца ў гэтым на ўсе сто, яна падкацілася неяк да Канстанціна Мацвеевіча ў ложку, прытулілася да яго і шапнула:

— Цябе нікому не аддам! Ты мой вось ужо дваццаць два гады. Даўно гэта было, як мы з табой сустрэліся. Як ты глядзеў на мае ногі, на мае грудзі, а я гарэзліва смяялася. Тады ты быў у мяне першым мужчынам. Сёння ты ў мяне такі ж… малады…

— Ну, скажаш! — засмяяўся ён і раптам адчуў, як расплываецца, знікае ў яго ўсё ў спальні пры начніку, усё, акрамя адной яе, як ахоплівае яго дарэшты неадольная хваля мужчынскай жарсці. Не марудзячы ні хвіліны, ён узяўся асыпаць яе гарачымі пацалункамі, цалаваў яе ўсю, ад тварыка, зараз такога мілага і дарагога, да самага пажадлівага, самага грахоўнага месцейка...



— Ой, казытліва! Пачакай, мілы!.. Баюся козыту!.. Бачыш, як даўно мы не займаліся гэтым…

Раніцой яна загаварыла пра кватэру. Загаварыла настойліва і рашуча. Загаварыла пра сябе з Машкай, пра тое, як было б слаўна, калі б дачушцы засталося нешта з нерухомасці. Ён зразумеў, куды хіліць жанчына, адказаў не менш рашуча:

— У цябе ж кватэра там, у мястэчку. Што, мала?

— А куды Косціку, як вернецца з зоны?

— Ты ж з ім развялася. Вернецца, аддасі свой летнік. Ён зробіць рамонт, прывязе дроў і будзе жыць.

— А што ж гэтая, піцерская кватэра? — рашылася на смелае, дакладней, нахабнае пытанне.

Ён маўчаў.

— Ну што ты замоўк? Ці можа некаму ўжо адпісаў?

— У маёй кватэры прапісаны Слаўка, мой унук.

Яна абамлела глядзела прама яму ў твар.

— Як прапісаны? Калі прапісаны?..

— Прабач, але я табе пра гэта забыўся сказаць. Папрасіў сын, Аляксей.

— А я тут за каго?

— За жонку, за гаспадыню. Ты і застанешся гаспадыняй, калі памру.

— А куды Слаўку? Што з ім?

— Ён студэнт першага курса. Яму вучыцца яшчэ чатыры гады…

— Але ж ён з намі не жыве?! — выкінула яна довад, які мог, на яе думку, расставіць усе кропкі над «і». — Дзе ён і навошта яму наш вугал?

Ён цяжка ўзняўся з крэсла, патэпаў на кухню, дзе ў навяснай скрынцы ляжалі лекі, узяў таблетку пад язык. Выйшаў да яе спакойны і бледны.

— Не ўсё так проста, Ліяначка. Аляксея я люблю не менш, чым Машку. Ён слаўны. Яму зараз цяжка. Малодшая дачка яго, Кацярына, рана выскачыла замуж, жыве дрэнна…

— Навошта ты мне ўсё гэта расказваеш?

— Каб ведала, што ў мяне і тут, у Піцеры, ёсць дарагія майму сэрцу людзі…

— Людзі, на блюдзе!.. — перадражніла яна Канстанціна Мацвеевіча. — Значыць, ты падзяліў сваю кватэру на дзяцей і ўнукаў? Што ты нарабіў?!.

Яна застагнала, нібы была паранена прама ў сэрца, спалатнела тварам.

— Такога ад цябе не чакала! Навошта тады вёз мяне сюды, абяцаў залатыя горы? Калі б ведала, што ты такі жучыла, не паехала б. Не паехала! А я сарвалася, кінула святога чалавека, Максіма.

— Яшчэ не позна, можаш вярнуцца. Ён мне нядаўна званіў.

— Табе? А чаму не пазваніў мне, чаму?..

— Ён не вярнуўся да жонкі, ён так і жыве з Мішкам. Добры хлопчык, гэта я зразумеў за тыя дні, што прабыў у іх.

— Чаму ж Максім не пазваніў мне? — чаўпла сваё Ліяна.

— Бо ён не можа табе даравадь, яловая твая галава!

— Табе дараваў, а мне не можа!.. — са слязамі ў голасе выкрыкнула яна і выскачыла на лесвічную пляцоўку. Выскачыла, у чым стаяла — у паліто, ускінутым на плечы паўзверх халата.

Ён не пабег за ёй, каб вярнуць. І не таму, што не хацелася гэтага, яму раптам самому зблажэла, падпёрла пад сэрцам ад нясцерпнага болю, такога, што ён хапіўся за грудзі, адчуваючы, што не стае паветра, што задыхаецца, і ўпаў ля ложка...

Яго знайшлі на трэція суткі нежывым.

## 12

Ліяна Нехвядовіч не захацела судзіцца з Аляксеем, прыёмным сынам Канстанціна Мацвеевіча, яна запрасіла ў яго дзесяць тысяч долараў кампенсацыйных (яна таксама была прапісана ў кватэры і мела на яе свае інтарэсы). Той доўга не вагаўся, знайшоў грошы і аддаў ёй з тым, каб адвязалася і не псавала кроў. Ён ведаў Ліяну, паспеў за той час, што жыла яна з Калдуновым, даведацца, што яна за птушка.

Спакаваўшы два чамаданы рэчаў (усё, што было нажыта непасільнай працай) і выклікаўшы да пад'езда таксі, яна адчаліла туды, адкуль прыехала.

Седзячы ў купэйным вагоне, Ліяна адкруціла ў памяці хроніку сваіх апошніх трох дзён у Піцеры. Успылíўшы за ўчынак Канстанціна



Мацвеевіча, які прапісаў у сябе ўнука, яна, у паліто, ускінутым на дамашні халат, пабегла да Алькі — жанчыны суровай, з абвостраным пачуццём справядлівасці. Яна не была Ліяне сяброўкай — хаця б па гадах (ёй было пад пяцьдзесят, і жыццё яе няблага патрапала). А яшчэ — таму, што ніякіх сакрэтаў, на што здольны сапраўдныя сяброўкі, у іх не было. Усё было гранічна проста і ясна. Аляўціна Пашкевіч працавала ў садзе выхавальніцай, і дзеці яе баяліся. Яна не крычала, але калі гляне на каторага жэўжыка, у таго адразу адпадала ахвота гарэзаваць.

І на дзівацтвы Ліяны яна глядзела не менш сурова. Казала: «Табе не пятнаццаць, ты, жанчына, якую кахае добры чалавек. Кахае ўсё жыццё. Трэба быць дастойнай гэтага высокага пачуцця!». Ліяна смяялася: «А я што, не магу прагуляцца па Брадвеі з мастаком? Чалавекам, які мне таксама падабаецца?..» «Так робяць толькі шлюхі! — кідала яна бязлітасна. — Жанчына — не сучка ў час вяселля, мы не з бардэля. Ведай: калі кінеш гэтага святога чалавека, я пракляну цябе!»

Калі пасварылася яна ў той ракавы вечар з Канстанцінам Мацвеевічам, то прыбегла да Алькі. Тая хмурна сустрэла яе на парозе: «Ты збегла з дому?» Ліяна расказала і аб прапісцы ўнука, і аб усім, што ляжала на сэрцы і балела нясцерпна. «Гэта не боль, — казала яна павучальна. — Гэта імітацыя болю. Ты чаго хочаш ад Калдунова — кахання ці адцяпаць у яго кватэру? Толькі шчыра!..» Ліяна маўчала. Першай загаварыла Алька. «Ведаеш, што такое шчасце? Не, ты не ведаеш, што такое сапраўднае шчасце. Гэта калі ў кватэры няма хворых, у турме — родных, а сярод сяброў няма гнілых людзей. Ты не абсалютна шчаслівая, твой муж у турме, аднак жа навучыся цаніць тое, чым ахвяруюць дзеля цябе людзі. Цаніць і шанаваць».

Ліяна пераначавала ў Алькі, але дамоў назаўтра не пайшла. Ёй раптам захацелася зрабіць яшчэ адну, няхай апошнюю спробу вярнуць да сябе Антося Амельчука. Яго яна ў майстэрнях не знайшла, ехала ў метро, а на пероне да яе прысталі двое мужчын. Якраз патруляваў нарад паліцыі, і іх траіх павялі ў аддзяленне. У яе з сабой дакументаў не было, давялося затрымаць для высвятлення асобы. На гэта пайшлі цэлыя суткі. Пасля таго, як выпусцілі, яна рашыла паспрабаваць шчасця яшчэ раз і паехала ў рэстаўрацыйныя майстэрні. Антося

яна застала не аднаго — з дзяўчынай, у якой быў такі ж шышкаваты і непрыгожы нос, як і ў самога Антося. «Абое рабое», — з’едліва падумала Ліяна, не стала перашкаджаць ім, галубкам, якія прагна і адчайна цалаваліся, і зноў ледзь не трапіла ў гісторыю. Выручыў хлопец — па гадах, як і Машка, ён асадзіў п’янага мужчыны, які, згледзеўшы голыя Ліянчыны калені, адразу палез выгладжваць іх потнай, клейкай рукой. Яна магла сама змазаць гэтаму нахабніку, але падышоў гэты юнак (напэўна, студэнт), і трасянуў таго за плячо. «У вас няма ні кроплі прыстойнасці!» — сказаў ён сурова. П’яніца адстаў. Яна была з тым юнаком у яго ў гасцях. Чаявалі, размаўлялі, і раптам за сталом прабіўся ў яе дакор, і гэты дакор горш за фізічны боль не даваў ёй спачыну. Яна кінулася дамоў…

На трэці дзень пасля разладу з Канстанцінам Мацвеевічам. Стала даставаць з сумачкі ключы, і раптам абарвалася ўнутры сэрца. Абарвалася і не паляцела — зацьміла сваімі пульсуючымі жылачкамі ўвесь сусвет. Пацямнела ўваччу, і яна ніяк не магла патрапіць ключом у замочную шчыліну. Нарэшце дзверы з жалезным скрыгатам адчыніліся, і ў нос востра, да ванітаў, тхнула трупным пахам. Зараз жа пазваніла Аляксею. Той, выслухаўшы блытаныя, на мяжы слёз і адчаю, словы Ліяны, сказаў з папрокам, асуджальна:

— Ты яго загубіла! Ты!..

— Аляксей Канстанцінавіч, не смейце так са мной!

— А як з вамі гаварыць, калі вы… вы… давялі да інсульту майго бацьку?!

Ліяна маўчала. Яна разумела, што Аляксей Калдуноў гаворыць праўду, але ёй тады не хацелася такой праўды, яна не заслужыла такой жахлівай абразы!

— Ты не павінна заставацца на пахаванні! — горача, не дапускаючы ніякіх пярэчанняў, крычаў ён у трубку.

— Чаму??? Вы не можаце мне забараніць развітацца з ім! Не можаце! Не можаце!..

Назаўтра яна адчула ўсю сваю бездапаможнасць у гэтай барацьбе за кватэру і папрасіла кампенсацыю ў доларах…

Цягнік імчаў скрозь цемру, з шумам сустракаў сустрэчныя цягнікі, вёз яе з райскага Піцера ў няпэўную далеч. Няпэўную, бо не ведала



гэтая пасажырка, як складзецца ў яе тут, дзе нарадзілася і куды ехала не па сваёй волі…

Машка прыляцела з Мінска да маці ў беларускае мястэчка праз тры дні, на выхадныя. Яны сядзелі на цёмнай кухні, маці з дачкой, і развважалі. Ціха, мірна, па-жаночы.

— Ты вернешся да свайго настаўніка?

— Не. Мне здаецца, ён застаўся ў тым, даўнім жыцці.

— Але ж ты кахала яго?..

Ліяна адвярнулася да акна. Па ім сцябалі, абмываючы шыбу, халодныя косы дажджу. Маўчала.

— А ўвогуле ты шчаслівая, мам?..

Тая закурыла. Малінавы агеньчык цыгарэты на момант выхапіў з цемры яе дагледжаны пальчык левай рукі, дакладней, яе пазногаць, акуратна атачоны пілачкай: яна сачыла за сабой, пастаянна хадзіла да манікюршы.

— Шчаслівая, — пасля паўзы адказала Ліяна.

— Ты, мам, кахала яго… майго тату?

— Так, аднаго яго і кахала… І нікога больш…

За акном цадзіў нудны асенні дождж.

***2015***

## СВАЕ І ЧУЖЫЯ

— Люблю яе, акаянную, і нікому не хачу яе пакідаць!.. — гаварыў Дзяніс без ценю збянтэжанасці, недзе за год да сваёй смерці.

Чаму «акаянную» і навошта пакідаць — ці не збіраўся паміраць Дзяніс Падголін? Пра гэта тады я не ведаў, не хацеў лезці да чалавека ў душу, хаця меў, здаецца, на гэта права: зналіся мы не адзін год і былі нядрэннымі сябрукамі.

— Ты не смейся, — зноў, пасля доўгай і пакутлівай паўзы, папрасіў ён. — Калі паміраць, то хацелася б разам з жонкай. У адзін дзень. Каб ляжаць з ёй на адной покуці. А мо нават і ў адной дамавіне…

Летуценнік!.. «Браток ты мой! — падумаў, — нашто так трызніш? Нашто зводзіш сябе?..»

А той сказаў апошняе, на што рашыўся, і замоўк — быццам аступіўся. У Дзяніса нешта гняло — гэта я зразумеў, хаця прыкмет такой ягонай занепакоенасці раней не заўважаў. Але па тым, што абарваўся ён на слове, што зацяла чалавеку, здагадаўся: не да канца верыць мне, свайму суразмоўцу.

Ад чаго было непамысна яму, што вярэдзіла сэрца — даведаўся не адразу, не ў той дзень, калі стаіліся ў ягонай майстэрні, на мансардзе дома, каб разгавецца на бакал крымскага віна. Пачуў пазней, калі Дзяніс памёр, пакволіўся на заўчаснай пенсіі два гадкі і аддаў богу душу. Памёр у пакутах. Гэта таксама ўведаў пазней — ад тых, хто ляжаў з ім у бальнічнай палаце. Казалі: не стагнаў, не назаляў нікому па начах — ляжаў ціха, але на твары і ў вачах было столькі пакуты, што хапіла б яе на два ці тры жыцці. Дык вось ці не назаўтра ж пасля жалобы і кінуліся некаторыя языкі пляскаць: адны хіхікалі, гаварылі пра Дзяніса, як пра анучу, а не пра мужыка, другія ж божкалі, абурана ківалі галовамі, ганьбячы Дзянісаву жонку Ганну.

Я ведаў ужо, што ў гісторыі было шмат блытанага і няпэўнага. І тады нечакана выплыла, успыхнула, як азарэнне, гаворка з Дзянісам за тры дні да яго смерці. Прыйшоў я да яго ў палату, перадаў яму кулёк, нешта з садавіны, і мы выйшлі на калідор. Ён быў зблажэлы тварам, асунуўся, але поціск рукі быў моцны, дужы: чалавек не збіраўся здавацца.

— Ну, як ты, браце?..



Ён скупа ўсміхнуўся сваімі бляклымі, выцвілымі вачыма, адвярнуўся, утаропіўся ў акно. Маўчалі, але я прадчуваў, што ён зараз раскажа такое, ад чаго ў мяне забаліць сэрца. Я чакаў, не хацеў блытаць ягоных думак.

— Я вось думаю, Мікола…— пачаў ён, яшчэ больш адвярнуўшы ад мяне свой твар. Я зразумеў: ён плача. Толькі не ўсхліпам, а ціха, па-старэчы. Нават не выціраючы слёз.

Я ўзяўся яго суцяшаць, пераконваць, што ўсё абыдзецца, што акрыяе ён, адужае.

— Не, — рэзка запярэчыў Дзяніс, — не гавары так. Мяне мучае, што Ганна не такая, як была ўсе гады. Яна нібыта радуецца, што я канаю…

«Ну вось і прыехалі!» — ледзь не ўскрыкнуў я, а сказаў больш стрымана:

— Ты хворы, а ці мала што прытрызніцца хвораму чалавеку?..

— Ты зноў мне не верыш? І ты не верыш, і яна…

— Ты аблегчы сваё сэрца, Дзяніс, — па-сяброўску параіў.

— Ат, мо і дарма так…— праз хвіліну супакоіўся ён і ўжо напусціў на твар кволую ўсмешку. — Хаця што таіць…

І ён распавёў гісторыю, якую чуў ад суседа-земляка. Некалі яны з Дзянісам бегалі галапузымі, латашылі чужыя сады.

«Ты разуй вочы, Дзенька (так ён па-даўнейшаму, па-дзіцячы называў Дзяніса). Ганна ж твая круціць з Адамам!..» — «Кінь, дружа, — не верыў ён і смяяўся шчыра, як з жарту. — Ён жа мне, як брат». — «Ага, брат! — не здаваўся, цяпер ужо пакпіў з яго сябар дзяцінства. — Гэты брат да баб ласы, як на чужыя каўбасы!..»

Адам стаў Падголіну сябрам гадоў дзесяць таму. Мала хто ведае, як, на якім грунце яны сышліся. Тады адзін і другі былі пры сваіх сем'ях, частаваліся то ў адной, то ў другой хаце. Але яны былі розныя — Адам і Дзяніс. Адзін любіў маладзіц, проста млеў, калі якая цнота павай пройдзе паўз яго, хаця быў у тых гадах, калі трэба ўжо і суняцца. Падголін жа да гэтага не меў ні каліва ахвоты і таленту. Гэта мо і паяднала іх: такія людзі дзіўным чынам хутка сыходзяцца.

Дык вось уклалі ў вушы Дзянісу такое, ад чаго ён страціў сон. Праўда, Ганна не давала зачэпкі, каб ён мог закаціць сцэну рэўнасці.

— Няўжо ён не хлусіць, га, Мікола?..

Я разгубіўся, помню, узяўся блытана гаварыць пра тое, што гэта глупства чыстай вады, што не трэба гісторыю зводніка прымаць за чыстую манету. Мусіць, словы мае не кранулі яго, не пераканалі, бо Дзяніс пасля маіх суцех наогул знік, замкнуўся і, ні слова не кажучы, падаў на развітанне руку. Поціск у яго быў не такі моцны, як пры сустрэчы — вялы, быццам нехаця, і я падумаў: значыць, ён крыўдуе, што не даў веры ягонаму расказу…

Хавалі Дзяніса на згоне зімы. Адразу за машынай, якая везла труну з нябожчыкам, ішла сплаканая, у хаце няўцешная, а цяпер сцішаная Ганна ў чорным, побач трымаў яе пад руку, пасабляў пераносіць жалобу Адам. Яна час ад часу паварочвала да яго галаву, нешта казала, і тады на твары яе любы чалавек, які крочыў побач, мог заўважыць несхаваную палёгку, а мо і шчаслівы цень збавення. Побач, ад пляча маці, ішла меншая дачка Вольга, дробная і натапыраная, як верабейка. Маленькі, бы дзіцячы паўкажушок у яе быў на шыі перахоплены, усяго раз абматаны доўгім, ледзьве не да пят шалікам, які яна марна спрабавала ўскінуць на левае плячо сваёй дублёнкі — ён спаўзаў і зноў цягнуўся па снезе, матляўся ў нагах.

Старэйшая, Алена, крочыла зводдаль, быццам была не адной сям'і, была чужой нябожчыку. Яна ні за кім не цікавала, глядзела пад ногі, ішла, паглыбленая ў свае думкі. Ускінула вочы, калі машына завярнула ў завулак і — як працяла яе нечым, жахнула маланкай: Вольга, сястра, была, як дзве кроплі, падобна на такога ж дробнага Адама. І позіркі іхнія, успомніла раптам, насмешліва-асцярожныя, і выцягнутыя насы — усё выдавала гэтага чужога Алене чалавека. Не, брыда нейкая, гэта з заплаканых вачэй, ці мала што можа прымроіцца ёй, прыціснутай жалобаю?..

Але з сэрца прасілася ўсё ж нязгода, прасіўся дакор. Яна перад самай смерцю бацькі пасварылася з матуляй. Яна ўжо тады, а мо і раней (прадчувала, сэрца падказвала!) заўважыла за ёй няладнае. Тата не вылазіў з бальніцы, а яна, Ганна, не баранілася, калі Адам на ноч заставаўся ў яе дома…

— Ты згубіла галаву, мама! — кіпела Алена, седзячы ў матуліным доме на кухні.— Нашто табе гэты чужы чалавек? Ты паглядзі: плюгавы ён нейкі і… як падсмаленая мыш.



— Ты што?! — акругліла раптам вочы Ганна. — Ты ж яго не ведаеш. Можа, лепшага чалавека, як Адамка, я і не ведала.

— А тата?

— Гэта іншае. Яго я ўсю дарогу шкадавала. Нейкі ён, як з нафталіну. Ён жыў усё, як у чыгуначнай будцы — ціха і правільна. Цягнік туды, цягнік сюды і — усё мінута ў мінуту. Як у немцаў!..

— Якія немцы, мам?!.. — крычала ўжо Алена. — Нашто ты гэтак пра тату? Нашто?..

Маці зацята маўчала. Яна, відаць, была ўжо не рада, што шчыра ва ўсім адкрылася сваёй старэйшай. Тая, трохі нясклёпістая ў сваёй высокай паставе, з хадою, у якой ні намёку на жаноцкасць, хадою хутчэй мужчыны, у многім паходзіла на бацьку. Вольга — іншае, ёй было васемнаццаць, а заставалася, як дзяўчо — дробная і трохі ваўкаватая, яна была Алене быццам не роднай, а стрыечнай сястрой ці мо больш далёкай сваячкай.

Знайшла матуля гэтую Вольгу ці не ў сорак пяць гадоў, калі прыстойныя жанкі пра цяжарнасць і не думаюць. Так разважала Алена. Помнілася ёй тады, дзесяцігадовай, бацькава прыгнечанасць, быццам не радаваўся ён, што нарадзілася роднае дзіця. Ён быў па натуры такі — замкнёны ў сабе, яго магло параніць любое неабачліва кінутае слова. Ягоны бацька, Міхал Яўменавіч, быў пуцявым абходчыкам, сям'я жыла ў чыгуначнай будцы. Адтуль, за тры кіламетры ўздоўж палатна, ён хадзіў у мястэчковую школу. Мясціна, дзе жылі Падголіны, была глухаватай, бацька быў строгі, па-пурытанску, у меру сваіх уяўленняў, выхоўваў старэйшага сына: туды не пайдзі, сюды нельга, з тымі не вадзіся — нашкодзяць, да паравозаў не хадзі, камы снегу ў гарачы шлак не кідай — няможна, бо дзяжурны будзе злаваць… Маці не пярэчыла гаспадару, і рос Дзяніс нейкім затурканым і настолькі правільным, што дазволіць нейкі хлапечы выбрык для яго было ледзь не вартае смерці. Пра гэтую вось «будачную» псіхалогію і вяла ў запале гаворку Ганна…

Колькі жылі — не сварыліся бацькі так, каб чулі і смяяліся суседзі. Гэта ведала Алена і ўдзячна была за памяркоўнасць перш за ўсё тату: ён не распачынаў звады, сыходзіў з хаты, калі адчуваў, што пачынаюць пераступаць мяжу дазволенага. Ён быў такім жа і ў занятку, які

любіў і да якога гарнуўся, можа, болей, чым да таго, за што плацілі грошы, — занадта сціплым, усё не верылася яму, што карціны некаму будуць патрэбны. З вучылішча ён выйшаў аўтаслесарам і нешта адразу ж узяўся за мансарду, якую, праўда, так і не закончыў, але ўсё адно любіў пад самым дахам браць у рукі пэндзаль.

Яны былі жывыя, выхапленыя з натуры куточкі, блізкія тату, ад іх несла да болю родным, шчымліва-кранальным. Няхай ён быў не такі майстравы, як той-сёй з вядомых перасоўнікаў, але ж кожны пейзаж, кожная напісаная мясцінка дыхала, жыла, як істота. Такая ў яго і ранняя вясна з пралалінамі, акурат як за мястэчкам, дзе раскашаваў бярозавы гай, і светлая хмурнасць сырой восені, якая баязліва закралася ў вясковы далягляд…

Ён расказваў Алене, тады малой, як пазнаёміўся з Ганнай, як стала яна яму неўзабаве жонкай. Як калясіў ён кожны дзень на веласіпедзе пятнаццаць кіламетраў у яе вёску і хапала часу яму на тое, каб сесці за мальберт. Ён быў улюблівым — пра гэта не таіўся. Вучнем употай кахаў сваю аднакласніцу, але так і не прызнаўся ёй у гэтым. І заканчваў школу, быў сталым юнаком, а так і не адчаяўся. Пасля была другая сардэчная рана, з пары вучобы ў вучылішчы, але ўсё тая ж сарамлівасць зноў аказала яму мядзведжую паслугу. Каханне да Ганны было па сутнасці трэцім, хаця і прыйшло яно да яго позна — ці не ў трыццаць…

Нешта адразу пасля ўгодкаў жалобы па гаспадару Ганна збіралася пераязджаць да Адама ў вёску. Ашаламляльнай навіной для Алены гэта не стала, хаця дзівіла, як гэта рашаецца аўдавелая жанчына на такую нялёгкую чужую гаспадарку. На гэты час прыпаў і яшчэ адзін боль — яе самую кінуў, перайшоў да другой, зусім маладой дзяўчыны муж, і гэтыя дзве падзеі нейкім ракавым чынам сустрэліся. А тут прыспела яшчэ адна рана, ад якой пахаладзела пад сэрцам. Пачула яна незнарок, як у магазіне гаварыла адна дасужая кабета другой:

— А ці ведаеш, Адам гэты даўно прыглядаецца да Волечкі. Яшчэ як ляжала ў калясцы. Усё шукае свае кроплі…

— Як?! Дык у Ганны Падголінай меншае ад яго?! — ажно задыхнулася кабета з авоськай у руцэ. — Ай-яй-яй! Гэта ж трэба!..

— Ты ж нікому… Глядзі, маладзічка!..



— Што ты! — узмалілася тая, а сама ад нечаканай, як пярун, навіны пацірала ўжо рукі: «Вой, пабягу зараз і перакажу сваёй свацейцы. Вой, будзе дзівіцца!..»

І пераказала, а тая разнесла па вуліцы, і праз дзень ужо ўсё мястэчка аб тым толькі і гаварыла, што пра Ганну.

Алена кінулася да маці:

— Гэта праўда?

Маці ўнурана маўчала. Ёй было не да гаворкі, яна чакала Адама, які меўся прыехаць і забраць яе з хатулямі, каб завезці да сябе ў вёску. На ёй было святочнае плацце ў буйныя ружы, кофта, ускінутая наапашкі, і газавая касынка, з-пад якой спакусліва выглядаў пучок не ва ўсім звыклых для Алены цёмна-каштанавых валасоў. У матулі ўжо даўно закралася шэрань сівізны, гуляла па скронях і па хвалістай пасме, што спадала над ілбом, таму яна гадоў пяць ужо купляла пакецікі хны. Тады, помніцца, Алена — яна сёння і каяцца — накінулася на маці, маўляў, для каго такі марафет! А не падумала яна па-жаночы, што кожная кабета, няважна, колькі ёй гадоў, хоча заставацца маладой. Тварам, пышнай капой укладзеных валасоў ці той жа хадою — не такой, як у Алены. Матуля і хадзіць стала, як узялася фарбавацца, па-іншаму — быццам скінула з плячэй цяжар гадоў. І гэта раўніва заўважыла старэйшая дачка, глядзела на «выбрыкі» матулі пагардліва: і без гэтага, маўляў, можна быць шчаслівай….

— Тата ведаў?..

Яна не адказала, адно што ўстрывожана пазірала ў акно, мусіць, непакоілася, што гэтак доўга не едзе Адам.

— Нашто ты ад яго хавала? Ці не лепш было б развесціся? Шчыра было б і па-жаночы…

— Па-жаночы… — раздумліва паўтарыла, гукнула, як рэха, і ўстала з канапы. — Калі хочаш ведаць, і рабіць ён нічога не ўмеў, апрача што псаваць фарбамі паперу. Ну, хто гэтак малюе?.. Пэцкаль ён, а не мастак!..

— Няпраўда! — крыкнула раўніва, ледзь не роспачна Алена. — Ён мастак!.. А гэты, што падсмалены, як мыш? Ён што, гаспадар?.. Ён усё ўмее?..

— Ён — гаспадар.

— Ты сляпая…

— Даруй мне, доча!..

— Як цяпер будзе?

— З кім? З Волечкай? Мы з Адамкам вывучым яе. Няхай не бядуе. Гаспадарка ў яго спраўная. Вось да яго і еду. Не крыўдуй, Леначка!.. І — даруй мне!..

«А што мне? Што я?.. » — памкнулася спытаць у яе Алена, ды не змагла: вочы ўжо засцілі нямыя сірочыя слёзы…



## У ЗАВЕЮ

*Светлай памяці слыннага сына*
*Беларусі М. Багдановіча*

«Максі-і-і-мка-а-а-а!.. Ксімк-а-а-а!.. А-а-а-а!..»

Асенні тужлівы лес гнаў гэты вокліч некуды ўдалячынь, рваў яго на кавалкі, на некалькі рэхаў, хаваў яго ў сваім сутонні.

Знікаў азалелы дзень глыбокай восені. Чалавек, які гукаў Максіма, не любіў такое надвор’е, таму злаваў. І гэта выходзіла ў яго недарэчна. Ён нават сплюнуў, павярнуўся, меўшы намер пакінуць пушчу, калі да яго ног раптам падкаціўся шэры камячок.

Гэта быў замлелы верабей. Мужчына нагнуўся, і птушка, соладка ціўкнуўшы, скокнула яму на шырокую далонь...

Чалавек вярнуўся на сваю сядзібу. На парозе стаяла маладая жанчына. Ён не бачыў яе слёз, адно адчуваў, як тоненька кволяцца яе худыя, амаль дзіцячыя плечукі, падышоў бліжэй і прыгарнуў жанчыну да сябе.

«Дзе наш сынок?» — «Вернецца». — «Ага, вернецца», — рэхам адказала яна і села на лаву. — «Ці ведаеш, трапіўся мне верабей. Дзіўна, у лесе і… верабей. Не звычайны — нейкі цёмна-буры, пад каштан. Такі, як мы збіраем на каву. Паглядзі вось…» — ён дастаў з запазухі птушку. — «І Максімка наш быў такі. Пабраў усе твае кроплі, бацька!..» — «Чаму быў? Знойдзецца. Пайшоў жа не адзін — з Вадзімам. А той ужо не малеча».

Ён закурыў, пускаючы дым пад столь. Рудая, закапцелая, столь не прымала гэтыя кужалі, адштурхоўвала ад сябе, вяртала да стала, на кухню да жанчыны. Яна закашляла. «Ты б не курыў, Ягорка», — сказала яна будзённа, без папроку…

Калі гэта было? У якім жыцці? І чаму сёння, пад сярдзітае скуголенне мяцеліцы, яно прыйшло?..

Што трызніў, Максім адчуў, калі замоўклі колы цягніка. Быццам і прахапіўся, але явы яшчэ не было, не мог ён зразумець, дзе, адкуль і чаму так не хапае паветра. Ён задыхаўся, і толькі гэты прыступ ці то сухотаў, ці то іншай немачы выхапіў Максіма з трызнення.

Ён глядзеў на тых, хто быў у купэ вагона, з непрыхаваным болем. Мужчына з рэдзенькай бародкай, у франтаватым паліто з каракулевым

каўняром, спешна курыў, нервова цярэбячы падбароддзе, парослае шчацінай.

— Аксціся, Марыя! — крычаў ён зычна, на ўвесь вагон. — Што гэта за парадкі? Цар адрокся, улады — на каціны чмых… А тут яшчэ завея! Замяло, а мы што — стаяць тут?

Дык вось адкуль гэты ўдушлівы дым, гэты вокліч, нібыта з пушчы — гулкі, басавіты? Пушча… І для яго і пушча, і балоты — сімфонія, адтуль гаючы ключ паэзіі, адтуль гартаваны радок…

Перад вачыма паўсталі той мужчына, які гукаў у лесе свайго сына, і жанчына, але іх абрысы раптам сцьмянелі і зніклі, прыляцеў верабей і сеў, здаецца, прама на верхняй паліцы купэ. Ён ускочыў, ліхаманкава пашнырыў рукой па шорсткай лаўцы, зразумеў, што не мінулі яшчэ рэшткі сну ці трызнення, і прысеў прысаромлена.

— Што згубіў, малады ды не жанаты? — прабасіў мужчына. Заварушылася ў цёмным кутку купэ Марыя. Максім змоўчаў.

За акном скуголіла мяцеліца.

— Чаго стаім? — звярнуўся нарэшце да мужчыны з каракулевым каўняром.

Той яму таксама не адказаў, адно ўскочыў з лаўкі і імпэтна павярнуў да выхаду. Адтуль ужо грымеў басам, даводзіў нешта мужчыну, той апраўдваўся, санліва, але гэтак жа басавіта.

Максім запусціў пяцярню ў каштанавыя хвалі густой шавялюры, усяго на міг згадаў пра вераб’я («Такі ж каштанавы, як і я») і ўзяўся паціраць рукамі твар, знімаючы з яго рэшткі таго, што засталося пасля дзіўнага сну. «Ты б не курыў, Ягорка» — зноў выплылі апошнія словы, што засталіся па той бок свядомасці. Няўжо гэта прысніўся бацька, а тая жанчына, якая чакала яго з лесу, а пасля плакала ў яго на грудзях, — матуля? Але яе няма ў жывых. Даўно няма, ён ужо і не помніць, як памерла. Помніць, як у Гародні, у іх на кватэры, над трунoй высілася жырандоля з трыма свечкамі, і адна свечка аплывала хутка і пакорліва, апярэджвала астатнія…

Няўжо свечка… пакорлівая жанчына са сну — усё гэта ягоная матуля? Намогся вярнуцца ў той дзіўны сюжэт, але не паспеў — не дазволіў зычны голас праваднiка, вусатага дзядзькі ў фуражцы з кукардай чыгуначніка.

— Заносы!.. Стаім доўга!.. Занос!.. Буксуе паравоз… Занос…



Максім усміхнуўся: во загаварыў у рыфму! Рыфма, паэзія… Ці пакінуў ён след у беларускай літаратуры? Што гэта адзіны «Вянок»? І той, калі б не Палуянчык… Бедны Сярожа! «Жыццё не вартае таго, каб жыць!..» Што гэта, навошта такія словы? Бедны юнак! Навошта было так з сабою — праз шыбеніцу? Каліноўскі стаяў пад шыбеніцай і ведаў, што гэта ягоны крыж, а што хлопец з Брагіна? Не, ён жывы, ён побач, бо даў жыццё ягоным яраслаўскім вершам. Калі б не ён…

Адолеў нечаканы прыступ кашлю. Доўга кашляў, затуліўшы рот насоўкай, пакуль не знясілеў, пакуль не адкінуў на спінку купэ ацежалелую галаву. Кашаль адступіў, насоўка ляжала ў яго на крысе паліто, і праз засмужаную кісяю змроку ў вагоне ён убачыў на белай тканіне цёмныя плямы. Кроў!.. Гэта быў матулін голас, голас яе крыві. Бедная мама, яна так хацела сямейнікам шчаслівага лёсу. І яму, і Вадзіму… А, мусіць, не доля… На сухоты хварэў і Палуян, ягоны судольнік. Можа, і судольнік, але ён не будзе шукаць сабе ні сілкоў, ні рэвальвера. «Шкода паміраць так марна, але трэба. Няхай…» Значыць, ён зняверыўся ў жыцці, скончыўся ў свае дзевятнаццаць?..

А ён, Максім, едзе ў Крым. Едзе з надзеяй, што акрыяе, што крымская хвоя і мора адратуюць, дазволяць яму хаця б некалькі гадоў для працы, для жыцця…

— Грамадзяне пасажыры! Можна выйсці з вагона і размяць ногі, размяць бакі… Заносы… Буксуем, будзем стаяць доўга…

Голас вусатага чыгуначніка абарваў усцешана-абнадзееную думку, вярнуў да явы. Максім устаў і без шапкі, у расхлістаным паліто выйшаў у тамбур. Дзверы былі расчынены, у прамерзлай смузе зімовага вечара гула-гуляла мяцеліца.

Ён разамлела ступіў з прыступак на зямлю і адразу пагрузнуў па самае калена ў снег. Так і стаяў, збянтэжаны, пакуль не звыклі вочы да змроку. Заўважыў побач, злева ад сябе, вусатага чыгуначніка з ліхтаром у руцэ, таго, што крычаў хвіліну назад пра паравоз і занос.

— Дзе мы і чаму стаім?

— На паўстанку. Замець, бачыце — свету белага не відно!..

— А як жа Крым?

— Вось перачакаем нягоду, расчысцім пуці і — упярод! Прама на Крым. Там недзе цёпла, не тое што тут, за Гомлем…

Максім не варухнуўся, зноў зашчымела сэрца — захацелася, да болю закарцела туды, дзе цёпла. Адпачне, падлечыцца і — зноў на радзіму, зноў у віхуру спраў. Не, спачатку трэба пабачыць Ганку, тую, што запаліла мяккае сэрца, калі яму было васемнаццаць. Яна спаткалася яму тут, у Крыме. Яна ягоная «Зорка Венера». Ягоная суцеха, ягоны боль. Дзе яна цяпер, чаму далёка ад яго? А можа і яна прыедзе ў Крым і зноў верне яго да жыцця? Сярожу Палуяна ніхто не вярнуў. А яго вернуць… Крым верне…

Думку абарваў кашаль — сухі і пякучы.

— Што, лячыцца? У Крым…

— Лячыцца.

— Там пальмы, там мора. Слаўна ў Ялце!..

Максім вырваў са снежнага палону ногі, ухапіўся за поручні і, стаўшы на першую прыступку, азірнуўся.

— Скажыце, ці доўга прастаім?

Фуражка не павярнулася, адно ўзняўся трохі ўгору запалены ліхтар і выхапіў са снежнага палону акравак жаўтлявага святла. Чалавек быццам не пачуў гэтых слоў, а мо ён і папраўдзе не пачуў: гэтак навокал гуло і завывала…

— Во сталі-прыкіпелі!.. Што гэта, управы на іх няма? Ды каб пры цару такое, га? А што цяпер?.. Анархія… — басіў «каракуль», то садзіўся, то ўспорваўся з лаўкі і нервова бегаў па купэ, запусціўшы рукі за спіну.

— Ды сядзь ты, Юра! — абарвала мужчыну Марыя. Максім павярнуў галаву на дзявочы голас і зніякавеў: побач з ім, зашыўшыся ў куток, сядзела Ганка. Ягонае першае каханне, ягоны боль!..

— Дык вы Марыя ці Анна? Какуева. Максім я, ну, помніце ж Ялту? Вясна дзевяцьсот дзевятага... Восем гадоў мінула. Мы, помніш?..

— Марыя, гэта хто? — грымнуў басам «каракуль». — Твой палюбоўнік?

Тая нечакана залілася смехам, гулліва падсела да Максіма, і толькі цяпер ён убачыў яе твар. Таўсматы нос, лоб, над якім высока ляжалі прылізаныя валасы, тоўстыя губы — усё было ў ім чужое, у нечым брыдкае. У Ганкі і носік не той, і вусны малінавыя, так і просяцца, каб кранулі іх ягоныя, мужчынскія, каб у салодкай знямозе затрымцела сэрца….



— Прабачце!..

Яму стала сорамна перад Ганкай — той, што засталася ў мінулым, восем гадоў таму. Дзе яна сёння, вясёлая і ўсцешаная, гарэзлівая і трохі сарамлівая, калі дазваляла яму, Максіму, прыпадаць да яе вуснаў? Можа, і яна ў Ялце…

Ён стомлена адкінуў галаву да спінкі купэ, заплюшчыў вочы і неўзабаве паплыў у намітцы васільковай смугі.

…Баль на вуліцы правіла непагадзь. Стаяла золь і куламеса. У напаленай хаце заплакала малое.

«Максімка, любка, галубочак!..» — горача шапталі матуліны вусны. Што матуліны — сённяшні Максім ведаў, ён не мог памыліцца, бо ў кішэні ягонага паліто ляжала фота, на якім была іхняя сям’я. І Вадзім, і тата, і ён, малеча. На фота — маладая і прыгожая матуля, да якой ён туліўся. У спадніцы, такі пацешны і ціхі: матуля чакала дачушку, а з’явіўся ён. І Ганка яму не раз казала, што ён прыгожы і сарамлівы, бы тая дзяўчына…

Хлапчанё суцішылася, выпісваючы ў паветры сваімі крывулькамі смешныя загагуліны, і зноў бралася хныкаць. Тады да яго падыходзіў тата, рабіў насупленыя бровы. На момант малое глядзела на такое дзіва, а пасля яшчэ горш крывіла плаксівую грымасу.

«Адыдзі, Ягор, не пужай нашага Максімку!» — казала матуля, тузаючы гаспадара за рукаў кашулі і нязлосна, для прыліку, шлёпала яго па шырокай спіне. Ён лавіў яе, хапаў у абдымкі і цалаваў — горача і шумна. Яна баранілася. І тут закашлялася дзіця, ды так надрыўна, што…

Кашляў Максім наяве, а не ў сне. Ён прыклаў да вуснаў насавую хустачку і, збляжэлы з твару, пайшоў па калідоры ў тамбур.

— Спытайце, ці доўга яшчэ стаяць? — прабасіў яму ў спіну «каракулевы» дзядзька.

Стаяў сарамлівы лютаўскі досвітак. Мяцеліца адскавытала, бралася днець. Цішыня балюча рэзала вушы. Максім, ухапіўшыся за поручні, стаяў і ўглядаўся ў цьмяную далеч. З яе асмужаных абдымкаў нясмела выплывалі ледзь выразныя абрысы далёкай вёсачкі, злева нехта свяціў ліхтаром, але ягоны агеньчык быў кволы і далёкі. Можа, гэта іхні праваднік з ліхтаром…

Няма настрою, самота такая, што хочацца плакаць!.. Няўжо ён — той самы лебедзь, пра якога пісаў восенню? І ў яго ацежалелі крылы, і ён хутка марнеў, увачавідкі аддаваў сваё жыццё. «Маладыя гады…» У яго былі свае жаданні: і да Клавы, маладой замужняй жанчыны, у другі свой прыезд у Ялту, і да той, з якой бацька не пусціў яго на вучобу ў Пецярбург. Ён у рэшце рэшт хацеў жыць і пісаць. Пісаць, каб жыць…

Вярнуўся ў купэ, прылёг, ускінуўшы паўзверх паліто і падкурчыўшы ногі ў цёплых чаравіках. Ён чуў, як гаманілі яго суседзі, бачыў, як даставалі, шуршэлі паперай, выкладваючы на лаўку побач свой падмацунак, нават паспеў улавіць казытлівы пах смажаніны і праваліўся ў сон…

Вярнуўся сюжэт з маленькім хлапчуком, якога страшыў, насупіўшы бровы, татуля. Толькі побач з немаўлём стаяла высокая свечка, уторкнутая ў шклянку са збожжам. На сцяне вісеў абраз, а здалёку падплывалі да хлопчыка два драўляныя крыжы. Быццам усё бліжэй і бліжэй да ложачка падступала пахавальная працэсія, а малеча ўсё дрыгала ў паветры ножкамі і стоена маўчала.

Нехта дыхнуў на свечку, і яна пагасла. Стала цёмна і страшна, быццам у склепе. І раптам вынырнуў з працэсіі худы і страшны мужык і закрычаў што моцы: «Memento mori!» Адкуль ён у такіх лахманах? Няўжо як і ён сам, той ведае латынь? Чаму ён павінен помніць пра смерць у свае дваццаць пяць? Што гэта за здзекі?.. Ён хоча жыць! «Sileto et spera» — маўчы і спадзявайся. Ён моўчкі едзе ў Ялту. У трэці раз. Яна яго надзея. Няхай нават апошняя. Бацька некалі верыў у гаючасць паволжскага кумысу, але ўсё было марным. І толькі Ялта…

Раптам адыходзіць, знікае тая працэсія, і ён ужо ў балоце. Толькі яно нейкае па-дэкадэнцку зялёнае. А што гэта за чырвоныя крапінкі? Журавіны? Кроў? Не, гэта жар у руках матулі. Яна хоча яго адкінуць як мага далей, а — не можа. Рукі ў яе гарэць. Ён крычыць колькі сілы, яму шкада матулі. Але хто ж яго разгойдвае, не дазваляе, каб памог матулі? Хто?..

Максім расплюшчвае вочы: над ім — мужчына ў каракулевым каўняры. Чамусьці гэты чорны каўнер, а не ягоны твар, першым кінуўся яму ў вочы. А пасля ўжо і твар, які льсніўся, палохаў сваімі буйнымі рысамі…



Максім прахапіўся, ускочыў з лаўкі, сеў, не цямячы, што ад яго хочуць.

— Ну, ты, брат, нас так не палохай! Ты крычаў не сваім голасам…

За акном — згусцелае змярканне, якое ратуе шырокі прастор снегу.

— Што гэта, раніца ці вечар?

— Колькі ж можна стаяць? — зноў заводзіць сваю катрынку чалавек з каракулевым каўняром. — Вось зараз пайду на станцыю і ўчыню скандал.

— Бяжы, бяжы, — з лёгкім здзекам гаварыла яго спадарожніца. — Цябе ж і пагоняць расчышчаць пуці ад снегу. Бяжы, калі такі разумнік!..

Мужчына асеў. Максім зноў здзівіўся, які ўсё ж бліскучы, які шырокі, бы рэшата, у гэтага дзядзькі твар.

Не выцерпеў:

— Не наганяйце тугі!.. Вось зараз кранёмся і паедзем…

— Ага, на спіне ў гарбатага!

Куток, дзе сядзела Марыя, успыхнуў смехам.

Упершыню за той час, што стаялі ў полі, Максім адчуў, як зgaладаў, як падцягвае ад голаду жывот. Ён бачыў на лаўцы рэшткі сытага чужога падмацунку — аб'едкі хлеба, яшчэ нешта, і пракляў сябе за тое, што не прыхапіў абачліва чаго-небудзь у дарогу. Думалася, да Харкава даедзе, знойдзе харчэўню ці перахопіць чаго на станцыі, а там і Крым. Там ратунак…

Вагон быў амаль пусты, па калідоры моўчкі і панура хадзілі рэдкія пасажыры, а яго суседзі па купэ, паласаўшыся смажанінай, гучна размаўлялі. Жанчына падсунулася да «каракулевага» спадарожніка і ліпла сваімі тоўстымі губамі да яго шчакі. Ён шаптаў ёй нешта на вуха, і яны абое заліваліся смехам.

Максіму смяяцца не хацелася, у яго балела галава. Ён адсунуўся ў куток, далей ад акна, дзе сядзелі гэтыя сытыя ягамосьці, і сцішыўся…

Вярнуўся першы сюжэт, той, з бацькам , які прынёс дамоў каштанавага вераб'я. Толькі ці бацька гэта? Наўрад ці, бо той, са сну, нейкі стары і марудлівы супраць ягонага бацькі. Матуля маладая, а ён стары. Нешта не вяжацца, не звязваецца ў сям'ю…

Прыходзяць абрыўкі, сон перакідвае Максіма з аднаго эпізоду на другі. Быццам па балотных купінах. То раптам глухая пушча, якая

страшыць, то матуля, што смяецца — ці не знайшоўся прапаўшы хлопчык (ён жа, напэўна, Максім), то бацька з каштанавым вераб'ём, то Ганка, то раптам выплыве тая зорка Венера, якую прыдумаў сабе… Не, яна існуе, яна жыве. Як не знікне з яго сэрца тая… А Вераніка?..

Пад раніцу яму блажэе. Ён прахопліваецца, адчуваючы, як падкочваецца да грудзей, рвецца ў горла гарачая і няўпынная хваля…

Ён затуляе рот насоўкай, але кроў сочыцца праз пальцы. Ён бачыць недаўменныя позіркі сваіх суседзяў па купэ, чуе кароткі, як стрэл, ускрык Марыі…

Зусім блізка да вячэрняга змроку цягнік натужліва кратаецца з паўстанка, лязгае настыла-змярцвелымі вагонамі. Ён выбіраецца на Харкаў, да цёплага Крыму…



## АДШЧАПЕНЕЦ

### 1

Стары і ёсць стары: усё яму не так. Бурчлівым стаў дзед Мацей.

Ну, каму дзед, а каму і пляменнік. Як вось дзядзьку Мікалайчыку з ягоных далёкіх Задораў. Таго і ў дзяцінстве так звалі, і калі ўзялося яму пад семдзесят, так на вёсцы і застанецца, так і памрэ ён Мікалайчыкам. Неяк смешна: як дзіцятка. Ну, ды гаворка не пра яго — пра Мацея, які ён бурчлівы і якому ўсё не так. Прачнуўся ён у сваёй хаце (хаця і называюць дзеці яе дачай), а ўставаць не хоча. Песціцца ў ложку, кліча жонку Праскоўю:

— Ці чуеш, Проська (так ласкава называе ён сваю палавіну), дзе ты там, га? Падала б акуляры, ці што…

— Чытаць яшчэ рана.

— А я і не чытаць якраз…

— А што?

— Трэба!

Гэта ў яго такі капрыз, каб выйшла па-ягонаму. Акуляры яму зусім і не патрэбны, а вось хоча, каб Прося яму паслугавала. «Я на пяць гадоў за цябе старэй, — казаў ён не раз. — Ты яшчэ маладая, паслугуй трохі». Так і казаў «паслугуй». А яна не хоча, у яе таксама душа бунтарская, і ёй таксама хочацца, каб хто ёй паслугаваў. Ну, тады няхай бярэ сабе мужыка маладзейшага, каб той бегаў перад ёй на цыпачках. Але ж пакуль ён, Мацей, яшчэ жывы, няхай слухаецца яго, законнага мужа…

Прося памерла першай. Памерла нечакана, сярод ночы. Лягла звечара ціха неяк, непрыкметна. Памалілася перад сном, надзела свежую начную кашулю і лягла на ложку ў спальні. Ён скруціўся ў зале. Глядзеў тэлевізар, прыснуў, прахапіўся ад хрыпаты. Ускочыў, пакуль даўмеўся, што да чаго, ведама, спрасонку, так і сядзеў на краю ложка. А тады асяніла: Проська! Кінуўся ў спальню і акамянеў — жонка ляжала прыціхлая, быццам спала, адно што праз стуленыя губы цадзіліся з роту струменьчыкі ружовай пены. Ён прыпаў да яе грудзей і застагнаў…

Наляцелі дзеці, унукі, крычалі, плакалі…

Назаўтра ўвесь дзень ён сядзеў адлучана на табурэце побач з дамавінай, пакуль нехта не крануў яго за плячо:

— Ідзі, тата, адпачні!

Гэта старэйшая дачка, Танька. Ён паслухмяна пасунуўся ў спальню, прылёг на той ложак, які ўчора быў за божую пасцель яго Просьцы.

Недзе паўгода аўдавелы Мацей хадзіў сам не свой. Наязджалі дочкі з дзецьмі, суцяшалі, бачылі, што ён рассеяны, адлучаны нейкі, іх і не чуе, усё ў палоне свайго одуму. Меншая ўнучка Насцечка абвіла дзеда за шыю і пацалавала яго ў няголеную шчаку. Ён заплакаў, можа, у першы раз пасля жалобы па жонцы.

А неўзабаве раптам загаварыў з Танькай аб пераездзе на сваю радзіму, у вёску Задоры, што на Міншчыне. Не зусім, праўда, «раптам». Заводзіў не раз гаворку пра Задоры з Проськай, вядома, калі тая была ў гуморы. Ведаў, калі злая — лепш пра гэта і не заікацца, тады пачынала доўга пілаваць, усё дакарала, што не трымаецца сваёй сям'і. Але ўсіх гэтых гаворак дзеці і не чулі: яны жылі ўжо сваімі сем'ямі. Таму Танька і акруглiла вочы:

— Ты што, з глузду з'ехаў? Ад нас, туды, дзе цябе даўно не чакаюць? Ад мамы, якая тут памерла?... — сыпала яна пытаннямі. Ён маўчаў, пакорлівы і ціхі, як няўцешна хворае дзіця.

— Я тут кватарант, — прызнаўся шчыра. — А там буду жы-ы-ць!..

— Тата, старое дрэва не прыжываецца нават на радзіме. Дзе ты будзеш жыць? Хату ж бацькаву звезлі…

— Па першым часе прытуляць добрыя людзі, а там куплю. А можа і пастаўлю сваю, там, дзе наша стаяла. Месца ж там хопіць.

— Ну, фантазёр!..— вырвалася ў яе абурана. — Хто табе паставіць? За якія шышы?..

— Прадам сваю хату.

— Не, дачу ты не прадасі! Яна патрэбна нам, тваім дзецям, унукам…

Ён застагнаў. У бяссіллі, гэтак, як тады, у апошнюю жончыну ноч. «Няўжо тупік? Няўжо давядзецца чакаць сваёй смерці тут, на чужыне? — падумаў з трывогай. — Сядзець і чакаць? І чаму «не прадасі»? Аддалі ж з Проськай ім, дзецям, кватэру, зараблялі добра, дык памагалі і грашыма. Самі выехалі на дачу, абы не замінаць дзецям. А тут і хата ім патрэбна…Там, у Задорах, мне… там іншае паветра… там маладзеў бы душой, а тут зачэзну…»

У Задорах апошні раз Мацей быў, калі хаваў свайго стрыечнага брата. Свайго аднакласніка. Пяцёра з іхняга класа пайшлі ўжо на вечны спачын. Адзін — ад гарэлкі, другі доўга і пакутліва хварэў, брат ягоны памёр на трэцім інфаркце. Першы сардэчны ўдар перанёс на нагах, апошні быў кароткі, як бліск маланкі. Касіў, а стаяла спёка, упаў, так і не прыйшоў да памяці, памёр. Дык вось тады падчас жалобы зразумеў Мацей: ён — адшчапенец, дэзерцір, эмігрант, калабарацыяніст — як хочаце называйце, але ён здрадзіў святому, сваёй маленькай радзіме.

Праўда, гэтая думка неўзабаве здалася недарэчнай. На добры розум, дык што тут здрадлівага: як выехаў на вучобу пасля школы, дык у Задорах бываў наездамі. А пасля адправілі на Віцебшчыну. Там знайшоў сям'ю, асеў. Сёння каяцца позна, калі б гадоў дваццаць назад з гэтых гіблых мясцін перасесці зноў на пясочак, бліжэй да бору і рэчкі. А тут адно возера, і тое штучнае, купацца нельга. А там Сха. Помніць, як бег цераз паплавы да рэчкі з вудачкай. Рыбаком заядлым не быў, але… вабіць сёння тая пара. «Дык вабіць тая пара ці ўсё-такі гэта старэчы капрыз?» — спытаў ён самога сябе, але адказу не пачуў. Не, ён хоча застацца тут, сярод сваіх землякоў. Блізкіх і дарагіх яму людзей. Няхай нават і палова вёскі ўжо — дачнікі…

Тры гады мінула, як пахаваў брата. Тады, на пахаванні, падышла да яго хударлявая старая. «Сынок, ці помніш ты маю Анечку? — спытала. — Вунь яна! Даўно гэта было, а яна помніць, як цалаваліся вы пад вярбою…» Ён тады прамаўчаў, хаця падмывала сказаць: што было, тое быллём парасло!..

Сёння ўспомніў не старую — яе дачку Анечку. Тады ёй было шаснаццаць, яму дваццаць два. Яна — вучаніца, ён — студэнт, які прыехаў у вёску на канікулы. Цяпер яна распаўнелая і нязграбная. Навошта ж верадзіць старое? Ці з адной Аняй ён цалаваўся?..

«Не, пераезд — гэта не пацалунак пад вярбою, — спыніў сваю апантанасць Мацей. — Тут з галавой у вір не паляціш: не малады ж. Каб пасля не кусаць сябе за локці. Трэба абдумаць…»

І абдумваў, бачылі суседзі, як ён выходзіў на лаўку і падоўгу сядзеў, задуменны і ціхі.

А вясной, не мінула і года пасля жалобы, пра ад'езд загаварыў больш настойліва, і гарачліва пярэчыў, калі тая ж Танька зноў выкідвала свае козыры, адгаворвала, а калі ён усё ж не здаўся — заплакала ў бяссіллі.

Не пайшла супраць волі бацькі і малодшая дачка, Наташка. Хату прадалі хутка (балазе, побач з горадам), падвярнуўся купец грашавіты і згаворлівы. Але ж куды, пад які дах? Ні кала там, у Задорах, ні двара. Прадалі на сядзібе Сідара Самцова хату гадоў дваццаць назад, а цяпер давядзецца ехаць у сельсавет, каб адвялі кавалак зямлі, далі дазвол на будаўніцтва хаты. Усім гэтым займаўся старэйшы зяць Міхась. У яго і машына ў руках, і бойкі ён на язык. Тым больш, што напрасіўся сам. Так і сказаў: «Разумею Сідаравіча. Гэта ў нас з ім ад Бога — адданасць радзіме». Нясціпла, вядома, але не пра гэта думала Танька, выпраўляючы бацьку з мужам у няблізкую дарогу. Няблізкую — хіба для Мацея, а Міхасю гэтыя 250 кэмэ на іншамарцы — раз плюнуць.

Мужчыны вярнуліся назаўтра адвячоркам.

— Дзе вы былі? Дзе начавалі? Мы ўжо абарвалі ўсе тэлефоны, — уссядала на Міхася Таццяна. — Дзе твой мабільнік?

Ён таямніча і крыху хітравата падміргнуў цесцю. Той удзячна ўсміхнуўся і ўваліўся стомлена ў крэсла.

Аднекуль выскачыла, прыпала да дзеда Насцечка.

— Ты што, дзеду, пакідаеш нас?

— Ну, што ты, малеча?!. Хіба без вас я выжыву?..

— Мы будзеш да цябе прыязджаць, — адгадала яна дзедавы хітрыкі.

— Вось гэта па-сваяцку! — усміхнуўся Мацей і пацалаваў унучку ў кірпаты нос. Тая пырхнула птушкай, і да матулі:

— Не сярдуй, мама, на дзеда. Я-то разумею: у яго туга па радзіме!..

Усе паехалі са смеху: адкуль у малечы столькі разважлівасці? Бачыце, яна разумее, а самой усяго дванаццаць гадкоў. Тым не менш Таццяна ўзялася распытваць бацьку: як ды што, ды колькі, ды калі?.. Дазвол на будаўніцтва далі, хаця там і цеснавата. Як раней ставілі хаткі — страха пры страсе. Сёння такога няма — хапае ж зямлі. А прыйшлі да згоды пры ўмове, што сваю хату Мацей паставіць у глыбіні падворка і хата тая будзе невялікай. «Нашто мне, старому, хароміна?! — даводзіў ён у раёне. — Хата пяць на сем і калідорчык. Як было ў таты…»



Яны паспелі дамовіцца і з хатай, якую перавязуць у наступныя выхадныя. Зымшаць і паставяць пад шыфер. А там дадуць грошай Міцьку Корышу (майстравы чалавек, хаця і п'янтос) — ён помніць дзядзьку Мацея, і той за месяц-другі здасць «маёнтак» пад ключ.

— Ох, як гладка ў цябе ўсё выходзіць! — упікнула мужа Таццяна. — Не паспелі з'ездзіць і ўжо маёнтак пад ключ!..

— Павер, Танюша, мяне не ў капусце знайшлі! Вось мы з Андрэем і паедзем. Возьмем яшчэ пару чалавек. А для парадку пакінем там Андрэя за аканома …

Андрэй — гэта меншы Мацееў зяць. Ён настаўнік, і якраз у яго летні водпуск. Той на рэпліку Міхася адно паблажліва ўсміхнуўся. Не запярэчыў, ды і не мог пярэчыць, бо паважаў цесцеў выбар.

— А што, і застануся на тыдзень-другі. Гэта нават арыгінальна!..

Кажуць: чалавек разважае, а Бог распараджаецца. Так яно і сталася. Праўда, на самым пачатку справы, за якую ўзяліся. Тая кабета, у якой меліся купіць хату на вываз, доўга разважала і вагалася — прадаваць ці не, вось тады і спатрэбілася мёртвая хватка Міхася. Ён абарваў яе тэлефон, а пасля трохі і прыстрашыў. Тая і змаглася. Таму паехалі разбіраць ды імшыць на трэція выхадныя. Парупіліся, прыхапілі яшчэ і панядзелак, пакінулі «аканома Андрэя», а самі рванулі назад, на Віцебшчыну. Заікнуўся і стары, каб застацца з малодшым зяцем, але Міхась запярэчыў: «Вам, Сідаравіч, у горадзе спраў да гібелі. Трэба ж рыхтавацца да пераезду…» .

Цяпер Мацей адной нагой, лічы, быў у Задорах. І сны яму ўжо сніліся з задорскімі краявідамі. Праўда, усё болей з дзіцячай пары, ледзь не паўвекавой даўніны, калі і масток праз раку Сха быў на хісткіх палях, і лясок па дарозе на Брады, у школу, быў малады і дагледжаны (тут найбольш адпетыя невукі хаваліся ў «партызанах»). Хлопцы-задорцы тады агледзелі кароткую дарогу на Брады, па пожні, дарога тая выводзіла ў вёску з іншага боку. Пожню глухой восенню залівала, хлюпаць па сцюдзёнай вадзе не хацелася, і яны вярталіся на жвіровую дарогу да наступнай вясны…

Другая нага Мацея, вобразна кажучы, ступіла ў Задоры ў канцы лета. Пераезд назначылі на канец жніўня. Паехаць туды і глянуць, як

асталюецца стары, захацелі і дочкі з зяцямі, і ўнукі. Нагрузілі скарбу на цэлы грузавік, самі ж уперадзе рулілі на легкавушках.

Прыехалі паўдзённым часам. З навакольных хат адразу ж высыпалі людзі. Свае, карэнныя, тыя, каго помніў Мацей. Ён, дарма што стомлены дарогай, выйшаў з легкавушкі і спярша падаўся да іх.

— Ну, здаровы, землякі! — бадзёрыўся, падаючы руку мужчынам, а Агапе Кульбе, якая мо на год была за яго старэй, намерыўся пашляхетнаму пацалаваць руку, але тая адняла яе, як з гарачага прыску.

— Што ты, Мацейка? Якая я пані?!..

— Ты і ёсць самая файная пані!..

Тая засмяялася, агаляючы шчарбаты рот. Засмяяліся і ўсе, хто прыйшоў паглядзець на новага задорца. Хаця чаму новага — Мацея Самцова, якога ведалі з дзяцінства і які проста ад’ехаў гадкоў на сорак з гакам і вось вярнуўся да сваіх. Цяпер ён — не той зялёны Моцька, у яго за плячыма ўніверсітэт, ён усё жыццё аддаў школе. Пісьменны, спаважны і шаноўны чалавек, таму іншымі вачыма глядзелі цяпер на яго землякі. Нават даравалі такія-сякія выбрыкі. Як вось з Міцькам Корышам, якога ён назваў зэкам. «Ён сядзеў, але калі тое было?.. — разважалі, абараняючы Міцьку людзі. — Ну, цягаў курэй, прапіваў. Цяпер бач — і табе, Мацейка, хату давёў да розуму. Навошта ж так?..» Падумаў гэтак той-сёй, а сказаць ніхто не адважыўся. Затое сам навасёл зразумеў, што схібіў, паляпаў Міцьку па плячы:

— Ну, прабач! Вядзі, майстра, у хату…

У гурце пачуўся лёгкі, ледзь чутны шумок палёгкі.

— Трэба ката перш, а не Міцьку!

— Можна і ката, — сказаў з натоўпу жаночы голас. І зараз жа ўперад выйшла Марыя Хацкевіч з рабенькім коцікам у руках і падала яго Міцьку.

— Нясі сам і вядзі ў хату Мацвея Сідаравіча!..

Даўно яго так не называлі, а ў Задорах дык і наогул упершыню. Пачуў гэтае «Мацвей Сідаравіч» — і ажно дух заняло, нешта цёплае і кранальна дарагое ахапіла яго дарэшты, і ён ледзьве стрымаў слёзы.

Стаяла на пагодзе, і свята вяртання «блуднага сына» наладзілі прама на падворку. Прынеслі сталы, лавы, табурэты, і к вечару ўжо той жа Міцька Корыш не мог ні лыка вязаць, ні нагой ступіць. Яго павялі. Да канца трымаўся Мікалайчык (прыгублівау і хаваў чарку за



сподак), яшчэ той-сёй, а чалавек пяць мужчын, як кажуць, патанулі ў нірване прама тут жа, на мурагу. Жанчыны ўзяліся спяваць, і гэтак галасна і тужліва, што Мацей праслязіўся…

## 2

Першая ноч на новым месцы была бяссоннай. Мо таму, што ператашіўся, багата пераўжыў за турботлівы дзень. Пад раніцу змогся і спаў гадзін да васьмі. Ніколі такога з ім не здаралася: *там* успорваўся а палове шостай. Пацягнуўся ў ложку, выйшаў на двор.

У суседзяў гарланілі пеўні, за высокім парканам ад вуліцы пралятталі па асфальце машыны. Ён сёння ж пойдзе па тых мясцінах, дзе ступаў хлапчанём ці зялёным юнаком. Але спярша — могілкі, дзе пахаваны ўсе ягоныя сваякі. І дзед з прадзедам, і тата з мамай.

Ён пайшоў да Мікалайчыка, у яго ўнучка вырошчвае кветкі, яна і зрэзала нажніцамі жменю позніх гладыёлусаў. Пасядзеў на лавачцы ля помніка, бліжэй да мамінага фота на паліраваным мармуры, у думках пагаварыў і з ёю, і з татам. Расказаў, як яму ўсю дарогу не хапала іх, як плакаў, калі было цяжка. Не, ён не скардзіўся на свой лёс, ён дакараў, проста ганьбіў сябе за тое, што на ўсё жыццё адарваўся ад іх, ад роднай зямелькі. І памерлі, усё жыццё чакаючы, калі ён прыедзе ў Задоры. А ён прыязджаў рэдка. Яны, мусіць, і пасадзілі сваё сэрца. Спачатку памерла матуля, не стаў доўга бавіцца на гэтым свеце і тата…

Наступную раніцу Мацей пачаў з грыбоў. Доўга хадзіў, блудзячы па сутнасці ў незнаёмым лесе, і на тупкую сцяжынку, якая вяла ў Задоры, выбіўся толькі пад вечар. Перабраў грыбы. Яшчэ раз парадаваўся: сорак пяць баравікоў, цэлы кошык з коптурам, і лісічкі на смажонку… І тут працяла пякучая думка пра жонку. Як гэта ён раней жыў, каб не з’ездзіць на магілку?.. Як? Хто ён пасля таго? Пражылі ж разам амаль сорак гадоў, а ён і не думаў пра яе… Трэці тыдзень тут і ні разу… Не, двойчы выскачыла думка пра нябожчыцу-жонку, вечарам, перад сном. І сніў яе аднойчы. Чаму ж не падумаў *там*, што *тут*, за 250 кіламетраў, будзе без яе няўтульна, маркотна, гнятліва? Бач, выправіўся, асеў, знайшоў шчасце? Шчаслівы той, хто шчаслівы дома. Словы Л. Талстога, не яго, але якая ў іх вялікая праўда! Ці

шчаслівы ён *тут*, калі *там*, няхай і на чужыне, засталася жончына магілка, *там* яго дзеці, любімая ўнучка Насцечка, *там* засталася памяць? Але ж і *тут* памяць — пра бацькоў, пра сваё гарапашнае дзяцінства…

Не, сёння памяць пра жонку — бы тая свежая рана, якая яшчэ не загаілася, таму і прыкра на душы ў Мацея. У лістападзе споўніцца год, як не стала Proські. Чаму ж ён раней часу збег у Задоры, чаму не дачакаўся гадавіны? Няхай бы пасядзеў *там* месяцы два ці тры, а пасля і выпраўляўся б куды хацеў. Сапраўды — збег, быццам знарок, каб насаліць Просьцы. Насаліць? Нябожчыцы? Нешта не пра тое думае ён… І чаму трэба чакаць год? На дзяды ён прыедзе да дзяцей, і там яны адправяць гадавіну. Што за праблема? «Не, як ні суцяшай сябе, а паступіў ты, Мацейка, па-хлапечы», — гэта нехта другі ў ім пярэчыць. І тады, быццам згаджаючыся з гэтым «другім», ён бяжыць да суседа і тэлефануе старэйшай дачцэ.

Тая здзіўляецца:

— Што, замаркоціўся?..

— Ну…

— Па маме?

— Дзе ты, дачка, была тады, як я ўзгарэўся пераездам? Чаму не спыніла?

— Ну ты, тата, як дзіця?!Хіба я не адгаворвала?

Ён маўчаў.

— Заўтра ж прыеду да вас. Сяду на цягнік і прыеду. Не магу…

У трубцы запікалі кароткія гудкі. «Зазлавала, кінула трубку», — падумаў Мацей.

Сустракаць цесця на вакзал ездзіў Міхась. Парукаліся, і зяць паспагадаў:

— Цяжка, мусіць, паміж двух агнёў!..

— Ну што, на могілкі?

— А як жа кветкі? Без іх Праскоўя Іванаўна не прыме…

Купілі кветкі.

Доўга сядзеў Мацей ля жаўтлявага бугарка, застаўленага вянкамі, карзінамі, усланага пачарнелымі ад часу кветкамі. Паклаў свае, свежыя, і быццам ажывіў магілку, узяўся гаварыць з Проськай. Міхась



падаўся аглядаць помнікі, чытаць прозвішчы нябожчыкаў і здалёку пачуў ад Мацея:

— Што ты будзеш сланяцца? Едзь, а я пасяджу і прыйду пешшу. Тут недалёка…

Вечарам у даччынай кватэры Мацей забегаў:

— Паеду цяпер, на вячэрнім!.. Там хата без варты, сабаку ж мне не купілі?..

— Куды ты наўпрацць ночы? Раніцой цябе і пасадзім у аўтобус.

— Я ўжо дамовіўся з пляменнікам, ён мяне сустрэне і завязе ў Задоры.

— А што ж мама?.. Няўжо ты больш не хочаш яе пабачыць? Заўтра, праз тыдзень?..

Гэта быў забаронены прыём.

Мацей з крэктам паставіў у парозе сваю дарожную сумку…

# АБРАЗКІ, РАЗВАЖАННІ

## КАМУ АДДАЦЬ ПЕРШЫ ЗУБ?

— Бабуля, зуб хістаецца! — кажа радасна Сонечка і паказвае на ніжні зуб, хістае яго пальчыкам. — Гэта ж добра, што ён хістаецца, праўда?

Што добра — гэта малое дзяўчо ўжо ведала, расказалі ёй, што малочныя зубы ў кожнага з нас абавязкова мяняюцца. Як футра ў зайчыка. Толькі футра мяняецца раз у год, а зубкі — на ўсё жыццё.

Бабуля, усцешаная новым клопатам унучкі, залівіста смяецца.

— Ну, чаго ты смяешся, баба?

Ужо «баба» — значыць, сярдуе, не верыць у шчырасць дарослых. Бабуля зараз жа змахвае з твару ўсмешку, кажа зусім па-даросламу:

— А каму ж ты аддасі свой зубік, Сонечка?

— Феі, — без вагання кажа малая.

— А мы ў свой час кідалі малочныя зубкі ў куток і казалі: «Мышка, мышка, вазьмі малы, а дай нам касцяны…» Недзе так, добра не помню. І мы расставаліся з малочнымі зубамі без шкадавання…

— Я пакладу зуб на падаконнік, мама кажа, што прыляціць фея і дасць мне за яго грошы.

— Няўжо?.. — шчыра здзіўляецца бабуля.

— Зноў ты мне не верыш!..

Бабуля туліць да сябе малое, цалуе.

А назаўтра Сонечка тэлефануе, хваліцца:

— Бабуля, а мне фея паклала на акно грошы.

— Ці многа?

— Давай я табе пачытаю. Вось слухай два, нуль, нуль, нуль, нуль.

— Значыць, дваццаць тысяч.



У трубцы сапенне. Чалавечак думае, што адказаць бабулі: такой лічбы яна не ведае.

— Ну, бабуля, не ведаю я, — здаецца і зноў радасна: — А за грошы я куплю сабе пенал…

Бабуля ўсміхнулася: на пенал будзе, напэўна, мала, давядзецца дакласці. А пенал сказалі купіць у дзіцячым садзе. У ім будзе яна захоўваць алоўкі, ручкі. Якраз далі заданне напісаць ёй у сшытку квадрацікі, палачкі, яшчэ нешта.

Сонечцы ідзе шосты годзік…

*27 студзеня 2015 г.*

## ПРА АПЕРАЦЫЮ, ПРАЦЭДУРЫ І БАБЧЫН ХРАП

Унучка Верачка — жвавая і няўрымслівая. І гаваркая. Здаецца, так і сыпяцца, як з рогу дастатку, з яе словы, ад якіх усміхнецца нават самы маркотны і пануры чалавек. А дзед з бабай — асабліва.

Ёй у сакавіку будзе пяць, і, напэўна, гэта такі ўзрост, калі з ёй асабліва цікава гаварыць.

Верачка любіць гуляць у бальніцу. Як і многія дзеці. Мама і купіла ёй набор доктара: і танометр, і шпрыцы, і розныя мазі з марлевымі павязкамі.

Жыве яна з бацькамі ў Полацку. І аднойчы яе матуля папрасіла бабу Таню, каб прыехала. Так выйшла, што няма з кім пакінуць малую.

Прыехала, і адразу Верачка бярэцца за доктарскі рыштунак. Слухае бабу, ці хворае ў яе сэрца, змушае яе легчы на канапе, каб зручна было рабіць «дыягностыку».

— У цябе хвароба… такая… ну… — запінаецца маленькая доктарка. — У цябе такая хвароба, якая ад галавы да пятак. Такая вялікая хвароба. А я ведаю, як яе лячыць.

Яна кладзе бабе на галаву марлевую павязку, змочаную ў вадзе.

— Дыхайце, зараз будзем рабіць аперацыю…

— Напэўна, не аперацыю, а працэдуру.

— Не, бабуля, аперацыю.

«Аперацыя» ў яе на сэрца кладзецца больш цёпла, чым гэтае страшнае — «працэдура».

— Працэдуру мы зробім тады, як пройдзе аперацыя. Цярпіце, пацыентка!..

Вось так — «пацыентка». І адкуль толькі яна ведае гэтае слова?

Яна водзіць сваімі тонкімі пальчыкамі па бабулінай шыі, спаўзае ў тое месцы, дзе павінна быць, на яе думку, сэрца.

— Сэрца хворае, — паўтарае яна свой «дыягназ».

— Але ж сэрца не тут. Яно ў левым баку.

— Вось я і кажу, што яно пераехала сюды, — паказвае на правы бок.

Кладуцца спаць. Баба ляжыць на спіне і пачынае храпці. Так нягучна, без пераліваў, але і гэта непакоіць Верачку. Яна тузае бабу за плячо, кажа:

— Бабуля, ты не ўмееш спаць. Трэба, як я. Вось паглядзі.

І яна, падклаўшы пад левую шчаку сваю дзіцячую далоньку, сцішваецца.

— Ну, бачыла?..

Бабуля смяецца. Яна не ўмее так, але як не паслухаешся малой — таксама кладзе пад шчаку сваю далонь.

Ёй не спіцца, а Верачка сапе сабе мірна і бесклапотна…

*14 кастрычніка 2015 г.*

## «ЧАСТУЙ НАС, БАБУЛЬКА!..»

Даша, малое вяртлявае і імклівае, як маланка, — чалавечак, якому няма і два гады. Яна не помніць і не будзе помніць сябе, якой была ў два гады. Толькі пазней яна ўсвядоміць, зразумее, што была для бацькоў і для дзеда з бабай самай усцешанай істотай.

Зараз яна божае стварэнне. Прыязджае да бабы з дзедам у госці, качулачка ў цёплым камбінезона і куртачцы, у шапцы з двума вушкамі, і, ступіўшы на кухню, выглядае сваімі вачанятамі з-за арачкі. Вочкі цёмныя, цікаўныя, нібыта гавораць: «А вось і я. Ці радуешся, дзед? Ну, частуй нас, бабулька!»

І радуемся, і частуем.

Матуля распранае малое, і дзяўчынка бегае з віскатам. Гаворыць і спявае. Праўда, гаворка такая, што робіцца пацешна і нават весела. «Мама» , «баба» ды «дзедзя» вымаўляе даўно, а далей ідзе пазнанне жыцця. Замест «пакуль!» кажа «кап-кап», але навучылася гаварыць — «там», дома», «маё». Праўда, «маё» у яе выходзіць на нейкі нямецкі манер, нібы «майя». Але дамагаецца свайго, любіць, калі цукерка, лялька ці цацка яе. Прабіваецца ўласніца. У гэтым няма нічога страшнага. Галоўнае, каб пры жыцці ўмела дзяліцца, была добрай і спагадлівай…

А яна будзе добрай. Тата, высокі і статны, адзявае спартоўкі, і яна, маленькая, як ваўчок, туліцца да таты і цмокае яго ў макушку. Любіць тату. Хаця маму, напэўна, больш: мама ёсць мама.

Спявае, хаця слоў не разабраць. Калі старэйшая сястра Соня, якая сястрычку любіць усё больш, спявае пра дожджык, тая падпявае, кажа «кап-кап». Нібы гаворыць «пакуль!», але гэта пра дождж.

Любіць пачастункі. І паесці любіць. Калі была яшчэ меншай, ела без меры. І зараз яна таўсмаценькая, як калабок. Як зайчык, як ад’еўся на моркве і капусце. Ёй не давалі лішняга, але як толькі хто-небудзь садзіцца за стол — тут і яна. У яе руцэ ці катлета, ці сасіска, ці піражок з пячэннем. Вечна нешта есць. Хаця часам і адмаўляецца ад ежы. Пасталела…

Пра дзяўчынку, якой няма і двух гадкоў, скажаш многа. Можа, і не было б чаго расказаць старонняму чалавеку, а дзеду з бабай — ёсць. І будзе, бо яны дзед і баба. Яны любяць Дашку, як, дарэчы, і астатніх дзвюх унучак.

На падыходзе чацвёртая. Будзе ў Верачкі, што жыве ў Полацку, свая родная сястрычка.

Няхай Бог дае ім шчаслівай і светлай долі!..

*Кастрычнік 2015 г.*

## КЛЁКАТ ДУБОВЫ

«Сілачом стаіць…». Гэта пра дуб. Пра дуб, разложысты, чынны, важны, як той пан. Непахісны дуб, які рассеўся на сядзібе суседа. Ён вартавы — над усёй ваколіцай. Здалёку ўбачыш яго пышны верх, і кожны раз сусед, дзед Васіль, вяртаючыся з горада, спыняецца на развілцы дарог, бо адсюль дуб выглядае ва ўсёй сваёй красе. Сядзе на замшэлы камень і любуецца сваім сябрам.

Гэтаму сябру, можа, трыста гадоў, ды з такім гакам, што толькі трымайся. Таму па ідэі і не сябры яны наогул, тым больш, што гаспадар не ведаў, чыя рука яго пасадзіла. Праппрапра?.. Наўрад, бо жончын род здалёку, цесць быў нэпманам, скупляў свіней, кароў, рабіў розныя далікатэсы і прадаваў. Жыў ён як у Бога за пазухай, хаця само па сабе не расло ні сала на парсюку, ні збожжа на ніве. Працавалі з жонкай да салёнага поту. Васілёў бацька, які жыў за два кіламетры ад жончынай вёскі і быў з беднякоў, як толькі ўбачыў, колькі вязак каўбас вісела ў нэпмана на ашэстках, адразу заслаў да яго сватоў. Пабраўшыся, маладыя і аселі тут, у Крываселлі. Жончыны бацькі, нэпманы, неўзабаве з’ехалі ў Піцер, пакінуўшы на абжытак маладым Храмовічам нешта з залатога свайго запасу.

Вось такая перадгісторыя роду гаспадара і гаспадыні, якой не было ў жывых гадоў восем. Роду, які ніяк не прэтэндаваў на глыбокія крывасельскія карані. Жылі ў вёсцы людзі і з больш глыбокай і сівой даўнінай, а дуб стаяў без імені. Ні Кастусёў, ні Дзям’янаў, ніякі. Проста дуб. Васіль Храмовіч і хацеў, каб народ ахрысціў ягонага ганарліўца-дуба, напрыклад, па дзеду, Базылішын ці неяк у такім родзе, але нікому не прыходзіла ў галаву такая думка. Не было зачэпкі. Так і стаяў дуб безыменны. Калі хто пытаўся, дзе павярнуць, каб дапасці да вёскі Крынічкі, усе казалі: «Убачыце дуб, ён вас і выведзе на дарогу. Толькі бярыце леваруч...»

Даўні дуб, многае ён помніць на сваім веку. Стары дуб. Аднойчы па восені Васіль пачуў пад акном дзіўнае рыпенне — акурат бусліны клёкат. Дзіва, бо буслы побач не сяліліся. «Што гэта за праява?!» — падумаў ён з нейкай трывогай і выйшаў на падворак. Нідзе нішто не клекатала. Ён прыслухаўся, стоячы за вуглом хаты, і раптам пачуў: «Р-р-р-ы-ы-п-п!» Так глуха, перарывіста, нібы ў горле ў чалавека. Бусел? Адкуль? Ён выйшаў на дарогу, адышоўся трохі ад дуба і калі рып паўтарыўся, зразумеў: гэта ўздыхае Ён, ягоны дуб. Цяжка, са стогнам, быццам стары чалавек пасля ўтомнага працоўнага дня. Стаміўся дуб за жыццё.

Але дуб — не чалавек, яму лёс наканаваў перажыць, можа, тройчы Васіля Храмовіча, узятага разам з дзецьмі і ўнукамі. Нават разам з гадамі жонкі. І няхай рыпіць ён, няхай клякоча па-буслінаму, усё адно ён перажыве многія пакаленні вяскоўцаў. Зараз Васіль ім цешыцца, гаворыць з ім, як з жывым, а пойдзе з жыцця, хто з ім пагаворыць?



Дзеці з’ехалі ў гарады, унукі сюды калі і паказваюць нос, то рэдка. Часцей, калі папросіць умольна прыехаць сам дзед Васіль, і то яшчэ будуць набіваць сабе цану, казаць, што няма часу. А ўрэшце прыедуць, каб назаўтра ж збірацца назад. На сваіх аўто. Няхай клякоча дуб. Ён, можа, гэтым і ўводзіць людзей у зман (клёкат — ад таго, што хворы), але з ім у Крываселлі, дзе засталося ўсяго тры жылыя хаткі, куды весялей. Дуб — нібы жывая істота, з ім не так баліць за вёску. За тысячы такіх вёсачак, з якімі лёс абышоўся неміласэрна. І нават калі застанецца тут усяго адна душа, вандроўнік, які ведае кагосьці з крывасельцаў, згледзеўшы крону дуба, абавязкова скажа: «Была ж вёска, жылі ж тут добрыя, слаўныя людзі…»

І скажа праўду — жылі. Скажа праўду, ад якой тужліва заные сэрца.

*4 ліпеня 2014 г.*

## ЗАНАФТАЛІНЕНЫ…

Неяк пачуў анекдот ці, можа, быль. Рэвалюцыя. Шаноўная дваранская сям’я. За вокнамі чуваць стрэлы, залпы гармат. «Што гэта?» — пытаецца барыня ў слугі. — «Рэвалюцыя. Бальшавікі цара скінулі». — «А што яны хочуць?» — «Каб не было багатых». — «А мы ўсё жыццё ваявалі за тое, каб не было бедных».

Такі вось дыялог, які сышоў да нас у наша постсацыялістычнае грамадства з далёкага 17-га. А згадаўся ён вось з якой нагоды. Стаяў неяк у чарзе і неспадзявана стаў сведкаю такой вось гаворкі сівога мужчыны з маладой кабетай. Той расказваў, якую хату ўзяўся ўзводзіць ягоны далёкі сваяк.

— Дурань, — гаворыць стары. — Кажу яму: навошта такія вялікія вокны робіш? Знаеш, цяпер багатых не любяць…

— Дык што, лепш жыць у маленькім хлеўчыку з вузкімі вокнамі? — запярэчыла яму маладзіца. — Каб і хатка на пяць вянцоў, і без падлогі, ды з вокнамі на пядзю.

Жанчына, па ўсяму відаць, узялася злаваць на старога, а той усё даводзіў сваё:

— Сустрэў учора аднаго знаёмага, дык той расказваў, як бедна жыве народ. Ёсць сем’і, дзе не толькі сала, а і хлеба няма на стале. У нас багатых не любяць!..

— Затое бедных ці тых, хто рабіць не хоча ці прапівае апошнюю кашулю, сёння як гароху. Што мы пакідаем нашым дзецям? Га-ло-ту!..

— Не, — не здаваўся стары (не ведаю, якой натуры ён быў у маладосці, аднак пад старасць стаў упартым і невыносна злым). — Давай, сваячок, кажу, і вокны вялікія рабі, і ганак разьбавы, а пасля нехта кіне запалку, падкіне табе «пеўніка»…

Жанчына адвярнулася. Яна не стала больш нічога даводзіць упартаму субяседніку: той слухаў толькі самога сябе. А магла б нагадаць яму тую пару, у якой жывём, — не дваццатыя ж гады скананага веку ці пасляваенны час, калі чалавек часова туліўся па зямлянках…

Нярэдка сустракаеш такога вось чалавека — занафталіненага, у яго ўнутры такі тоўсты пласт пылу — едкага, удушлівага, што дзівішся, як ён яшчэ жыве. Ну, скажыце, навошта ўзводзіць хатку-халупку, нізенькую, урослую ў зямлю? Маладыя ставяць — і правільна робяць — зруб на высокі падмурак, ашалёўваюць гожай дошчачкай, фарбуюць кідка, каб хата радавала вока. Няшмат у нас таго сонца, а хатка нараджае сонечны настрой і ў пахмурную восень, і дажджлівай вясной, бо жыве ў казачна-маляўнічым аблічы. Дык навошта ўсё жыццё сядзець у нізкіх хацінках і вечна па-старэчы крахтаць: які я бедны, як мне цяжка?!

Можа, некаму і на руку нагнятаць такі вось псіхоз: не выбрацца нам, маўляў, ніколі з цёмнае хаты, усё жыццё быць зацюканымі і беднымі. Ніколі не разумеў і не магу зразумець людзей-кратоў, якім не дай сонца, а дай паказаць прыніжанасць, занядбанне нашага беларуса, паказаць яго згорбленым мужыком дарэвалюцыйнай пары. Мужыком, які з віламі ішоў на панскія маёнткі, нішчыў чужое і звар'яцела смяяўся, радуючыся, што пан цяпер — голы, як сакол.

## У ДВАЦЦАЦЬ — ПЕРАСТАРКА?..

Паўдзённы дызель Віцебск-Полацк імгненна запоўнілі смех, мітусяніна, безупыннае снаванне па вагонах у пошуках вольнага месца. Ехалі маладыя бязвусыя хлопцы і мужчыны з перагарам, ехалі жанчыны з клункамі і пісклявыя, няўпынныя ў гаворцы дзяўчаты…

Увесь гэты гармідар уражвае сваёй мітуслівасцю і неразбярыхай, пакуль не кранецца цягнік. Крануўся і — спакваля цішэе ў вагоне. Хаця… Бачу групку хлопцаў, якія дурэюць, сваволяць, гучна смяюцца. Гэта ці пэтэвушнікі, ці мо нават навучэнцы нейкага малапрэстыжнага ліцэя. Адчуваеш па нявыхаванасці, па дзіўных і грубых замашках: то адзін трэсне, ажно гул пойдзе, суседу па лбе пстрычку, то дасць без дай прычыны кулаком пад дых…

Інакш паводзяць сябе мае суседзі па лаўцы. Дзяўчына, якой на выгляд дасі гадоў дваццаць, не болей, вядзе ажыўленую, узахлёб гаворку з юнаком недзе такіх жа гадоў, як і сама. Ён сядзіць насупраць. Размова ў іх пра студэнцкае, пра тое, хто вядзе «лацінку» ці рускую літаратуру, як праціснулася ў гурток па вывучэнні польскай мовы, якую мянушку прыляпілі выкладчыку, як дзіўна і непрадказальна часам вядуць сябе гэтыя ўніверсітэцкія дзядзькі ў час сесіі…

Радуюся за кампанію, баюся парушыць рытміку гаворкі, збіць яе на зусім будзённае, нецікавае. Няхай тут, у дызелі, адвядуць душу.

Выходзілі з дзяўчынай на адной станцыі. Не помню, куды знік той сімпатычны юнак з белазубай усмешкай, а вось ягоную суразмоўцу згледзеў. Ішла яна, узяўшы пад руку іншага, не таго, з дызеля, кавалера, які ў вольнай руцэ трымаў напалову выпітую бутэльку шампанскага.

Працяла думка, чамусьці прыкра і балюча стала за тую гаваркую студэнтку, якая хінецца да нецвярозага хлопца. Пра што яна будзе гаварыць з ім у жыцці? Пра Андрэя Лабановіча, пра сучасную паэзію, размаўляць на польскай мове, якую будзе старанна і ўседліва вывучаць? А мо яна баіцца застацца перастаркай у свае дваццаць?..

## МАДОННА

Люблю прыемныя сюрпрызы, люблю, калі чалавеку ўсцешана, калі ён радуецца жыццю, як малое дзіця.

Жанчына доўгі час жыла з гультаём, п'яніцам і латругам. Не жыла — пакутавала. Таму і хадзіла, быццам баялася людзей ці саромелася, што ў яе такі муж, хадзіла прыгорбленай і ціхай.

Доўга ў тую ўстанову, дзе працавала Алена, мая гераіня, не заходзіў: усё нешта не траплялася. А пасля выйшаў у водпуск, аднойчы зайшоў сюды і — быццам пераблытаў будынкі. На тым жа цеснаватым рабочым месцейку згледзеў яе, такую сонечную і ў нечым

загадкавую, а ў вачах агеньчыкі-вугольчыкі, ад якіх рабілася цёпла на сэрцы. Апранута яна была не ў цёмнае — і кофта, і спадніца былі ёй да твару, маладзілі жанчыну. І прычоска — мадонна, а не Алена!

Аказалася, муж-латруга ў яе памёр, і яна звязала сваю долю з талковым чалавекам. Няхай і пенсіянерам. Самому давялося бачыць, як брала яна ад кліента грошы і заружавелася ўся, быццам не да канца звыклася з роляй шчаслівай жанчыны. Але шчасця ключыла, яна ўся была начынена на шчасці, яно залатым дажджом абсыпала яе з ног да галавы.

А яшчэ кажуць: няпраўда, што жанчына ў сорак пяць — тая ж ягадка, што да яе прыходзіць другая маладосць. Толькі не такая, як у дваццаць, а — сталая, узважаная, ад гэтага і больш жаданая, не менш бурліва-няўрымслівая…

## НА МОГІЛКАХ

Пакуль пра могілкі ды пра нябожчыкаў, нагадаем словы для жывых. Словы слыннага беларускага паэта Рыгора Барадуліна:

Наведвайце бацькоў, пакуль яны жывыя,
Пакуль дымяцца коміны — пагрэйцеся ў бацькоў.
Калі адчай вякоў гайнёй ваўкоў завые,
Не трэба анікому ён, сум ля сляпых слупкоў.

Чатырохрадкоўе — каб помнілі святыя рэчы, каб ведалі, як двойчы ў два: нельга забываць сваю зямлю, сваіх бацькоў. І калі здарыцца непапраўнае, калі адыдзе каторы са сваякоў у нябыт — не дапаможа і «сум ля сляпых слупкоў». Сум і слупкі патрэбны будуць самому нашчадку — як паказ таго, што помніш продка і носіш па ім жалобу.

Слупкі тыя вырастаюць. Праз год пасля пахавання. Можа, не на ўсіх могілках, але ставяць. У каго больш сціплыя, у каго вычварна-масіўныя, у некага з бетону, а той-сёй высякае з чырвонага граніту, са скалы, адлівае з металу, з бронзы, ледзь не з золата.

Гэта — даніна павагі. Такая ў нас завядзёнка, такі, калі хочаце, абавязак жывых перад мёртвымі. Калі няма помніка, калі і год, і тры стаіць на магілцы адзін крыж са сціплым, выведзеным ад рукі фарбаю, надпісам (імя нябожчыка, даты народзін і смерці), то ўжо



і ківае той-сёй галавой, абгаворвае, дакарае сваякоў. Калі ж помнік шыкоўны — значыць, нябожчыка шанавалі, любілі пры жыцці, нічога для яго не шкадуюць і пасля. Для мёртвага. А ці шанавалі пры жыцці, ці дбалі пра тое, каб пры жыцці яму (бацьку, матулі, брату, свату, яшчэ каму) жылося ўтульна? Гэтага пытання для іх, хутчэй за ўсё, не стаіць.

А затым на могілках ставяць велічны помнік. Што гэта — запозненае раскаянне? А мо ўсё-такі сляпая вера ў тое, што грошы ці тая ж стэла на магілцы знімуць грэх?..

На могілкі «слупок» прыводзіць чалавека некалькі разоў у год — на дзяды, на Вялікдзень і Тройцу, на Радаўніцу (а можа, і больш: у залежнасці ад таго, наколькі любіў той свайго продка). Нясе-вязе ён на магілку закуску, гарэлку, рассцілае белую сурвэтку і п’е за нябожчыкаў. Не раз бачыў, як такіх гора-сваякоў неўзабаве выносілі з могілак п’яных, бы тых мерцвякоў…

Калі выносяць, то гэта тое ж дзікунства. Гэта маральная дэградацыя, для такіх памінанне сваякоў — лішняя нагода напіцца, а не ўспомніць пра іх, не пагаварыць з імі (калі, вядома, мы не матэрыялісты і верым у «жывую» душу), не расказаць ім пра свае радасці і беды.

На могілках можаш сустрэць сваіх аднакласнікаў, распытаць пра тое, як ды што. У мае гады равеснікі часта пакідаюць зямное жыццё, іх становіцца ўсё менш і менш. Вось, здаецца, на Радаўніцу сустракаў на могілках Мішу Гвазда, а праз месяц звоніць брат і кажа: «Пахавалі Гвазда!..» І ўсплывае тая апошняя сустрэча, быццам перад табою яшчэ гэты Мішка — лысы, як калена, але яшчэ жвавы. У мяне, кажа, і «пенсiён» не такі, які будзе ў цябе: мне даплачваюць з Барысаўскага шпалапрапітнага, дзе атрымаў калецтва. І раней выйшаў на пенсію. Зараз вось унукаў гадую. Прыязджай, запрашае, разгавеемся, кульнём па чарачцы, успомнім тую пару, калі былі маладымі…

Не пажыў, не пацешыўся ўнукамі. І я, шэльма, не пасядзеў з ім, не згадаў тое-сёе з маладосці. Вось так то Мішку згубіў, то Шурку, то недзе на могілках уведаеш пра сваё першае каханне, даведаешся, колькі яна, учарашняя весялуха, перажыла за жыццё.

Усё гэта — на могілках. А дзе сустрэнеш столькі людзей, як не тут? Асабліва ў памінальныя дні. І шукаеш вачыма знаёмых, і знаходзіш, і радуешся гэтаму.

І тут без чарачкі не будзе. Менавіта чарачкі, а не так, каб абысці ўсіх землякоў і напіцца да парасячага віскату. І для мяне няважна, які помнік на магілцы, шыкоўны ці сціплы, галоўнае помніць, што могілкі яднаюць людзей, робяць іх дабрэйшымі і чыстымі душой. Яднаюць і жывых, і тых, з кім можна пагаварыць, каму можна расказаць і перад кім паплакацца. Няхай тое апошняе і будзе звычайнай містыкай…

*6 чэрвеня 2014 г.*

## АБЛАЖЫЛІ…

Было гэта сямнаццаць гадоў назад. Памёр Уладзімір Нарушэвіч. Журналіст, паэт. Няхай і мясцовага, шумілінскага разліву, але мы яго паважалі. Мы — газетчыкі, што гуртаваліся вакол такіх, як ён. Няхай і любіў той «залысіць» як след, дзівачыў. Але не пра тое гаворка.

Было ў яго дзве дачкі. З'ехалі яны з Шуміліна даўно, як толькі паступілі вучыцца ў Мінск, так сюды і не вярнуліся.

Ён памёр сцюдзёным снежаньскім днём. Дочкі далёка, а я тады працаваў рэдактарам газеты і вырашыў клопат аб пахаванні ўзяць на сябе. А тут пазваніла яго старэйшая дачка Ларыса і папрасіла дапамагчы: прыедзе — разлічыцца.

Пахаваць чалавека было справай нялёгкай. Асабліва ў тыя, 1990-я гады, калі машыны не дастаць, а «дамавінныя» калі і выдаюць, то праз паўгода. Знайшлі машыну, аўтобус, каб завезці людзей на могілкі.

Вярнуліся ў мястэчка і вырашылі ціха, без шуму і гаму пасядзець трохі ў рэдакцыі, дзе ён працаваў і да пенсіі і тады, калі выйшаў у адпачынак, ды згадаць тое-сёе з журналісцкага жыцця-быцця.

Быў вечар, быў час, калі працоўны дзень даўно закончыўся. Мы, пяцёра мужчын, стаіўшыся ў кабінеце, вокны якога, зашторaныя, выходзілі на цэнтральную вуліцу, выпілі па келіху-другому, тыя, хто курыў, выйшлі на ганак, каб падыміць. Нічога не паказвала на бяду…

Гром грымнуў тады, калі выходзілі з рэдакцыі. Перад намі на ганку раптам паўсталі дзве высокія мажныя постаці. У адной пазналі намесніка старшыні райвыканкама Аўчыннікаву.

— Назад! — грымнула яна сваім басідлам, па-мужчынску густым і дзяркатым.

Мы нібы прыраслі да ганка. Той-сёй, між тым, ачомаўся і паспрабаваў прашмыгнуць міма няпрошаных гасцей, але дарогу ім



перагарадзілі людзі з аўтаматамі. «Злачынцы» згледзелі, як з-за рога будынка рэдакцыі паказаліся яшчэ двое ўзброеных людзей, і ўсім нам, не толькі тым, хто прагнуў свабоды, стала ясна: нас аблажылі. Як ваўкоў, як злачынцаў, як нацдэмаў ці ворагаў народа…

Давялося вярнуцца назад.

Узброены нарад міліцыі застаўся на ганку, а з намі ў будынак зайшлі Аўчыннікава і начальнік міліцыі Шархун.

Размова не клеілася. Аўчыннікава, як гара, стаяла над намі, хто сядзеў знябожана на крэслах, стаяла, як траянскі конь, і распякала.

— Ну, што гэта за сабантуй?!..

— Які сабантуй?! — шчыра здзівіўся я. — Мы пахавалі…

— Ведаем, — абарвала яна. — Але ж навошта ў рэдакцыі гарэлка? Не маглі пайсці да каго-небудзь на кватэру?..

Шархун тым часам абследаваў, абнюхаў кабінет. Згледзеў пад крэслам (называецца, знайшоў сякеру пад лавай!) парожнюю бутэльку з-пад віна, нюхнуў рыльца, усклікнуў радасна, нібыта знайшоў на дачы залатаносную жылу:

— Свежае!..

Гэтага было даволі, каб Аўчыннікава зноў узарвалася:

— Бач, што надумалі — у рабочым кабінеце! Не дазволім ганьбіць святое месца!..

Мы не разумелі, пра якое святое месца вяла гаворку гэтая святоша (можа, мы былі ў царкве?!), але здагадаліся, што трапілі, як ліса ў саладуху.

Выходзілі мы з рэдакцыі, калі аўтаматчыкі зніклі, растварыліся ў цемрыве снежаньскай ночы…

*Снежань 2015 г.*

## ВОСЬ ТАКІЯ ПЕЧКІ-ЛАВАЧКІ…

Дзень «збег», і ён ужо гісторыя. Хаця маленькая, нядаўняя, але — гісторыя.

Гісторыя і памяць. Яны побач, яны — як дзве сястры адной вялікай сям'і, назва якой — час. Ён бясконцы, хаця ўсё-такі верыш, што памяць застанецца неяк па-за часам. Верыш пасля таго, што ў памяці засталося…

На вуліцы ціха, спёка такая, што дыхаць цяжка. Людзі панылыя, задуменныя. Нядаўна яшчэ чакалі сонца, бо збрыд зацяжны дождж, няхай і цёплы, а неўзабаве зыркнула сонца і — зноў не дагадзіць. Хаця трыццаць у цяні — не самае пекла. Для маладых. Вунь купка хлопцаў, рагатуноў і лежабокаў, кіруе на возера, якое за мястэчкам. У руках у кожнага бутэлька з півам, яе хлопцы трымаюць, абхапіўшы двума пальцамі за «галаву». Бутэлька матляецца, а яны рагочуць.

Ім весела, ім сонца не замінае, ім яно не збрыдла. Яны заваляцца ў цянёк пад кустом, насмокчуцца піва і ляжаць сабе. Ні думак пра тое, як прыбраць вырашчанае збожжа, ні пра хворую маці, якую надоечы забрала хуткая…

Кажуць: прыгожа жыць не забароніш. Не забароніш, калі зарабіў, заслужыў сабе такое жыццё. Помню размову ў чарзе. Перада мной маладая жанчына хвалілася: муж у яе на заробках у Маскве, яна з малым, зарабляе сама капейкі, але муж прывёз з Расіі «бабкі», і яны паедуць у Тайланд. Кажуць, там рай. Пуцёўка на больш за тры тысячы «баксаў» на траіх. А на наступны год яны рвануць у Індыю — таксама цікава. Яшчэ тры тысячы, а там, можа, і наогул выедуць у Данію...

Маладая кабета хвалілася. Яна ўзахлёб расказвала пра свайго мужа, які ён ладны і хвацкі, як яна кахае яго. А мне падумалася: не ведаю, ці кахае, а што любіць ягоныя грошы — гэта факт. Ведаў і яе хлопчыка — настырнага і нахрапістага малога, якога ў класе не любілі. Ад каго ў малога было больш — ад яе ці ад таты — я не ведаў, адно мне было ясна: не тое робяць у сям’і. Хаця што значыць робяць — зрабілі. З сынам было позна нешта мяняць (кажуць, дурыкі ў дзіця трэба выганяць, калі ён ляжыць папярок лаўкі), тым больш з бацькамі.

«Што вы блытаеце гарох з капустай? — скажа нехта. — Хіба можна параўнаць тых «піўных» лежабокаў з гэтай сям’ёй?..». Скажа так і будзе мець рацыю. Але ж…

Недзе чуў: людзі дзеляцца на багатых, дурняў і на ўсіх астатніх. Дык хто гэтая сям’я? Багачы? Наўрад. Багаты і разумны спачатку ўкладзе грошы ў справу, а пасля, калі застанецца рэшта, паедзе на Канары ці Індыю. Калі ж няма ў чалавека ні мары, ні ідэі, няма жыццёвага стрыжня, ён жыве адным днём: Егіпет — пустая кішэнь, Індыя — пустая кішэнь, Іспанія — пустая кішэнь… Думаю, што не на экскурсію члены гэтай маладой сям’і едуць, яны едуць пасмажыць свае «святыя мошчы» пад сонцам на Лазурным беразе, скажам, бліжэй да славутай французскай Ніцы. Яны любяць сваё «брэндавае» цела…

Застаецца яшчэ адзін невялікі нюанс: тыя, у каго няма грошай на Лазурны бераг, нахвальваюць мясціну, дзе жывуць, а багатыя едуць за край свету, без шкадавання пакідаючы родны кут. Нашы пенсіянеры не едуць у Альпы, не дазваляюць сабе адпачыць, скажам, у Францыі. Яны проста не хочуць, не прывучаны быць багатымі, а значыць, Луўр для іх — нібы тая планета Марс, далёкая і недасягальная. А вось дзеці-ўнукі пра Луўр, пра Данію мараць.

І ў пенсіянераў ёсць свая радасць, хоць і не такая сусветная, затое ўсёпаглынальная: не пакідаць сам-насам з праблемамі сваіх дзяцей, дапамагаць ім — грашамі (пра суму не кажу), мудрай падтрымкай або пабыць, скажам, за нянньку, пакуль дачка з’ездзіць у Віцебск.

Словам, некаму хочацца бачыць турэцкі бераг Чорнага мора, мець турэцкі загар, а мне хочацца, каб любілі свой край. «А за што яго любіць? — абураецца маладая жанчына. — За тое, што тут ні заробкаў, ні пенсіі людскай? Таму і едуць, таму і пакідаюць. А колькі вершаў — сапраўднай любові да радзімы — нарадзілі паэты?! І пішуць, і прызнаюцца, а воз і сёння там. Што ні кажы, калі чалавек пасмакаваў маннай кашы з маслам, на посны крупнік-кірзу і не паглядзіць…».

Вось такія печкі-лавачкі. «Што тут не так? — здзіўлена запытае ў цябе тая ж маладая жанчына. — Паэты любяць сэрцам. А розум нам тады нашто?..».

А што старэйшае і нават сярэдняе пакаленні? У іх не згубілася, у іх не знікла пачуццё любві да Бацькаўшчыны — любві нярэдка трапяткой і непадробленай. Але гэта не значыць, што ім не патрэбны прыстойныя заробкі. Яны не альтруісты, але яны патрыёты сваёй Айчыны. Праўда, хочацца зараз ужо не сабе шчасця і светлай долі, хочацца ўсяго гэтага дзецям сваім і ўнукам.

*Жнівень 2014 г.*

## РЭГАЛІІ

Іншы любіць купацца ў промнях славы. Яму не дай паесці, а дай некаму прыслужыць, ён схіляе ў лакейскай пакоры галаву перад начальнікам, каб той яго заўважыў. Непрыемна, а нават і гідка бачыць сагнутага ў крук чалавечка перад тым, у каго і зарплата не канапляная і хто лічыць сябе мясцовым панком.

У пару б пасмяяцца з такога падхаліма, а мне хочацца плакаць. Ад таго, што жывеш з такім у адну гістарычную эпоху.

Тым, беспазваночным, і рэгаліі. То «засвяцяцца» на Дошцы гонару, то атрымаюць нейкую прэстыжную прэмію, такім і ордэны і медалі. У Расіі любяць Міхалкова і Табакова, іншых адданых уладзе людзей. Тое ж і ў Беларусі. Любілі і любяць Шолахава, хаця не ўсе. З пісьменнікамі наогул нялёгка разабрацца, гэта з артыстамі ці рэжысёрамі прасцей: сыграў ці паставіў на сцэне ці ў кіно таленавіта, атрымай узнагароду. У пісьменнікаў шмат дзёрзкіх, шмат смелых твораў, якіх улады ў цэлым недалюбліваюць. Ім затое выдаюць Нобеля, ім, эмігрантам, і проста тым, хто не ўмее слугаваць, у каго гордая пастава, хто здольны сказаць адметнае слова і — якога потым зацкуюць, як сабакі. І нават учарашнія калегі. Як вось Віктар Шніп на сайце «Нашай Нівы», дзе агрызнуўся, не, аблаяў у эпіграме Святлану Алексіевіч. Нібыта яна — той сабака, які збірае па свеце розную лухту…

Або вось выбіраюць жанчыну года, чалавека года Віцебшчыны. Хто яны? І чаму гэтыя, а не іншыя? Каму гэта трэба? Што, бюджэтныя грошы няма куды дзяваць? Чаму праславілі Людмілу Іванову, а абышлі ўвагай Івана Салаўёва? Чым яна лепшая? Чалавеку года — дзесяць ці пятнаццаць мільёнаў, іх дваццаць па вобласці, у выніку — два ці тры мільярды. Што гэта, як не марнатраўства… Багатая ўсё-такі ў нас краіна! Доўга мусолілі рэспубліканскія «Дажынкі», пагуляем у дэмакратыю і тут, і тут будзе тое ж самае. Лепш бы гэтыя грошы аддалі ў сем'і, для будаўніцтва жылля маладым, для інвалідаў. Прачытаў у інтэрнэце, што ў Швецыі з 2016 года лекі для дзяцей да 18 гадоў будуць выдавацца бясплатна. Вось гэта крок, вось гэта клопат! Згарнуць бы і ў нас такія-сякія «шэдэўральныя» праекты і перакінуць грошы на рашэнне падобных праблем...

***Снежань 2015 г.***



## ДЫЯЛОГ З ЧЫТАЧОМ

*Дзесяць пытанняў Мікалаю МАРОЗУ,*
*рэдактару Шумілінскай раённай газеты «Герой працы»*
*з 1993 па 2000 гады*

*1. Чым быў адметны час, калі Вы прыйшлі на пасаду рэдактара? З чаго пачыналі свой першы рабочы дзень?*

— Час быў гарачы і няпросты, час разняволення чалавека. Год ці два мінула, як не стала буйной дзяржавы, якой некалі ганарыліся і якую не ўберагглі. У жніўні 1992-га раптоўна памёр рэдактар газеты У. Ц. Батакоў, і да самага сакавіка 1993-га я выконваў абавязкі рэдактара. Старшыня райвыканкама кідаўся ў пошуках «шэф-рэдактара», паездзіў па мінскіх-віцебскіх, напытваў новага, свежага чалавека. Не стыкавалася ў яго нешта, можа, той, каго знайшлі, заламаў такія ўмовы, што чарцям стала млосна. Словам, памітусіліся, пабегалі і селі.

Чым жа я тады не дагадзіў начальству? Відаць, свежай была ў памяці яшчэ публікацыя «калібру» 91-га года, калі з Віцебска нам падсунулі, вобразна кажучы, ката ў мяшку — перадрукоўку з нейкага сумнеўнага эстонскага ці якога там часопіса пра тое, як налягала на любоўныя ўцехі Ала Пугачова з Барысам Ельцыным. Тады па партыйнай лініі мне, як і рэдактару Батакову, уляпілі па вымове. За прытупленне пільнасці. Былі, відаць, і іншыя зачэпкі валаводзіць з маім зацвярджэннем на пасаду рэдактара. А якраз на сараці (22 сакавіка) мяне рэдактарам зацвердзіла сесія райсавета. Таму першы дзень на пасадзе неяк зліўся з будзённым папярэднім, гэтак жа плаўна перарос у заўтрашні, не менш клапатлівы.

На маю долю выпала па самае горла неразбярыхі і безграшоўя. На двары стаяў час эйфарыі, калі народ па самай нікчэмнай зачэпцы выходзіў на вуліцы. Патрабавалі зарплату і сацыяльныя даброты, выганялі кіраўнікоў, якія сябе скампраметавалі. У гэты час пракаціліся сходы ў райсельгастэхніцы, у дарожнай арганізацыі, у райбыткамбінаце. Усюды аказвалі аглушальны недавер дырэктарам. Пра ўсё гэта газета пісала, журналісты былі на слыху і заўсёды, як кажуць, у чытача пад рукой. Помню званок з аўтапарка сельгастэхнікі, маўляў, прыходзьце пасля работы, гадзін у 8 вечара, на сход. Сход быў зубасты, сярдзіты. А справа ў тым, што дырэктар у другі раз быў па-

стаўлены кіраўніком прадпрыемства і добра-такі паспеў паласавацца казённым. Газета на адкрыцці нумара змясціла нататку пад назвай «Выгнаннік». Ой, які ж фурор тады быў!

*2. Ці аўтарытэтнай пры Вас была газета? Чаму? Ці лічыцца (лічыўся) з Вашай думкай кіраўнік раёна — старшыня райвыканкама (сакратар райкама партыі)?*

— Лічу, аўтарытэтнай. У чытачоў. У кіраўніка раёна наўрад, бо ён аднаго разу меў неасцярожнасць публічна прызнацца, маўляў, яму газета ўвогуле і не патрэбна. Гэтую думку выказвалі і некаторыя члены прэзідыума райсавета, ад каго залежала фінансаванне газеты. Пра ўсё гэта мы пісалі адкрыта, не прычэсваючы, не прылізваючы ніякія факты. І чытач цаніў такую журналісцкую смеласць і шчырасць. Праўда, на той час, калі газета пачала выходзіць усяго адзін раз на тыдзень (не хапала ў раёне грошай разлічыцца з друкарняй), яго наклад змізарнеў. Вінавата была ў многім неразбярыха і няпэўнасць з выплатай заробку, што паўплывала на наклад газеты. А яшчэ — каму хочацца мець у хаце замест паважнай і шаноўнай газеты пракламацыю, мець інфармацыйны лісток?! А нам трэба было змясціць праграму тэлеперадач, безліч інфармацый, навін, якія прыходзілі, як гэта ні шкада, да чытача ажно праз тыдзень, і ўсё гэта ўціскалася на чатырох невялікіх старонках газеты.

*3. Што незвычайнага можаце згадаць з той пары, калі Вы стаялі на чале рэдакцыі? Ці здараліся кур'ёзы?*

— А ўсё было незвычайным, бо звычайны стан рэчаў у свядомасці людзей парушыла рэвалюцыя. Спачатку былі незвычайныя па гарачнасці сходы, гэта пры С. С. Шушкевічы, а пасля мала што памянялася з прыходам прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі. Наогул 90-я гады 20-га стагоддзя былі бурныя і няўмерана-разбуральныя: тут і «зайчыкі» замест грошай, і талоны на гарэлку, наогул на тое, каб выжыць. Час быў такі! Мы не маглі знайсці ў раёне журналістаў. Помню, агітаваў адну настаўніцу, а яна ў адказ: «А што, калі не атрымаецца? Школа ж мяне ўжо наўрад ці прыме. Ды і зарплата ў вас нізкая». Так, была нізкай. Нам давялося нават адмовіцца ад ганарараў. Да слова кажучы, у пачатку 2000-х сталі зарабляць прыстойна, нават абагналі школу. Сёння зноў журналіст — на задворках. І з акладамі, і з убогім ганарарам (рэдактар усё эканоміць, каб выцягнуць фінансавы год, таму напалову ўрэзала ганарарны фонд), ды і па журналісцкай мужнасці. Сёння журналіст гоніць радок, хаця па сутнасці стымулу для гэтага няма. Дык вось у 90-х з'явіліся ў нас журналісты з Віцебска. Там яны былі не патрэбны, а тут мы схапілі іх з рукамі.

Пра кур'ёзы? Кур'ёзы былі, але яны сцерліся з памяці або аслабела іх «напружанне», а значыць, не такія, каб пацешыць некага сёння, калі мінула пятнаццаць-дваццаць гадоў.

*4. Якая, па-Вашаму, газета лічыцца «зубастай», што стаіць за азначэннямі «памяркоўная», «заказная» і так званая «кішэнная» газета? Які стыль у рабоце вымушала(-е) жыццё ад Вас?*

— «Зубастая» — газета, якая паказвае зубы, значыць, смелая, калі хочаце, задзірыстая. Тады, калі быў рэдактарам, такую газету хацелася мець. І ў нейкай меры яна такой была. У якой, сказаць цяжка, напэўна, працэнтаў на 50. Мне ў памяці вострыя газетныя матэрыялы з цяжбы старшынь калгаса імя Леніна і Светласельскага сельвыканкама. Артыкулы змяшчаліся на першай паласе, даваліся з кідкімі і свежымі загалоўкамі. «Памяркоўная», а можа, і заказная яна зараз. «Памяркоўная» — у сэнсе падатлівая, уступчывая, згаворлівая, а значыць, газета, якая не мае свайго твару, свайго «я». Яна на кантракце, пад заказ улады, хаця нярэдка і на самаакупнасці. Праўда, і не заўсёды пад заказ, тут многае залежыць ад пазіцыі рэдактара і журналістаў. Быў турзлёт, былі п'янкі настаўнікаў (заўважу — пры вучнях), самы раз паразважаць пра маральнае аблічча педагога. А з'яўляецца бяззубая пісаніна са здымкамі, на якіх выжыльваюцца на фінішы вучні, плюхаюцца ў балоце, а настаўнік тым часам сядзіць і п'е гарэлку. Ну, чаму ж не замахнуцца на фельетон або разважанне з горкае нагоды? Каб газета стала мускулістай і жывой, як чалавек. І так паўсюды, адна пагоня за радком, за «жывой» капейкай. Пытаюся ў маладых журналістаў: скажыце, што застанецца пасля вас, ці застанецца трапны радок? Мужнае слова, смелы артыкул. Не, і гэта палохае і нават абражае. Ну, і кішэнная — самы, бадай, крыўдны сінонім для газеты. Яшчэ існуе і не менш брыдкае — журналіст-рэптылія, у якога вельмі гнуткая спіна (рэптылія — паўзун з класу прасцейшых пазваночных). І такі журналіст — таксама з прымітыўных...

Газета павінна несці магутны выхаваўчы зарад. Асабліва сёння, калі ідзе жахлівая пераацэнка маральных каштоўнасцей, калі не шануецца тое, што шанавалі некалі мы. Так паступова, праз разважанні, праз цікавыя думкі і прыклады з жыцця выводзіць чалавека з комы дэградацыі і дэбілізму. Вось якое, на маю думку, прызначэнне газеты, а не пладзіць радавыя інфармацыі, якія часам інфармацыямі не назавеш і якія не даюць нічога ні розуму, ні сэрцу.

Рэдактар — асоба, на жаль, паднявольная. Аднак ён павінен шанаваць сваіх калег, не дазваляць, каб аб іх выцiралі ногі, засцерагаць іх ад розных нападкаў. Вядома, нападкаў не пазбегнуць, калі крытыкуеш, калі выходзіш на праблему. А каго ломіш, таму баліць, той і агрызаецца. А такой крытыкі зараз практычна няма. Тым не менш бываюць усякія жыццёвыя калізіі, і рэдактар павінен заставацца чалавекам, а не рэптыліяй. На жаль, сёння ў нас інакш не атрымліваецца. У нас, нібы па Чэхаву, каб чаго не выйшла. Асцярожныя, з гнуткай спінай. І гэта не толькі прыкра, а і злачынна ў дачыненні да журналістыкі — як самай даўняй і самай, бадай, сумленнай (прынамсі, так павінна быць) прафесіі. Калі так пойдзе, то з журналіста зробяць, даруйце, даўна, а не творцу.

*5. З кім з журналістаў лёс звёў Вас дзейнічаць, тварыць, дзяліць радасці і няўдачы?*

— Праз гарніла нашай рэдакцыі ў час, калі быў рэдактарам, прайшоў добры дзясятак журналістаў. У асноўным віцебскія. Але былі і свае. Працаваў з Андрэем Бурым. Мінчанін, ён меў выдатны дыктарскі голас «радыста». І журналістам быў мужным. Помню, як накіраваў яго на сход у СШ № 2, дзе чакалася абструкцыя дырэктару школы. Нехта на тым сходзе спрабаваў выдаліць з залы журналіста, але калектыў настаўнікаў не дазволіў. І Андрэй выдаў такі артыкул, што і сёння той зняты неўзабаве з пасады дырэктар не тое што рукі мне не падае, а і наогул не здароўкаецца, пры сустрэчы верне нос.

А вучыў журналістыцы мяне А. П. Бруцкі, які рэдагаваў газету ў той час, калі я пачынаў тут працу. Здольны творца, добры арганізатар. У свой час узяў рэдактар У. Ц. Батакоў з бібліятэкі райкама партыі А. І. Пятрову. Журналістка дарасла пры мне да намесніка рэдактара, доўгі час узначальвала рэдакцыю. Яна стала першай жанчынай-рэдактарам нашай раёнкі за ўсю яе гісторыю. Сёння мужчын-рэдактараў амаль не засталося — усё жанчыны. Лічу, гэта не на карысць газеце. У «жаночай» газеце (можа, не ў кожнай, я кажу ў прынцыпе) шмат, даруйце, сюсюкання, яна становіцца празмерна мяккай. Відаць, жанчына больш гнуткая, вобразна кажучы, яна добра куецца. А можа, таму, як адрозніваеш кнігу, напісаную жаночай рукой, ад той, якую выдае пісьменнік-мужчына. У ёй жаночая логіка, якая часам не паддаецца нашаму розуму. У мяне неяк узнікла вельмі актуальнае, як я кажу, з дзярзінкай эсэ-разважанне пра наша жыццё пад загалоўкам «Толькі б вера мая не пагасла…». Якраз рэдактар была ў водпуску. Даў пачытаць яго супрацоўнікам рэдакцыі, ухвалілі, і ў некалькіх нумарах газета змясціла эсэ. Сумняваюся, што жанчына-рэдактар рызыкнула б на такую публікацыю.

Той артыкул тады стаў навальніцай пры ясным небе, стаў бомбай, якая разарвалася, ды так нечакана, што некага і напалохала. Людзі сустракалі і пыталіся: «А цябе яшчэ не пасадзілі?». Вось так паўгода недзе я хадзіў пад «дамоклавым мячом» такіх жахлівых пытанняў, а Я. С. Ганчароў, былы кіраўнік раёна, у бібліятэцы, калі я гартаў часопісы, падышоў і моцна пацiснуў мне руку: «Ну, смела і дзёрзка! Так не пісаў у свой час нават расхвалены ўсімі Дамарацкі». Э. М. Дамарацкі — былы рэдактар газеты «Герой працы», які «разгавеўся» на крытыку, працуючы ўжо ў абласной газеце «Віцебскі рабочы». Сёння так не пішуць. І наогул у мяне ўзнікла ў нечым дзікая думка: у тым, што народ бязвольны (як кажуць, пусці — паваллюся!), бяззубы і лагодненькі, у многім вінаваты газетчыкі. Яны не дапускаюць іншай думкі, акрамя думкі тых, хто пры ўладзе, думкі ва ўсіх сэнсах правільныя, яны лепяць з чалавека зомбі. Не выдавай паўгода зарплату, накручвай на газ, на электраэнергію, на камуналку, колькі хочаш, хоць 200 працэнтаў — маўчаць, адно пабурчаць на кухні і па гэтым. «Абы вайны не было!» — кажуць. А што ад голаду знемагаюць, трацяць прытомнасць на працы даяркі і пастухі, нікога не хвалюе. Адной рукой заганяем у магілу бацькоў, а другой выдаём сацыяльныя дапамогі сіротам.

Дарэчы, пад уплывам эйфарыі я даслаў свае эсэ на конкурс у Саюз журналістаў у Мінск. Аднак праляцеў, як фанера над Парыжам. Вось так, відаць, з гадамі я не раблюся больш празорлівым, нязменна веру

ў тое, што мой газетны радок — трапны і свежы, а значыць, можа разлічваць на прызнанні ў высокіх кабінетах. Вось такая мая, калі хочаце, непераборлівасць. І ў дружбе так было, і па нейкім часе — у чарцы. Мая шчырая вера ў тое, што праўду не закапаеш. Як і тое, што праб'е сабе дарогу ў рэшце рэшт талент чалавека. Хаця пра талент таксама далёка не ўсё так проста.

*6. Дарэчы, каго Вы лічыце таленавітым журналістам? Які, на Вашу думку, журналіст учарашняга і заўтрашняга дня?*

— Таленавіты той, хто выдатна ведае мову, на якой піша, можа, нават спрабуе сябе ў літаратуры, які не вымучвае тэму, а бярэ яе з вірлівага жыцця, які абавязкова мае сваю пазіцыю і грамадзянскую мужнасць, каб гэтую пазіцыю і праўду абараніць. Хаця такім сёння цяжка. Сёння газетчык піша тое, што яму гавораць, піша тое, што трэба. Толькі вось каму гэта трэба — чытачу ці тым, хто пры ўладзе, сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё апошнім. Адсюль тая думка, што журналіст на службе ў старшыні райвыканкама, здаецца мне вельмі праўдзівай. А газета не павінна стаяць за спінай улады. Яна павінна таксама ісці ў бой першай, а не хавацца ў акопе і чакаць, калі скончыцца бамбёжка. Кіраўнік раёна, які б не быў разумны, а ўсіх праблем не ведае. І не можа ўсяго прадбачыць. Таму газета павінна быць не толькі рупарам, а і падказваць праблемы, раіць, крытыкаваць, можа, нават і бязлітасна (зараз такая крытыка абрушваецца на галовы п'яніц і абібокаў, дэгенератаў і прайдзісветаў, якія раёнку і не чытаюць!), быць канструктыўнай, цікавай і, калі хочаце, займальнай. Каб не выпісвалі яе пад дыктатам, пад пагрозамі, каб яна прыходзіла ў кожную сям'ю сапраўдным сябрам і дарадцам.

Учарашні журналіст, па-мойму, стаіць на прыступку вышэй, чым сённяшні. Маю на ўвазе, па журналісцкіх знаходках і здабытках, па той жа смеласці і, калі хочаце, дзёрзкасці думкі. Хаця па логіцы рэчаў усё павінна быць наадварот. Сёння няма раскаванай журналістыкі. І мову беларускую ведаюць горш. А заўтрашні журналіст — той, хто будзе на «ты» з камп'ютарам. Тым не менш чамусьці веру, што не парве ён з прыгожым газетным ці мастацкім словам, словам — як зброяй, якая стварае, а не толькі фіксуе, словам, якое кранае, узрушае, а не словам па-камп'ютарнаму мёртвым.



*7. Што чакаў(-е) ад газеты Ваш чытач? Ці не было (няма) такога адчування, што ўсе газеты — раённыя, абласныя, рэспубліканскія — на адзін твар?*

— Чакае праўды. Паўтаруся, не прычасанай, не вылізанай, не такой, як падавалася з дзіцячага турзлёту, а — праўды. Яна адна. Так павінна быць, а ў жыцці — інакш. Праўда ў тых, хто пры грашах, хто фінансуе газету. Яны заказчыкі. Калі шчыра, пры камуністах праўды было больш. Тады і фінансаванне было цэнтралізаваным, ішло з Мінска, сёння скінулі гэтыя праблемы на самі райвыканкамы, «стрыножылі» рэдактара кантрактам. Усё. Адсюль і ўражанне, што ўсе газеты — на адзін твар. У тым сэнсе, што няма такога, каб крок улева, крок управа, усё — пад нечую дыктоўку. У любой дзяржаве павінна быць як мінімум дзве думкі, а не адна, больш таго — беззаганная, ісціна, як кажуць, у апошняй інстанцыі. Таму і газеты прэсныя. Без жывінкі і солі. А без солі якая страва?..

*8. Ці знікне газета «Герой працы» ў звыклым, папяровым варыянце, скажам, праз 20 гадоў, у пярэдадзень свайго стагоддзя?*

— Не хацелася б верыць. А яно, можа, так і будзе — знікне. «Перакуецца» ў нейкі планшэт, словам, у электронную абалонку. Не бачу розніцы паміж папяровым варыянтам і такім, асучасненым. Была б журналістыка! Было б па-мастацку трапнае і свежае беларускае слова! Была б аналітыка — не падказаная зверху, праўдзівая аналітыка!

*9. Ці знаходзілі(-це) Вы час на захапленні?*

— Знаходзіў і знаходжу. Пішу для душы, пішу мастацкую прозу. Выдаў тры кнігі, на чарзе — чацвёртая. Праблема са спонсарамі, і ў каторы раз аплачваю самім жа напісанае з уласнага мазаля, каб давесці сваё слова да чытача. Пабачыла свет і дакументальная кніга пра Обальскі керамічны завод, пра завадчан. Захапіўся, і даўно ўжо, выпілоўваннем лобзікам. Будаваў дом. Праўда, спачатку ён быў дачай, калі жыў у кватэры. А калі кватэру аддаў малодшай дачцэ, давялося перабудоўваць, каб там, у вёсцы, жыць стала і зімой, і летам. Спачатку было трохі нязвыкла, зараз падабаецца.

*10. Ці ёсць у журналістыцы здольная моладзь? Чаго ёй не хапае? Вашы пажаданні газетчыку наступных пакаленняў.*

— Чытаў недзе ў Васіля Быкава, што чалавек сталага ўзросту вельмі рызыкуе, калі выносіць нейкія ацэнкі моладзі, бо яны заўсёды будуць несправядлівыя. Падзяляю думку Васіля Уладзіміравіча. А вось пажаданні выкажу. Паверце, калі чытаеш газетны артыкул на суконнай ці, горш таго, казённа-канцылярскай мове, хочацца згарнуць газету і выкінуць у сметніцу. Нават не чытаючы. Таму журналіст павінен годна несці сваю марку, павінен пісаць яшчэ лепш, чым яго калега, які жыў і тварыў учора. І па мове, і раскрыццю тэм. Заўтрашні журналіст павінен быць лепшы, чым сённяшні, а тым больш учарашні. Бо дрэнны той вучань, які не перасягне свайго настаўніка. Словы не мае — Леанарда да Вінчы. Ну, а як не пагадзіцца з вялікім мастаком эпохі Рэнесансу?!

***2012, 2015***



# МІНІЯЦЮРЫ

* * *

Пастаральны малюнак дзяцінства: мама, якая нясе з пяколка цёплую фуфайку і падкладвае мне пад бок, нешта светлае шэпча на вуха. А я, усцешаны гэтым цяплом і пяшчотаю, ціха і лагодна заплюшчваю вочы. І сны ў дзяцінстве не такія вычурныя, як цяпер, — яны светлыя і сонечныя. Мо таму, што мама праз усю зіму клала пад бок нагрэтую ватоўку, хаця і не разумела, сляпая ад матулінай любві, што робіць з мяне цяплічнага хлопчыка.

* * *

Чалавек, якога нічога не здзіўляе, жыве ў стане тупасці. Словы не мае, словы Гегеля. Здзіўляць можна не толькі добрым, а і прыкрым — без яго жыццё было б аднастайным, прэсным і шэрым. Калі б не было таго, з чым змагаемся, — хіба высвечвала б гэтак нечакана, хіба захаплівала б дух усцешанае і светлае?

* * *

Дарога дамоў бліжэй. Такое ўжо ўладарства часу і святая вера ў некранутасць ісціны: дом пакідаеш — журышся, вяртаешся дамоў — самі ногі нясуць.

У Васіля Быкава было інакш. З'язджаў з Радзімы з горыччу і вяртаўся з цяжкім сэрцам. Душа карцела апошні прытулак знайсці на бацькаўшчыне. Таму веру ў выпакутаваны загаловак апошняй кнігі ўспамінаў пісьменніка «Доўгая дарога дадому».

* * *

Часам вычытаеш нешта трапнае, свежае і ажно задыхнешся ад асалоды. Ул. Калеснік напісаў: «Не так разумны ён, як нюхлівы». У кантэксце пэўнай гаворкі і сітуацыі аўтар меў на ўвазе сваё, не тое, аб чым павяду гаворку, аднак дазволю сабе паразважаць са сваёй «званіцы». Бывае нярэдка: у чалавека нюх, нібы ў таго сабакі, каб той ведаў, дзе лізнуць, а дзе забрахаць ці ўкусіць.

Праўда, акрамя нюху і сабачай вернасці чалавеку трэба мець сваю галаву на плячах, мець розум. Інакш здарыцца, як у «Сабачым сэрцы» М. Булгакава, калі прафесару давялося вярнуць сабака-чалавеку існае, сапраўднае аблічча.

* * *

Ці чуеш ты цішыню? Слухаеш? Ну і што табе — не баліць? Ты жывеш, як Ісус за пазухай (чамусьці хочацца падкінуць гумару, хаця на сэрцы маркотна). Усё ў цябе ідзе, як па-пісанаму — гладка, чыста і выгалена. Проста дзіўлюся: няма за што зачапіцца, быццам таму тапельцу, для якога і саломінка — ратаванне.

* * *

У літаратуры, як і ў прыватным жыцці, той-сёй любіць пакалупацца. Паказаць, хто ў хаце гаспадар або гаспадыня. А гаспадыня — жанчына, у якой амбіцый, хваравітага апломбу па самую макаўку.

Такой генеральшай была некалі ў культуры Фурцава. Жалезная лэдзі. Гэту даму, хударлявую, статную і прыгожую, але рангам намнога ніжэй, генеральшай назваць не паварочваецца язык. Гэта ўнтэр афіцэрская ўдава, якая высцебала сама сябе. Можа, не зусім сябе, выбіраючы, якая літаратура патрэбна для народа, а якая гэтаму народу чужая. Між тым не ведаючы і не шануючы беларускай мовы.

Літаратар — безабаронны. Быў такі, ёсць і будзе. Як ні прыкра пра гэта гаварыць. І будзе, пакуль рулююць беларускай культурай, цураючыся нашай матчынай мовы, такія вось дамачкі…



* * *

Прачытаў у Ірыны Грэкавай пра тое, як прывязалася гераіня Ніна Асташова ў аповесці «Кафедра» да п'яніцы, як пакахала яго. Ён паходзіў з твару на акцёра Фернандэля — такі ж вялікі, як конь. Ён быў рэжысёрам і, напіўшыся, ніколі не губляў чалавечага аблічча. Наадварот, рабіўся лепшым: такі добранькі, вясёлы, раскаваны…

Што быў вясёлы, добранькі — паверу. Але ж п'янства — добраахвотнае вар'яцтва. Гарэлка не робіць чалавека чалавекам. Гэта ўжо нешта іншае. Калі напіўшыся Валянцін вясёлы да раскаваны, то які ж ён бывае, калі працверазее?..

* * *

Было, што чалавек кожную раніцу частаваў мяне перажытым. І думкі тыя былі, як вопратка з манашага пляча. То жонка хворая, і там ёй баліць, і тое не праходзіць, то ў самога клопатаў поўная торба: ляснік — прайдзісвет, не выпісвае, халерны, дроў па дзяшоўцы, і ён, як ні б'ецца, а цешчы дроў не прывязе. То раптам па ашчадбанку нейкая папера не так пайшла, ашукалі чалавека, то…ці мала якое чарноцце народзіць для майго знаёмага новы дзень.

Спачатку слухаў чалавека ўважліва, спагадліва падтакваў яму, а праз нейкі час зразумеў: падточвае добры па сутнасці чалавек маё сэрца, вымае, калі хочаце, дух. Нейкі вампірызм, няйначай. Пасля рашыўся: буду слухаць, а думаць пра сваё, светлае і ўсцешанае. Яму ўсё адно — трэба некаму выгрузіць перагарэлае за дзень, а мне ніхто не будзе высмоктваць дух, выцэджваць па кроплі маё жыццё.

* * *

«Млына няма, а вецер усё дзьме, і вада і па сённяшні дзень плюскоча ля плаціны...» Хто гэта сказаў? А няважна. Вы адчуваеце тон і настрой сказа? Вось-вось, гэта настальгія па тым, што мінула, калі мы былі маладыя і горача любілі. Калі свята верылі, што раніца будзе больш шчаслівай за ўчарашні вечар. Мы былі сляпыя. І не толькі ад кахання, а і таму, што брала верх маладосць...

А вада ля колішняга млына пляскоча і будзе пляскаць доўга-доўга. Гэта некалі цешыла сэрца майму бацьку, а сёння нясе настальгію і светлы сум у маё сэрца.

Але ў гэтым плёскаце нашы дзеці і ўнукі знаходзяць усё менш музыкі. Ці крыўдна? Не ведаю. Аднаго шкада — рамантыку, якая канула ў Лету. А мо ўсё-такі вернецца яна хоць на пятым ці якім там калені? Гэта прыйдзе тады, відаць, калі чалавек паверыць у казку нашага жыцця.

* * *

Чэхаў з чарнавокай індускай у какосавай плантацыі. Месячнай ноччу. І шчырае прызнанне: «Якое гэта хараство — каляровыя жанчыны!».

Што ні кажы, а любіў пісьменнік экзотыку!.. І прайшоў курсівам праз дзясяткі жаночых лёсаў…

* * *

Калеку з фізічнай кволасцю шкадуеш. Маральнага — ніколькі. І нават не бярэш пад увагу, што духоўная кволасць перадаецца ад бацькоў. Як той вірус. І ты катэгарычна і безагаворачна не прымаеш ні яго рукі, ні ягоных учынкаў.

Сустракаў у жыцці такіх хворых. І нямала. Адзін устане з-за стала, падасць табе руку, слухае, а — не чуе. Не хоча пачуць цябе, хоць ты ляж тут у ягоным кабінеце. Іншы мае, а не дае. Нават хіхікае ў кулак. Трэці радуецца, калі суседу цяжка…

Гэта хвароба. А хворых трэба лячыць ці даваць ім групу інваліднасці…

* * *

Часта даводзіцца чуць: нам, маўляў, на дваіх з жонкай сто пяцьдзесят гадоў. Нібыта хваліцца чалавек: вось бачыце, калі б мы двое пражылі адно жыццё, то гэты «двайны» чалавек мог заспець і прыгоннае права, і нават Польскае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. А калі дадаць гады цешчы, то можна гаварыць і пра пугачоўшчыну.

А мне ад такой падсумоўкі маркотна. Хочацца як мага далей адсунуць пачатак адышкі і сардэчных боляў, нітрагліцэрыну і ношпы…

* * *

Нязвыклае спалучэнне слоў, на якое трапіў у адным са слоўнікаў, — тлусты дзякуй. Тлусты — нешта задаволенае, сытае і непаваротлівае. Дзякуй мне ўяўляўся іншым — далікатным, спружыністым і гасцінным. Не такім, ад чаго хіліць на сон. Як ад тлустай вячэры ці полудня…

* * *

Снег пайшоў ноччу. Спачатку трохі падмарозіла, а пасля, як пад заказ, парадаваў і ён. Снег усцешыў раніцой, калі выйшаў я на ганак.

Снег быў чысты, незаследжаны і цнатлівы. Быццам светлы ўспамін пра маму…

* * *

Скажу пра душу. Не буду гаварыць аб метафізіцы. Мы — пра душу, якая не ў кожнага. Пра добрую душу, пра душу, здольную лячыць. Нельга, каб яна адлятала ў вырай, яна патрэбна нам і летам, і зімой. Зімой, мажліва, і больш жаданая, не такая разамлелая, як летняй спёкай.

* * *

Выбар у жыцці павінен быць. Ёсць з чаго выбіраць у магазіне і на рынку, чалавек выбірае паміж радзімай і чужаніцай, выбірае дэпутатаў (хаця тут чым далей, тым усё менш выбару). Не кожны,

аднак, можа растлумачыць, для чаго нарадзіўся на свет божы, чаго хоча, чаго дамагаецца.

Пачытаў некалі выказванне Васіля Быкава: «…Што было, тое і будзе. Усё вяртаецца на кругі свая. Мне здаецца, гэта самае дакладнае, што можна сказаць пра будучыню…

Будучае няўлоўнае. І ў гэтым ёсць прывабнасць і страх. І, можа, таму такі няўлоўны сэнс жыцця».

Дык чаго хоча ад жыцця кожны з нас? Багацця? Здароўя на дзвесце гадоў? Чулага і добрага суседа? Хочам, каб брат, сын ці ўнучка не бралі ў рукі наркотыкі?..

А можа, і аднаго, і другога, і дваццаць пятага? Каб усё разам. Але ў жыцці так не бывае. Усё роўна нешта дасць трэшчыну.

Без выбару ў кожнага з нас адно — заставацца чалавекам. На ўсё жыццё. Пры ўсіх уладах і катаклізмах…

* * *

Вячаслаў Адамчык: «Са стратай бацькоў меркне святло роднай хаты. Са стратай роднага парога меркне і глухне святло Бацькаўшчыны». Колькі ж «родных парогаў» страчана?! І тут папрок заслужылі тыя, хто не цэніць самае вялікае і неацэннае ў сэрцы — любоў да бацькоўскага парога. Калі няма ў жывых ні матулі, ні бацькі, але застаецца жыць іхні дух. Павінен заставацца. Разам з хаткаю, якую пакінуў яшчэ ў юначыя гады і якую нялітасціва занядбаў...

* * *

У Сяргея Залыгіна, расійскага пісьменніка, ёсць цікавы раман «Пасля буры». Яго некалі, у 80-х гадах мінулага стагоддзя, змяшчалі ў «Раман-газеце». Чытаю: «Вельмі старому чалавеку тэрмінова трэба ўступіць каму-небудзь такое-сякое разуменне таго, што адбываецца». Адзін з герояў кнігі даў вось такую абвестку.

Мне заўсёды цікава размаўляць са старымі, у каго ёсць свая думка, хто мае маральнае права «ўступіць ... разуменне таго, што адбываецца», а не падтакваць, як папугай.



* * *

«Кім хацеў стаць і чаму не стаў?» — такое прыкладна пытанне хвалюе героя рамана расійскага празаіка Юрыя Палякова «Грыбны цар». Гэтая пакутлівасць ад таго, што не дамогся вяршыні, і гэта падштурхнула яго скасаваць шлюб, каб пачаць жыццё спачатку, як кажуць, з чыстага ліста.

Калі малады, можа і рызыкнеш на «эксперымент», а калі пражыў з жонкай дваццаць пяць ці трыццаць гадоў, разумееш: ты і яна — у многім падобныя. Падшліфаваліся так, што і гаворка тая ж, і манеры, і нават міміка...

* * *

Усе ведаем словы: «Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты». Гэта з — Сервантэса, вядомага іспанца. Катэгарычна, ці не так? А вось думка амерыканскага пісьменніка Эрнэста Хемінгуэя: «Не мяркуйце пра чалавека па яго сябрах. У Іуды яны былі бездакорныя».

Якая ж думка вам больш імпануе?..

* * *

Нехта сказаў: «Сям'я — гэта малая царква». Магчыма, так яно і было некалі. Сёння — гэта капліца, дзе адпяваюць нябожчыка.

Так думаеш, бо з сям'і спала апона святасці і цноты.

* * *

Кінарэжысёр Станіслаў Гаварухін працытаваў неяк Аскара Уайльда: «Раней кнігі пісалі пісьменнікі, а чыталі чытачы. Цяпер кнігі пішуць чытачы, а не чытае ніхто».

Выказванню больш за сто гадоў, а колькі ў ім па-ранейшаму болю за нашы кнігарні. Каго чытаюць — вядома, каго ставяць на тэлебачанні, на сцэне — таксама. Няма глыбіні думкі. Адны «менты» ды голае «чтиво». Ну, і яшчэ любоўныя раман на ноч.

Беларускі пісьменнік шукае сябе, шукае тэму. Яе не так лёгка знайсці. Гэта не сякера пад лавай. А бястэмны твор так проста, каб заняць час і наблізіць старасць, чытаць не хачу. І пастаноўкі драматургаў, кволыя, анемічныя, не гляджу. Не па мне. Адна самадзейнасць. Хочацца не гламурнага, хочацца цікавага, з «разынкай», на сакавітай, без суконнасці, дасціпнай беларускай мове. Не люблю суконшчыкаў, начытаўся некалі такой макулатуры. А яе развялося, як чарвей на асфальце пасля цёплага дажджу…

* * *

Ніколі не хацеў паходзіць на амёбу: цябе крануць, а ты ўгінаешся ці сцінаешся ад боязі. У амёбы гэта нешта падобнае на інстынкт самазахавання, у чалавеку трохі іншае, гэта страх перад тымі, у каго ўлада, хто можа, калі толькі захоча, сцерці цябе ў парашок.

Сцінаешся, бо баішся не столькі за сябе, колькі за сям’ю — жонку і дзяцей. Што іх будзе чакаць, калі раптам вырасцеш са слізкай амёбы ў смелага і ўпартага льва?..

* * *

«Талент, як грошы, — сцвярджаў славуты яўрэйскі класік Шолам Алейхем. — Калі ёсць, ёсць, калі няма, няма!..» Гэтыя словы любіў паўтараць Янка Брыль.

Падніверліруем думку: не талент, а натхненне, бо калі талент ёсць, дык ён ёсць, бо гэта — здольнасці ад прыроды. Ад бацькоў, ад родных табе людзей. Іншая справа, што «задрэмле» ён на час, на гадзік-другі. Відаць, адсюль і сцвярджэнне Шолама Алейхема.

* * *

Што золата? Якая ў ім сіла? Магічная, скажаце вы.

Няпраўда. Ёсць рэчы, мацнейшыя за золата самай высокай пробы. Паветра можна выдыхаць ці сапсаваць, ваду — выпіць ці атруціць.



Але гэтыя рэчы, калі яны даходзяць да апошняй кроплі, становяцца даражэй за любыя каштоўнасці. За любое золата.

* * *

Чалавека пускаюць на свет божы для любві. Так яно напачатку і ёсць, пакуль маленькі. Дробненькі і безабаронны.

Пакуль ім цешацца, як новай лялькай. Моляцца на яго, як на бажка.

Пакуль ён не агрызнецца.

Але тады будзе позна…

# КАРАЦЕЛЬКІ

* * *

*Не ствары сабе куміра.* Чаму кумір — гэта так дрэнна? Кумір — гэта ідал. Кумірам трызняць тыя, хто самі не могуць нічога сказаць у жыцці. І пакінуць след. Бо гэты бажок затуманьвае ім мазгі…

*Ніколі не апраўдвайся.* А апраўдваюцца, і тлумачаць свае ўчынкі, свае паводзіны. І перад сябрамі, і перад тымі, хто ніколі сябрам не быў. Праўда, сябрам іх тлумачыць не трэба, а перад нядобразычліўцам апраўдвацца — марная справа: усё адно не паверыць.

Вядомы выраз — *усё пазнаецца ў параўнанні.* Вось нехта параўнаў зарплату ў нас і ў ЗША, параўнаў і цмокае языком. Вось маладая жанчына хоча, каб параўналі яе з Афрадытай — багіняй старажытнай Грэцыі, сексуальнай і прыгожай жанчынай, і яна верыць, што так яно і ёсць, проста не знайшлося смельчака, які сказаў бы ёй пра гэта. Або пітушчага чалавека ўзвялі ў «ранг» алкаголіка, і ён пакрыўдзіўся, ён грозіцца падаць у суд.

Трэба, аднак, помніць: любое параўнанне кульгае.

*Дурань ніколі не заходзіць у тупік.* З дурнем не трэба спрачацца. Спрачацца — толькі марнаваць час. Разумны ведае, што часцей за ўсё ён трапляе ў тупік, а не дурань, і каб не выглядаць перад дурнем ніякавата, ён павінен прамаўчаць. А так хочацца сказаць дурню, што ён дурань!..

*Беражыце слёзы вашых дзяцей.* Словы — на ўсе часы. Вечна будзе так: шкадуеш сваю крывінку, жадаеш, каб яна была шчаслівая, каб менш выпала на яе долю слёз і гора. Каб пасля, як памрэш, хапіла дзіцячых слёз на тваёй магілцы.



*Памяць — адзіны рай…* Наўмысна не заканчваю думку, хачу, каб чытач сам закончыў яе. Закрыў рукой адказ з нататак і паспрабаваў угадаць. Мы ж закончым думку так, як сказаў адзін вядомы нямецкі вучоны: «Памяць — адзіны рай, з якога нас не могуць выгнаць». Таленавіта сказана!

А вось выраз, які б'е не ў брыво, а ў вока. *«Каб нічога не рабіць, трэба вельмі многа вучыцца».* А ў жыцці атрымліваецца інакш: не робяць і вучыліся цераз пень-калоду, а жывуць сабе такія прывольна і пасмейваюцца ў вусы…

Узгадваю выраз *«На ўсё свой час»,* і ў памяці ўсплываюць словы, якія сказаў знаёмы: «У юнацтве хочацца жыць весялей, у дарослым жыцці — лепш, у старасці — даўжэй». Ён быў у такіх гадах, што марыў пра тое, каб жыць лепш, і не чытаў «славутую» фразу беларускага метафізіка В. Акудовіча «Доўгае жыццё — тупы эгаізм чалавека».

* * *

*Усё ў ажуры.* Пазіцыя адпетых аптымістаў. У песімістаў інакш, яны ведаюць сваю «праўду» жыцця, у іх усё ў чорных фарбах. А ёсць рэалісты: ведаюць жыццёвую праўду, але не губляюць аптымізму. Усё разважаюць: абы не было горш…

*Якое самае моцнае пачуццё?* Не, не крыўда, не рэўнасць і нават не нянавісць — пасля іх хоць застаецца нешта ў душы, пасля расчаравання — пустата. Гэта ведаю не з кніжак — з жыцця. Адчуў гэтую пустату на сабе.

*Memento mori!* Лацінскі выраз — помні пра смерць. Аднак не думай пра смерць як пра самую жахлівую рэч. Калі перадаў сваім дзецям, нашчадкам сваім нешта сваё, пакінуў добры след, баяцца няма чаго. Нават тады, калі не верыш у бяссмерце душы.

Яшчэ адна лацінская фраза: *«Трэба есці, каб жыць, а не жыць, каб есці».* Словы гэтыя прыйшлі з глыбокай мінуўшчыны, а і сёння — нібы сказаныя ўчора. Вось думаю, чаму так атрымліваецца: чым больш на стале, тым менш у душы. Менш духоўнага. Таго, што

робіць чалавека чалавекам як разумнай істоты. А не той, якая і прагне, каб дагадзіць сваёй мамоне.

Ці праўда, што *псіхалогія натоўпу — гэта псіхалогія рабоў?* Можа, і так, бо паглядзіце: даволі аднаму (не абавязкова лідару) кінуць калатоўку, і людзі ашалела панясуцца туды, куды пабягуць першыя завадатары. Таму той, хто не любіць адзіноцтва (прагне натоўпу) — не любіць свабоды. Не хоча яе, яго свабода не цікавіць. А шкада: толькі свабодны чалавек здольны на мужныя ўчынкі.

*Даваць лягчэй, чым браць.* На тое, каб браць, патрэбна больш вялікадушнасці. Бо бярэш чужое, не сваё, а той, хто дае табе, адчувае сябе ледзь не мецэнатам Марозавым ці Траццяковым. Нават калі ведаеш, што нажыты грошы гэтым мецэнатам ад крыміналу. Так было і ў нас. Толькі не ў мяне. Не хацеў сябе звязваць выданне кнігі бруднымі грашыма. А раілі, і настойліва…

*Сыты галоднаму не спагадае.* Гэта праўда. Сытага хіліць на сон, а не да думкі пра філантропію. Гэта кормны вяпрук, у адрозненне ад беднага і галоднага — а менавіта бедны і галодны і нараджаў сапраўдныя шэдэўры ў літаратуры і мастацтве.

*Лысы з пляшывага смяецца*. Смех — гэта цуд, які даў Бог чалавеку. Але смех не здзеклівы, не для таго, каб пакпіць ці насмяяцца. Смех шчыры, светлы, смех добрага чалавека. У прымаўцы закладзены адмоўны сэнс. Тое, пра што пытаемся: а суддзі хто?.. Бывае, судзяць нас тыя, у каго ў самога рыльца ў пуху.

І зноў пра смех, дакладней, пра ўсмешку. Недзе прачытаў: *«Лепшы выгін у целе жанчыны — гэта яе ўсмешка».* Што тут можна дадаць? Нічога, акрамя аднаго: жанчына для нас, мужчын, на ўсё жыццё застаецца ўсмешкай. Цікавай, загадкавай і дзівоснай! Усмешкай, без якой і жыццё — не жыццё.

Ад яе ўсмешкі і пачынаецца «асваенне» новых жаночых выгінаў…



* * *

*«Каханне травамі не лечаць».* Гэта Авідзій, старажытнарымскі паэт, які пісаў любоўныя элегіі. Ён і тады, дзве тысячы гадоў назад, ведаў, што каханне — і шчасце, і пакуты. Найперш, напэўна, пакуты, сардэчны боль, інакш не сказаў бы, што ад кахання лекаў няма.

*Захварэў добрым настроем.* А што — незвычайна: «сустрэліся» два антыподы — хвароба і добры настрой. Затое свежа, затое запамінальна. А калі прадоўжыць выраз — «Бальнічны браць не буду: няхай усе заражаюцца», то і наогул разумееш, што значыць нечаканы слоўны паварот у тэксце.

*«Да грошай і волі нас ніхто за руку не павядзе».* Крылатыя словы, і сказала іх вядомая тэлевядучая Ціна Кандалакі. Да волі — згаджуся на ўсе сто, да волі трэба дарасці — свядома, як чалавек, як грамадзянін, а з грашамі — прасцей: іх можна ўкрасці, нажыць махлярствам.

Грошы ўкрадзеш, а волю — шыш!..

*Сядзяць у яго пячонках*. А ў мяне такіх няма, хто «сядзіць у пячонках». Не дазваляю нікому. Не таму, што магу паставіць на месца нахабніка ці гарлахвата, проста ў час зачыняю туды сваю брамку.

*Хто каго любіць, той таго і чубіць*. Чубіць палюбоўна, шчыра, каб не зрабіць балюча роднаму чалавеку. Але калі чубіць так, што сінякі пад вачамі, такога «каханенькага-родненькага» трэба ізаляваць ад людзей. Праўда, у крылатым выразе «чубіць», па-мойму, іншае: калі любіць, абавязкова зачэпіць. Словам, шэптам, дотыкам да рукі, пляча, позіркам. Абавязкова сябе выдасць. А біць жанчыну — не паважаць у сабе мужчынскае.

*Не даў Бог свінні рог.* І дзякуй Богу. Калі б даў — насвінячыла б на зямлі так, што нічога чалавечага не засталося б.

*Сядзіць як сыч, а думае, што паніч*. Сустракаў не раз такіх, хто напускае на твару такую важную міну, нібыта перад табой «містэр Твістэр мільянер». На справе ж — звычайны абывацель, невук і латруга.

*Дзясятая вада на кісялі*. Кідаецца той-сёй у пошукі такога сваяка. І не таму, што пачуе кліч продкаў, проста ведае, што родзіч — уплы-

вовы чалавек, а дачку ці сына няма куды «ўпіхнуць». Або з вялікімі грашыма.

*Яшчэ не злавіў, а ўжо скубе***.** Яшчэ бацька не памёр, а дзеці ўжо дзеляць яго нерухомасць. Самі ж і пальцам не паварушылі, каб аблегчыць старасць роднага чалавека. На памяць прыйшло, чытаў у газеце: знаходзяцца ў Мінску старыя, хто перадае сваё жыллё дзяржаве ўзамен на прыстойную старасць у казённым доме. Уяўляю, як кусаюць тады свае локці родзічы…

* * *

*«Кахаць я цэлы свет стаміўся. Кахаць хачу цябе адну».* Не помню, чые словы, але яны ўрэзаліся ў памяць. Запалі ў душу. Няхай каханне — гэта эгаізм, гэта рэч не калектыўная, тым не менш без яго няма жыцця. Як без вады, як без сонца. Такі вось парадокс: эгаізм, і няма без яго жыцця.

*«Не хапае грошай на мяса і каўбасу, ешце піражкі з ліверам».* Выраз прыйшоў з хрушчоўскай пары. З Новачаркаска, дзе летам 1962-га адбылася трагедыя: расстралялі рабочых, якія дамагаліся справядлівасці. А словы — дырэктара завода, адкуль зарадзілася забастоўка, словы гэтыя і ўзарвалі рабочы клас…

*«Тая ж дуля, толькі на талерцы».* Тут дуля — не груша, тут яна ў сэнсе «кукіш». У сэнсе: адмовіць, але прыгожа, калі хочаце, далікатна і экстравагантна. Шкада, што многія трапляюць на гэтую «вуду».

Прачытаў у псіхолага: *«Чалавек не тады раўнуе, калі кахае, а тады, калі хоча быць каханым».* Рэўнасць — кажуць, перажытак мінулага. Няпраўда: гэты перажытак застанецца перажыткам яшчэ на тысячы гадоў. Пакуль будзе каханне і будзе падазронасць. Пакуль жывучым будзе ў адносінах блізкіх людзей недавер. А гэтага не мінуць, пакуль муж будзе лічыць сваю жонку ўласнасцю, як і жонка — мужа.

*Магічная сіла ў займенніка «мы».* «Я» — эгацэнтрычнае, якае той, хто аднаго сябе і любіць. А «мы» — гэта сіла. Менавіта «мы», а не «яны» — не чужыя нам людзі. Калі мы і гуртам, то многае нам пад сілу. Тады мы зрушым горы.



*Пілі гарэлку нашы дзяды і прадзеды*, мала хто адкідвае чарку і зараз. Праўда, знаходзяцца «белыя вароны». Але не пра іх гаворка. Помню, бацька расказваў: адной бутэлькі пры закусцы ім хапала на чацвярых, зараз — каб дзесяць бутэлек на чацвярых пры адным піражку.

*Лепшы спосаб барацьбы з баязлівасцю — смех.* Чалавек, які смяецца, у нейкім сэнсе бог.

Можна яшчэ дапусціць баязліўцам маладога чалавека, але самае жахлівае і ганебнае — баязлівы стары. Ён павінен не баяцца, а быць мудрым і разважлівым. І што важна: павінен вучыць гэтай мудрасці маладзейшых.

*Не бачыць далей носу.* Гэта «хвароба», гэта «блізарукасць». Многія яе не лечаць. Шкада, калі не разумее, што хворы, з ліку простых смяротных. Горш, калі захварэе на такое чалавек пры пасадзе, калі не ўмее ці не хоча пралічыць на два-тры крокі наперад, бо ўпарты і зацяты ў сваёй ідэі фікс.

*«Не вернеш спагадай Нямігу…».* Так пачаў чатырохрадкоўе ў адным са сваіх вершаў Рыгор Барадулін. Твор пісаўся ў 1983-ім, калі да трагедыі ў метро станцыі «Няміга» ў Мінску заставалася шаснаццаць гадоў. А радок — нібы адтуль, з майскага дня 1999-га…

*«Багатым чорт дзяцей калыша…».* Словы Якуба Коласа. Гэта праўда — калыша. Але ж багатыя і плачуць. І не спяць па начах. Ад свайго багацця. Ад таго, што жывуць падазрэннямі і трывогай: а што, калі абрабуюць?.. А беднаму няма чаго губляць.

*«Жыць табе ў калгасе і спаць на хамутах».* Пачуў словы нядаўна. Ёсць у іх нешта ад фатальнага. Але ж у словах закладзены і больш глыбокі сэнс: гаворыцца так з папрокам, а мо і ганьбай, маўляў, не ўпісваешся ў сённяшні бурліва-зладзеяваты час, адстаеш, нечага не разумееш, таго, што вывела б цябе на грашовыя прасцягі. Няхай нават і брудныя.

*«Паслухаць вас, усе вы хваты, а ледзь да справы, душа ў пяты!».* Зноў Якуб Колас, і зноў прызнаюся: трапна падмечана. Жывучы прынцып і сёння: многія — смельчакі на кухні, за кубкам кавы ці

кілішкам гарэлкі, а выходзяць на вуліцу — нібы язык прысыхае да паднябення. Па-мойму, зарадзілася ўсё гэта тады, як чалавек пачаў баяцца ўлады. Баўся, а трэба, каб паважаў.

* * *

*Ён адзінокі, як могілкавая капліца.* І ўжо далёкі ад жыцця, ад таго прамежку часу, калі можна кахаць і быць каханым, калі можна браць ад жыцця слодыч і зведваць пакуты, боль і радасць, адчуваць, што ты і ў самоце не адзінокі.

Калі так, то ніколі не будзеш паходзіць на капліцу…

Чытаю**:** *«Вось паказалася галоўка, вартая пэндзля Рафаэля»***.** Разважаю, хачу ўявіць яе, гэтую галоўку, і абавязкова «збіваюся» на ягоную «Мадонну ў крэсле», дзе маладая жанчына з двума дзецьмі. У яе прыгожы тварык, які не смяецца, але ад яго зыходзіць жаночая цеплыня і нейкая святасць.

*Жанчына з пакамечаным і спітым тварам* праспявала песню на матыў «Мы на лодачцы каталіся…», а затым пераключылася на — «Я, бывала, усім…».

Ёй здавалася, што яна сучасная, разняволеная, а на справе — фальшывая і непрыстойна-цынічная.

*Ён высільваўся, каб захаваць палітэс.* Каб заставацца падкрэслена ветлівым, усё жыццё гаварыць кампліменты, нікога не ганьбіць, нікога не крытыкаваць. Быць такім добранькім і ласкавым, хоць ты яго да раны прыкладзі.

Такі лялейны чалавек — як кітайскі балванчык. Прыкры і агідны для мяне.

*Нехта сказаў: «Жыццё — гэта няволя».* Той «нехта», відаць, меў на ўвазе, што мы з'яўляемся на свет і паміраем не па сваёй волі.

Той-сёй і жыццё пражывае не па сваёй. То пад абцасам у жонкі, то ўпадабляецца класу паўзуноў ці аднаклеткавых.

*Шчасце не конь — у аглоблі не запражэш.* А кожны з нас хоча быць шчаслівым, ставіць шчасце на другое пасля здароўя, а многія і



на першае месца. І гэта прытым, што далёка не ўсе здабываюць яго, па-руску кажучы, «в поте лица».

*У жыцці, бывае, як на шахматнай дошцы***.** Кароль ходзіць толькі на адно поле, крок у яго старэчы, затое каралева — маладая і энергічная, яна бегае і гарцуе па полі, не адчуваючы ні стомы, ні шкадавання.

*Жонка для яго была мамай.* То: «Ты шалік завязаў?», то: «Кашуля пакамечаная, зніммі, адпрасую!», а нярэдка: «Што рабіць, нічога ўжо не зменіш!». Была мамай, а не жонкай.

Праз дзесяць гадоў яны развяліся…

*«Трэба быць велікадушным»,* — чую не раз. Каб дараваць дурноту і абразу. Важна быць такім. Але добра быць велікадушным, калі грошай у кішэні — куры не клююць. Калі іх не стае, здаецца, хама ці дурнілу якога парваў бы на кавалкі.

*Ніколі не помсці зайздросніку ці ліхому чалавеку.* Помста — для слабых. Лепш стань шчаслівым, і нягоднік ці зламыснік гэтага не перажыве.

**ЗМЕСТ**

## АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ



## АБРАЗКІ, РАЗВАЖАННІ





**Мароз, М.**
М25 Не прасі палёгкі ў жыцця : кніга прозы / Мікалай Мароз. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 220 с.
ISBN 978-985-7144-27-3.

Новая кніга мастацкай прозы Мікалая Мароза «Не прасі палёгкі ў жыцця» — чацвёртая па ліку. Дзве аповесці, якія адкрываюць яе («Русалка» і «На ўсё свой час») — пра каханне, пра нялёгкія жыццёвыя калізіі галоўных герояў, пра тое, як пакутліва цяжка бывае, калі цябе не разумеюць. Апрача гэтага, чытач знойдзе ў кнізе апавяданні — розныя па задуме, але аднолькава цікавыя. І нарэшце — абразкі, разважанні, мініяцюры, карацелькі, якія пісьменнік пісаў у розныя гады і якім стае шчырасці, у іх пульсуе жыццё, у іх жыве любоў да людзей, да прыгожага і светлага.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мароз** Мікалай Аркадзьевіч

НЕ ПРАСІ ПАЛЁГКІ Ў ЖЫЦЦЯ

*Кніга прозы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Вікторыя Трэнас*
Набор і вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 19.04.2016. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 12,83. Ул.-выд. арк. 10,17.
Наклад 99 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.